Народны
вакальны
гурт
"Пліса"



Вакальна-інструментальны ансамбль "Бяседа"

# Беларускія песні і гімны

*Зборнік песень*

Мінск
Выдавец А.М. Вараксін
2012

УДК 398.8(=161.3)
ББК 82.3(4Беи)
Б43

Укладальнік, аўтар артыкулаў Сымон Барыс

**Беларускія песні і гімны** : зборнік песень / ўкладальнік, аўтар артыкулаў Сымон Барыс. — Мінск : А. М. Вараксін, 2012. — 380 с.

Б43

ISBN 978-985-7035-49-6.

У кнізе друкуюцца лепшыя беларускія песні на гістарычную тэму і сацыяльна-бытавую тэматыку, сярод якіх рэкруцкія, салдацкія, казацкія, прыгоніцкія, турэмныя, прыпеўкі і гімны. Змешчана некалькі папулярных песень нашых сучаснікаў.

У дадатку друкуюцца рускія рамансы, папулярныя песні і гімны. Каб маладое пакаленне мела магчымасць пазнаёміцца з гімнамі славянскіх народаў, тут змешчаны тэксты дзяржаўных гімнаў Расійскай Федэрацыі, Украіны, Рэспублікі Польшчы і некаторых іншых дзяржаў.

Гэты зборнік песень (спеўнік) — адмысловы даведнік сучаснікам і нашчадкам. У ім змешчаны 330 песень (сярод іх 230 беларускіх), 54 прыпеўкі, каля 70 фотаздымкаў і 5 навукова-папулярных артыкулаў. Кожная песня, якая трапіла ў зборнік, мае сваю гістарычную даведку: дзе і калі была напісана, яе аўтары (калі ёсць), з якіх крыніц узяты тэкст песні. Некаторыя народныя песні запісаны ўкладальнікам зборніка. Да асобных песень дадаюцца ноты ў дадатку.

Кніга разлічана на школьных настаўнікаў, работнікаў культуры і ўсіх тых, хто цікавіцца папулярнымі песнямі.

УДК 398.8(=161.3)
ББК 82.3(4Беи)

ISBN 978-985-7035-49-6

*Кніга прысвячаецца маёй маці Соні Барыс, якая перад скананнем сказала мне: «Нічога я табе, сынок, не пакінула ў спадчыну, апрача сваіх песень».*

# Песні нашых продкаў і сучаснікаў

Ці шануем мы сваіх бацькоў, дзядуль і бабуль, якія яшчэ жывуць? Ці часта мы наведваем іх? А калі рэдка, дык можа скажа табе маці так, як некалі сказала мне: «Я чакаю, а ты рэдка прыязджаеш. А некалі захочаш прыехаць, а не будзе да каго». Які справядлівы папрок!

А ці захоўваем мы памяць аб памерлых? Ці можа мы іх і ўспамінаем толькі на Радаўніцу і Дзяды?! А ў кожнага з нас ёсць свае продкі. І ўсе яны разам для беларусаў пакінулі ў спадчыну нашу Радзіму, сваю маёмасць, сваю культуру і родную мову. І наш абавязак захаваць гэта ўсё, дапоўніць яго і перадаць сваім нашчадкам. На жаль, шмат чаго з нашай народнай культуры ўжо беззваротна страчана. У мінулым стагоддзі, нават у нялепшыя часы, на вёсках у Беларусі на кожным святе гучала музыка і чуліся песні. А песень у беларусаў вельмі шмат. Іх збіралі і запісвалі фалькларысты і музыканты. Зборнікі беларускіх песень склалі і выдалі Антон Грыневіч і Уладзімір Тэраўскі, Рыгор Шырма, Генадзь Цітовіч і Ніл Гілевіч, Уладзімір Зянько і Уладзімір Сысоў. Шматтомнае выданне ў 1970–1980-х гг. ажыццявіў Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі. Можна падумаць, што ўжо ўсё сабрана, запісана. Аднак усё яшчэ не завершана. Народная творчасць жыве, а народ прадаўжае тварыць. Народная песня, калі яна сапраўды народная, часцей за ўсё існуе ў варыянтах. І здараецца, што ўдаецца часам знайсці лепшы варыянт песні.

Варта адзначыць, што збіральнікі фальклору запісвалі песні, казкі і іншыя народныя творы ад людзей, якія добра ведалі вусную народную творчасць і ў той жа час самі былі непісьменнымі. П. В. Шэйн запісаў каля 400 песень і абрадаў ад сваёй служанкі непісьменнай Мар'і Васільеўны Кашкевіч, У. Б. Зянько — каля 300 песень ад сваёй маці Зосі Сымонаўны Зянько (1892–1977), С. В. Барыс і А. В. Барыс — каля 400 песень ад сваёй непісьменнай маці Соф'і Ільінічны Барыс (Барановіч, 1907–1973).

На крылах беларускай песні атрымалі сусветную вядомасць Міхал Забэйда-Суміцкі і Пётра Конюх, Рыгор Шырма і Генадзь Цітовіч, Уладзімір Мулявін і Валянціна Гаявая.

У гэты зборнік трапілі лепшыя гістарычныя песні пра важныя падзеі і выбітных гістарычных дзеячаў, а таксама папулярныя рамансы, прыпеўкі і песні, якія спявалі нашы бацькі і дзяды, нашы маці і бабулі. Некаторыя з іх на рускай мове, але ў 1950–1960-я гады пад музыку некаторых песень скакалі на вечарынках наступныя танцы: «Каробачку», «На рэчаньку», вальс «Когда б я имел златые горы...», факстрот «Хороши весной в саду цветочки...» і іншыя.

У спеўнік уключаныя некаторыя песні, якія складзены прафесійнымі або самадзейнымі кампазітарамі на вершы беларускіх паэтаў. Многія з гэтых песень увайшлі ў рэпертуар прафесійных вакальна-інструментальных ансамбляў і самадзейных гуртоў.

Хоць у гэты зборнік трапіла шмат рускіх песень, але мушу сказаць, што беларусы сярод славянскіх народаў першынство могуць ўступіць толькі ўкраінцам. Беларуская зямля дала свету і выдатных кампазітараў: Восіпа Казлоўскага, Станіслава Манюшку, Міхаіла Глінку, Дзмітрыя Шастаковіча (яго продкі паходзяць з Віленшчыны), Несцера Сакалоўскага ды інш. Адмоўнае стаўленне некаторай часткі насельніцтва Беларусі да беларускай мовы і культуры абумоўлена палітыкай русіфікацыі («мураўёўшчына»), якая прадаўжаецца (з двума перапынкамі) не сто, а каля 200 гадоў.

Каб адрасаваць кнігу нашым сучаснікам, якія мала цікавяцца песеннай спадчынай, тут змешчаны і рускія песні. Адначасова кніга адлюстроўвае стан культуры беларускага народа савецкага і паслясавецкага часоў.

Можна спадзявацца, што гэта кніга стане хрэстаматыйнай і будзе своеасаблівым помнікам нашым продкам.



*Фальклорна-этнаграфічны хор саўгаса «Сцяг Кастрычніка» Бярэзінскага раёна. 1980 г.*

*Не так жаль мне замка,*
*Як шкада ваякаў.*

З песні XIII ст.

# Гістарычныя песні беларусаў

Гісторыя пакідае свае сляды ў матэрыяльнай культуры, назвах мясцін і паселішчаў, летапісах, дакументах, паданнях і легендах, а таксама ў гістарычных песнях. Гістарычныя песні паказваюць стаўленне народа да той ці іншай падзеі, асобы.

Сапраўды, беларусы не захавалі або і не мелі падобных твораў тыпу рускіх былінаў або ўкраінскіх думаў. Гераічныя подзвігі нашага народа адлюстраваліся пераважна ў казках, паданнях і легендах пра волатаў і герояў, а таксама і ў гістарычных песнях.

У гістарычных песнях беларускі народ расказаў пра сваё змаганне з татарамі, немцамі, туркамі і маскоўцамі — з усімі тымі, з кім давялося не раз ваяваць.

Беларускіх гістарычных песень дайшло да нас няшмат. Гэта было адзначана яшчэ Яўхімам Карскім у 1916 г.: «Старыны», або, як звычайна называюць іх, «быліны», зусім не вядомы беларусам; у шматлікіх зборніках народных твораў гэтага племені, як ужо неаднаразова адзначалася рознымі вучонымі, дарэмна было б шукаць старын. Толькі ў запісах, зробленых у мясцовасцях, памежных з вялікарускімі, у апошні час адзначаны нейкія рэшткі гістарычных песень»[1].

Прычыну гэтай з'явы Максім Гарэцкі бачыў у тым, што беларусы былі пазбаўленыя кіраўніцтва сваім гістарычным жыццём. «Былі войны, — пісаў М. Гарэцкі, — былі розныя выдатныя гістарычныя падзеі ў краі, але яны блізу не адбіліся ў дайшоўшай да нас вуснай паэзіі або забыліся пазнейшымі пакаленнямі. Справа ў тым, што народ не ведаў, за што і нашто ён б'ецца, ці, лепей кажучы, не адчуваў падзей, не прымаў іх к сэрцу настолькі, каб у яго пачалася ідэйная вусная творчасць у гэтым кірунку. І толькі змаганне з панамі ў форме казацкіх паўстанняў ці супроць панскіх выступленняў адважных адзінак пакінула большы след у нашых песнях і казках гістарычнага характару. Гістарычнымі падзеямі жылі толькі паны. А паны з 16-га

веку перайшлі на чужую мову і чужыя звычаі»[2]. З М. Гарэцкім можна пагадзіцца, але трэба ўлічваць, што ў вуснай творчасці беларусаў галоўнае месца займала каляндарна-абрадавая і сямейна-абрадавая паэзія, а ў пазаабрадавай паэзіі пераважалі любоўныя, лірычныя, жартоўныя песні. Гэта натуральна, бо народ жыў не гістарычнымі падзеямі, а сваім штодзённым жыццём. Аднак не варта абвінавачваць беларусаў у «бяспамяцтве». Бытавалі ў іх і эпічныя творы: гістарычныя песні, казкі, радзей быліны. Польскі храніст Станіслаў Сарніцкі, які ў XVI ст. пабываў у Беларусі, пісаў, што тут шырока бытуюць паданні і песні пра «герояў, якіх называюць волатамі або паўбагамі»[3].

У беларускай фалькларыстыцы да гэтага часу няма дакладнай класіфікацыі сацыяльна-бытавых песень. Назіраецца блытаніна з гістарычнымі песнямі. У хрэстаматыі «Беларускі фальклор» яны змешчаны ў раздзеле «Гістарычныя песні, творчасць рабочых, паэзія змагання». Асобна вылучаны песні антыпрыгонніцкія, рэкруцкія, салдацкія і казацкія[4], якія, на наш погляд, таксама з'яўляюцца разнавіднасцю песень гістарычных. Такая няпэўная класіфікацыя сацыяльна-бытавых песень тлумачыцца тым, што дарэвалюцыйныя, савецкія і сучасныя фалькларысты вызначалі песні ў адпаведнасці з тым, як іх вызначалі самі выканаўцы. Непісьменныя або малаадукаваныя людзі песні пра гістарычныя падзеі ніяк не вылучалі і выконвалі іх «абы-калі» і пра гэта паведамлялі збіральніку фальклору.

З сярэднявечча да нас дайшлі некалькі гістарычных песень: «Ідзе Вітаўт па вуліцы», «Песня пра бітву пад Воршай», «Падымаліся чорныя хмары», а таксама цэлы шэраг песень пра набегі крымскіх татараў. Дарэчы, памяць пра страшэннае татара-мангольскае нашэсце на Русь у XIII ст. захавалася ў беларускім духоўным вершы пра св. Георгія, дзе распавядаецца пра «царэвішча Дзям'енішча», які народ «пад меч кладзе, малады народ у палон бярэ»[5].

Значыць, справа не ў тым, што ў беларусаў не было гістарычных песень, хутчэй трэба сказаць, што іх не запісвалі, і яны з цягам часу забываліся. Гэта адзначае і М. Гарэцкі: «Нашу вусную народную паэзію этнографы сталі запісваць толькі ў 19-м веку. Да гэтага часу многае ўжо паспела вылецець з народнае памяці, а не запісанае ў сваю пару — навекі загінула»[6]. Трэба ўлічыць, што беларускі селянін баяўся паведамляць этнографам тэксты гістарычных песень, у якіх былі антыцарскія сюжэты. Нават калі б этнограф і запісаў іх, то магчымасці надрукаваць іх у яго не было. А такія песні былі. Напрыклад, песня пра Януша Радзівіла, які ўзначальваў войска ВКЛ у вайне з Маскоўскай дзяржавай у 1654—1655 гг. Песню пра яго забойства «белым царом» запісаў ад сваёй маці М. Гарэцкі. Ён жа паведамляў яшчэ пра адну песню пра Я. Радзівіла: «Захавалася песня аб змаганні Радзівіла са шведамі»[7].

Трэба ўлічваць, што царскі ўрад імкнуўся русіфікаваць насельніцтва Беларусі і адпаведна рускія этнографы імкнуліся давесці, што беларусы — гэта адгалінаванне рускага народа. «Мы крывічы — пісаў Вацлаў Ластоўскі, — занадта позна ўзяліся за сваё адраджэнне, самі яшчэ ні збіралі і не друкавалі свайго фальклору, а тое, што надрукавана рускімі, страшна сапсаванае ў дагоду палітычнай тэндэнцыі, якая імкнулася давесці, што мы не з'яўляемся самастойнымі ні ў вобласці мовы, ні ў этналогіі. Тэндэнцыя гэта настолькі кідаецца ў вочы, што мне думаецца, рускія стварылі адно дакументы, якія апраўдвалі тэорыю «общерусскости», не клапоцячыся аб праўдзе»[8].

Толькі ў 1930-я гг. стаў вядомы тэкст «Песні беларускіх паўстанцаў 1794 г.», але яе антырускі характар вымагаў друкаваць яе з купюрамі. Тое самае адбылося і з «Паўстанцкай песняй» (1863 г.), знойдзенай Генадзем Кісялёвым у 1963 г. Поўны яе тэкст быў надрукаваны толькі ў 1999 г. у кнізе «Кастусь Каліноўскі. За нашую вольнасць». Запісы беларускіх песень этнографы вядуць з пачатку XIX ст., але надрукаваць іх было цяжка. Існавала цэнзура. Вёўся пэўны адбор. Многія песні захоўваліся толькі ў прыватных архівах.

У савецкі час, калі ладзіліся фальклорныя экспедыцыі ад Акадэміі навук Беларусі, многія фалькларысты баяліся запісваць песні аб змаганні беларусаў з маскоўскімі войскамі, бо гэта не ўпісвалася ў канцэпцыю вечнага братэрства беларусаў і рускіх, а таксама і тыя, якія не ўпісваліся ў афіцыйную камуністычную ідэалогію. Іншая справа, калі ў песнях спявалася пра прыгонны ўціск паноў, пра татарскіх, французскіх, нямецкіх і фашысцкіх захопнікаў. Нагадаем пра беларускія рэвалюцыйныя песні «Беларуская марсельеза», «Ваяцкі марш», якія ў 1930-х гг. былі забаронены ў Заходняй і Савецкай Беларусі. Яны змаглі трапіць у друк толькі ў перыяд гарбачоўскай галоснасці. Так што і XX ст. не было спрыяльным для збірання, друкавання і вывучэння беларускіх гістарычных песень аж да 1991 г.

Невядомым застаецца і лёс тэксту песні «Ідзе Вітаўт па вуліцы». Тое, што такая беларуская гістарычная песня была, паведамляў А. Станкевіч у лісце да дэкана гісторыка-тэарытычнага факультэта Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі М. Зінчука: «Гарманізаваная на галасы песьня «Едзе Вітаўт па вуліцы». Мэлёдыя запісана ў 1553 г. Песьня гэта пялася на вясельлі караля Жыгімонта Аўгуста з Барбарай Радзівіленкай. З архіва Б. Зямкевіча перапісаў А. Грынкевіч у 1919 г. Знаходзіцца ў Беларускім музэі ў Вільні»[9].

У 1923 г. Ластоўскі друкуе без подпісу ў часопісе «Крывіч» яшчэ адзін варыянт «Песні а князю Вітаўце» (на старабеларускія матывы)». Ён як арыгінальны верш самаго Ластоўскага надрукаваны ў кнізе «Вацлаў Ластоўскі. Выбраныя творы»[10]. Які з варыятаў тэксту песні народны? Пакуль невядома.

З XIII ст. дайшлі да нас толькі ўрыўкі з народных твораў, як напрыклад, урывак песні, што ўзяты эпіграфам да гэтага артыкула. У наш зборнік трапілі малавядомыя сучаснікам гістарычныя творы — малітва-гімн «Багародзіца» (XIV ст.), балада «Рыцар Байда» (XVI ст.), «Песня пра Андрэя Баболю» (XVII ст.) ды іншыя.

Некаторыя песні створаны штучна, а таму вялася дыскусія сярод даследчыкаў вакол гістарычных песень «Быў на Русі чорны Бог», «Із-за Слуцка, із-за Клецка», «Ой, калі б, калі маскалі прыйшлі». П. Уладзіміраў, М. Кастамараў, М. Янчук, Я. Карскі, П. Бяссонаў, Л. Васілеўскі, М. Гарэцкі называлі іх псеўданароднымі песнямі антыпольскага характару. Іх прапагандысцкі і ідэалагічны характар відавочны. На гэты конт М. Янчук пісаў: «Бурсакі, вандроўныя дзякі, вайсковыя пісары і да таго падобны люд, а часам і духоўныя асобы — вось тая навакольнасць, у якой культывіравалася ў даўні час гэткая псеўданародная паэзія; яна не мае нічога агульнага з праўдзівай творчасцю, як у мове, так і ў ва ўсіх спосабах, не ўласцівых народнай паэзіі»[11]. Апаненты спасылаліся на тое, што тэксты гэтых песень былі надрукаваныя ў кнізе «Опыты в русской словесности воспитанников гимназий Белорусского учебного округа», у раздзеле «Народные песни»[12]. Фалькларысты неаднаразова запісвалі песні на вершы паэтаў. Яны ўспрымаліся як народныя песні, напрыклад, вершы Я. Чачота. Тое самае магло адбыцца і з названымі песнямі або ўвогуле ніхто з вучняў іх не запісваў, а агітацыйныя вершыкі выдалі за «народныя песні». І ўжо са зборніка яны «пайшлі ў народ». Калі верыць М. Каяловічу, то песня «Быў на Русі чорны Бог» бытавала каля Нясвіжа і Слуцка[13], але сам ён яе не чуў і даведаўся пра яе толькі «па зробленых даведках». Этнографы так і не запісалі, і не знайшлі іншых варыянтаў гэтых песень. Зразумела, некаторыя з іх бытавалі, як, напрыклад, «А калі б, калі маскалі прыйшлі», якую я запісаў у 1969 г. у вёсцы Сукавічы Мінскага раёна ад Міхаіла Пораха, якому было тады 63 гады.

З часоў казацка-сялянскай вайны ў Беларусі шырока распаўсюджваюцца казацкія песні. Пераважна яны былі ўкраінскімі, але ствараліся і беларускія. Некаторыя ўкраінскія песні лёгка ператвараліся ў паляшуцкія і беларускія.

Для нашай тэмы ўяўляюць цікавасць казацкія песні з ваеннымі сюжэтамі. Хоць некаторыя з іх і не маюць гістарычных рэалій, але ў іх намаляваны вобраз мужнага і гераічнага змагара за родны край і народ. Часта герой гіне ў баі з ворагам, і ў песні ўсхваляецца яго подзвіг. Сімволіка такіх сюжэтаў — народны ідэал свабоды і мара пра яе.

Сярод беларускіх народных песень, якія шырока распаўсюджаны ў Беларусі, у многіх варыянтах існуюць казацкая песня «Спіўся казак, спіўся» і салдацкая «У нядзельку раненька». У апошняй, якая надрукавана ў хрэстаматыі «Беларускі фальклор», спяваецца:

«Павязеш свае плечы пад турэцкія мечы». А той жа выраз у песні, якая запісаная ў Вілейскім раёне, гучыць інакш: «Павязеш свае плечы пад нямецкія мечы». Гэта тлумачыцца тым, што ліцвіны (продкі сучасных жыхароў Вілейшчыны) ваявалі не з туркамі і не з татарамі, а з крыжакамі.

У адным з варыянтаў песні «Спіўся казак, спіўся» (таксама запісана ў Вілейскім раёне) ёсць «прывязка» да пэўнай тэрыторыі. Казак гаворыць каню:

*— А, косю, мой косю,*
*Залатая грыва,*
*Вязі мяне, косю,*
*Дзе мая радзіма.*
*А мая радзіма*
*На роўненькім полі,*
*На роўненькім полі,*
*На прускай граніцы.*

З гісторыі вядома, што ў розны час заходнія землі Беларусі межавалі з Прусіяй.

Да гістарычных песень можна аднесці некаторыя рэкруцкія і салдацкія песні. Так, у рэкруцкіх песнях выказваецца адмоўнае стаўленне народа да рэкруцкіх набораў, шчырае шкадаванне юнакоў, якіх чакала горкая доля ў салдатах. Матыў цяжкай службы ў войску сустракаецца і ў беларускіх салдацкіх песнях.

Крымская вайна і шматлікія войны Расійскай імперыі з Францыяй, Персіяй, Турцыяй, у якіх удзельнічалі салдаты-беларусы, таксама знайшлі сваё адлюстраванне ў салдацкіх песнях. Па сваім змесце яны блізкія да гістарычных песень. Такой з'яўляецца лірычная песня «Поўна табе, Іванюша», у якой спяваецца аб адпраўцы юнака на вайну:

*Пікі, ружжы ў рукі далі,*
*У Каўказкія горы сказалі.*

Магчыма, у гэтай песні знайшлі адлюстраванне падзеі каўказскай вайны з горцамі ў першай палове XIX ст.

Увогуле сацыяльна-бытавыя песні, у якіх паказана стаўленне народа да той ці іншай падзеі — вайны, прыгоннага ладу і г.д., маюць гістарычную каштоўнасць. Вобразна іх можна назваць «голасам народа». Толькі ў песнях народ мог выказаць свае шчырыя думкі і пачуцці. Горкія драматычныя пачуцці раскрываюць словы антыпрыгонніцкай песні:

*— Не плач, маё дзіцятка,*
*А цыц, маё родна!*
*Вунь там войт ідзець,*
*На татку, на мамку ён бізун нясець...*

*У тым у бізуне скураты ўвіты,*
*На тым на бізуне слёзкі паліты.*
*Тыя слёзкі крывавыя, з сэрца раняныя...*
*Схавайся ты, дзетка, на божу пасцельку,*
*Няхай твае вочкі заплюснуць навекі;*
*Не відзеў ты гора, гора мужыкова,*
*Не ўзнаеш ты долі, кроўкай палітое...*[14].

Сваім эмацыянальным настроем гэтыя радкі больш кранаюць сэрца, чым сухая, акадэмічная мова манаграфій. Не розумам, а менавіта сэрцам адчуваем гора запрыгоненага беларускага селяніна, суперажываем яго бедам.

Не менш эмацыянальна ўспрымаліся і гістарычныя песні. Спашлёмся на ўспаміны Юркі Віцьбіча: «Калісьці ў Віцебску на Сёмуху каля бабінцу Чорнае Тройцы, што на Пескавацiку, давялося мне пачуць сьляпога старца-лерніка. Адсунуўшы назад торбу, перабіраючы пальцамі рукі клавішы і круцячы правай корбу, ён у такт лерным гукам спяваў:

*Падымаліcь чорны хмары,*
*Неба пакрывалі.*

I пяяў ён ня голасна, і самы голас, падбіты старасьцю, дрыгжэў, але гэтулькі пачуцьця ўкладаў музыка ў сваю песьню, што здавалася ягоныя нявідушчыя вочы бачаць і хмары, і полымя, і даўную зацятую бітву. I можа ні адзін наш музычны інструмант гэтак не адпавядаў ягонай песьні, як задуменная, засмучоная лера.

*Прыхадзілі злы Татары,*
*Пад Крычавам сталі.*

Даўно ўжо парасла пустазельлем магіла таго дзеда. Ніхто не пераняў ягоную забароненую леру. Аднак усё роўна досыць толькі прыгадаць сваю краіну, як загучыць у душы бясконца, зачэпляная ў ёй калісьці лернікам струна:

*Запалілі стары Крычаў, —*
*Канцы запалілі...»*[15].

Можа, са смерцю гэтага старога лірніка і змоўклі ў Беларусі гістарычныя песні, бо апроч духоўных, выконвалі лірнікі і гістарычныя песні. А нам засталося ў спадчыну толькі тое з гістарычных песень, што запісалі ў свой час этнографы, але і гэтага досыць, каб сказаць: беларусы былі не бяспамятным народам, і сваю гісторыю яны ведалі і памяталі з паданняў, легенд і з гістарычных песень, якія перадаваліся з пакалення ў пакаленне.

Аўтар гэтага артыкула да гістарычных песень адносіць тыя, у якіх спяваецца пра гістарычныя падзеі і гістарычных дзеячаў. Такім чынам, казацкія, рэкруцкія і салдацкія песні, што маюць

гістарычны змест, адносяцца да гістарычных. Вацлаў Ластоўскі паданне «Князёўна Рагнеда» (1916 г.) заканчвае «Песняй Гараславы». Па сваім змесце гэта лірычная песня, у якой спяваецца пра горкую долю жанчыны. У гэтым творы заўважаюцца матывы казкі «Гора», у якой Гора выступае як міфічная істота, якая ніколі не пакідае чалавека. Вобраз Гора сустракаецца і ў народных песнях. Невядома, хто даў загаловак «Песня Гараславы», выканаўца ці запісчык твора. Песня на самай справе перадае пачуцці Гараславы (Рагнеды). Першая частка песні пераклікаецца сваім зместам з вясельнымі песнямі. Захоп Полацка наўгародскім князем Уладзімірам увайшоў у нашу гісторыю як крывавае вяселле Рагнеды. З гісторыі Беларусі вядома некалькі крывавых вяселляў, але гэта было адным з першых на нашай зямлі. Памяць пра ганарыстую палачанку захоўвалася ў народзе на працягу многіх стагоддзяў.

Гістарычныя сюжэты сустракаюцца ў некаторых абрадавых песнях: веснавых, валачобных, купальскіх, вясельных і некаторых лірычных. Так, у веснавой песні «Данілка» гаворыцца, што «паехаў Данілка на Русь на вайну».

Песня «Дубочак зялёненькі» ў апошніх куплетах мела гістарычны змест, з-за якога яе на сцэну не прапускалі:

*Бяры сабе за жану*
*Салдацкую ключніцу,*
*Салдацкую ключніцу,*
*Нас з табой разлучніцу.*
*Што ключыла-ключыла,*
*Нас з табой разлучыла,*
*Разлучыла нас з табой*
*Як рыбачку і з вадой.*
*Як рыбачку ад вады,*
*Так нас з табой ад радні.*

Такая архаічнасць песні для будаўнікоў камунізму зусім не падыходзіла. Пасля запісу песні «Па вулачцы новенькай» я прапанаваў народнаму артысту СССР Рыгору Шырму, каб ён адкінуў канцоўку песні і даў ёй новае жыццё. Аранжыроўка песні ўдалася, і яна ў 1968 г. пайшла ў свет.

Гістарычныя песні рэдка трапляюць на эстраду. Многія з іх забываюцца і не ўспрымаюцца новымі пакаленнямі. Старыя людзі паміраюць, і яны забіраюць з сабой гістарычныя песні. А таму фалькларыстам сёння запісаць гэтыя творы рэдка калі ўдаецца. Аднак такія музычныя ансамблі, як, напрыклад, «Стары Ольса», «Пінская шляхта», гурты «Крэсіва», «P.L.A.N.» спрабуюць выкарыстаць гістарычныя песні ў сваім рэпертуары. У рэпертуары гурта «Стары Ольса» нямала гістарычных песень, сярод іх «У нядзельку параненька»,

«Едзе Вітаўт па вуліцы», «Пахвала Вітаўту», «Грунвальдская бітва 1410 г.», «Багародзіца», «Клецкая бітва 1506 г.», «Аршанская бітва 1514 г.» ды іншыя. Спяваюць песні на гістарычную тэматыку Алесь Камоцкі і Андрусь Мельнікаў. Зрэдку некаторыя нашы аўтары песень складаюць вершы на мелодыю рускіх песень. Так Алесь Камоцкі склаў і выконвае песню «Птушкі» (на мелодыю песні М.Блантэра «Летят перелетные птицы»), а Андрэй Плясанаў спявае песню «Бадзяга» (пераклад Вітаўта Мартыненкі рускай народнай песні «По диким степям Забайкалья»). У апошні час з'явіліся ў продажы і кампакт-дыскі з запісам самадзейных гуртоў, напрыклад, дыск «Гераічны эпас. Спевы рыцараў і шляхты Вялікай Літвы», падрыхтаваны гуртом «Стары Ольса». У некаторых з іх ёсць запісы для «караоке» (для праслухоўвання і спеваў).

Кожная эпоха нараджае свае песні і пакідае іх новым пакаленням. У адпаведнасці з гістарычнымі падзеямі мы вылучылі пэўныя групы іх. Класіфікацыя наша досыць умоўная. Іх мы аднесілі да вядомых гістарычных падзей і асоб (войны, паўстанні, асобы) або да пэўных сацыяльных груп (рэкруцкія, салдацкія, матроскія, антыпрыгонніцкія, турэмныя, казацкія, побытавыя, партызанскія, бунтарскія). Апрача названых песень, у зборнік уключаны прыпеўкі, рамансы і ў дадатку некалькі вершаў, што маюць адносіны да гісторыі.

На лексіку песень, што змешчаны ў зборніку, значны ўплыў аказала тое асяроддзе, у якім яны ствараліся. У адных песнях заўважаецца насычэнне паланізмамі, а ў іншых — найбольш русізмаў. Некаторыя рэкруцкія, салдацкія, матроскія і турэмныя песні яўна запазычаны з рускай мовы і рускія словы (лексіка) перапрацаваныя з правіламі беларускага маўлення (граматыка). Напрыклад, песня «Усе бутылкі шавяляцца» спяваецца на «трасянцы» (руска-беларуская ці беларуска-руская). У нашым зборніку ёсць рускія песні сярод салдацкіх, матроскіх, турэмных (арыштанцкіх), разбойных, партызанскіх, «афганскіх». Беларусы, трапіўшы ў рускамоўныя калектывы, самі гаварылі па-руску і засвойвалі рускую мову і спявалі рускія песні. Іншы раз яны самі складалі рускую песню для ўсіх. А пасля, калі яны вярталіся ў Беларусь, у родную вёску, мястэчка або горад, дык і прыносілі гэтыя песні, якія станавіліся вядомымі амаль для ўсіх жыхароў гэтага населенага пункта. Вось вам прыклад не прымусовай русіфікацыі, або павольнай лінгвістычнай акупацыі.

Салдацкія песні ўзнікалі пераважна ў вайсковым асяроддзі. Беларусы, якія служылі ў расійскім або польскім войску, запаміналі іх, і, вярнуўшыся дадому, выконвалі. Песні набывалі беларускае вымаўленне, але ў іх захоўвалася вялікая колькасць русізмаў або паланізмаў. У выніку беларускія фалькларысты не прызнавалі іх за беларускія, а таму ў фальклорныя зборнікі не ўключалі.

Ваенныя падзеі, якія часта адбываліся на Беларускай зямлі, аднаўлялі ў памяці народа эпічныя творы. Так, у 1945–1946 гг. беларускія мужчыны, якія вярталіся пасля вайны дамоў, прыносілі з сабою запісаныя або вывучаныя на памяць песні, якія маглі ўзнікнуць у гады Першай сусветнай вайны, грамадзянскай або ў час падзей 1941 г. Такімі з'яўляюцца песні «Ішлі два салдаты», «У полі вецер веіць», «По Дону гуляет козак молодой» ды іншыя. Песні гэтыя рускія, і іх спявалі расійскія салдаты, але ў пасляваенныя гады яны бытавалі і ў Беларусі. Іх спявалі ў час застолля па-беларуску з некаторымі рускімі словамі.

Асобна трэба сказаць пра песні Вялікай Айчыннай вайны. У час трохгадовай нямецка-фашысцкай акупацыі людзям было не да песень. Але наш народ і ў цяжкі час спяваў. Спявалі раней вядомыя гістарычныя і даваенныя песні. Сярод іх салдацкія, казацкія і сямейна-бытавыя. З пашырэннем партызанскага руху ўзнікалі і партызанскія песні на рускай або беларускай мове. Сярод савецкіх (чырвоных) партызан была папулярнай песня «Бабуся», напісаная былым настаўнікам Максімам Піліпавічам Собалевым у партызанскай брыгадзе «Штурмавая». Яго песні пашэнціла стаць папулярнай і ў іншых партызанскіх брыгадах і зонах. Паколькі партызанскія атрады і брыгады знаходзіліся на значнай адлегласці і паміж імі не існавала цеснай сувязі, а таму ў кожным падраздзяленні або партызанскай зоне ствараліся свае партызанскія песні. Так узніклі песні «Марш бярозаўцаў», «Нарачанка», «Случанін, мой брат і таварыш», «Пінская партызанская», «Любимая рогачевских партизан». Зразумела, сваіх кампазітараў сярод партызанаў не было, а таму часта складалі верш на вядомую ўсім мелодыю. Так з'явіліся партызанскія песні «Ой, Лявоніху Лявон палюбіў», «Бывайце здаровы!», «Катюша», «Крутится, вертится враг под Москвой», «Партызанскае яблычка». Некалькі партызанскіх песень чытач знойдзе ў гэтай кнізе.

Чырвоная Армія двойчы ваявала з Польшчай, двойчы з Японіяй, па адным разе — з Кітаем і Фінляндыяй. Чырвонаармейцы і савецкія салдаты ваявалі ў многіх лакальных войнах, якія не згадваюцца ў школьных падручніках па гісторыі, апрача дзвюх.

Савецкі Саюз вёў дзве яўна агрэсіўныя войны: савецка-фінляндскую (1939–1941 гг.) і савецка-афганскую (1979–1989 гг.). За першую, пачатую і аб'яўленую Савецкім Саюзам вайну, яго выключылі з Міжнароднай арганізацыі Лігі Нацый, за другую, не аб'яўленую (акупацыю Афганістана і вайну з маджахедамі, інакш паўстанцамі) многія краіны байкатавалі Алімпійскія гульні ў Маскве ў 1980 г. Савецка-фінляндская ваенная кампанія праходзіла непрацяглы тэрмін у жорсткіх зімовых умовах і таму фактычна не пакінула гістарычных песень, тым больш на беларускай мове. А савецка-афганская вайна, якая афіцыйна аб'яўлялася ў СССР як увод

абмежаванага кантынгенту савецкіх войск у Афганістан, доўжылася больш за 9 гадоў — з 30 снежня 1979 г. па 15 лютага 1989 г. За гэты час на неаб'яўленай вайне пабывалі некалькі дзесяткаў тысяч савецкіх салдат. На ёй загінулі 13 833 савецкія воіны, у тым ліку 789 беларусаў. Шмат нашых землякоў вярнуліся з вайны калекамі. Толькі ў Магілёўскую вобласць прывезлі з Афганістана 220 калекаў. Вялікія страты нанесены і Афганістану: каля 1,5 млн чалавек забіта, 3—4 млн сталі ўцекачамі. Мужна змагаліся ў Афганістане савецкія салдаты, сяржанты і афіцэры, якія выконвалі па загаду свайго камандавання «інтэрнацыянальны абавязак» («долг»). «Долг» невядома перад кім?! Перад палітбюро ЦК КПСС, якое задумала гэту авантуру для пашырэння савецка-камуністычнага ўплыву ў Цэнтральнай Азіі. У выніку вайны — гібель юнакоў у гарах і пустынях Афганістана, няпоўныя працоўныя калектывы, расколатыя сем'і і маральна пакалечаныя душы тых, хто пабываў на гэтай несправядлівай вайне.

Значныя падзеі той вайны і перажыванні салдат знайшлі адлюстраванне ў песнях воінаў-інтэрнацыяналістаў, якіх у нас называюць «афганцы». Песні пра тую вайну складаліся на рускай мове і толькі некалькі ёсць беларускіх, якія напісаныя ў Беларусі пасля 1988 г. Правёўшы кароткае даследаванне рэпертуару песень «афганцаў», мне ўдалося выявіць найбольш папулярныя з іх. Такімі з'яўляюцца «Кукушка» Ю. Кірсанава, «Прикрой меня, ведомый» С. Волкава, «Этот мир без тебя» І. Марозава, «Второй батальон» В. Пятраева, «Черный тюльпан» А. Розенбаўма, «То, что я должен сказать» А. Вярцінскага, «Ордена не продаются» Ю. Слатава ды іншыя. Песня «То, что я должен сказать» (інакш «Мальчики») складзена ў 1917 г., але ў 1980-я гады стала зноў злабадзённай.

Беларускі кампазітар Ігар Лучанок напісаў пра Афганістан некалькі рускіх песень: «Бессмертие» на словы Уладзіміра Дабранравава, «Без вести пропавшие» на словы Сяргея Астравога, «Кукушка» на словы Уладзіміра Качаткова, «Остров слёз» на словы Канстанціна Нілава і нарэшце гімн беларускіх афганцаў «Афганистан» на словы Рыгора Сакалоўскага. Некалькі папулярных песень «афганцаў» трапілі ў гэты зборнік. Як праціўнік любых войнаў, я згодны з высновай А. Чэмберлена «У вайне не бывае выйграўшых — толькі прайграўшыя». Варта нагадаць і выказванне Дж. Кенадзі: «Альбо чалавецтва пакончыць з вайной, альбо вайна пакончыць з чалавецтвам». Пры сучаснай зброі і тэхніцы гэтыя словы гучаць усім нам, як перасцярога, каб мы не дапусцілі Апакаліпсіса.

У кожны гістарычны прамежак часу ствараюцца песні на злобу дня. Пасля Вялікай Айчыннай вайны ў СССР была вельмі папулярная песня «Москва майская». Яе ўзнёслы настрой прыпеву («Кипучая, могучая Никем непобедимая Страна моя, Москва моя — Ты самая любимая») захоўваў яе ў памяці аднаго пакалення. Лёс песень

залежыць ад многіх прычын. Іх узнікненню іншы раз спрыяла накіраваная палітыка кіраўнікоў дзяржавы. Так у Савецкім Саюзе ўзнікла песня «Масква — Пекін». Абвастрыліся палітычныя адносіны СССР з Кітаем і пра гэту песню забыліся. У канцы XX ст. ў Беларусі была створана руска-беларуская песня «Россия і Белая Русь» (на верш Івана Цітаўца музыку напісалі кожны асобна Сяргей Клыкаў і Вольга Патрый). Такім чынам ёсць адна песня ў дзвюх мелодыях.Напэўна, на думку іх аўтараў, яна павінна была задаволіць інтарэсы прыхільнікаў «Союзного государства». Каб у чытача было ўяўленне аб асаблівасцях гэтай песні, складзенай на штучнай «трасянцы», прачытайце апошні куплет песні, які друкуецца з захаваннем стылю і правапісу:

*Иваны ды Мар'і, Міколы и Дарьи*
*В семейные узы сплелись навсегда.*
*Мы вместе сильнее, мы разам мацнее.*
*Было так заўсёды. Так будет всегда.*

А ў прыпеве песні ёсць вось такія словы:

*Шырокія песні, знаёмыя словы...*
*Слотили Россию и Белую Русь*[16].

Тое, што беларускі выходзілі замуж за жаніхоў іншых народаў, нічога дзіўнага няма. І некаторыя беларускія дзецюкі ажаніліся нават на немках. Ну што тут такога! Усякае здараецца. А вось, што такой дзяржавы і нават краіны з назвай «Белая Русь» няма сёння, вядома нават школьніку. Нават у гісторыі назва «Белая Русь» была часовая і вандроўная. А што датычыцца сказа «Было так заўсёды», дык гэта хлусня. Якраз усё было наадварот.

У XIV ст.цэнтры вялікіх княстваў Вільня і Масква пачалі сапернічаць за далучэнне альбо аб'яднанне ўсходнеславянскіх (старажытнарускіх) зямель, якое вылілася ў частыя і працяглыя войны, што вяліся з перапынкамі аж да канца XVIII ст., пакуль Беларусь (Літва) не была далучана да Расійскай імперыі. А ў імперыі нашы продкі тройчы паўставалі і браліся за зброю — у 1794, 1830—1831, 1863—1864 гг..

Такія песні, як «Москва — Пекин», «Россия і Белая Русь» — гэта песні аднаго дня, як газета сярод кніг. Яны ніколі не стануць народнымі.

Няхай нашым сучаснікам і нашчадкам спадарожнічаюць толькі мірныя падзеі, пра якія яны будуць складаць урачыстыя песні. І няхай жа старадаўнія і новыя песні знойдуць сваё месца ў беларускай культуры, якую атрымаюць у спадчыну нашы нашчадкі.

[1] Карскі Я. Беларусы. Мн., 2001. С. 553.
[2] Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Мн., 1992. С. 11.
[3] Бараг Л. «Асілкі» белорусских сказок и преданий // Русский фольклор. 1963. № 8. С. 40.
[4] Беларускі фальклор: Хрэстаматыя. Мн., 1996. С. 597, 603,609, 685.
[5] Карскі Я. Беларусы. С. 583 — 584.
[6] Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. С. 9.
[7] Там жа. С. 65.
[8] Ластоўскі В. Выбраныя творы. Мн., 1997. С. 436.
[9] Ліст А.А.Станкевіча М. В. Зінчуку // Хрысьціянская Думка. 1993. № 1. С. 135.
[10] Ластоўскі В. Выбраныя творы. С. 154, 218.
[11] Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. С. 288.
[12] Опыты в русской словесности воспитанников гимназий Белорусского учебного округа. Вильно. 1839. С. 79 — 83.
[13] Коялович М.О. История русского самосознания. СПб., 1865. С. 77.
[14] Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. С. 67.
[15] Віцьбіч Ю. Плыве з-пад Сьвятое Гары Нёман. Мн., 1995. С. 14.
[16] Цітавец І. Ёсць любоў у мяне... Зборнік песень. Мн., 1999. С. 135.



*Сляпы з ліраў. Мястэчка Петрыкаў. Пачатак XX ст.*

# Народныя гістарычныя творы пра падзеі і асобы

## Песня а князю Вітаўце

Ідзе Вітаўт па вуліцы,
За ім нясуць дзве шабліцы.
Слаўны князь Вітаўт,
Слаўны Гаспадару,
Слаўна наша Гаспадарства!

Адна шабля на татара,
Другая шабля для Спадара,
Слаўны князь Вітаўт і г.д.

Гукнуў-пукнуў у падковы!
Гэй, шыхуйся, пан кашовы!
Слаўны князь Вітаўт і г.д.

Стаўляй войска ў бітным ладзе,
Гэй, паслужым, брацця, праўдзе!
Слаўны князь Вітаўт і г.д.

Ударым у бубны, бразнем у мечы,
Усцелем поле трупам нейчым...
Слаўны князь Вітаўт і г.д.

*Надрукавана Вацлавам Ластоўскім у кнізе «Pieršaja Čytanka» (Wilnia, 1916). Падрабязна пра гэтую песню сказана ў прадмове.*

*Вітаўт (1350 — 1430) — князь гарадзенскі, трокскі, луцкі, вялікі князь літоўскі (1392 — 1430 гг.), пры якім Вялікае Княства Літоўскае дасягнула сваёй магутнасці. Памяць пра Вітаўта захавалася ў беларускіх паданнях, назвах мясцовасцей (Вітаўтавы дарогі, Вітаўтавы масты, Вітаўтавы горы, Вітаўтавы гаці, Вітаўтавы лазні і г.д.), а таксама ў песенным фальклоры. Песня «Ідзе Вітаўт па вуліцы» хутчэй за ўсё была напісана ў XVI ст. і бытавала ў шляхецкім асяроддзі.*

*(Ластоўскі В. Выбраныя творы. Мн., 1997. С. 154.)*

## Песня Гараславы

Кругом поле, кругом поле, неба ды трава,
Дзе ні выйду, дзе ні гляну — чужая старана.
Тут у садочках, па кусточках пташанькі пяюць,
Там у барах, там у гаях — зязюлі тужліва куюць.
— Ой, зязюлка, ой, сястрыцца, пакукуй ты мне,
А ці помняць, ці жалеюць мяне ў роднай старане.
Ох, я! Ох, я! Горка горанька мая!
Яшчэ я, нішчаснай нарадзілася,
Горка доля па дарожцы пакацілася!..
Ох, яшчэ я ў пялёнках ляжала,
А ўжо ліха доля за ножкі дзяржала!..
Яшчэ я маленькая каля лаўкі хадзіла,
А ўжо ліха доля за ручкі вадзіла.
Ох, як! Ох, я! Горка доленька мая!

*(Ластоўскі В. Выбраныя творы. С. 150.)*

## Прыехаў дзед на паляначку...

...Прыехаў дзед на паляначку
І пусціў коніка на папасачку,
А сам лёг на аддыханнійка.
І прышло к дзедушку сорак молайцаў,
Сорак молайцаў, усе разбойнічкі.
Хочуць дзеда ў палон забраць,
Яго коніка ў табун загнаць.
А стары дзедзя не ўлекаецца,
К сырому дубу прыграбаецца.
Узяў дуба за вярхушачку,
Прыгнуў дуба к сырой зямлі.
Сырая зямля здрыганулася, —
Сорак молайцаў улякнулася:
— Ах, ты дзедушка, родны бацюшка,
Не будзем цябе ў палон браць
І твайго коніка ў табун гнаць,
А будзем цябе аццом зваць.

*Запісана ў 1929 г. у в. Рыжкаўцы Быхаўскага раёна.*
*(Беларускі эпас. Мн., 1959. С. 162.)*

# Ой, каму ж ты, айчэнька...

— Ой, каму ж ты, айчэнька,
Купляеш канічэнька
І так сільненька плачаш?

— Для цябе, мой сыночку,
Паедзеш на вайночку,
На чужую старонку!

— Ой, не плач, айцец, па мне,
Бо йшчэ я не на вайне,
Я не ў чужой староне.

Наплачашся даволі,
Як не ўгледзіш ніколі
Ты мяне, маладога,

Ты мяне, маладога,
Ні каня варанога,
Ні сядла залатога!

— Ой, каму ж ты, матулю,
Каму шыеш кашулю
І так сільненька плачаш?

— Для цябе, мой сыночку,
Паедзеш на вайночку,
На чужую старону!

— Ой, не плач, матка, па мне,
Бо йшчэ я не на вайне,
Я не ў чужой староне.

Наплачашся даволі,
Як не ўгледзіш ніколі
Ты мяне, маладога,

Ты мяне, маладога,
Ні каня варанога,
Ні сядла залатога!

— Ой, каму ж ты, браценька,
Сядлаеш канічэнька
І так сільненька плачаш?

— Для цябе, мой браточку,
Паедзеш на вайночку,
На чужую старону!

— Ой, не плач, браток, па мне,
Бо йшчэ я не на вайне,
Я не ў чужой староне.

Наплачашся даволі,
Як не ўгледзіш ніколі
Ты мяне маладога,

Ты мяне, маладога,
Ні каня варанога,
Ні сядла залатога!

— Ой, каму ж ты, сястронка,
Каму рубіш платочкі
І так сільненька плачаш?

—Для цябе, мой браточку,
Паедзеш на вайночку,
На чужую старону!

— Ой, не плач, сястра, па мне,
Бо йшчэ я не на вайне,
Я не ў чужой староне.

Наплачашся даволі,
Як не ўгледзіш ніколі
Ты мяне, маладога,

Ты мяне, маладога,
Ні каня варанога,
Ні сядла залатога!

*(Бацькаўшчына. Зб. гіст. літ. Мн. 1996. С. 9 — 11.)*

# У нядзельку раненька



*Соф'я Барыс*

У нядзельку раненька
Ўзышла зорка ясненька.
Тата коніка поіць,
Дужа жаласна плачыць.

— Чаго, татачка, плачыш?
Нашто коніка поіш?
— Табе, табе, сыночак,
На ваёнку паедзеш.
На ваёнку паедзеш
Ды адтуль не прыедзеш.

Павязеш свае плечы
Пад нямецкія мечы.
Павядзеш ты галоўку
У чужую старонку.

— Ня плач, татачка, пры мне,
Наплачышся без мяне,
Наплачышся даволі
Як ня ўвідзіш ніколі.

*Запісаў Анатоль Барыс у 1962 г. ад Соф'і Барыс (1907 г. нар.), жыхаркі х. Струменне Рускасельскага сельсавета Вілейскага раёна.*

# У чыстым полі бяроза стаяла...

У чыстым полі бяроза стаяла,
На бярозе зязюля кувала.
Годзе, годзе, зязюля, куваці,
Бо ўжо едуць татары бярозу рубаці.
— Ты, бяроза, хілява, бялява,
Чаму ў полі ты не вясёла?
Чаму ты, бяроза, суха, не зялёна?
— Як жа мне зялёнай быці?
Пада мною татары стаялі,
Татары стаялі, гольле рубалі,
Гольле рубалі, карэнь выбівалі,
Крынічнай вады дабывалі,
Сваіх коней напавалі.

*(Wypisy z biełaruskaj litaratury. S. 54. Месца і год выдання не ўказаны. Складальнік Вацлаў Ластоўскі.)*

# Балада пра Давыда Гарадзенскага

То не шум завірухі драпежнай,
І не бор меддзю-соснамі звоніць.
Гэта Нёман разліўся бязмежна
І з князем Давыдам гамоніць.

«Над Гародняй праходзяць стагоддзі,
А ты спіш у кургане князь любы!
Помніць вораг твой меч... Чуюць людзі —
Гудзяць гарадзенскія трубы».

Над курганам ля кручы Каложы
Ночкай ветрык плача, галосіць.
А князю сніцца, што безліч з-за Гожы
Крыжакоў да Гародні падходзіць.

І чуе — праз пушчы, лясы і туман,
Ганцом праз нябачныя гоні,
Склікае ў Гродзенскім княстве сурма
Па вёсках і сёлах пагоню.

На кліч пагоні трывожнага дня
З кургана князь спешна выходзіць.
Дзед Русы яму сядлае каня —
Пагрозна ён латамі звоніць.

Князь спрытна сядае — шпорыць каня!
За ім беларусаў — лавіна.
З камень высякаючы іскры агню —
На ворага мкнецца дружына.

Дружыны гэтай не ў сілах стрымаць
Ні пушчы, ні ветру, ні гоням!
Давыдавы воі на конях ляцяць
На покліч крылатай пагоні.

А ў Замку над Нёманам, побач акна —
Дачка Гедыміна — Бірута.
З паходу Давыда чакае яна —
У вачах яе слёзы і смутак...

*Песня яўна літаратурнага паходжання, невядомага аўтара. Па лексіцы і стылі яе можна аднесці да XIX — першай паловы XX стагоддзяў. У песні спяваецца пра славутага палкаводца Давыда Гарадзенскага (каля 1283 — 1326).*

*(Цыхун А. Легенды і балады Гродзеншчыны. Гродна. 1995. С. 64, 65.)*

## Падымаліць чорны хмары...

Падымаліcь чорны хмары,
Неба пакрывалі,
Прыхадзілі злы татары
Пад Крычавам сталі;

Запалілі стары Крычаў, —
Канцы запылалі...
Наш Івашка падымаўся,
Людзі ў рады сталі.

Палілася кроў, зьмяшалась
З чорнаю зямлёю, —
Злы татары падаліся
Уцякаць гурбою,

А Івашка гоніць, гоніць,
Голасна смяецца,
Што татарва ўцякае,
Аж хахол трасецца!

*(Wypisy z biełaruskaj litaratury. S. 54, 55.)*

***У песні, магчыма, адлюстраваныя падзеі 1508 г., калі на дапамогу рускім войскам пад Оршу ішлі загоны крымскіх татараў. Верагодна, адзін з гэтых загонаў напаў на Крычаў і быў разбіты абаронцамі горада.***



*Генадзь Цітовіч з народным хорам (у цэнтры Міхась Дрынеўскі)*

## Зялёная дубровачка

Зялёная дубровачка,
Баліць удоўцы галовачка*
Едзе мілы са Ўкраіны,
Пусціў каня ў край даліны.

— Ідзі, кося, папасіся,
А я лягу адпачыну.

Ходзя косю гадзіначку,
Ходзя косю і другую,
Выеў травы паўдаліны,
Выпіў вады паўдунаю.

Стану млода падумаю,
Як мілога разбудзіці,
Каб мне яго не ўгнявіці.

А пайду я ў садочык,
Я выражу там розачку.
Трону (крану) мілага ў ножачку.

— Устань, мілы, разбудзіся —
Наехала татар многа.
Цябе заб'юць маладога,
Каня возьмуць варанога.
Каня возьмуць — другі будзя,
Цябе заб'юць — жаль мне будзя.

— А мая ж ты, міленькая,
Ці ж ты мяне верна любіш,
Нашто ж мяне рана будзіш?

— Каб я цябе не любіла,
Я б у твой сад не хадзіла,
Цябе рана не будзіла.

*Запісаў С. В. Барыс у 1971 г. у пас. Сялец Слабадскога сельсавета Мінскага раёна ад Веры Уладзіміраўны Мацулевіч (нар. у 1904 г. у в. Агаркі Рагаўскога сельсавета) і Настассі Ільінічны Пятліцкай (1908 г. нар.).*

---

* *Кожны радок спяваецца двойчы.*

# Песня пра бітву пад Воршай

Ой, у нядзельку параненька,
Ўзыйшло сонца хмарненька,
Ўзыйшло сонца над борам,
Па-над Сялецкім таборам.

А ў таборы трубы йграюць,
Да ваяцкае парады зазываюць.
Сталі рады адбываці,
Адкуль Воршу здабываці:

— А ці з поля, а ці з лесу,
А ці з рэчкі невялічкі?
— Ані з поля, ані з лесу,
Толькі з рэчкі невялічкі.

А ў нядзельку параненьку
Сталі хлопцы-пяцігорцы
Каля рэчкі на прыгорцы.
Гучаць разам з самапалаў,
З сяміпалых ад запалаў,
Б'юць паўсоткаю з гарматаў.

Масква стала наракаці,
Места Воршу пакідаці.
А як з Воршы ўцякалі,
Рэчку невялічку праклінaлі:

— Бадай ты, рэчка, сто лет высыхала,
Як наша слава тутака прапала;
Бадай высыхала да скaнчэньня сьвету,
Што нашай славанькі ўжо нету.
Слава Воршы ўжо ня горша.
Слаўся, пан Астрожскі!

*(Wypisy z biełaruskaj litaratury. S. 55.)*

*Бітва пад Оршай адбылася 8 верасня 1514 г. на рацэ Крапіўна паміж 35-тысячным войскам ВКЛ на чале з вялікім гетманам Канстанцінам Астрожскім і 80-тысячным маскоўскім войскам, якое было разбіта. Узгаданыя ў песні «хлопцы-пяцігорцы» — гэта кабардзінцы, або чаркасы, якія перасяліліся з Пяцігор'я (Каўказ) у ВКЛ. Конныя атрады пяцігорцаў з'явіліся ў войску ВКЛ у 1560-я гг., у час Лівонскай вайны. Пэўна ў гэты час і была створана «Песня пра бітву пад Воршай».*

## Із-за Слуцка, із-за Клецка...

Із-за Слуцка, із-за Клецка
Едзе дружба маладзецка,
Ад княжаці із-пад Мінска
Ваяваці места Пінска.

Места Пінска ваяваці,
Ад ляхаў абараняці.
Хоць прыйшлі — не далі рады:
Пагінулі ўсе ад здрады.

А я пайду ў пост вялікі
Да Турава, да ўладыкі,
Каб малебен адслужылі,
Ды й пакаюсь за грахі.
Дзень і ноч буду маліці,
Дзень і ноч буду прасіці,
Каб загінулі ляхі.

*(Занятад і адраджэнне. Мн., 2001. С. 129.)*

*Упершыню надрукавана ў кнізе «Опыты в русской словесности воспитанников гимназий Белорусского учебного округа». Даследчыкі лічаць, што ў песні адлюстравана ўзяцце 9 кастрычніка 1648 г. атрадам стражніка літоўскага Юрыя Мірскага горада Пінска, які падтрымаў казацкае паўстанне на чале з Багданам Хмяльніцкім.*

*Ляхамі ў беларускіх песнях іншы раз называліся не толькі палякі, а і каталікі.*

## У каралеўскім войску...

У каралеўскім войску тры палкі стаяць:
У першым палку ды конікі іржуць,
У другім палку малойцы пяюць,
У трэцім палку ды шабелькі звіняць.

Конікі іржуць, бо вайну чуюць,
Малойцы пяюць — на вайну ідуць,
Шабелькі звіняць — галовы сцінаць.
У каралеўскім войску тры палкі стаяць.

*(Сацыяльна-бытавыя песні. Мн., 1987. С. 187.)*

*Гістарычная песня XVI ст. даецца ў незначнай апрацоўцы Зміцера Сасноўскага. Гэту песню выконвае самадзейны гурт «Стары Ольса».*

# Рыцар Байда

*(Народная балада XVI ст.)*

*Словы і музыка народныя*

Аляксандр Рыпінскі і сучасныя даследчыкі лічаць, што прататыпам рыцара Байды паслужыў гетман ВКЛ Дзмітры Вішнявецкі (Українська народна поетична творчість. Київ, 1958. Т. 1). Паводле польскай Хронікі Марціна Бельскага (XVI ст.), Д. Вішнявецкі вызначыўся ў сярэдзіне XVI ст. удалымі паходамі на туркаў. Пасля ён трапіў у палон і прыняў пакутніцкую смерць — па загаду турэцкага султана быў павешаны за рабро на жалезны гак. Фальклярыстка Лія Салавей лічыць, што гэтыя падзеі і натхнілі невядомага аўтара на стварэнне балады «Рыцар Байда» (Пазаабрадавая паэзія. Мн., 2002).

У песні, як творы вуснай паэзіі, многія падзеі падаюцца ў змененым выглядзе. Рыцар Байда адмаўляецца ажаніцца з дачкой турэцкага цара, бо «яна паганачка, яе вера праклятая» (тут сустракаем падабенства антытурэцкіх матываў з песняй аб Будзінскай бітве).

У песні апавядаецца, што за абразлівую адмову турэцкі цар загадвае пакараць Байду тым страшным спосабам, што і рэальнага героя — на гак рабром (на крюк ребром). Але Байда помсціць — ён просіць свайго цюру (па-старабеларуску — слуга) прынесці яму лук і стрэлы, страляе і забівае цара і царыцу. Свой учынак ён тлумачыць так: мужны рыцар Байда помсціць не за пакаранне, а за абражаную рыцарскую годнасць, за ганебны спосаб пакарання. Ён кажа цару: «Лепш бы табе было мне, як рыцару, галаву зрубіць і ў гонар мяне з гарматы страляць».

Адкрывальнік гэтай песні А. Рыпінскі лічыў, што яна насычана вельмі патрыятычнымі матывамі. Свой учынак ён тлумачыць так: мужны рыцар Байда помсціць не за сваю смерць, а за абражанную рыцарскую годнасць, за ганебны спосаб пакарання. На яго думку, галоўная прычына адмовы Байды ў тым, што яму прапанавалі служыць чужому цару ў чужой краіне. Рыцар Байда не захацеў здрадзіць сваёй Радзіме і сваёй веры.

Вядома некаторая колькасць украінскіх варыянтаў балады, якія захоўваюць падабенства сюжэту з беларускімі варыянтамі. Цікава, што і ва ўкраінскім варыянце падзеі на пачатку разгортваюцца ў беларускім «Бярэстачку» (Брэсце).

Прывязка да рэальнай гістарычнай асобы дазваляе датаваць баладу XVI ст.

Дай у Слуцку на рыначку,
Да піў Байда гарэлачку;
Цар турэцкі да наяжджае,
Маладога Байду намаўляе:

— Ой ты, Байда маладзюсенькі,
З цябе ж рыцар да слаўнюсенькі!
Будзеш ты панам, будзеш гаспадарам —
Вазьмі маю дачку-царэўначку!
— Твая ж дачка паганачка, —
Яе ж вера да праклятая!..

Тут крыкнуў цар на свае служкі,
На свае служкі вярнюсенькі:

— Ой! Вы служкі вярнюсенькі,
Вазьміце ж Байду да й звяжыце, (2 разы)
На гак рабром перачапіце!

Вісіць Байда не дзень, не два,
Ані адну ночку, ані гадзіночку...
На трэці дзень ён праглядае,
Да свайму цюры прамаўляе:

— Ой! Ты, цюры, ты вярнюсенькі,
Падай ты лучок тугусенькі!
Забачыў я трох галубочкаў,
Буду страляць цару на вячэру.

Трапіў цара пасярод лаба,
А царыцы — у патыліцу.
А царову дочку — падручочку!

— Вота ж табе, цару, за Байдаву кару.
Было табе знаці, як Байду караці:
Лучша было б маю галаву з плеч зняці,
А па маёй смерці з гармат страляці,
А цяпер будзем разам паміраці.

*Тэкст балады даецца паводле А. Рыпінскага (Białoruś. Paryż, 1840), музыка — са зборніка БНТ: Балады. Кн. 2. Мн., 1978. С. 83.*

# Спіўся казак, спіўся...

Спіўся казак, спіўся,
На свой дом забыўся,
Каню вараному
На грыву схіліўся.
— Прадам цябе, косю,
За мелкія дзеньгі,
За дробны капейкі, } 2 разы
За талер бяленькі,
За мёд, за гарэлку,
За краснаю дзеўку, } 2 разы
За талер бяленькі.
— Успомні, казак, успомні,
Як мы ваявалі,
На Прускай граніцы, } 2 разы
На фронце стаялі.
Гналіся за намі
Туркі і палякі.
Казак не ўважая } 2 разы
З каня не злязая,
Падпружкай пад брушка,
Далей паязджая.
Казак з вайны едзе,
Браму адчыняе.
Усяго яго радзіма
Яго сустракае.
Уся ж яго радзіма } 2 разы
І красная дзяўчына.
— Дай табе, казаку,
Ліхая гадзіна
Праз цябе адраклася } 2 разы
Уся мая радзіма.
Ой, выракся ацец
І родная маці.
Ой, мушу дзяўчына
Сама паміраці.
— Не ўмірай, дзяўчына,
Гадуй майго сына.
Я з войска вярнуся, } 2 разы
З табою ажанюся.

*Запісаў С.В. Барыс у 1971 г. у пас. Сялец Слабадскога сельсавета Мінскага раёна ад Веры Уладзіміраўны Мацулевіч (1904 г. нар.) і Настассі Ільінічны Пятліцкай (1908 г. нар.).*

# Песня пра Андрэя Баболю

— Свенты Андрэю*, Свенты Бамболею!
Да дай нам рады ў сваім вінаградзе.
— Рады бы я даў, да не мая воля, —
Самога стварыцеля да ашчэ пана Бога.
Каторы чалавек з вечара працуе,
То на заўтрашні дзень яго Бог жалуе.

Галосікі былі, аж ножкі памлелі:
Наехалі казакі да ўсе свавольнікі,
Заганялі за пальцы смоляныя спіцы.

Прыехаў казак, старшы атаманец,
Выняў селязёнку цераз патыленьку.
Заснуў я вельмі смашна,
Але ўсім людзям значна.

Нямножка я спаў — 180 лет.
Камень рубайце, а мяне вынімайце.
Царкву рабіце і мяне там станавіце;
Пастаўце маю трунку ў Брэсце на прастоле.

Адаўсюль будуць людзі прыбываці,
Да Пана Бога і мяне будуць выслаўляці,
То буду ж я ім ратунак даваці:
Ў шчасці, не ў шчасці кожнаму фрасунку.
Мушу дадаці пры шчырых модлах кожнаму ратунку.

Хоць я і не ў доле, але ў Боскай хвале.
Няхай вашы модлы Бог выслухае,
Бо за вас мая кроў праліта,
Святога ойца Бамбалея-езавіта. Амін.

*Запісаў псаломшчык І.О. Карскі ў Гродзенскім павеце і губерні з такой заўвагай, якую мы скарацілі: «И эту песню мне очень часто доводилось слышать до 1863 г. на фэстах преимущественно в костелах... Белорусы ещё далеко не утверждены в истинах православной церкви. И. Карский». (Надрукавана па зборніку П. В. Шэйна «Белорусские народные песни». М., 1874. С. 634, 635.)*

---

** Андрэй Баболя (1591 — 1657), беларускі каталіцкі святы місіянер. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай (1654 — 1667 гг.) быў схоплены і закатаваны ў в. Янаў Палескі (цяпер г. Іванава Брэсцкай вобласці) атрадам казакаў палкоўніка А. Здановіча.*

## Песня пра Радзівіла

У нядзельку параненьку
Загадаў кароль на службу
Усім князём, усім баярам,
Усім слаўным малойцам.

А там маці прабывала,
Яна тое прачувала,
Радзівілу пабуджала:

— Устань, устань, Радзівіла,
Устань, устань, мой сыночак:
Вот жаўнеркі надходзяць,
Самапалы, шаблі носяць.

— Адступіся, маці, адступіся,
Дармо, маці, ня журыся:
Я тром-пяцём ня паддамся!

От, тры шведы наскачылі,
Радзівілу ўхапілі,
Зараз ножанькі скавалі,
Назад ручанькі звязалі.

Радзівіла страпянуўся,
Усе жалезы паляцелі,
І вяроўкі загудзелі!

Схапіў шаблю, востры меч,
Пагнаў шведаў у свет прэч.

*(Wypisy z biełaruskaj litaratury. S. 55.)*

*Януш Радзівіл апяваецца, як герой і абаронца радзімы ад шведаў, хоць на самай справе ён у 1655 г. заключыў з Швецыяй Кейданаўскую унію. Тым не менш, у народзе захавалася памяць пра Радзівіла як змагара супраць ворагаў роднага краю.*

## Засвісталі палячэнькі...

Засвісталі палячэнькі
Ў паход ступаючы.
Заплакала Марусенька
Сваім ясным вокам.

— Не плач, не плач, Марусенька,
Мы возьмем з сабою,
Перавязём Дунай-рэчаньку,
Назавём сястрою,
Не сястрою, не радною —
Салдацкай жаною.

Маці сына выпраўляла
У вяліку дарогу:
— О, едзь, о, едзь, мой сыночак,
Да не забаўляйся,
За чатыры нядзелечкі
Дамоў варочайся.

— Бог ведаіць, матулечка,
Як мне павернуцца,
Мой конь добры вараненькі
Ў варотах спаткнууся.
Гадуй маю Марусеньку
За родную дочку.
— Ой, не тая, мой сыночак,
Гадзіна паўстала,
Каб чужая чужаніца
За родную стала.

Ішла шляхта на тры тракта,
Маскаль на чатыры,
Пыталіся дарожачкі
Да места Кракова,
А з Кракова да Яркова —
Шалёныя мілі,
Ляжаць польскія жаўнеры
Па тры, па чатыры.

Ляжыць, ляжыць пан Касцюшка
А ж пад белым стогам;
Прыходзіла, прыязжала
Жана маладая,
Кітаечку падымала
Ліцо цалавала:

— Ўстань, ўстань, пан Касцюшка,
Полна ваяваці:
Вялікую сілу маюць,
Нам яе не ўзяці.

*Запісаў М. А. Руберскі.*
*(Шейн П. В. Белорусские народные песни. СПб., 1873. С. 384.)*

## Песня беларускіх жаўнераў

Помнім добра, што рабілі,
Як нас дзёрлі, як нас білі.
Дакуль будзем так маўчаці?
Годзе нам сядзець у хаце!

Нашто землю нам забралі?
Пашто ў путы акавалі?
Дочкі, жонкі нам гвалцілі.
Трэ, каб мы ім заплацілі!..

Здрада ёсць ужо ў сенаце.
А мы будзем гніць у хаце?
Возьмем косы ды янчаркі*,
Пачнем гордыя гнуць каркі!..

*(Бацькаўшчына: Зб. гіст. літ. Мн., 1996. С. 13, 14.)*

## Песня пра Касцюшку

Выезджаець пан Касцюшка
Маскву ваёваць,
Засвісталі казачэнькі
Ў поўнач на выходзе.
Заплакала Марысенька
Ў свае ясныя вочы.

— Ня едзь, ня едзь, пан Касцюшка,
Маскву ваёваць, —
Масква сільна і вяліка,
А дзе ж яе мала?
Ёсць ў казакаў коні вараныя.
— Ня плач, ня плач, Марусенька,
Я вазьму з сабою,
Я цябе вазьму з сабою —
Назаву сястрою.
Хоць сястрою ня радною —
Жаўнерскай жаною.
А мы будзем Маскву ваёваць,
А мы будзем мёд, віно піць,
Маруська — слёзкі ліць.

---

**Янча́рка — кароткая каса. Паўстанцы («касінеры») былі ўзброены косамі і янчаркамі.*

Ваявалі, ваявалі —
Касцюшку забілі.
Лыжыць, ляжыць пан Касцюшка
На белым каменю.
Прышла яго Марусенька,
Слязьмі залілася:
— А я ж цяпер няшчасная
Адна засталася!
Чы я цябе, пан Касцюшка,
Чы не гаварыла,
Што ня едзь, пан Касцюшка,
Маскву ваёваць.
Масква сільна і вяліка,
А дзе ж яе мала?

Вазьмі, маці, пяску жменю,
Пасей на каменю.
Як той пясок узыйдзець,
Так Касцюшка з вайны прыйдзець.

Ляціць пятух чэраз рэку,
Пяе кукарэку,
Я ня ўвіжу Касцюшэчкі
Ад веку да веку.
Ляціць воран чэраз мора,
А лятучы крачыць,
А хто ж майго Касцюшэчкі
Магілку аплачыць?

*Упершыню песня надрукавана ў газеце «Dzionik poznański» ў 1882 г. Аўтар (пад псеўданімам Пламеньчык) прадмовы да песні пісаў, што пачуў яе ў юнацтве на пачатку 1840-х гг. на Лепельшчыне ад сялянкі. Праз дваццаць гадоў ён адшукаў гэтую сялянку і запісаў тэкст песні. Выконвалася песня пад рэфрэн «Слаўна Вільна, слаўна Гродна, а слаўней Варшава». Як піша Пламеньчык, ён чуў на Дзісеньшчыне прыпеўку пра Касцюшку:*

*Наш Касцюўка слаўны быў,*
*Ён маскалёў* добра біў.*
*Як Касцюшкі ні стала,*
*Уся Польшча прапала.*

*Тэкст песні пра Касцюшку прыведзены ў нарысе А. Каўкі «Наш Касцюшка», які надрукаваны ў газеце «Голас Радзімы» ад 3 мая 1990 г.*

---

**Маскалі — гэтак беларусы называлі царскіх салдат. (Носович И.И. Словарь белорусского наречия. СПб., 1870. С. 290.)*

# Песня беларускіх паўстанцаў 1794 года

Возьмем косы ды янчаркі,
Пойдзем гордыя гнуць каркі.
Няхай маскаль уступае,
Няхай ён ліцьвінаў знае.

Ужо мазуры іх пабілі,
З сваёй зямлі выганілі.
Пойдзем зь імі й злучымся:
Маскве, немцам не дадзімся.

Ну жа, хлопцы! Ну жа, жыва!
Цяпер маем для вас жніва.
Господзь Бог нам ў помач стаець,
Нашу славу нам вяртаець.

Ну жа, жыва вы, сотнікі!
Вы, малойцы — дзесятнікі,
Дамо сабе рукі ўзаем,
Бацькаўшчыну адзыскаем.

Атаманы і казакі,
Бійма Маскву і прусакі,
Калі ўсіх іх вытаўчэма,
Тады ў сяло варачэма.

Помнім добра, што рабілі,
Як нас дзёрлі, як нас білі.
Дакуль будзем так маўчаці!
Годзе нам сядзець у хаце!

Коней нам пазаязджалі,
Што хацелі, то і бралі.
Пойдзем жыва да Касьцюшкі,
Рубаць будзем маскалюшкі!

Нашто землю нам забралі?
Пашто ў путы закавалі?
Дочкі, жонкі нам гвалцілі!
Трэ', каб мы ім заплацілі!

Пагуляем, пагуляем,
Камендантаў пастраляем!
Маскалёў, нямцоў ў балоце
Будзем рэзаці й калоці.

Ці ўжо мы ўсе сабакі?
Гаспадары — не бурлакі.
За што маем крыўду знаці?
За што церпіць наша маці?

Прадавайма оўцы, волы,
Жыта зь сьвіран ды ўсе долы.
Няхай ксёндз нас пасьвянцае,
Няхай бог дапамагае.

Бывай здарова, Грыпіна,
Параска! Мая дзяўчына!
Ад вас зараз ад'язджаем,
Да Касьцюшкі ўсе прыстанем.

Калі назад павярнемся,
Тады з вамі ўсьцісьнемся.
Вольнасьць для нас паны даюць
І за людзей нас прызнаюць.

Здрада ёсьць у нас ў Сенаце,
А мы будзем гніць у хаце?
Возьмем косы ды янчаркі,
Пойдзем гордыя гнуць каркі!

Ну жа, хлопцы! Ну жа, жыва!
Пагуляем, маем жніва.
Пагуляйма! Пагуляйма!
Ды маскаляў ураз прагнайма!

*Упершыню тэкст песні быў прадстаўлены ў 1935 г. на выстаўцы ў бібліятэцы Віленскага ўніверсітэта. У 1969 г. А. Мальдзіс адшукаў яго ў рукапісным аддзеле Цэнтральнай бібліятэкі АН Літоўскай ССР і ў скарочаным варыянце надрукаваў у газеце «Літаратура і мастацтва». Поўны варыянт друкуецца з газеты «Літва» (1995, № 2, 22 сакавіка).*

## Паўстанцкая песьня (1863 г.)

Лётае арол лёгкакрылы
Пад хмарамі і туманамі.
Йдзе наш змагар Кастусь Каліноўскі
Сьцежкамі, лясамі.

Лётае арол шыракрылы
Пад цёмнымі хмарамі.
Йдзе наш Кастусь, змагар наш народны,
Зь сябрамі-змагарамі.

Шыкуйцеся ж, варожыя каты,
Шалёныя ваўкалакі.
Йдзе беларус, змагар Каліноўскі
Сьцежкамі, лясамі.

*(Беларускія маршы і песьні. С. 8.)*

## Не сумуй па мне, старая...

Не сумуй па мне, старая,
Будзь здарова, маці!
Вораг край наш разбурае,
Ці ж сядзець мне ў хаце?

Ці ж на тое палівала
Ты зямліцу потам,
Каб цяпер яна стагнала
Пад маскоўскім ботам?

Ці ж на тое мне аб долі
Пела над калыскай,
Каб цяпер яна марнела
Пад пятой расейскай?

Лепш свабодным легчы ў полі
Ад варожай кулі,
Чым аддаць сябе ў няволю
Ды цябе, матуля!

Будзем жывы, будзем рады
Лёсу маладому!
А пакуль ня зьнішчым гада,
Не чакай дадому.

Гэй, ё-хо-хэй, гэй ё-хо-хэй!
Гэй, ё-хо-хэй, гэй ё-хо-хэй!

*(Песьні краю. Сьпеўнік. С. 5.)*

## Ай, у Вільні ўво ўсе званы зазванілі

Ай, у Вільні ўво ўсе званы зазванілі, у барабаны забілі:
А ў паследню гадзіну ніхто ня ведаіць, дзе кароль абедаіць.
Маладзенькі Кастуська ён пры століку стаяў,
у руках шапку дзяржаў:
— Ой, каролю, каролю, чым мне даруеш?
— А дарую я табе трое коней вараных,
Другую карэту, а трэцюю каралеўначку:
Ты ж будзеш паязджаці, з каралеўнаю каранаваці.

*Запісана Е. Рамановым у в. Дуброўцы Сенненскага павета Віцебскай губерні ад М. Пашкевіч. Песня прысвечана Тадэвушу Касцюшку (1746 — 1817), кіраўніку нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 г. у Рэчы Паспалітай. (Романов Е. Белорусский сборник. Вып. I-II. С. 403.)*

## Ох ты, поле, поле чыстае, турэцкае...

Ох ты, поле, поле чыстае, турэцкае,
Мы когда цябе, поле, пройдзем,
Ўсе пуці твае, дарожачкі,
Усе места слаўна прэкрасныя?
На тым полі, на тым чыстаму
Мы сайдзёмся з непрыяцелем,
Сы такой ардой няверналю.
І ў дваццаты дзень, у пятніцу,
На турэцкі мерзкі празнічак,
Злыя туркі сабіраліся,
Віна-мёду напіваліся,
С пахмелляйка выхваляліся:
— Мы Расеюшку наскрозь прайдзем,
Грап Пашкевіча ў плен возьмем
Сваім мерзкім злым турэцкім первым корпусам.
Грап Пашкевіч разгаварываў:
— Не журыцеся, рэбятушкі,
Белага цара салдатушкі.
Вы вайстрыце шашкі войстрыя
На турэцкія шыі тоўстыя.

*Падзеі адносяцца да вайны Расіі з Турцыяй 1806 — 1812 гг. I. Ф. Паскевіч (1782 — 1856), граф, расійскі ваенны дзеяч, які ў 1810 — 1811 гг. камандаваў Віцебскім пяхотным палком. (Романов Е. Белорусский сборник. Вып. I—II. С. 68.)*

# Хранцуз берiг заступiў...

Хранцуз берiг заступiў,
Астаёмся нi пры чом.
За гранiцыю стыялi,
Мы нi 'б чом нi гаревалi,
Толька думалi адзецца,
Прiвубрацца харашо.

Нi паспелi прiвубрацца,
Ў барабаны сталi бiць,
Бiлi, бiлi ў барабаны,
Мы паходамi пашлi.
Прiхадзiлi к Вiшнi-речкi,
Пiряходу нi нашлi,

Нi паспелi пiряйдзiць,
Выступiў с-пад гор туман:
Анцiлерiя грiмiць,
Слоўна туча грозная,

Как ударiлi — карцеччу,
Роўна с неба сiнi град.
Как ударiлi, — народу,
Роўна ляда цёмны лес,
Мiжда бiтыга народу
Чалавеку негдзi стаць.

Са таго та са народу
З руды речка працiкла,
А на той жа на речушкi
Белы лебiдзi плывуць,
А па крутым бiряжочку
Родны матушкi iдуць.

*(Добровольский В.Н. Смоленский этнографический сборник. Ч. IV. СПб., 1903. С. 624. № 26.)*

*Гэтая песня — яскравы прыклад салдацкiх песень з гiстарычным зместам. Запiсана ў в. Раманаўцы Рослаўскага павета Смаленскай губернi. У песнi захавана поўнасцю лексiка i мягкае вымаўленне лiтары «Р», характэрнае для мовы беларусаў Рослаўскага павета. У беларускiх песнях французска-руская вайна не пакiнула прыкметнага следу. Магчыма, таму, што беларусы ўдзельнiчалi ў войсках абодвух варагуючых бакоў. Тым больш красамоўна, што Дабравольскi прыводзiць два варыянты песнi пра Касцюшку, якiя запiсаў у Смаленскiм павеце. (Добровольский В. Н. Смоленский этнографический сборник. 4. IV. С. 620 — 621.)*

# Поўна табе, Іванюша...

— Поўна табе, Іванюша,
Поўна за раку хадзіці.
Ой, люлі, люлі,
Поўна за раку хадзіці.

Поўна за раку хадзіці,
Маладу Касю любіці.
Ой, люлі, люлі,
Маладу Касю любіці.

Кася звалася Настася,
Па садочку пахадзіла.
Ой, люлі, люлі,
Па садочку пахадзіла.

Чабор з хмелем сабірала,
Зялёна піва варыла.
Ой, люлі, люлі,
Зялёна піва варыла.

Зялёна піва варыла,
Дарагіх гасцей прасіла.
Ой, люлі, люлі,
Дарагіх гасцей прасіла.

За цясовы стол садзіла,
На дубовыя скамейкі.
Ой, люлі, люлі,
На дубовыя скамейкі.

Сама села на дыване,
Напроці дружка Івана.
Ой, люлі, люлі,
Напроці дружка Івана.

Стакан рому налівала,
Да й Ванюшы прапівала.
Ой, люлі, люлі,
Да й Ванюшы прапівала.

— Выпі, выпі, Іванюша,
Выпі, выпі, мая душа.
Ой, люлі, люлі,
Выпі, выпі, мая душа.

Ня п'ець, ня п'ець і Настася,
У маім доме няшчасце.
Ой, люлі, люлі,
У маім доме няшчасце.

— Мне ў салдацікі сказалі,
Пікі, ружжы ў рукі далі.
Ой, люлі, люлі,
Пікі, ружжы ў рукі далі.

Пікі, ружжы ў рукі далі,
У Каўказскія горы сказалі.
Ой, люлі, люлі,
У Каўказскія горы сказалі.

*Запісаў Сымон Барыс у 1962 г. ад Соф'і Барыс (1907 г. нар.), жыхаркі х. Струменне Рускасельскага сельсавета Вілейскага раёна.*

# Песня гарадзенскіх паўстанцаў 1863 года

Млодзёж наша заўша дзельна!
На маскаля ісці гатова;
Зато памяць несмярцельна
У пакаленнях прыхаваецца.

*Прыпеў:*

Далей, брацця, далей жвава,
Із-пад Віслы, із-пад Немна!
Уж на свеце не так льзава,
Наша прышласць не так цемна...

Светны бой нас чакае!
Прышласць светна блішча ў далі!
Песнь на нашу нуту грае!
А вець гура на маскалі.

*Прыпеў.*

То ж уцешацца айцове,
Што ў Сібіры мруць у цясноце,
Калі гукнем мы на бязглове
І нядолі і дэспоце.

*Прыпеў.*

Тылько дзельне, тылько хвацко врогам,
Нашым ставім чоло:
Як, бывало грацко, ласко, радосно і вясоло.

*Прыпеў.*

Не стырам веку марне
На пяшчоты, на залёты.
Поўрацім мы кедысь гварне:
Благославіць век наш злоты.

*Прыпеў.*

*Паводле ўспамінаў ад'ютанта галоўнага штаба Гарадзенскага ваяводства Ігната Арамовіча, яе спявалі паўстанцы ваўкавыскага атрада Густава Стравінскага. Арамовіч, прынамсі, піша: «Мясцовы лес (каля в. Пераездзік над ракой Цемрай. — **С.Б.**) напоўніўся спевамі; найбольш ажывілі абоз ваўкавыскія паўстанцы, а з іх наймілейшы адусюль і для ўсіх Ражанскі» (Aramowicz I. Marzenia. Pamiętnik o ruchu*

*partizanskim w wojwódstwie Grodzieńskim w 1863—1864. Bendlikon, 1865. S. 21).*

*Песня надрукавана згодна польскай арфаграфіі і мае паланізмы: zawsze (заўжды), lzawo (слёзна), wieć (і так), kiedyś (калі), gracko (спрытна), gwarne (шумна).*

*Арамовіч прыводзіць тэксты яшчэ дзвюх песень паўстанцаў.*

## Гэй-га, разам, хлопцы...

Гэй-га, разам, хлопцы,
Гу-га, мы малодцы!
Гэй-га, з палякамі,
Гу-га, а Бог з намі!

І на Божу здайма волю,
Нашы слёзы і няволю.
Гэй-га, мы пачулі,
Гу-га, што нас скулі!

Гэй-га, цяпер знаем,
Гу-га, выклікаем:
— З зямлі нашай вон варогі!
Маскалёў злуб вон да гоні!

Гэй-га, мае людзі:
Гу-га, добра будзе!
Гэй-га, ой, радныя,
Гу-га, міленькія!

Будзе вольнасць праўдзівая;
Дасць нам яе Польшч святая.
Гэй-га, хто з касою,
Гу-га, хто з стрэльбою,

Гэй-га, бяры мячы:
Гу-га, і да рэчы!
Гура, братцы, на варога!
Гура, разам ў імя Бога!

*(Aramowicz I. Marzenia. Pamiętnik o ruchu partizanskim w wojwódstwie Grodzieńskim w 1863 — 1864. S. 22.)*

# Ах ты, мая чарнабрыва!

— Ах ты, мая чарнабрыва!
Будзь здарова і шчасліва!
Люблю цябе, любіць буду,
І ніколі не забуду!

Ой, у хаце не астацца,
Калі трэба ісці драцца:
За радную, няшчасную,
Польшчу нашу — маць святую!

Ой, свабода залатая!
Польшча наша, ты святая!
На варога косы маем!
Загуляем, кай здужаем!

Маскалі ўсё нам забралі,
У няволі нас трымалі.
Кроў нам нашу ■ жыл спусцілі:
Кроў і слёзы нашы пілі!

Тает сэрца, душа рвецца,
За свабоду біць хочэцца.
Эх ты, мая чарнабрыва!
Будзь здарова і шчасліва.

*Аўтарам апошніх дзвюх песень І. Арамовіч лічыць Фелікса Ражанскага, паплечніка К. Каліноўскага і В. Урублеўскага. У сваіх успамінах Ражанскі згадваў: «Доктар Заблоцкі пісаў польскія патрыятычныя вершы, а Ражанскі — такія самыя песенькі на беларускай гаворцы...» (Кастусь Каліноўскі. За нашую вольнасць. Мн., 1999. С. 169).*

*М. Дубецкі, які таксама прыводзіў тэксты песень і адзначаў, што іх спявалі і ў атрадзе Рамуальда Траўгута (Dubiecki M. Romuald Traugutt i jego dyktatura podczas powstania styczniowego 1863 — 1864. Kijow, 1912. S. 75—76.), не ўказвае на аўтарства Ф. Ражанскага. Магчыма, песні «Гэй-га, разам, хлопцы...» і «Ах ты, мая чарнабрыва!» хоць і маюць паланізмы, але напісаны на беларускай мове Ф. Ражанскім. А песня «Млодзеш наша заўшэ дзельна...», у якой моцны польскамоўны ўплыў, належыць Эразму Заблоцкаму, паўстанцкаму цывільнаму начальніку Гарадзенскага ваяводства (з чэрвеня 1863 г. камісар).*

*(Aramowicz I.Marzenia. Pamiętnik o ruchu partizanskim w wojwódstwie Grodzieńskim w 1863 — 1864. S. 22—23.)*

# Божа, што Польшчы праз няшчотны вякі

Божа, што Польшчы праз няшчотны вякі
Даў чэсць і славу, сцярог ад няволі.
А ні жалеўшы атцоўскай апекі
Сутай пацехі ў няшчаснай долі.

*Прыпеў:*

Перад алтаром малітву заносім,
Польшчу і вольнасць вараці нам, просім.

Ты, паталеўшы яе ў прыгодзе,
Ні раз пабіці маскаля даў сілу.
Сярод няшчасця ў правідным радзе
Паслаў ёй хвалу, гатовіў магілу.

*Прыпеў.*

Ты, крэпкі Божа, і моў каранаваных,
Як былінку сцеражы ў гнеўным судзе.
Дай нам надзею, што Польшча жыць будзе.

*Прыпеў.*

Бялыніцкая прасвятая дзева —
Ядына маці прапаўчага роду
Літвы і Русі можна каралева,
Упрасі сына, каб даў нам свабоду.

*Прыпеў.*

У Мархірове так, як і ўсюду,
Яны глуміліся, як зверы лютыя,
Не пропускалі няшчаснага люду.
Цярпелі ад іх храмы святыя.

*Прыпеў.*

О, Узахваце, громка твая слава
У цэлым свеце і прамеж намі.
Каб твая мука горка і кравава
Зноў нас злучыла калісь з палякамі.

*Прыпеў.*

Пачаеўская прасвятая маці,
Глянь на нас бедных з высокага неба.
Цярпець нам цяжка і трудна чакаці,
Тваёй памочы і ласкі нам трэба.

*Прыпеў.*

У Журовічах, у Барунах слава
Мацеры Божай на ўвесь свет грымела,
Пакуль маскоўскіх хітрых паноў справа
Ўсіх у схызму ўцягнуць успела.

*Прыпеў.*

І Казіміраў помніць, як маскалі
Ў сваю веру прынукай нас скулі.
Спраў, каб з сызмы ўсі мы адсталі,
Спраў, каб з Польшчай унію вярнулі.

*Прыпеў.*

Амін.

*Твор захоўваецца ў С.-Пецярбургскім царкоўным архіве, у справе «О возникших в Могилевской губернии политических манифестациях 1861 — 1863 гг.» № 87/102. С. 156, 157. Малітва напісана на польскай і беларускай мовах.*

*На Магілёўшчыне ў 1861 г. выдзяляліся горацкія студэнты асаблівай незалежнай ад улад дзейнасцю і рэвалюцыйнай актыўнасцю. Менавіта яны ў той год арганізавалі дэманстрацыйныя выступленні ў Магілёве, Бялынічах і Воршы. Першая дэманстрацыя адбылася ў Магілёве ў касцёле 15 верасня 1861 г. пад кіраўніцтвам Ульянаўскага і Эдуарда Жукоўскага. У касцёле праспявалі нацыянальны польскі гімн і іншыя песні, сярод іх была і «Малітва аб уніі з Польшчай».*

## Гэй жа, хлопцы, досыць спаць...

Гэй жа, хлопцы, досыць спаць!
Пара косы прыбіраць!
Косы, косы і сякеры —
Бараніці сваю веру. Пара!

Ірад нашы дзеткі б'е,
І кроў нашу, як вуж, п'е.
Лепей быці мучанікам,
Як цэсарскім нявольнікам. Пара!

Вы за печкаю на полу,
Мы ў лесе зямлю голу
Прытулілі б, як пярынку,
Бы заснуці хоць гадзінку. Пара!

*Паўстанцкая песня 1863 г. Упершыню надрукавана ў часопісе «Tygodnik ilustrowany» ў артыкуле «Мястэчка Шчучын». Друкуецца па: Янушкевіч Я. Невядомая песня // Літаратура і мастацтва. 1977, 29 ліпеня.*

# Песня на Божы час

*(Паўстанцкая песня)*

Божы час, Божы час
Завярнуўся для нас;
Мужык вольна стаў спяваці,
Годзе, годзе прападаці!

Дзе ні глянь, дзе ні стань, —
Валачыцца пагань.
Выганяць нам яе трэба,
Каб за тое дастаць неба.

Эй, маскаль, ухадзі!
Альбо тут прападзі!
Ужэ нам тут не вымінеш,
Як сабака марне згінеш!

І хто пан вон ад нас!
Ў Божы час, ў Божы час!
Бо мы роўныя з панамі,
Бо за вольнасць усе з касамі!

Чуваць крык у адзін тон:
Маскалёў ад нас вон!
Бо, як брытвы, косы маем,
Пагуляем, пагуляем!

Ґуррага! Гуррага!
Дзе не глянь — нашых цьма.
Гулі, хлопцы, гулі, гулі,
Каб мы вольнасць прывярнулі!

*Песня паўстанцаў 1863 — 1864 гг. Друкуецца па кнізе: Кастусь Каліноўскі. За нашую вольнасць. Мн., 1999. С. 239.*

*Аўтарам гэтай песні мог быць сам Каліноўскі або яго паплечнік Фелікс Ражанскі, які пісаў паўстанцкія песні.*

*Песня знойдзена Генадзем Кісялёвым у рукапісным сшытку вершаў і песень удзельніка паўстання 1863 г. мінчаніна Пятра Мацкевіча. Яшчэ на адзін тэкст песні, але надрукаваны, як лістоўка, Г. Кісялёў натрапіў у архіве. Яна была знойдзена ў красавіку 1863 г. пры вобыску ў маёнтку Збарэвічы, што каля Радашковічаў, а гэта дае магчымасць датаваць напісанне песні: канец 1862 — пачатак 1863 гг.*

# Ой, калі б, калі...

Ой, калі б, калі
Маскалі прыйшлі,
Маскалі прыйшлі,
Нашы сродныя,
Веры одныя!

Добра нам было,
Шчасна нам было,
Калі б Русь уся,
Трымаючыся,
Адной сілаю
Заадно была.

Дай к нам за грахі
Панайшлі ляхі,
Занялі наш край
Аж да Ляхавіч.

Ой, ляхі б не прыйшлі,
Каб паны іх не звялі,
Ой, паны, каб прапалі,
Што ляхам нас запрадалі.
Ой, паны, каб вы згінулі,
Што вы веру пакінулі.

*Гэтая песня пазначана ў кнізе «Опыты в Русской словестности...» як народная. Друкуецца па: Заняпад і адраджэнне. С. 129.*

# Шумелі бярозы

Шумелі бярозы на гром ці на вецер,
Ой, шумелі бярозы.
Паехалі хлопцы на дзень ці на тыдзень
Ад Белае Русі.

Паехалі хлопцы і волю і долю
Шукаць на Дунаі.
А ў сінім Дунаі вада закіпае
Мужычай крывёю.

Пачулі за ветрам, што коні заржалі
З парогаў дняпроўскіх,
І далей на Доне казакі гамоняць —
Пачулася хлопцам.

— А мы не казакі, а мы не ваякі? —
Прамовілі хлопцы.—
Мы жывы не будзем, а волю здабудзем
Навекі, навекі!

Заціснула войска, як чорная хмара,
Адважных малойцаў:
Стралялі, рубалі, схапілі, пагналі
На кару, на мукі.

Ты слухай-паслухай, з халоднага жвіру
Гучаць галасы іх,
І тымі ж мячамі ваюють з панамі
Другія малойцы.

*(Бацькаўшчына: Зб. гіст. літ. Мн., 1996. С. 11 — 12.)*

# Марш Беларускай асобнай часці Літоўскага войска

Ня ўмерла Бацькаўшчына, і слава і воля,
І нам, сябры беларусы, усьмехнецца доля,
Згінуць нашы воражэнькі, як раса на сонцы,
Запануюць беларусы ў сваёй старонцы!

Марш, марш, жаўнеры,
Марш да Беларусі,
Бо наш мілы край радзімы
Быць свабодным мусі!

Юры Пліска, Вайцяхоўскі і шмат сяброў з імі*
Палі сьмерцю ў барацьбе з ворагамі злымі,
Будзем помніць іх прыклад, данны ў дзеле сьвятым,
Будзем біцца, пакуль жывы, з маскалём праклятым.

Марш, марш, жаўнеры,
Марш да Беларусі,
Бо наш мілы край радзімы
Быць свабодным мусі!

Ой, прыслужнікі чужынцаў, беларускі паны,
На што продалі айчыну маскалям паганым?
Што б вярнулі гонар ёй, ляжым галавамі,
Зноў усе будзем Беларусі пэўнымі сынамі!

Марш, марш, жаўнеры,
Марш да Беларусі,
Бо наш мілы край радзімы
Быць свабодным мусі!

*30 сакавіка 1920 г. Армія Літвы.*

*Гэта быў шыхтавы Марш Беларускага асобнага батальёна (пэўны час роты) Літоўскай Арміі (1919–1920 гг.). Першая страфа — пераапрацоўка першай страфы ўкраінскага гімна. Перадрукавана з артыкула: Ружанцаў А. Беларускія войскі ў Літве (1918–1920). Кароткі вайскова-гістарычны агляд//Спадчына. 1993, № 4. С. 33.*

---

* *Забітыя ў баю з чырвонымі 28 жніўня 1919 г.*

# Ой, паля ж, вы, паля...

Ой, паля ж, вы, паля,
Уражаю няма!
Толькі адзін уражай
Пад кудравай вярбой.

А пад тою вярбою
Салдат убіты ляжыць,
А ў яго ў галавах
Свяча ясна гарыць,

А ў яго на грудзях
Залаты крэст ляжыць,
У яго ў нагах
Вараны конь стаіць.
— Ох ты, конь, ты, мой конь,
Ты — таварыш, ты мой,
Ты бяжы, ты, мой конь,
На Расію дамой.

Не кажы, ты, мой конь,
Айцу, маці радной,
Што я ўбіты ляжу,
А скажы ты, мой конь,
Што жанаты жыву.

Ажаніла мяне
Пуля быстрая,
Абвянчала мяне
Шабля вострая.

*Запісаў Сымон Барыс у 1978 г. ад Ганны Пракопаўны Хазан (1913 г. нар.) у в. Худаўцы Крупскага раёна Мінскай вобл. Варыянт гэтай песні запісаны ў в. Карочын Івацэвіцкага раёна.*

# Ішлі два салдаты з германскага плену...

Ішлі два салдаты з германскага плену,
З германскага плену дамой.
Як наступілі на Рускую зямлю,
Забілася сэрца таской.

— Пайдзём, брат-таварыш,
Пайдзём паскарэю.
Расея прайграла вайну.

Ляжу на пасцелі —
Мамаша не знаіць,
А раны так моцна баляць:
Адна зажываіць, другая пачынаіць,
Прыдзёцца мне здзесь паміраць.

Аставіў мамашу, жану маладую,
А дзеці растуць, як цвяты.

Растуць-падрастаюць, у мамашы пытаюць:
— А мамачка, дзе наш айцец?

А маць адвернецца і горка заплачыць —
Убіт на германскай вайне.

*Запісаў Анатоль Барыс у 1963 г. ад Соф'і Ільінічны Барыс.*



*Палявы лазарэт у вёсцы Заброддзе Вілейскага раёна. 1916 г.*

# Краю, мой краю!

Краю, мой краю! Родны мой краю!
Скрозь ад мяжы да мяжы,
Дзе ні пабачыш, усюды магілы,
Ўсюды магілы, крыжы...

Біліся часта тут Польшча з Масквою,
Рэкі ліліся крыві.
Нашу зямельку мелі сваёю
Доўгія, доўгі вякі.

Усіх нас трымалі ў здзеках, няволі,
Нішчылі роднынаш край.
Доўга цярпелі, але даволі.
Гэй, Беларусь, уставай!

*Запісала Алеся Лявонаўна Фурс (Умпіровіч, 1925 г. нар., в. Азяравы Пастаўскага раёна). Песню спявалі на Пастаўшчыне ў 1930-х і 1940-х гг. (Гарт. С. 96.)*

# Песьня случакоў

Яшчэ паляк ня быў панам тут на Беларусі.
Яшчэ прыйдзе час наш.
Разам чужынцаў падушым.

*Прыпеў:*

Гэй, наперад, наш народзе,
Моц наша ня слаба.
Зараз з могілак выходзіць
Атаман Нябаба.

Пойдзе бойка роўным тэмпам,
Даўнейшым не горша,
Што заможным нашым панам
Ня дасьць мейсца Польшча.

*Прыпеў.*

*(Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакумэнтах і ўспамінах. Мн., 2006. С. 280; Архівы БНР. Т. 1. Кн. 2. С.1027.)*

# Тры трубы залотыя

Ай, лес к лесу клоніцца,
Вярхушачкі ломяцца.
Ай, люлюхны, люлюхны,
Тры трубы залотыя.

Як пачула матухна
Тры трубы залотыя,
Ай, люлюхны, люлюхны,
Тры трубы залотыя.

«Ці ня мой жа то сыночак
На вайну саружаецца?»
Ай, люлюхны, люлюхны,
На вайну саружаецца.

А ў першую зайгралі,
Конікаў сядлаючы!
Ай, люлюхны, люлюхны,
Конікаў сядлаючы!
А ў другую зайгралі,
З хаты выпраўляючы!
Ай, люлюхны, люлюхны,
З хаты выпраўляючы!

А ў трэцюю зайгралі,
Вайну падымаючы!
Ай, люлюхны, люлюхны,
Вайну падымаючы!

Ай, лес к лесу клоніцца,
Вярхушачкі ломяцца!
Ай, люлюхны, люлюхны,
Вярхушачкі ломяцца!

Ай! Плакала матухна,
Сыночка чакаючы.
Ай, люлюхны, люлюхны,
Сыночка чакаючы.

*(Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакумэнтах і ўспамінах. С. 282, 283.)*
*Са збора Лявона Вітана-Дубейкаўскага.*

## Ой, зашумеў лес

Ой, зашумеў лес,
Затрашчала ляшчына.
Паехаў мілы —
Заплакала дзяўчына.

— Ой, не крой сэрца,
Не ўмывайса* сьлязою,
Скора вярнуса,
Пабяромса з табою.

Бывай здарова
Са старымі бацькамі,
А я паеду,
Стрэнуса з маскалямі.

Наляцеў віхор,
Дай вецер з-пад Грозава,
Зблытаў, паламаў,
Голляйка бярозава,

Ой, зашумеў лес,
Затрашчала ляшчына.
Паехаў мілы —
Заплакала дзяўчына.

## Чорна грэчка

Чорна грэчка, белыя крупы,
Трымаймаса, браткі, купы.

Як ні будам трымаціса,
Будуць людзі сьмяяціса.

Ой, мой родзе, род вялікі,
Хай зайграюць нам музыкі,

Каб здаровы пілі, елі,
Самі сабе панства мелі,

Чорна грэчка, белыя крупы,
Трымаймаса, браткі, купы!

---

** Не ўмывайса — прыклад сакання случакоў. У песні захоўваецца саканне.*

# Цячэ рэчка з-пад мястэчка

Цячэ рэчка з-пад мястэчка,
Долам ніглыбока,
Ісьці мусіш ваяваці,
Бо ўраг нідалёка.

Пакідаю цябе, люба,
На людзей, на Бога,
А ўжо ж мне. маладому,
У войска дарога.

Усталі хмары на ўсходзя
Чорнымі клубамі.
Забіў конік вараненькі
Ў зямлю капытамі.

Сышлі хмары, згінуў вецер,
Крумкач пралятая.
Усе хлопцы з войска ідуць,
А мой дзе — хто зная?

Заплакала стара маці
Горкімі сьлязамі,
Ўбілі сына маладога
Ў баі з маскалямі.

*Апошнія тры песні, запісаныя Марыяй Сідаровіч ад Сяргея Шпака ў в. Сярэднікі Слуцкага раёна ў жніўні 1999 г.*

*(Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакумэнтах і ўспамінах. С. 284.)*

* * *

Балаховіч-Булак,
Атаман наш ліхой,
Толькі слова скажы —
Мы пайдзём за табой.

*(Стужынская Н. Беларусь мяцежная. Вільня. 2011. С. 93.)*

*Песню гэту спявалі жаўнеры Станіслава Булак-Балаховіча ў пачатку 1920-х гадоў.*

# У чужацкай няволі

## *(Песня інтэрнаваных 1-й Слуцкай брыгады стральцоў)*

Равуць-стогнуць лясы, горы, шырокія полі.
Плачуць-стогнуць беларусы ў чужацкай няволі.

Трацім тут мы свае сілы, церпім цяжкія мукі,
За што ж, Божа міласэрны, зьвязаў ты нам рукі?

Гэй вы, гэй вы, браты нашы, дзеці горкай долі,
Што ня йдзеце вызваляць нас зь цяжкае няволі?

*Запісаў Язэп Фарботка.*
*(Наша Думка. 1921, 6 траўня.)*

# Песня беларускіх работніц

Кому и горе и досаду,
Кому я правду расскажу,
Кому-кому на грудь больную
Свою головку положу.

— Устань, мама, устань рано
И послушай на зоре,
Не твоя ли дочка плачет
В чужой дальней старане.

*1946 г.*

*Запісаў Міхась Тычына ў 1998 г. ад Еўдакіі Васілеўны Пекалюк (1927 г. нар.), якую ў 1945 г. па позве разам з равесніцамі з Ганнай Лабко і Вольгай Навіцкай з в. Жабін Старобінскага (цяпер Салігорскі) раёна адправілі на прымусовую работу ў г. Манітагорск на завод «Северникель». Там яны склалі і спявалі гэтую песню разам з расейскімі дзяўчатамі. Там Е.В. Пекалюк адпрацавала два гады. Ей далі адпачынак, прыехала яна дамоў і адмовілася вярнуцца на завод. Ей прысудзілі тры месяцы прымусовай працы, але ў Беларусі.*

# У полі вецер воіць

У полі вецер воіць,
Ваенны гром грыміць.
Ніхто так не страдаіць,
Як мілы на вайне.

Сам пушкі заражаіць,
Стаў думаць аба мне.
Ён пуляў не баіцца,
Шлець лісты да мяне.

Прыйшоў лісток пячальны,
Што мой мілы ўбіт.
Убіт у чыстым полі,
Пад кусцікам ляжыць.

Шынель яго і фуражка
На кусціку вісіць,
А кроў яго гарачая
Па камушкам бяжыць.

А каб я мела крылля,
Злятала б на вайну,
Сабрала б яго косці
У платочык беленькі.
У платочык я сабраўшы,
Да гробу адаслала.

Да гробу адаслаўшы,
У манашкі жыць пайшла.
Манашкаю жыць можна,
Но пцічкай нікагда.

Адзену бела плацце,
Да мамачкі пайду.
— Падружкі, сазнаюся —
Век замуж не пайду.

*Запісаў у 1963 г. Анатоль Барыс ад Соф'і Ільінічны Барыс.*
*Песню спявалі ў вёсках у 1945–1949 годах.*

# Літаратурныя творы
# на гістарычныя падзеі

## Еўфрасіння

*Словы Івана Цітаўца*
*Музыка Іны Філіповіч*

З малітвай і Богам адзіным
Жыццё для царквы пражыла.
Святая патронка Радзімы
Хрыстовай нявестай была.

Будоўлі твае не старэюць,
Канонам у вечнасці жыць,
Іконы твае не сатлеюць —
У іх тваё сэрца ляжыць.

*Прыпеў:*

Бяжыце, ляціце, стагоддзі,
Кружыся адвечна, зямля.
Навек застанецца ў народзе
Святой Еўфрасінні імя.
Святлом яно будзе сусвету.
У кожнае дойдзе акно.
Як сонейка грэе планету,
Так душы сагрэе яно.

Прадслава, князёўна-чарніца,
Да Богшы не згіне твой крок.
Ты ў келлі старой галубніцы
Асветна рассоўвала змрок.

Свяшчэнныя кнігі пісала,
Гаротным адмольвала рай,
Ад княскіх усобіц збаўляла
Свой родны пакутлівы край.

*Прыпеў.*

Паломніцтва подзвіг яскравы
І той манастыр, што пяю,
Бязмежна, навечна праславяць
Ахвярную працу тваю.

Гарэць ёй агнём Праметэя
На ўсёй хрысціянскай зямлі,
Хай ружай яна расквітнее,
Дабрэй каб мы, людзі, былі.

*Прыпеў.*

*(Цітавец І. Ёсць любоў у мяне... С. 258.)*

## Тураў рог Гедзіміна. 1321 г.

*Словы Яна Чачота*
*Музыка Васіля Купрыяненкі*

Тут, у Вільні, на гары
Туравай вядомай
Гедзімін над стромай
Тура ўклаў быў пры бары,
На гары.*

Нам на памяць — тураў рог
Быў пазалачоны,
Гожа аздаблёны.
Князь яго схаваў у лёх,
Тураў рог.

З рога тога Вітаўт піў
Разам з каралямі,
З важнымі панамі.
Як іх з'езд у Луцку** быў,
З рога піў.

Падарыў князь гэты рог
За сталом, па-людску,
Зыгмунту ў тым Луцку,
Ды Літве ён не памог...
Дзе ж той рог?

*(Часопіс «Роднае слова». 1996. № 11. С. 179.)*

---

* *Легенду пра тое, як Гедзімін забіў тура і заснаваў Вільню падаюць М. Стрыйкоўскі і іншыя крыніцы.*

** *На з'ездзе ў Луцку (Валынь) сабраліся ў студзені 1429 г. вялікі князь літоўскі Вітаўт, польскі кароль Ягайла ды рымскі імператар Сігізмунд І. Апошні выказаў прапанову абвясціць Вялікае Княства Літоўскае каралеўствам і каранаваць Вітаўта. За гэта Вітаўт падарыў яму дарагую родавую рэліквію — прыгожа аздоблены тураў рог. Ніхто не ведае, дзе той рог цяпер.*

# Бітва над Ворсклай 1399 г.

*Словы Яна Чачота*

Вунь стары ліцвін ля хаты
Думку думае зацята.
Ля яго ягнятка скача,
А ён, бедны, ледзь не плача.

Узгадаў, як над ракою
Ворсклай, мутнаю, чужою
Пацярпеў Вітаўт паразу,
Дзе і ён тады быў разам.

— О, Вітаўце, слава наша,
Хто цябе калі настрашыць?
Пра карону ты шчэ дбаеш,
Волас хоць зсівелы маеш.

Што ж казаць, як ты меў сілы.
Звон мячоў быў сэрцу мілы.
Ды вось моцна пацярпелі,
Як Эдыгу біць хацелі.

Варажбы не слухаў дзіўнай.
Што тлумачыў Ян з Пакрыўнай,
Не паслухаў Спыткі слова.
Гнеўны быў на хана мову.

Хан Эдыга ж так адмовіў,
Як Кутлуку ты прамовіў:
— Мне паддайся, я старэйшы—
Што ж тут гневацца, мілейшы.

Ды хапіла гневу, пыхі.
Лезлі ў бітву. як у ліха,
І за справу Тахтамыша
Прападалі, быццам мышы.

Цяжка, цяжка нам прыйшлося.
Тысяч сто там засталося,
Што былі жывымі ўчора,
Кроў струменем, трупаў горы.

Ледзьве ўцёк за ласку Бога,
Смеласць Спыткі, Астрарога...
... Ой, маліся, дзед, маліся,
Не давай улады пысе...

*Бітва на рацэ Ворскле (левы прыток Дняпра) адбылася ў 1399 годзе, 12 жніўня, паміж войскамі Вялікага Кніства Літоўскага на чале з вялікім князем Вітаўтам і Залатой Ардой на чале з ханам Цімур-Кутлукам і цемнікам Едыгеем. Саюзнікам Вітаўта быў хан Тахтамыш з некалькімі тысячамі татараў. У той бітве загінула не менш за 16 беларускіх князёў, сярод іх і Андрэй Полацкі. Вітаўт і Тахтамыш з рэшткамі войска ўцяклі. Цімур-Кутлук сканаў ад ран, атрыманых у бітве. Гэта параза стала адной з прычын, якая вымусіла Вітаўта падпісаць Віленска-Радамскую унію 1407 года паміж ВКЛ і Польшчай. (Наша слова, 2009, 12 жніўня.)*

## Хвацкія малойцы

*Словы і музыка С. Сокалава-Воюша*

Хвацкія малойцы, хлопцы-касінеры,
Харалужны корд ды песьня на запас,
Секлі вам галовы за цара, за веру,
Толькі вашы коні ратавалі вас.

Толькі вашы коні ды ў душы адвага,
Ды агонь вачэй, ды матчына сьляза.
І зіхцела воля над ваяцкім сьцягам,
І жыла надзея на канцы ляза.

І жыла надзея, і лілася песьня,
І гучала рэха хлопцам у адказ:
«Калі лёс загінуць — справа ўваскрэсьне,
Справа ўваскрэсьне, як прысьпее час».

*(Песьні краю. Сьпеўнік. С. 15.)*

# Альгерд і Марыя

*Словы Яна Чачота*
*Музыка Васіля Купрыяненкі*

Над Дзвіною дзевіч-вечар,
Тут Альгерд з раднёй:

Браць прыехаў шлюб з князёўнай
Нашай маладой.

Замак віцебскі ўсе свечкі
Сёння азараюцъ.

Ёй, князёўне, ёй, Марыі,
Косу расплятаюць.

— Не плач, красна, не плач, міла, —
Хто б ёй слёзы выцер?

І табе руку, і княству
Падае твой рыцар.

З ім табе і ўсяму княству
Зажывецца ў шчасці.

Вы забудзеце з Літвою
Гора ды напасці.

Ты ідзі за князя з Богам,
Каб жыць разам вечна.

Шчасце княстваў тых, што разам
Звязаны сардэчна*.

*(Роднае слова. 1996. № 11. С.182, 183.)*

---

** Віцебскае княства канчаткова ўвайшло ў склад ВКЛ у 1320 годзе: яго атрымаў Альгерд ва ўладанне як бацькоўскую спадчыну жонкі Марыі — дачкі віцебскага князя Яраслава.*

# Песня паходу ліцвінаў

*Верш Уладзіслава Сыракомлі*

Вось шуміць наш лес якраз:
Князь у бой паклікаў нас;
Узмацнімся сёння духам,
Заўтра хваляй пусцім юху —
Дык у добры час!

Смела, косю, йдзем у бой!
Добры ты таварыш мой!
Вораг ёсць не для прыязні,
Гаспадар — не для баязні.
Смела, мужна стой!

У мурах схаваўся лях,
Ды ў ягоным сэрцы страх:
Ляха тога мы за хвілі
І змаглі і паланілі,
Здабылі мы гмах!

Знаю немцаў добра сам,
Бо красуняў многа там;
Немца мы ў крыві ўтапілі,
Прыгажуняў захапілі —
Застануцца нам!

Як пайшлі мы далей зноў
Аж да гданьскіх да муроў —
Як напалі мы знянацку,
Спалатнеў тут вой крыжацкі:
Іх ліецца кроў.

*1855 г.*

*(Бацькаўшчына: Зб. гіст. літ. Мн., 1996. С. 100, 101.)*

# Грунвальдская бітва 1410 г.

*(Вершаваная аповесць 1582 г.)*

*Словы Мацея Стрыйкоўскага («Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсяе Русі» (1582), пераклад з польскай мовы А. Дзітрыха), музыка народная. У Хроніцы М. Стрыйкоўскага назва гучыць так: «Пра слаўную вайну і слаўную бітву Ягайлы і Вітаўта з прускімі крыжакамі і князямі Нямецкага рэйху ў 1410 годзе.» Адаптацыя тэксту да мелодыі выканана Зміцерам Сасноўскім.*

*Мацей Стрыйкоўскі (1547 — 1593) — адзін з найбольш вядомых гісторыкаў Рэчы Паспалітай другой паловы XVI ст. Пасля вучобы ў Кракаўскім універсітэце прыехаў у Беларусь. Прафесійны ваенны, служыў у Віцебскім і Слуцкім гарнізонах, спалучаў рыцарскі побыт (войны, паходы, бітвы) і напісанне патрыятычных вершаваных твораў па гісторыі Рэчы Паспалітай.*

Слаўлю адвагу, ваяроў сармацкіх,
Што пасеклі ў бітве рыцараў крыжацкіх.

Меўся Ордэн ўсю Літву з Польшчай зруйнаваці,
Прагнуў права сваё нам гвалтам навязаці.

Таму варта хутка на вайну збірацца,
Каб на прускіх землях з ворагам спаткацца.

Гвалт крыжацкі супыніць ды ўласнай сілай,
Славу-волю нам здабыць для Айчыны мілай.

Войскі ўсе выйшлі і хутчэй памчалі
Ды ля Грунэвальда станы пастаўлялі.

Нашы Багародзіцу, немцы Dasticht завялі
Ды з гарматаў грукат-трэск гучна распачалі.

Так літвіны смела з крыкамі нясуцца,
А пад імі коні бакамі б'юцца.

Смела з літвой Вітаўт рэй вядзе-трымае
І натхняе крыкам, шэрагі раўняе.

Шалёна, мужна з гуфам гуф сячэцца,
Як мядзведзь раз'юшаны, што на злом нясецца.

Твар да твару сеча йдзе, немцы нас змагаюць,
А ж літва з татарамі з лукаў іх накрываюць.

Страшны хруст, звон, грукат, гром ідзе ад зброі,
Горлы ў крыку лютым пазрывалі воі.

Шум і звон ад зброі далятае страшна,
Сонца ў небе плыве залаціста-ясна.

Прускіх дзесяць комтураў там важных палегла,
Кроў струменем ліецца, немчура пабегла.

Нашы колюць, рэжуць, б'юць, волю зброі даўшы,
Ды палоняць комтураў, рукі ім звязаўшы,

Дзідамі там немцаў, у хрыбты калолі
Ды вантробы люта ім з жыватоў паролі.

Нашы моцна, смела гуф нямецкі білі,
Як ваўкі пад кустамі, кнехты галасілі.

Колькі міль за ворагам нашы воі мчалі,
Немцы ляглі, як трава, зброю пакідалі.

Хутка вестку добрую нашы людзі мелі —
І паветра і зямля ад імшы дрыжэлі.

Ўдзячна па касцёлах Te deum завялі —
І ў Літве і ў Польшчы Бога праслаўлялі.

## Песня пра Грунвальдскую бітву

*Словы і музыка Эдуарда Акуліна*

Прыземістыя коні
Іржуць пад седакамі,
Трапеча сцяг з «Пагоняй»
Пад Вітаўта палкамі.

Яшчэ забралы ўзняты
І меч не затупелы...
Патрапіць паміж латаў
Яшчэ не мецяць стрэлы.

А ў сонечным бязмежжы
Лунае горда бусел,
Як сімвал незалежнай
Свабоднай Белай Русі.

*1983 г.*

# Клецкая бітва 1506 г.

*(Вершаваная аповесць 1582 г.)*

*Словы Мацея Стрыйкоўскага («Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсяе Русі» (1582), пераклад з польскай мовы А. Дзітрыха), музыка народная. У Хроніцы М.Стрыйкоўскага назва гучыць як «Слаўная бітва з татарамі пад Клецкам». Адаптацыя тэксту да мелодыі выканана З.Сасноўскім.*

Там за рэчкай, за ракой// не дужа глыбокай,
Ды нямала ў берагах,// ў берагах шырокай.

Войска татар лютае// пачало спыняцца,
Каб літве пашкодзіць, // да ракі прабрацца.

Міхал Глінскіў ўбачыў// мост ужо гатовы,
Да літвы прамовіў// гэтакія словы:

«Каб Айчыну-маці// мужна ратавалі
Ды татараў лютых// мужна ваявалі!»

Нашы як ударылі// раптам на татараў —
Звон і гром нясецца,// неба ліецца жарам.

Там са сваім атрадам// Глінскі прытаіўся,
Ад падстрэлу другі конь// пад ім заваліўся.

Ён на іншага ўскачыў,// не зважаў ні мала:
Так як гетману і ўсім// рыцарам прыстала.

Там паганцаў навакол// хутка акружылі
Ды, як пруцце шэрагам,// шэрагам скасілі.

Прэч татары пабеглі,// хто як уцякае,
А літва імчыцца ўслед,// смела даганяе.

Ды сячэ ў хрыбты ім, б'е,// дзіды запускае.
Кроў хлюпоча, ліецца,// па траве сплывае.

Гук і крык над полем,// па лясных разлогах.
Поўна трупаў у рацэ,// па шляхах-дарогах.

Так літва татараў// біла, мардавала,
Аж да Цапры, да ракі,// да ракі загнала.

# Аршанская бітва 1514 г.

*(Вершаваная аповесць 1582 г.)*

*Словы Мацея Стрыйкоўскага («Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсяе Русі» (1582), пераклад з польскай мовы А. Дзітрыха). У Хроніцы М.Стрыйкоўскага назва гучыць як «Слаўная бітва з Масквою». Музыка народная — мелодыя народнай песні «Куды едзеш, Рамане?». Адаптацыя тэксту да мелодыі выканана З.Сасноўскім.*

Разам гетманы свае, Гэй, польскі ды літоўскі,
Моц з'яднаўшы на бітву, Гэй, прыцягнулі войскі.
    Ды за Воршу колькі міль, Гэй, дзе цячэ Крапіўна,
    Дзе маскоўскі быў пагром, Гэй, помні незабыўна.
Рушыць на літву масква, Гэй, Канстанцін жа смела.
Даў рашучы ім адпор, Гэй, бо чыніў умела.
    Так літвінаў князь натхніў, Гэй, моцна, красамоўна,
    Што нясецца прэч масква, Гэй, прэцца стрымгалоўна.
Аж палякі колюць, б'юць, Гэй, дзідамі заўзята,
Свішчуць стрэлы, зброі звон, Гэй, бразгатанне латаў.
    Коней літвіны гналі, Гэй, за масквой імчалі,
    Дзе спаткалі люта там, Гэй, як жывёл, рубалі.
Добра воі пешыя, Гэй, тут дапамагалі,
Бо маскоўцаў шмат з рушніц, Гэй, дужа шмат паклалі.
    Ды гарматы Канстанцін, Гэй, загадаў схаваці,
    Каб маскоўцаў потым тых, Гэй, на ражон узняці,
Канстанціна ваяры, Гэй, у бакі звярнулі,
А гарматы па маскве, Гэй, ды з кустоў пальнулі.
    Ядры гучна выючы, Гэй, шмат масквы паклалі,
    Бо расстрэлу гэткага, Гэй, тыя не чакалі.
Звон і крыкі, сечы трэск, Гэй, пылу хмара ўстала,
Ды фартуна зноў літву, Гэй, зноў літву абрала.
    Рубіць, крышыць, б'е маскву, Гэй, дзідамі збівае,
    Кроў забітых струмянём, Гэй, з чэраваў сцякае.
Тут палякі рушылі, Гэй, з дзідамі даўгімі.
Ды і гетман Радзівіл, Гэй, Радзівіл быў з імі.
    Разам з сотняй казакоў, Гэй, ды маскву грамілі,
    Пыху ім ранейшую, Гэй, неўзабаве збілі.
Тая бітва лютая, Гэй, цэлы дзень трывала,
Аж пакуль маскоўцаў тых, Гэй, ноч пашкадавала.
    Так літва з палякамі, Гэй, мужна ваявалі,
    Славе продкаў навякі, Гэй, гонар аказалі.

# Да юбілею Аршанскай бітвы

*Песня Андруся Мельнікава*

На месцы Аршанскае бітвы — ралля...
Забруджана рэчка Крапіўна, дзе вораг тануў.
Па берагу рэчкі — дачы мясцовых зямлян.
Аб бойні тае з іх ніхто і ніколі не чуў.

Забытыя рыцары тыя, што перамаглі.
Краіна зняверыла ў годнасць, магутнасць сваю.
Адзіныя чорныя птушкі на гэтай зямлі,
Адзіныя песні аб вечным адзінстве пяюць:

*Рэфрэн:*

Колькі год марылі, каб прыйшлі маскалі з верай,
мовай сваёй і ўрадамі

Толькі тым і жылі. У рэшце рэшт — даждалі!
Дзякуй вам, дарагія браткі!

Аб бітве Аршанскае — моўчкі. Навошта аб тым?!
Паўсталі з кален каб?!
Ня трэба! Ня трэба нагод!
Заўсёды былі вы — малодшыя чыйсці браты —
Прыбіты, галотны, ушчэнт непісьменны народ.
А-а-а-а-а-а...

Вось тут стаяла, мусіць быць, каралева Бона.
Вунь там — ля брамы — сумаваў з мушкетам вартавы.
Па брукаванцы рушылі шляхетныя мадоны,
Ішлі бадзягі, рыцары, манахі, гандляры.
А-а-а-а-а-а...

*Рэфрэн:*

Замак стары... Подых забвення...
Вежы, муры, валы, камяні...
Княства Вялікага адраджэння.

Сведка, з анёламі, што ў вышыні... а-а-а-а-а... над ім.
Паслухай, добры чалавек, адкуль бы ты не быў бы,
Углядзіся ў далеч за сцяной, у сівую даўніну!
Ты бачыш, вунь праносяцца на конях Радзівілы
На паляванне дзікае, ці можа на вайну... А-а-а-а-а-а...

А колькі іх пабывала тут — высакародных вояў,
Герояў бітваў, святароў, паэтаў, мастакоў!..
Іх лікі нам з'яўляюцца, прабіўшы змрок стагоддзяў,
Святлом далёкіх зорак — нябесных маякоў.
А-а-а-а-а-а...

*Рэфрэн*

*Верасень 1989 г.*

## Песня з мінуўшчыны

*Словы Андруся Мельнікава*

Над краінай хмары-хмары... Крыкнеш — чутна глуха-глуха...
Нашыя надзеі- мары замятае завіруха.
Жах у чалавечых сэрцах. Цемра ў краі даўгачасна.
Толькі ў тваім акенцы — у ім адным святло ня згасла.

Выйдзі, выйдзі, ясна панна! Выйдзі, мая каханая!
Я цябе чакаю ў парку. І са мною — мае коні,
Што па снегу ад фальварка да няздрадзіўшага войска
Панясуць нас шпарка-шпарка і ніхто нас не дагоніць.

Цераз пожні, цераз пушчы, міма вёсак,
Міма вежаў, міма замкаў старажытных...
Да мясцін, дзе нас сустрэнуць, да мясцін, дзе падтрымаюць
Нас сябры і аднадумцы з усёй Рэчы Паспалітай.

Па расцерзанай Айчыне чужаземны войскі рышчуць,
Крумкачы чакаюць трызнаў... Але знікнуць папялішчы!
Незалежнасці паходні ў нас, і гонар, і сумленне.
Пад харугвамі з «Пагоняй», пад сцягамі Адраджэння.

Прыйдзем мы, ясна панна, прыйдзем, мая кахана,
З нашым войскам незалежным да сваёй зямлі адзінай.
Вернем лясы і паркі, вернем свае фальваркі.
І калісьці непазбежна мы адродзім усю краіну:

Нашыя маёнткі ў пушчах, нашы вёскі,
Нашы вежы, нашы замкі старажытныя —
Ад Балтыкі і да Крыму, да мясцін, дзе нас падтрымаюць.
Будуць сябры-аднадумцы з усёй Рэчы Паспалітай.

*Ворша, 7 студзеня 1989 г.*
*Песню спявала Алеся Сёмуха ў тым жа годзе.*

# За Случчыну

*Словы Н. Арсеньневай*
*Музыка М. Шчаглова-Куліковіча*

Абтрасалі зь бярозаў лісьцё вятругі,
І гублялі рабіны чырвоныя сьлёзы,
Як пайшлі мы ў змаганьне, на раны, на згін
Абы яваю сталіся крозы.

*Рэфрэн:*

Пайшлі мы, воі з Божае ласкі,
У бой за Случчыну сваю!
Нам дзіў, што сёньня баюць казкі
Пра нас і песьні нам пяюць.

Аддавалі жыцьцё за сябе мы, за вас,
Беларусы-браты, і за сінія нівы,
І за тое, каб нас не смактала дрыгва,
А расьлі мы, аж сьвету на дзіва.

*Рэфрэн.*

Не штыхі і ня кулі, — жаролы гармат,
За адзіную зброю мы мелі каханьне,
Грэла сэрца яно, хоць залеў лістапад
І расьлі ў рад магілы за намі.

*Рэфрэн.*

Не судзіла нам доля разгорыць зару,
Не судзіла даць шчасьце ды волю Айчыне,
Дай жа Бог, каб унукі ўзьнялі Беларусь
На ўзвышшы ахвярай і чынам.

*Рэфрэн.*

*(Беларускія маршы і песьні. С. 20 — 23.)*

# Слуцкія палкі

Па палетках слуцкай стараны каханай
Уздымаецца ўгору жудасны віхор —
Наляцела хмараў здрадна захаванай
Азіятаў войска на наш шыр-прастор. (2 разы)

Ды ўжо ня згодны беларус гнуць спіну —
Досыць пацярпеў ён шмат гадоў палон.
Паўстае ён сьмела за сваю краіну,
За паліты потам дарагі загон. (2 разы)

У вачох бліскучых — вызваленьня смага.
Хай грымяць гарматы! Надышлі вякі,
Калі за свабоду з агнявой адвагай
У бітву рвуцца сьмела слуцкія палкі. (2 разы)

*(Песьні краю. Сьпеўнік. С. 27.)*

## Заспявай мне песню, крывічанка

*Верш Уладзіміра Пецюкевіча*
*Музыка Дзмітрыя Даўгалёва*



*Уладзімір Пецюкевіч*



*Дзмітрый Даўгалёў*

Заспявай мне песню,крывічанка,
Пра вякі далёкія згадай,
Хай яна лунае гордай чайкай,
Абуджае сонны небакрай.

Разгайдай мяне на мройным чоўне,
Трапяткой душою раскажы
Пра каханне князя да князёўны,
Пра паходы князевых дружын.

*Прыпеў:*

Я не сплю, я думаю начамі
Пра цябе і наш курганны край,
Заспявай мне песню, крывічанка,
Пра вякі далёкія згадай!

Загудзе ад цокату пагоні,
Перазвону дзідаў і мячоў —
І чарот азёрны, і сасоннік
Адгукнецца болем крывічоў.

Панясецца крыкам гордай чайкі,
Паляціць за бор, за дальні гай:
— Біце ў сэрцы — біце іх мячамі,
Хто прадаў і зганьбіў родны край!..

*Прыпеў.*

*(Роднае слова. 2000. № 4. С. 107.)*

## Хатынскія званы

*Словы Івана Цітаўца*
*Музыка Мікалая Яцкова*

Сумуюць бярозы ля мёртвай Хатыні,
Чацвёртай сяброўкі між імі няма.
Далёкаю зоркай той раніцы сіняй
У полымі чорным згарэла яна.

*Прыпеў:*

О, край наш гаротны!
О, край наш прадвечны!
Да гора і болю даўно ты прывык,
Хаваеш ты ў сэрцы жывым, чалавечым
Смяротны, нясцерпны той жудасны крык.

Гарэлі бярозы на ўсёй Беларусі,
Грымеў невядомы і злы землятрус.
У дзікім, шалёным фашысцкім хаўрусе
Загінуў чацвёрты наш брат-беларус.

*Прыпеў.*

Рунеюць усходы на ўзбуджанай глебе,
Над мірнай зямлёю чаромхі дымы.
Спявае жаўрук у бязвоблачным небе,
І сумна галосяць Хатыні званы.

*Прыпеў.*

*(Цітавец І. Ёсць любоў у мяне... Мн., 1999. С. 302.)*

## Запавет Каліноўскага

*Словы Алеся Ставера*
*Музыка народная*

Векавая дуброва днём і ноччу шуміць.
Каліноўскага голас у дуброве гучыць.

— Гэй, браты-беларусы! Я вам раду даю, —
— Беражыце, браточкі, вы Айчыну сваю.

Хай кукуе зязюля, хай вам ліча гады,
Хто Айчыну шануе, — не зазнае бяды.

Шанаваць трэба мову і бацькоўскі свой род,
Каб не згінуў ніколі беларускі народ.

Векавая дуброва днём і ноччу шуміць.
Каліноўскага голас у дуброве гучыць.

*(Наша слова, 2003, 18 чэрвеня.)*

## Вяртаньне Булак-Балаховіча

*Песня барда Андруся Мельнікава*

Добры дзень у хату Вам, спадары!
Прывітаньне, дзеўкі! Хлопцы, прывітаньне!
Мы да Вас наведацца, пагаварыць...
Да мінуўшчыны прыйшлі на спатканьне.

Сустракай жа госьцікаў, гаспадар!
Штоф з гарэлкаю на стол ды закуску!
Хай жа будзе сонейка Вам бяз хмар —
Вам і дзеткам Вашым і ўнукам, беларусы!

*Прыпеў:*

Сьвет у вокнах хутка астывае.
Дзесьці ў полі чыйсьці коні скачуць —
Капытамі топчуць, капытамі памяць... памяць...
Капытамі топчуць, капытамі памяць...

Пастралялі хлопцаў, дзевак згвалцілі...
Засыпае лісьцем вецер каладзішчы...
Спадары ў сібірскую зямлю ляглі.
А на месцах шчодрых хат — папялішчы.

Беларусь-радзіма стогне пад ярмом —
Пад ярмом чырвоных, пад ярмом крывавых...
Дык дакуль жа шкадаваць нам звяроў?!
Дык дакуль жа нам трываць камісараў?!

*Прыпеў.*

*1988 г.*

*(Песьні краю. Сьпеўнік. С. 25.)*

# Песня ўланаў Тышкевіча. 1812 г.

*(Пераклад з полскай мовы Станіслава Судніка)*

Што там за жаўнеры, ці ж гэта не ўланы?
Гожыя ўсе хлопцы, пышна паўбіраны.
Уланы, уланы сівых коней многа,
Я да вас прыстану, як дасце такога.
Ты зважай, васпане, што за пастава,
Ну а што за мужнасць, ну а што за слава.
Стануць на пастоі, ці там на кватэры,
Тышкевіча ўлана любяць тут без меры.
Крыўды ён не ўчыніць і не зробіць шкоды,
Я да іх прыстану і пайду ў паходы.
Як ссядаюць з коней, звякаюць астрогі,
А дзяўчаты гуртам следам ва ўсе ногі.
Памірала дзеўка, аб адным пытала:
— А ці б на тым свеце ўлана я спаткала?
— Дзяўчына-дзяўчына, вось душа адлеце,
Што ўжо з тых уланаў ды на там-тым свеце?
— І на там-тым свеце, вам хачу сказаці,
Тышкевіча ўланаў буду я кахаці

*(Наша слова. 2012, 4 ліпеня.)*

*Песня са збораў Івана Луцкевіча. Яе спявалі ўланы 17-га палка Літоўскай кавалерыі.*

# Продразьвёрстка

Едзе-едзе продразьвёрстка. Ужо вёска блізка.
А на самым першым возе едзе камуністка. (2 разы)

Едзе-едзе камуніста. У рэвольвер сьвішча.
Хавай, баба, хлеб ды сала, жыта на гарышчы. (2 разы)

Цьвіце-цьвіце чаромшына. А ў ёй — балахоўцы.
Парубалі продразьвёрстку маладыя хлопцы. (2 разы)

Бяжыць-бяжыць камуніста — сэрца занялося.
Балаховец бомбу кінуў — усё і скончалося. (2 разы)

*(Песьні краю. Сьпеўнік. С. 27.)*

# Сьцяг

*Словы Сяргея Панізьніка*
*Музыка — традыцыйная маршоўка*

Сьветлым полем я нясу,
Агнявую паласу:
Як маланка нада мной
Зіхаціць над галавой
Сьцяг мой вольны,
Сьцяг мой сьмелы,
Сьцяг мой бел-чырвона-белы.

Сьцяг мой вольны,
Сьцяг мой сьмелы,
Сьцяг мой бел-чырвона-белы.

Быў адважны продак мой
У Пагоні баявой.
Той Пагоні чую звон:
Хай нясецца наўздагон
Сьцяг мой вольны,
Сьцяг мой сьмелы,
Сьцяг мой бел-чырвона-белы.

Сьцяг мой вольны,
Сьцяг мой сьмлы,
Сьцяг мой бел-чырвона-белы.

Залунай на ўвесь прасьцяг,
Агнявых вякоў працяг:
Ёсьць Дзяржава, ёсьць Народ!
Разьвівайся — і ў палёт,
Сьцяг мой вольны,
Сьцяг мой сьмелы,
Сьцяг мой бел-чырвона-белы.

Сьцяг мой вольны,
Сьцяг мой сьмелы,
Сьцяг мой бел-чырвона-белы.

*(Беларускія маршы і песьні. С. 9 — 11.)*

# Песня палітвязняў з Іхцінскага лагера

*Словы Васіля Супруна*
*Музыка Фёдара Даўгача*

Успомнім, мой дружа. Як скібу нявол
Дзялілі з табою ў мінулыя дні.
Успомнім, як разам блукалі бяз долі,
Хаваючы ў сэрцы надзеяў агні.

Успомнім марозныя, лютыя зімы,
Праклятыя шахты Іхцінскай тайгі.
Успомнім, як ногі апухлыя млелі,
Як рвалася сэрца ў край дарагі.

*(Гарт. З успамінаў пра Саюз беларускіх патрыётаў. С. 175, 176.)*

# А ў бары, бары

*Верш Янкі Купалы*
*Музыка Уладзіміра Тэраўскага*



*Янка Купала*

А ў бары, бары тры дарожанькі.
Гэй, гэй, гэй, тры дарожанькі!
Тудою ішлі тры жаўнерыкі,
Гэй, гэй, гэй, тры жаўнерыкі!
Адзін з траіх — наш прыгожанькі,
Гэй, гэй, гэй, наш прыгожанькі!

Стаў, глядзіць жаўнер, сумняваецца.
Гэй, гэй, гэй, сумняваецца!
Па якой пайсці, надумляецца.
Гэй, гэй, гэй, надумляецца!

Па адной пайсці — не пашэнціцца.
Гэй, гэй, гэй, не пашэнціцца!
Завядзе на ўсход, скуль не вернецца.
Гэй, гэй, гэй, скуль не вернецца!

Па другой пайсці — абняволіцца.
Гэй, гэй, гэй, абняволіцца!
Бо ў заходні бок шлях той коціцца.
Гэй, гэй, гэй, шлях той коціцца!

Выбірай, жаўнер, трэццю сцежаньку,
Гэй, гэй, гэй, трэццю сцежаньку!
Бо вяла яна ў родну межаньку.
Гэй, гэй, гэй, у родну межаньку!

І запеў жаўнер той прыгожанькі,
Гэй, гэй, гэй, той прыгожанькі!
А ў бары, бары тры дарожанькі,
Гэй, гэй, гэй, тры дарожанькі!

*(Роднае слова № 7 за 1995 г. С. 185.)*

# Маналог паўстанцкага каня

*Словы і музыка С. Сокалава-Воюша*

Ты сядзі ўпэўнена
На маёй спіне,
Мы з табой не першы раз,
Браце, на вайне,
Мы з табой не першы раз
Пачынаем бой,
Ты сядзі ўпэўнена,
Я заўжды з табой.

Цок-цок, цок-цок —
Вершнікі на конях,
Цок-цок, цок-цок —
Ты зважай, народ.
Цок-цок, цок-цок —
І штандар з Пагоняй,
Цок-цок, цок-цок —
Кліча ў паход!

Недзе там на беразе,
Проста ля ракі
Нас чакаюць свежыя
Царскія палкі,
А за імі вольныя
Неба і мурог,
Прага неадольная
Новых перамог.

Цок-тюк, цок-пок —
Вершнікі на конях.
Цок-цок, цок-цок —
Ты зважай, народ.
Цок-цок, цок-цок —
І штандар з Пагоняй,
Цок-цок, цок-цок —
Кліча ў паход!

Ты сядла не пакідай,
Вер, што не зманю,
Толькі болей волі дай
Мне, свайму каню.
Толькі болей волі дай:
Куля не кране,
Ты сядла не пакідай
І не цугляй мяне.

Цок-цок, цок-цок —
Вершнікі на конях,
Цок-цок, цок-цок —
Ты зважай, народ.
Цок-цок, цок-цок —
І штандар з Пагоняй,
Цок-цок, цок-цок —
Кліча у паход!

*(Сокалаў-Воюш С. Кроў на сумётах. Вершы і паэма. Мн, 1989. С. 57, 58.)*

# Гимн норильских повстанцев

*Слова Рыгора Климовича*

Не страшны нам тиранства большевизма,
Мы знали горе свыше всяких мер.
Известны нам все ужасы чекизма
И плачь людей на землях СССР.

Познали мы застенки заключенья
И лагеря, где каждый жертвой был.
Расстрел безвинных в зоне оцепленья
Ответным воплем тундру разбудил.

Мы заявили всей орде кремлевской
Святой протест насилию и злу.
И черный флаг с кровавою полоской —
Псов на цепь взять приказывал Кремлю.

Мы встали рядом брат около брата,
За право жить без тюрем и цепей.
Напрасно смерть дышала с автоматов
И псы рычали в ярости своей.

Нас не сломить рукой раба-солдата!
Свободы клич сгибает сталь штыков
И не сдержать кровавым водопадом
Растущий гнев антибольшевиков.

В крови зэка омылась наша слава
В режимных зонах Горных лагерей.
Из тьмы встает свободная держава.
Огни Норильска не погаснут в ней.

Дыханье жертв Комиссии московской
Мы возродим, напомнив о себе,
И черный флаг с кровавою полоской
Нам путь осветит в праведной борьбе.

*1953 г.*

*(Климович Р. Конец Горлага. Мн., 1999. С. 11.)*

# Гімн нарыльскіх паўстанцаў

*Словы Рыгора Клімовіча*
*Музыка — мелодыя песні УПА*
*«Мов той олень, що загнаній в болото»*

Не страшны нам тыраны бальшавізму,
Мы зведалі гора звыш усякіх мер.
Вядомы нам усе жахі чэкізму
І плач людзей на землях СССР.

Цярпелі мы пакуты і глумленне
У лагеры, дзе кожны ахвярай быў.
Расстрэл бязвінных у зоне ачаплення,
Ён гучным крыкам тундру разбудзіў.

Мы заявілі ўсёй ардзе чэкоўскай,
Святы пратэст насіллю ды злу.
І чорны сцяг з крываваю палоскай —
«Сабак на ланцуг!» — загадваў Крамлю.

Мы сталі побач брат каля брата
За права жыць без турмаў для людзей.
Дарэмна смерць пужала з аўтаматаў
І псы рычалі ў лютасці мацней.

Нас не зламаць рукой раба-салдата!
Свабоды кліч згібае сталь штыкоў.
І не стрымаць крывавым патокам
Растучы гнеў супраць бальшавікоў.

У крыві зэка абмылась наша слава
У рэжымных зонах Горных лагяроў.
І з цемры ўстане вольная дзяржава.
Агні не згаснуць нарыльскіх змагароў.

Дыханне ахвяр Камісіі маскоўскай
Мы адродзім, напомнім аб сабе,
І чорны сцяг з крываваю палоскай
Нам шлях асвеціць ў новай барацьбе.

*Гімн складзены ў 1953 годзе палітвязнем Рыгорам Сяргеевічам Клімовічам (1924 — 2000) у баржы, на якой перавозілі з Нарыльска ў Краснаярск удзельнікаў Нарыльскага паўстання. Гімн пераклаў на беларускую мову С. В. Барыс 2 мая 2010 года.*

# Наша памяць

*Словы Генадзя Бураўкіна*
*Музыка Міколы Яцкова*

У памяці нічога не закрэслена
Са смутнай і бязлітаснай пары —
Казённы дом на вуліцы Акрэсціна
І Валадаркі, і Валадаркі,
І Валадаркі змрочныя муры.

*Прыпеў:*

Усе жаданні маладыя збудуцца
І зробяцца легендаю жывой.
І нам ужо ніколі не забудуцца
Вясновы Мінск і сцяг над галавой.

І стануць парахнёй дары данайцаў,
І з душаў страх апошні прападзе.
І белае з чырвоным паяднаецца,
І песня волі, і песня волі,
І песня волі выплыве з грудзей.

*Прыпеў.*

*(Песня была надрукавана ў газеце «Народная воля» за 22 лютага 2001 г.)*

# Воля і Пятля

*Песня Сержука Сокалава-Воюша*

Гэй, ляці у высі, малады саколе,
Быццам на далоні пад скрыдлом зямля,
А па ёй, як глянуць, ходзяць наваколлем,
Ходзяць наваколлем Воля і Пятля.

Што ж яны блукаюць, што на сэрцы маюць?
Недзе там у пушчах аж займае дых,
Маладыя хлопцы Вольніцу шукаюць,
А Пятля шукае хлопцаў маладых.

І няма спакою ў юначых душах,
І зямля пад коньмі, як агонь, дрыжыць.

Воля дасць ім крылы, а Пятля задушыць,
Ды ўжо лепш з Пятлёю, чым без Волі жыць.
Над сялянскай хатай, над сялянскім полем,
Дзе ўздымае колас свежая ралля,
Над маім народам, над ягонай доляй,
Над ягоным лёсам Воля і Пятля.

*(Сокалаў-Воюш С. Кроў на сумётах. Мн., 1989. С. 59.)*

## Зварот да беларуса

*Песня Андруся Мельнікава*

Ад грознага замка — адна толькі вежа.
Бяз даху касьцёл. Без крыжу царква.
Ты — іх гаспадар, гаспадар неабмежаны,
Зь дзяцінства прывычны зьнявагу трываць.
Ты — іх гаспадар. Гаспадар неабмежаны,
Зь дзяцінства прывычны зьнявагу трываць.

На гэтай зямлі, што крывёю адмечана,
Дзе кожны з каменьняў — аб чымсьці ўспамін...
Ня Польшча, ня Русь, ня Жмудзь, не Нямеччына.
Тут наша краіна. І ты — яе сын.
Ня Польшча, няРусь, ня Жмудзь, не Нямеччына.
Тут наша краіна. І ты — яе сын.

Дык што ж прымірыўся ты з уладай чужынскаю,
Бязмоўны, бязьдзейсны стаіш у журбе?!
Нашчадак ліцьвінаў, сьпіну сваю выпрастай!
Зброя продкаў чакае цябе!
Нашчадак ліцьвінаў, сьпіну сваю выпрастай!
Зброя продкаў чакае цябе!

Кожнаму — праўда! Кожнаму — воля!
Досыць трымацца за рабскі хаўрус!
У кожным сэрцы хай успыхне полымя!
У кожнай душы хай жыве Беларусь!

У кожным сэрцы хай успыхне полымя!
У кожнай душы хай жыве Беларусь!
Жыве Беларусь!

*Ворша, 3 — 4 ліпеня 1989 г.*

# Рэкруцкія і салдацкія песні

## Ішлі хлопцы — запыліліся глаза

Ішлі хлопцы — запыліліся глаза.
Гэй, гэй, запыліліся глаза,
Сматрэць-глянуць нельзя.
Гэй, гэй, сматрэць-глянуць нельзя.

Аглянуліся назад —
Тры красотачкі стаяць.
Тры красотачкі стаяць,
Паміж сабой гаварaць.

— Вы, красотачкі, не для нас,
Бяруць у салдаты нас,
Дай на дваццаць пяць гадоў.
Дай на дваццаць шостаму году
Адпускаюць дадому.

Ох, прыйшоў я да сяла,
Дай пытаюсь, дзе мой род.
Няма роду, ні атца —

Айцец, матка памярлі.
А брацішка маладой —
Не жанаты, халастой.

*Запісаў Сымон Барыс у 1976 г. у г. Лунінец ад 85-гадовай Ганны Кацубы.*

## У нашага караля...

У нашага караля
Вышла нова навіна.
Клічыць войта са двара,
А сотніка са сяла:

— Хадзі, сотнік, хадзі, войт,
Хадзі войт, бічавойт,
Будзем думаць ды гадаць.
Каго ў рэкруты аддаць:

— А дзе шэсць, там не ўлезць;
— А дзе пяць, там не ўзяць;
— Дзе чатыры, не веляць;
— А дзе тры, уцяклі;
— А дзе два, там радня.

А за рэчка, за ракой,
Там удовачка жыве.
У той удоўкі адзін сын.
Ён і гож і маладзён.
Ён і гож і маладзён,
І ў рэкруты згадзён...

А ў нядзельку паранку
Пад'язджае фурманка.
І ручанькі звязалі,

І ножанькі скавалі,
І павезлі малайца
У сталічны гарадок.
Ад'язджае ад ганку:
— Бывай, родная мамка.
Саязджая са двара:
— Бывай, уся мая радня.
Саязджая са варот:
— Ты бывай, увесь народ, —
Ад бацюшкі, ад айца,
Як заблюдшая аўца.
Ад матулі, ад роду
Як бел-камень у воду.

*Запісана ў 1935 г. у вёсцы Пакоціна Расонскага раёна.*
*(Беларускі эпас. С. 251 — 252.)*

## Ой, у гаю, гаю цёмным

Ой, у гаю, гаю цёмным,
З-пад берэзнічку зялёнага,
Там масты ўсе машчоны,
Ўсе машчоны ды памошчаны;

Па тых мастах ахвіцэры йдуць,
Ахвіцэры йдуць, барабанючы,
За німі сіроткі, сільна плачучы.

Былі ў бацькі тры сыны, тры сыны Васілі;
Катораму сыну ў салдаты ісці:
Ці большаму, ці срэднему,
Ці самому апаследнему?

Ў большага сына дзеткі дробны.
Ў срэдняга жана маладая,
Ў пасledняга — заручаная.
Большаму сыну ў салдаты пайсці.

Да па ім жана занудзілася,
Занудзілася, затужылася,
Дзеткі дробныя заплакалі.

— Ня тужы, ня плач, жана маладая.
Я сваіх дзетак па палках разашлю.
Цябе, маладзенькую, з сабой вазьму.
Чы я ў цябе, бацька, ня касіў, ня араў.
Што ты мяне, бацька, у салдаты аддаў?

*Запісаў Н. А. Рубяроўскі ў Барысаўскім павеце Мінскай губерні. Рэкруцкая песня пра трох сыноў, але з рэдкім вырашэннем пытання, бо даводзіцца ісці старэйшаму сыну, у якога малыя дзеткі.*
*(Шэйн П. В. Белорусские народные песни. С. 380, 381, № 710; Беларускі эпас. С. 258.)*

# Па вулачцы новенькай...

Па вулачцы новенькай
Ішоў Ванька малодзенькай
Люлі, люлі,
Ішоў Ванька малодзенькай.

— Чаго ты зажурыўся?
Чаго запячаліўся?
Люлі, люлі,
Чаго запячаліўся?

— А як мне ня журыцца,
Як мне не пячаліцца?
Люлі, люлі,
Як мне не пячаліцца?

Усе мае таварышы
Даўно пажаніліся,
Люлі, люлі,
Даўно пажаніліся.

А я маладзюсенькі
Хаджу халасцюсенькі,
Люлі, люлі,
Хаджу халасцюсенькі.

Пайду я да Дунаю,
Стану ды падумаю.
Люлі, люлі,
Стану ды падумаю.

— А ці мне ўмыцеся,
Ці мне ажаніціся?
Люлі, люлі,
Ці мне ажаніціся?

А ці мне ўмыціся,
Ці мне ўтапіціся?
Люлі, люлі,
Ці мне ўтапіціся?
— Не тапіся, Ванечка,
Не губі душы сваёй,
Люлі, люлі,
Не губі душы сваёй.

Бяры сабе жоначку,
Каторую ўмную,
Люлі, люлі,
Каторую ўмную.

Умную-разумную
Салдацкую ключніцу,
Люлі, люлі,
Салдацкую ключніцу.

Што ключыла-ключыла,
Нас з табой разлучыла,
Люлі, люлі,
Нас з табой разлучыла.

Разлучыла нас з табой,
Як рыбачку й з вадой,
Люлі, люлі,
Як рыбачку й з вадой.

Як рыбачку ад вады,
Так нас з табой ад радні,
Люлі, люлі,
Так нас з табой ад радні.

Як рыбачку ад лёду,
Так нас з табой ад роду,
Люлі, люлі,
Так нас з табой ад роду.

*Запісаў С. В. Барыс у 1962 г. ад сваёй маці Соф'і Барыс (Варановіч), 1907 г. нар.*

# Прыляцела птушка з Польшчы на Расію

Прыляцела птушка з Польшчы на Расію.
Чаму ў цябе, птушка, чырвона галоўка,
Чырвона галоўка і сівенькі хвосцік?
Дзе ж ты, птушка, зіму зімавала,
Зіму зімавала, весну веснавала,
Весну веснавала, лета летавала?

— Зімавала зіму, дзе снягі бяленькі,
Веснавала весну, дзе вада чысценька,
Лета летавала, дзе белыя макі.
Дзе белыя макі ў полі расцвіталі,
Усе нашы салдаты ў паход выступалі.

Маці свайго сына ў паходзе пазнала,
У паходзе пазнала, дадому чакала.
—Ой, вярніся, сынку, з паходу дадому,
Хто табе ў паходзе вячэру згатуе?
— А ў лесе, лесе зязюлька кукуе,
Усім нашым салдатам вячэру згатуе.

— Ой, вярніся, сынку, з паходу дадому,
Я табе, мой сынку, надзену кашулю.
— Матка мая, матка, у полі ветрык вее,
Ён на салдата кашулю надзене.
— Ой, вярніся, сынку, з паходу дадому,
Хто табе ў паходзе пасцельку пасцеле?

— А ў лесе, лесе траўка зеляная,
Усім нашым салдатам пасцелька мяккая.
Яловая шышка — пад галаву падушка,
Кляновы лісточак — наверх апрануцца.
— Ой, сынку, мой сынку, зайдзі ка мне ў госці,
Ды я табе, сынку, вымыю галоўку.

— Матка ж мая, матка, у полі дожджык хвошча,
То ён для салдата галоўку спалошча.
— Ой, вярніся, сынку, з паходу дадому,
Хто табе ў паходзе галоўку аплача?
— А ў лесе, лесе чорны воран грача,
Усім нашым салдатам галоўкі аплача.

*(Бацькаўшчына. Зб. гіст. літ. Мн., 1996. С. 12.)*

## Бяжыць конік дарогаю

Бяжыць конік,
Бяжыць конік дарогаю, да гэй!
Не якою — шырокаю.

Падбег конік,
Падбег конік пад вароты, да гэй!
Стукнуў-грукнуў капыткамі,

Аж вароты,
Аж вароты разляцелі, да гэй!
І падкоўкі зазвінелі:

— Вазьмі, маці,
Вазьмі, маці, пяску жменю, да гэй!
Пасей, маці, на каменю.

Як той пясок,
Як той пясок жытам зыдзе, да гэй!
Тады твой сын з войска прыйдзе!

*(Бацькаўшчына. Зб. гіст. літ. Мн., 1996. С. 8.)*

## Ой, крутая дарожанька

Ой, крутая дарожанька,
Ой, крутая, крута.
Дурная дзіўка, безразумна,
Што любіць рэкрута.

Запісаны ў салдаты,
Рэкрут сабірайся.
А ты, дзіўка безразумна,
Слязамі аблівайся.

Паклічу таварыша,
Паклічу, паклічу.
На якаго таварыша
Сваю дзіўку зычу?

—Ой, зыч жа ты, таварышу,
Зыч жа ты для мэнэ,
То я буду доглядаты
Шчэ лепшэй за тэбэ.

Праслужыў я цэлэ войска,
Трэба ісці да хаты,
А ў дзіўчыны — мало дзіця
Трэба калыхаты.

Ой, лепшэй было з каня ўпасці,
Галоўку зламаты,
Чым цяпэрэ дзіўчынынэ
Дзіця калыхаты.

*Запісала Клаўдзія Будчук у 1976 г. у в. Гадзічава Гомельскага раёна ад Зінаіды Іванаўны Зайцавай, 1914 г. нар.*

## Лет 17 я вдовочкой была

Лет 17 я вдовочкой была,
Четырех сынов на службу отдала.
Не успела сына пятого отдать,
Как вернулся тот стрелковый полк назад.
На квартиру к нам заехал генерал
Весь израненный так жалобно стонал,
Он поехал — я смотрела ему вслед.
Только стала — засмутился белый свет.
На квартиру к нам заехал офицерик молодой,
И сказал мне: «Красавица, напой водой».
А напившись, крепко рученьки пожал,
На прощанье он меня поцеловал.

*Запісаў А.В. Барыс у 1963 г. ад Соф'і Барыс.*

## Я не спала, не драмала

Я не спала, не драмала,
Ну, я таго не сазнала,
Што мой мілы проч паехаў,
Воран каня асядлаўшы.

Воран каня асядлаўшы,
Саколіка ў ручкі ўзяўшы.
Ехаў Дунай, ехаў морам,
А на поле ўз'язджае:

Воран конік спатыкнуўся,
Сакол ў ручках страпянуўся.
— Вот я знаю, я ведаю,
Што ў доме бяда стала:

Ацец з маткай памірае,
Старша брата ў войска ўзялі,
Старша брата ў войска ўзялі,
Меншу сястру замуж далі.

— Айца з маткай не падняці,
Брата з войска не сыскаці,
Сястры з мужам не разлучыш,
Шэльмы-жонкі не навучыш.

*Запісана ў в. Селяўцы Маладзечанскага раёна. (Зянько У. Спадчына маёй маці. № 233. С. 167.)*

# Я ў войску быў, я цару служыў

Я ў войску быў, я цару служыў.
Я цару служыў, дзіўны сон сасніў.*

Што ў маім доме ды бяда стала,
Ды бяда стала — жана сканала.

Асядлаў каня, паехаў дамоў:
Мой жа конь заржаў — мне тугу задаў.

Еду праз лясы — лясы не шумяць,
Еду праз лугі — лугі не звіняць.

Прыехаў у сад — мой сад не зялён,
Мой сад не зялён — сакол не вясёл.

Прыехаў на двор: цеслі цяслююць —
То ж маей жане труну гатуюць.

У хату ўвашоў: ложа заслана,
Ложа заслана — жана прыбрана.

У галовачках свечачкі гараць,
А ў ножачках дзетачкі стаяць.

Чужыя дзеткі па вулцы бягуць —
А мае дзеткі дробны слёзкі льюць.

*Запісана ў в. Селяўцы Маладзечанскага раёна ад Зосі Зянько (1892 г. нар.). (Зянько У. Спадчына маёй маці. №231. С. 165, 166.)*

# Пакалечаны салдат

Паранены, замучаны
Крываваю вайной,
На палку апіраючысь,
Ідзе салдат дамоў.**

Ідзе, а думкі чорныя
Плывуць у галаве:
— Чаму ж я не забіты там
Ў крывавай той вайне?

---

** Другі радок у кожнай страфе паўтараецца.*
*** Апошнія два радкі кожнага куплета паўтараюцца.*

Уся сіла ўцякла з мяне
Ад незлічоных ран,
А дома ўсе галодныя,
Я буду лішні там.

Расейскі наш цар-бацюшка
У акопы пасылаў,
Пакуль былі здаровыя,
Нам многа абяцаў.

Пакуль былі здаровыя,
Нам многа абацаў,
Як сталі мы калекамі,
Нам палкі ў рукі даў.

Ідзіце вы, салдатушкі,
У свой радзімы дом,
А вам Расея матухна
Аддзякуе патом.

*Запісана ў в. Селяўцы Маладзечанскага раёна. (Зянько У. Спадчына маёй маці. № 253. С. 182, 183.)*

## У чужой карчме

Зайшоў, зайшоў бел малойчык
Ў чужую карчомку,
Налівалі малойчыку
Тры поўныя чаркі.

— Прымай, белы малойчык,
Нашу гасціну,
Забывай, белы малойчык,
Пра сваю радзіму.

— Ой, хоць буду піць-гуляці,
Але п'ян ня буду,
Ды пра сваю староначку
Павек не забуду.

А ў нашай староначцы
Сады зеляныя.
Ўсе садочкі зеляныя,
Людзі удалыя.

*(Зянько У. Спадчына маёй маці. № 251. С. 181.)*

# Ой, у полі, полі

Ой, у полі, полі
Не дым, не туман,
А за тым туманам
Тры войскі стаяць.

А ў першым войску
Конікі іржаць,
А ў другім войску
Шабелькі звіняць.

А ў другім войску
Шабелькі звіняць,
А ў трэцім войску
Брат брата забіў.

Брат брата забіў,
Сеў лісты пісаці,
Сеў лісты пісаці,
Да матачкі слаці.

Сеў лісты пісаці,
Да матачкі слаці:
— Прыедзь, прыедзь,
матуленька,
Сыночка хаваці.

Не паспела матачка
Сыночка хаваці,
А паспела матачка
Суды судаваці.

— А што ж гэта, людзі,
Да здарылася?
За што ж вы, сыночкі,
Да пабіліся?

— Мы служылі, мамачка,
У адным палку,
Мы любілі дзяўчыну
Удвух адную.

Мы ехалі, мамачка,
Цераз яе двор,
Ды ўпала шапачка
З галоўкі далоў.

Я прасіў падаць мне,
А ён не падаў,
То я яму, мамачка,
З плеч галоўку зняў.

*Запісала Аляксандра Прышчэпа ў 1962 — 1968 гг. у в. Арэшніца Клецкага раёна ад 68-гадовай Вольгі Валодзька. (Песні сямі вёсак. С. 206, 207.)*

# Ой, з-пад поля ды з-пад белага

Ой, з-пад поля ды з-пад белага,
Эй, ды з пад белага.
Цячэ рэчка, рэчка быстрая,
Эй-эй, рэчка быстрая.

А па той рэчцы карабель плыве,
Эй-эй, карабель плыве.
А ў тым караблі тры палкі салдат,
Эй-эй, тры палкі салдат.

Первы полк салдат — маладых рэбят,
Эй-эй, маладых рэбят.
Другі полк салдат — усё жанатых,
Эй-эй, усё жанатых.

Трэці полк салдат — усё старычкі,
Эй-эй, усё старычкі.
Маладыя йдуць — песенькі пяюць,
Эй-эй, песенькі пяюць.

Жанатыя йдуць — сільненька плачуць,
Эй-эй, сільненька плачуць.
Старычкі йдуць — разгаваруюць,
Эй-эй, разгаваруюць:

— Ціхаце, братцы, не журыцеся,
Эй-эй, не журыцеся.
Пойдзем у Расею — ўсе пажэнімся,
Эй-эй, усе пажэнімся.

*Запісала А. Шаўлякова ў 1960-х гадах ад 55-гадовай Марыі Дулеба ў саўгасе «Раванічы» Чэрвеньскага раёна. (Лірычныя песні / Уклад. і рэд. Н. С. Гілевіча. Мн., 1976. С. 86, 87.)*

## Ой, ляцелі гусачкі

Ой, ляцелі гусачкі,
Ой, ляцелі дробныя.
Напаткалі маладыя хлопчыкі
Да прыёму ідучы.

Прыйшлі да прыёманьку,
Скінулі адзежаньку.
Скуль узялася шэрая зязюля,
Стала кукаваці.

Гэта не зязюленька —
Родная матуленька.
Яна прыйшла з дому
Да прыёмаў сына выручаці.

— Ой, не трэба, матуля,
Ой, не трэба выручаці.
А хто ж будзе на шырокім полі
З немцамі ваяваці?

*Запісала Ірына Канстанцінаўна Маліноўская ў 1976 г. у Лідскім раёне.*

## Зялёны дубок, чаго пахіліўся?

Зялёны дубок,
Чаго пахіліўся?
— Малады малойчык,
Чаго засмуціўся?
Ці атца баішся,
Ці маці жалееш?
— Отца не баюся,
А маці не маю.
Маладу дзяўчыну
Моцна я жалею.
— Не жалей дзяўчыну —
Дурны розум мае.
Па садзіку ходзіць,
Ручанькі ламае.
— Ты не плач, дзяўчына,
Гадуй майго сына.
Я з войска вярнуся,
З табой ажанюся.

*Запісала І. К. Маліноўская ў 1976 г. у в. Губейкі Лідскага раёна ад Галіны Змітраўны Роўбуць, 1920 г. нар.*

## Гэй, там дарожка высаджаная

Гэй, там дарожка высаджаная,
На гасцінец выважаная.
Гэй, той дарожкай
Навабранчыкі ідуць, гэй!
Харошыя яны песенькі пяюць.
А за імі — бацькі, маці, гэй!
Белы ручкі ламаючы,
Свайго сына навучаючы, гэй!
— Будзь ты, сынку, разумёны,
Усяму войску дагаджоны, гэй.
І старому і маленькаму,
Гасудару маладзенькаму, гэй.
— Позна стала мяне маці навучаці.
Было мяне на свет белы не пускаці, гэй.
Было мяне сінім камнем радзіці,
Было мяне ў сіню рэчку ўтапіці, гэй.
Быстру рэчку пераплыў бы я,
Царскай службы не служыў бы я, гэй.

*Запісала І. К. Маліноўская ў 1976 г. у Лідскім раёне.*

## Ой, у лузе, у лузе, бяроза стаяла

Ой, у лузе, у лузе, бяроза стаяла,
Тонкая, высокая, лісцейкам шырокая.
Тонкая высокая, каранём глыбокая.
А на той бярозе зязюля кукавала,
Маці свайго сына ў войска выпраўляла:
— Ідзі, мой сыночак, ды не забаўляйся,
Цераз год, другі, дамоў ты вяртайся.
Год праходзіць, другі наступае —
Маці свайго сына з войска дажыдае.
А ў нядзелю рана сонейка ўсходзе,
Малады малойчык па падворку ходзе.
— Ой, здраствуй, здраствуй, маці,
Ці рада ты мною?
Ці рада ты мною і маёй жаною?
— Ой, рада, рада, дзіцятка, я табой.
Толькі не рада я тваёй жаной.
Я свайму дзіцяці дала крэсла сесці,
А сваёй нявесце на парозе сесці.
Я свайму дзіцяці дала віна напіцца,
А чужой дзяўчыне дала атруціцца.
— А я гэта віна на каня выллю,
А тую атруту напалову вып'ю.
Не ўмела ж маці мяне шанаваці,
Умей жа, маці, цяпер пахаваці.

*Запісала І. К. Маліноўская ў 1976 г. у в. Макары Лідскага раёна ад Сцефаніды Кірылаўны Пазьняк, 1933 г. нар.*

## Барабаншчыкі б'юць, у засадачку ідуць

Барабаншчыкі б'юць
У засадачку ідуць.
Там народушка прыасталіся,
З сястрой, з матушкай распрашчаліся.
Матка плакала — урыдалася.
Сястра плакала — ручаём слёзкі ішлі.
Жана плакала — ніякай расы нет.

*Запісаў А. В. Барыс у 1963 г. у в. Касічы Вілейскага раёна ад Хвядосі Уладзіміраўны Варановіч, 1880 г. нар.*

# Ой, у лузі, у лузі каліна стаяла

Ой, у лузі, у лузі
Каліна стаяла.
А на той каліне
Зозюля ковала.
Гэта не зозюля,
То родная маці.
Вона выражала
Сына ў салдаты.
—Ідзі, ідзі, сынку,
Ідзі не барыса.
Чэраз тры годыкі
Дадому вярніся.
Праходзіць гадочак —
Сыне нэ мае.
На трэці гадочак
Лісты прысылае.

—Чы рада ты, мамка,
Чы рада ты мной?
Чы рада ты, мамка,
Моей жэною?
—Ой, рада я, сынку,
Ой, рада тобою.
Толькі я нэ рада
Твоею жэною.
Посадзіла сына
За стол на розі.
Нэ любу нэвестку
У сенях на парозі.
Наліла сыну
Гарачага чаю,
Нэ любай нэвестцы —
Горкага печалю.

*Запісала Надзея Піліпаўна Гарагляд у 1976 г. у в. Варані Столінскага раёна ад Марыны Аляксееўны Несцяровіч, 1928 г. нар.*

# Салдацкая 1914 года

На возморье мы стояли,
На возморье мы смотрели.
Как волнуеццa волна.
Не туман с моря поднялся —
Сильный дождичек пошёл.
Посулился враг-германец
Русско вайско победить.

Врешь ты, врешь,
Враг-германец,
Русско войско победить
Ох, у русских войска много.
Русский любит угостить,
Угостить свинцовой пулей.
На закуску стальной штык.
Штык стальной четырехгранный
Грудь германскую пронзит.

*Запісаў Міхаіл Кахановіч у 1976 г. у в. Бобрык Пінскага раёна ад Івана Майсеевіча Кахановіча (89 гадоў).*

# Былі ў удоўкі тры сыны

Былі ў удоўкі тры сыны,
Сталі браць іх на вайну.
Большы кажыць: мне не хочацца,
Меншы кажыць: не прыходзіцца.
Сярэдненькі сабіраецца,
Маці з жалі аж валяецца.
Жана-шэльма насміхаецца.
— Пабудзь, шэльма, хоць гадок без мяне —
Будзеш рада, каб увідзець мяне.
А ў нядзелю, чуць на зорачку,
Выйшлі салдаткі на вулачку.
А ўсіх мілыя з ваёнкі йдуць,
А як майго — не чуваць, не відаць.
А як майго дык нідзе не відаць,
Толькі яго да два конікі вядуць.
Два конікі вараненькія,
А сядзельцы залаценькія,
Пад сядзельцамі рубашачкі,
А рубашачкі крываваенькія,
А платочкі два слязавенькія.
Напісана, запячатавана,
Каб нікому не паказавала,
Каб без вады было выбелена,
Каб без сонца было высушана,
Без валачка слізка выкачана.
А я ж молада дагадліва была,
Я слязамі бела выбеліла,
Ташнатою суха высушыла,
Далонцамі слізка выкачала.

*Запісала Алена Лашук у 1966 г. у в. Альсевічы Мядзельскага раёна ад Ганны Хілы (77 гадоў). (Песні сямі вёсак. С. 149.)*

# Ой, чаму нас здаюць у салдаты?

Ой, чаму нас здаюць у салдаты,
Пасылаюць на Дальні Васток?
А ці мы ў тым вінаваты,
Што мы выраслі лішні вяршок?

*Запісаў С. В. Барыс у 1970 г. у в. Кляўіца Ашмянскага раёна ад Ядвігі Уладзіміраўны Доваль, 1920 г. нар.*

## Салдацкая песня 1915 года

— Солдатушки-ребятушки,
Где ваши матушки?
— Наши матушки —
Белые палатушки.
— Салдатушки-ребятушки
А где ваши сёстры?
— Нашы сёстры —
Сами пики остры.
— Салдатушки-ребятушки,
А где ваши детки?
— Наши детки —
Сами пули метки.
— Салдатушки-ребятушки.
А где ваши тётки?
— Наши тётки —
Зелёные лебёдки (лафетки).
— Салдатушки-ребятушки,
Где ваши деды?
— Наши деды —
Над немцами победы (Громкие победы)
— Салдатушки-ребятушки,
А где ваши жёны?
— Наши жёны —
Ружжа заряжёны.

*Запісаў С. В. Барыс у 1971 г. у в. Збляны Лідскага раёна ад Сцяпана Андрэевіча Гемзы, 1905 г. нар.*

## Ой, пры дарозе бяроза стаяла

Ой, пры дарозе бяроза стаяла.
Маці свайго сына ў войска выпраўляла.
У войска выпраўляла і яго навучала:
— Ідзі, сынок, у войска, толькі не бойся (баўся),
Цераз годзік, другі дамоў вярніся.

Ужо год праходзіць, другі наступаіць,
Маці свайго сына з войска дажыдаіць.
Прыехаў сыночак, стаў з маткай вітацца
Стаў з маткай вітацца ў яе пытацца:

— Здарова, мамаша, ці рада ты мною,
Ці рада ты мною, маею жаною.
— Рада ж я, рада, маё ты, дзяціна,
Толькі я не рада чужой чужанінай.

Пасадзіла сына, дала піці, есці,
А чужой нявесцы на парозе сесці.
Паставіла сыну салодкае віно,
А чужой нявесцы горкай атравы.

Сама пайшла ў сені, горка затужыла:
— А божа, мой божа, што ж я нарабіла.
Родную сямейку навек загубіла.

*Запісаў С. В. Барыс у 1972 г. у в. Камарышкі Рускасельскага сельсавета Вілейскага раёна ад Настассі Рыгораўны Дзямідовіч, 1900 г. нар.*

## Дзяўчыначка пыха нарабіла ліха

Дзяўчыначка пыха нарабіла ліха,
Зазвала жаўнера ў каморачку ціха.
Жаўнерык пабыўшы, на коніка сеўшы,
На вайну паехаў, дзяўчыну забыўшы.

Дзяўчыначка мала ўсю ночку не спала,
Усю ночку не спала, лісточкі пісала
Да таго жаўнера, што даўна кахала.

Жаўнер рана ўстаўшы, лісток прачытаўшы,
Цяжка ўздыхнуў і жальненька заплакаў.
— Пусці мяне, цару, на тую ўскраіну.,
Мела дзеўка сына, там мая прычына.
Жаўнерык прыехаў, каня да стаёнкі,
Каня да стаёнкі, а сам да сваццёлкі.
— Чаго ж ты, дзяўчына, так цяжка гаруеш,
Ці таго сыночка так крэпка шкадуеш?

— Бадай цябе, жаўнер, ліхая гадзіна,
Чураецца мною ўся мая радзіна.
Вычураўся бацька, чураецца маці,
Я праз цябе, жаўнер, мушу ўміраці.
— Не ўмірай, дзяўчына, гадуй майго сына,
Я з вайны вярнуся, з табой ажанюся.

*Запісала Алена Лашук у 1966 г. у в. Альсевічы Мядзельскага раёна ад Ганны Клямаціч (60 гадоў). (Песні сямі вёсак. С. 102, 103.)*

## Дзяўчына ціха нарабіла ліха

Дзяўчына ціха
Нарабіла ліха.
Пусціла жаўнера
У каморку ціха.

Жаўнер там пабыўшы,
Прычынку зрабіўшы,
Стаў каня сядлаці,
Дзяўчыну пытаці.

А яна стала,
Стала пастаяла,
Стала пастаяла,
Лісток напісала.

— Хай цябе, малойчык,
Ліхая гадзінка.
Праз цябе адраклася
Ўся мая радзімка.

Хай цябе, малойчык.
Сырая зямелька:
Праз цябе адраклася
Ўся мая сямейка.

Бадай ты, малойчык,
На вайне загінуў,
Як мы кахаліся.
А цяпер пакінуў.

Адрокся і айцец
Адраклася і маці,
Праз цябе, малойчык,
Трэба паміраці.

— Ах, Божа, мой Божа,
Што буду рабіці?
Сем нядзель ляжала,
Ніхто ня даў піці.
Праз цябе, малойчык.
Трэба паміраці.

*Запісаў С. В. Барыс у 1962 г. ад Соф'і Барыс.*

## Дзякуй Богу, што прыдаўся

Дзякуй Богу, што прыдаўся —
Афіцэру спадабаўся.
Афіцэру служыць буду,
Бацька, маці тужыць будуць.
— Ах ты, мая маці міла,
Нашто на свет нарадзіла?
Чаму з печкі не спіхнула,
Ручкі, ножкі не звярнула?
Чаму мыла — не намыла,
Чаму вочак не замыла?
Лепей дома грабелькамі,
Чым у войску шабелькамі.

*Запісалі С. Саламевіч і Р. Сяменчык у 1968 г. у в. Целяхі Налібоцкага сельсавета Стаўбцоўскага раёна ад Стафаніі Хіліцкай (83 гады). (Песні сямі вёсак. С. 342.)*

# Ой, у полі сняжок трусіць

Ой, у полі сняжок трусіць,
А мой мілы убіт ляжыць,
У левай руцэ каня дзяржыць,
А праваю да расу бярэ.
А праваю да расу бярэ,
Расу бярэ і на сэрца лье:

— Раса мая крапучая,
Душа мая жывучая.
Бяжы, коню, дарогаю,
Дарогаю шырокаю,
Да прыбяжыш к вароцеццам,
Стукнеш-бразнеш капыцеццам.
К табе выйдзе стара бабка —
Гэта мая родна мамка,
Да дасць табе аўса, сена,
Будзе пытаць свайго сына:

— Ой ты, коню сівусенькі,
Дзе ж мой сынку раднюсенькі?
Ці ты яго ў лесе згубіў,
Ці ты яго на вайне забіў?

— Я яго ў лесе не згубіў,
Я яго на вайне не забіў,
А твой сынок ажаніўся,
Узяў жонку-валыначку,
Узяў жонку-валыначку —
У чыстым полі магілачку.
Узяў жонку-варшавянку —
У чыстым полі жоўту ямку.
Вазьмі, маці, пяску жменю,
Пасей яго на каменю.

Як пясок жытам узыдзе,
Тады сынок з вайны прыйдзе.
Ждала ўсходу, ждала спору —
Няма сыночка з паходу.
Ждала ўсходу, ждала цвету —
Пайшоў сынок па ўсім свету.

*Запісала Аляксандра Прышчэпа ў 1962 — 1968 гг. у в. Арэшніца Клецкага раёна ад Алены Корань (42 гады). (Песні сямі вёсак. С. 207, 208.)*

## Чарнаморчык

Чарнаморчык міленькі, чарнаморчык,
Вывеў мяне босую на марозік.
Вывеў босую і пытае:
— Чы е, дзеўка, марозец, чы адлягае?
— Ой, няма марозіку, толькі раса,
А я маладосенька стаю боса.
Прастаяла ночаньку, стаю другую,
Люблю чарнаморчыка і любіць буду.
Палюбіла я яго за шынель,
Я думала жыць буду пакуль з ёю.
Я думала жыць буду, пажываці,
А цяпер прыйшлося мне гараваці.
А цяпер прыйшлося мне гараваці,
На чужой старонaчцы жыта жаці.
На чужой старонaчцы жыта жала,
Сваю родную мамачку ўспаміналa,
Што за чарнаморчыка замуж аддала.

*Запісана ў 1976 г. у в. Каменюкі Камянецкага раёна ад Еўдакіі Апанасаўны Старун, 1904 г. нар.*

## Вясельная, калі брат маладой у войску

— Ці ты, дзеўка, роднага браткі не маеш,
Што ты, дзевачка, чужых шафяроў саджаеш?
— Майго брацеткі, майго роднага, дома нет.
Да панёс жа ён галовачку на ўвесь свет.
— Да папрасі ты шэру зязюлю ў палёце,
Няхай дагоніць твайго брацетку ў паходзе,
На правым плячы вінтовачку нясучы,
За чужым сталом пісямцо пішучы.
Ты прачытаеш пісьмяцо на каберцы стоячы:
— Ці ты, сястрыца, па родным братку не дбаеш,
Што ты сягоння вяселлейка гуляеш?

*Запісаў Сымон Барыс у 1973 г. у в. Пяцюлі (цяпер Новая) Сычэўскага сельсавета Маладзечанскага раёна ад Алены Міхайлаўны Забаронак (1910 г. нар., з в. Бары).*

# Зашумела дзераўца, зашумела дзераўца

Зашумела дзераўца, зашумела дзераўца,
Над вадою стоячы.
Заплакала ўдовушка, заплакала ўдовушка,
Свайго сына радзячы:

— А сынок мой, сакалок, а сынок мой, сакалок,
А што ж мне з табой рабіці?
Ці мне цябе ажаніць, ці мне цябе ажаніць,
Ці ў службачку аддаці?
Як я цябе ажаню, як я цябе ажаню,
Свае сэрца ўзвесялю,
Як я цябе ў службу аддам, як я цябе ў службу аддам,
Свае сэрца засмучу.

— А матуля, матуля, а матуля, матуля,
Ды спраў мне тры трубы.
Тры трубы срабраныя, тры трубы срабраныя,
Чацвёртую залатую.

У адну трубу затрублю, у адну трубу затрублю,
Коніка выводзячы,
У другую затрублю, у другую затрублю,
Коніка сядлаючы.
А ў трэцяю затрублю, а ў трэцяю затрублю,
К войску пад'язджаючы.
У чацвёртую затрублю, у чацвёртую затрублю,
Сярод войска стоячы.

Сярод войска стоячы, сярод войска стоячы,
З начальствам гаворачы,
Каб пачула матуля, каб пачула матуля,
У святліцы седзячы,
У святліцы седзячы, у святліцы седзячы,
У аконца гледзячы,
Белы ручкі ломячы, белы ручкі ломячы,
Дробны слёзкі ронячы.

*Запісала Алена Лашук у 1970 г. у в. Альсевічы Мядзельскага раёна ад Ганны Клямаціч (60 гадоў). (Песні сямі вёсак. С. 150.)*

# Каліна

Як ты, каліна, ты цвіла,
То ты ламай каліну.
Як жа ты ў арміі быў,
То ты кахай дзяўчыну.

*Прыпеў:*

Я памятаю вечар той,
Ты плакала са мною.
І на развітанне раз у раз
Махала хустыною.

— Ой, буў у мэне Васылёк,
Хотыў мэне браты.
Ой, Васылёк, мой Васылёк,
Забралі ў салдаты.

Ой, помні, мілы Васылёк,
Як цэ сыло горыло.
Як моё сэрцэ по тобі
То млело, то болело.

— Як жа я ў армію ішоў,
То ты була дзяўчынкай.
А як я з арміі прыйшоў,
То на руках дытына.

Як каліна расцвіла,
Тады ламай каліну.
Як я з арміі прыйшоў,
Тады ты мела сына.

*Запісана ў 1976 г. у в. Камянюкі Камянецкага раёна ад Еўдакіі Апанасаўны Старун, 1904 г. нар.*



*Багдан Андрусішын (Данчык)*

# Ой, моладзец, моладзец, чым ты нявесёл?

— Ой, моладзец, моладзец, чым ты невясёл?
— А як жа мне, молайцу, вясёламу быць —
Прыказалі молайцу на вайну ісці.

Былі ў таго молайца тры родны сястры,
Усе тры раднюсенькі, усе тры халасты.
Старшая сястрыца каня падвяла,
Сярэдняя сястрыца сядло падала,
Самая найменшая наперад зайшла,
Наперад зайшоўшы, распрашчалася:
— Прашчай, прашчай, брацетка, прашчай,
братка мой.
Скажы, калі вернешся із вайны дамоў?
— Выйдзі, выйдзі, сястрыца, рана паутру.
Выйдзі, выйдзі, сястрыца, на круту гару,
Ўзгляні, ўзгляні, сястрыца, на ціхі Дунай.
На тым ціхім Дунаі бел камень ляжыць,
На тым белым камені трусова пер'е.
Калі ж той бел камень наверх усплыве,
А трусова пер'ейка на дно патоне,
Вот тады вярнуся із вайны дамоў.

Ехалі салдацікі з Русі із вайны,
Пыталіся сястрыцы брата-сакала.
— Ці не той твой брацетка, што ў трох палкох жыў.
У чацвёртым палкочку галоўку злажыў?
Застагналі конікі, цела везучы,
Плакалі чаляданькі, за ім ідучы,
Кукавалі зязюленькі, над ім лятучы,
Шчабяталі ластаўкі засыпаючы.

*Запісала Вера Посах у 1964 — 1970 гг. у в. Мароські Лебедзеўскага сельсавета Маладзечанскага раёна ад Алены Семашкевіч (1897 г. нар.). (Песні сямі вёсак. С. 296.)*

# Там у полі-полі яліна стаіць

Там у полі-полі яліна стаіць,
А пад той ялінаю ўбіты ляжыць,
А над тым убітым сівы конь стаіць,
Белым капытом ён зямлю сячэ,
Ён зямлю сячэ, ён пана будзе:

— Устань-устань, пане, ужо даўно спіш.
А там у полі казакі ідуць,
Яны ж сядуць і на мне паедуць.

— Ты бяжы, косю, лужком-беражком,
К новаму дварцу, к мацеры-атцу.
Заржы ты, косю, сільна, жаласна,
Выйдзе к табе, косю, тры панюхны:

Першая паня — мамачка мая,
А другая паня — сястрыца мая,
Трэцяя паня —мілая жана.
Не кажы ты, косю, што я ўбіты ляжу,
А скажы ты, косю, што ў войску служу.

Дзе мамка плача — там рэкі ідуць,
А дзе сястрыца — там ручаёчкі,
Дзе мілая жана — і расіцы няма.

Як мамачка плача — век вяком,
А сястрыца — год гадом,
А мілая жана — да абедзейка.
Паабедаўшы, у садок пайшла —
У садок пайшла, дзесяцёх знайшла.

*Запісана студэнтамі філфака БДУ ў 1971 г. у в. Дзмітравічы Бярэзінскага раёна ад Агапы Ватошкі (80 гадоў). (Песні сямі вёсак. С. 255.)*

## Як на тым баку ракі...

Як на тым баку ракі
Харошыя дварнякі,
Дварненьчык маладой
Красну дзеўку спалюбіў.
Дай нямножка з ней пажыў.
Злыя людзі давялі,
У салдацікі пайшоў,
У карчомку зайшоў.
— Шанкарачка малада,
Дай мне мёду і віна.
— Двараненчык маладой,
Ці на многа табе даць?
— Ні на многа, ні на мала,
А на сто рублей давай?
— Двараненчык маладой,
А ці выпіш ты адзін?
— Шанкарачка малада,
Хоць я і не вып'ю,
Таварышаў напаю,
Сваю долю пракляну.
— Прападзі, мая доля,
Хоць сягоння ад мяне.
Любіў дзеўку да канца,
Но не судзіў Бог да вянца.

*Запісаў Сымон Барыс у 1972 г. ад Сцепаніды Навумаўны Кажамячынка (1901 г. нар.), жыхаркі в. Страшныя Дзёрнавіцкага сельсавета Верхнядзвінскага раёна.*

## І з далёкіх і з краёў...

І з далёкіх і з краёў
Шлі салдацікі дамоў,
Эй, шлі салдацікі дамоў.

Па вузенькай дарожцы
Запыліла вочы ім,
Эй, запыліла вочы ім.

То пясочак, то не дым,
То Радзіма — не Берлін,
Эй, то Радзіма — не Берлін.

Вот і роднае сяло
На прыгорку відно.
Эй, на прыгорачку відно.

Выхадзіце, сестры, брацця,
Пераможцаў сустракаці,
Эй, пераможцаў сустракаці!

І з далёкіх і з краёў
Шлі салдацікі дамоў,
Эй, шлі салдацікі дамоў.

*(Беларускі фальклор. Хрэстаматыя: Мн., 1996. С. 727.)*

# Казацкія песні

## Уставай, казак...

Уставай, казак, досыць спаць, (2 разы)
А твайго каня не відаць.
А твой косю за тры мілі,
Выеў травы тры даліны.
Вады выпіў паў-Дунаю,
А я стану падумаю.
Запрагайце каня ў санкі, (2 разы)
Мы паедзім да каханкі.
Пад'язджаю пад вароты,
Стаіць дзеўка ў срэбры, злоце.
Узяла каня за цугельцы
І павяла да стаёнкі.
Дала каню аўса, сена. (2 разы)
А казаку — мёду, віна.
Сама стала ў канцы стала, (2 разы)
Да казака ані слова.
— Чаго, дзеўка, смутна стала,
Да казака ані слова?
Ці жаль каню аўса, сена,
Ці казаку мёда, віна?
—Не жаль каню аўса, сена,
Не казаку мёду, віна.
Толькі жаль жа ўмывання,
Суботняга ўмывання,
Нядзельнага прыбірання.
Каго ждала — не даждала (2 разы)
(Каго чакала — не дачакала),
Аб старым казаку і не думала.

*Запісаў С. В. Барыс у 1962 г. ад Соф'і Барыс.*

## У канцы грэблі шумяць вербы

У канцы грэблі шумяць вербы,
Што я пасадзіла.
Няма майго міленькага,
Што я палюбіла.

Няма яго і ня будзе,
Паехаў у Адэсу,
А мне сказаў: «Расці, міла,
Да другой вёсны».

Расла-расла дзяўчынанька,
Расці перастала.
Ждала-ждала міленькага,
Аж плакаці стала.

Плачце, вочы, плачце, кары,
Така ваша доля.
Палюбіла казачэнька,
Пры месяцы стоя.

— Ні я яго палюбіла,
Палюбіла маці.
Яна мне загадала
Ручнікі даваці.

Адзін дала, другі дала,
На трэцяму стала.
А чацвертым шоўкам шытым
Ручанькі звязала.

І звязалі мне ручанькі,
Ніхто не развяжа.
Забалелі мне ручанькі,
Ніхто не развяжа.

Тады табе праўду скажаць,
Як сонейка зайдзе.
Тады табе праўду скажаць,
Як міленькі прыйдзе.

*Запісана ў 1976 г. у в. Каменюкі Камянецкага раёна ад Еўдакіі Апанасаўны Старун, 1904 г. нар.*

# А ў полі бяроза стаяла

А ў полі бяроза стаяла,
Бяроза стаяла кудравістая,
Кудравістая, не кваціcтая.
А пад тэй бярозай забіты ляжыць,
Забіты ды не ажаніты.
А над тым забітым сівы конь стаіць.
Сівы конь стаіць, капытамі б'ець,
Капытамі б'ець, ваду дастаець.
— Табе, мой косю, вады не дастаць,
А мне маладому ад зямлі не ўстаць.
А ляці, косю, бітай дарожкай, (2 разы)
А стань жа, косю, пад варотамі. (2 разы)
Ды стукні, грукні капытамі,
А там жа выдзіць старая бабка,
Старая бабка — то мая мамка.
Будзе пытаціся — ты сумей, як адказаціся.
Не кажы, косю, што я забіты, (2 разы)
А кажы, косю, што ажаніты. (2 разы)
Былі свашачкі — з лесу пташачкі,
Былі музыкі — з лесу вялікі.
Былі большанкі — з лесу варонкі.
Былі сваткі — з лесу сакалкі.

*Запісаў С. В. Барыс у 1962 г. ад Соф'і Барыс. Мяркуючы па лексіцы апошняга куплета — гэта песня складзена ў Вілейскім раёне, магчыма, у адной з вёсак Нарачанскага краю ў гады Першай сусветнай вайны. Яна па змесце пераклікаецца з вядомымі казацкімі песнямі.*

# Хадзіў, блудзіў казак па даліне

Хадзіў, блудзіў казак па даліне
І прыблудзіў к маладой дзяўчыне*.

— Дзяўчыначка, пусці начаваці.
— Ой, не пушчу, будзеш жартаваці.

— Ой, не буду, даліпан не буду:
Да світання я ў цябе пабуду.

Дзяўчыначка, будзі мяне рана:
Ой, так рана, каб куры не пелі.

---

** Кожны другі радок песні паўтараецца.*

Ой, так рана, каб куры не пелі.
Каб казакі на коней не селі...

— Казачэнька, хопіць табе спаці,
Казачэнька, пара ўжо ўставаці.

Бо даўно ўжо ўсе куры прапелі, —
Ужо казакі на коней паселі.

*(Зянько У. Спадчына маёй маці. С. 182.)*

## Каля грэблі стаяць вербы

Каля грэблі стаяць вербы,
Што я пасадзіла.
Няма майго міленькага,
Што я палюбіла.
Няма яго і не будзіць,
Паехаў у Адэсу,
А мне сказаў: «Расці, дзеўка, } 2 разы
Да майго прыезду».

Расла, расла дзяўчоначка,
Расці перастала.
Ждала, ждала казачаньку
Да й плакаці стала.

Плачце, вочы, плачце, кары,
Така мая доля:
Спалюбіла казачаньку
Пры месяцы стоя.

— Не сама я палюбіла,
Палюбіла маці.
Заставіла сваю дочку } 2 разы
Ўвесь век гараваці.

Гаравала дзяўчыначка,
Гараваці будзіць.
Яна свайго казачаньку } 2 разы
Павек не забудзіць.

*Запісаў С. В. Барыс 2 чэрвеня 1963 г. ад Веры Дзямідаўны Шкляровай (1912 г. нар.) з в. Сальнікі Палёнскаўскага сельсавета Горацкага раёна.*

# Чырвона каліна

— Чырвона каліна,
Лістэчка зялёнэ.
Обожджы, дэўчыно,
Тры года на мэнэ.

— Рада я, козачэ,
Шчэй чатыры ждаці,
Колі хоча маці
За другога аддаці.

— Як захочэ маці
За другога аддаці,
Напішы пісёмцэ
До мэнэ ў салдаты.

У нэдзелю рано
Шчэй сонцэ нэ сходзіць,
Молады козачэнько
По казармі ходзіць.

По козармі ходзіць,
Ліста ў руках носіць,
Свайго командзіра
Хорошэнько просіць:

— Командзір-соколік
Одпусці додому.
Покінуў дэўчыноньку
Сам нэ знаю кому.

— Я й адпусцю тэбэ
Да й шчэ нэ самого,
Сэдлай ты, козачэ,
Коня вороного.

Коня вороного,
Золотэ сэдэльцэ.
Поезджай до дэўчыны
Розвесэлі сэрцы.

Едэ, Йванко, едэ,
Ворота мінае.
Его жа дэўчына
Стаіць да й пытае:

— Куды, Йванко, едэш,
Куда ўезджаеш?
Я твоя дэўчына —
Хіба ж ты нэ знаеш?

— Знаю, дзеўко, знаю,
Знаю добрэ тэбе.
Еду до другоі,
Забувай про мэнэ.

*Запісала Надзея Пиліпаўна Гарагляд у 1976 г. у в. Варані Столінскага раёна ад Марыны Аляксееўны Несцяровіч, 1928 г. нар.*

# Галя

Ехалі казакі з дому і дадому,
Падманулі Галю, забралі з сабою.
— Едзьма, Галя, з намі, з намі казакамі.
Будзе табе лепей, як у роднай мамы.
А ў тваей мамы кашулі латаны,
А ў нас, казакаў, шолкам вышываны.

І павезлі Галю цёмнымі лясамі.
Прывязалі Галю к сасне валасамі.
Накрасалі агню з чорнага камення.
Падпалілі сосну зверху да карэння.
Сосна дагарае, Галя вымаўляе:
— Хто ў лесе начуе, няхай мяне чуе.
А хто дочкі мае, няхай навучае.
Няхай з казакамі гуляць не пушчае.

*Запісалі вучаніцы 10-га класа Хадакоўскай сярэдняй школы Марыя Жабінская і Вера Міраноўская ў 1976 г. у в. Корачын Жытлінскага сельсавета Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці ад Варвары Міхайлаўны Жабінскай, 1910 г. нар.*

# Не сядзела б я позна звечара...

Не сядзела б я позна звечара*,
Не паліла б я ні лучыначкі.
І ня шыла б я не кашулячкі,
А купіла б я злота крыллейка.
Паляцела б я на Ускраіначку,
Села-пала б я сярод рыначку.
Да на рыначку казак-войска ідзець,
А мой міленькі наўпярод ідзець.
— Здраствуй, мілая чарнабрывая!
— Здраствуй, дарагой, мой мілёначак!
Якаго табе ў чужой старане?
— Плоха, плоха мне ў чужой старане:
Баляць ножачкі ад паходачкі,
Баляць ручачкі руж'я дзержачы.
Баляць плечачкі, ранцы носячы.

*Запісаў Анатоль Барыс ад Соф'і Барыс. Песня адносіцца да падзей XVII — XVIII стст., калі на Украіне існавала Запарожская Сеч.*

---

* *Кожны радок паўтараецца.*

# Ехаў казачынька даліною

Ехаў казачынька даліною,
Спаткаў дзяўчыну за гарою,
Мусіў каня прытрымаці
І ў дзяўчыначкі спытаці:
— Якое імене табе даці?

— Ах ты, казачынька,
Ах ты, дурань неразумны.
Мяне Бог сатварыў.
Мяне маці парадзіла,
Мяне папы ахрысцілі,
А далі мне імене Кулінова.

— Ах ты, казачынька.
Ах ты, пан мой,
А дзе будзе ды начлег твой?.

— На паповым лугавішчы.
Там убіты 2 калішчы.
Там казакі начавалі
І Куліну саграваді.
— Хаця ж ты, Куліна, не журыся.

— Ах ты, казачыньку.
Ах ты, пан мой,
А дзе будзе ды абед твой?

— У роўненькім полі карчомка,
У той карчомачцы кухарачка.
Яна таргуіць піражкамі.
Калі будзе, дык з'ядзем,
А ня будзець, дык так будзем,
Хаця ж ты, Куліна, не журыся.

*Запісаў Сымон Барыс у жніўні 1962 года ад Соф'і Ільічны Барыс.*

# Казацкая доля

Спіўся казак, спіўся,
З дарожанькі збіўся,
Варанаму каню
На грыву схіліўся. } 2 разы

— Ах, косю, мой косю,
Я збыць цябе хачу
На мёд, на гарэлку,
На красную дзеўку. } 2 разы

— Прашу я цябе, казак,
Не збывай ты мяне,
Як мы з табой, казак,
Войска ваявалі,
Сады аб'язжалі. } 2 разы

У першым садочку
Брат з сястрой ходзіць.
Брат з сястрой ходзіць,
ПацІху гаворыць:

— Сястра, мая сястра,
Сястра, мая сястра,
Жаль мне жану кінуць
І дом свой пакінуць. } 2 разы

Надаела мне
Жоўтая павязка,
Жоўтая павязка
Й няшчасная доля.

Доля, мая доля,
Каб яна згарэла,
Як мне гэтае
Жыццё надаела. } 2 разы

За шыей хустка:
Уся яна струхлела.
Платочык бяленькі
Ад слёзак макрэнькі. } 2 разы

*Запісаў Сымон Барыс 2 чэрвеня 1963 г. (у в. Жасцяная Горка, каля Вялікага Ноўгарада) ад Веры Дзямідаўны Шкляровай (1912 г. нар.) з в. Сальнікі Палёнкаўскага сельсавета Горацкага раёна Магілёўскай вобл.*

# Сацыяльна-бытавыя песні

## Да ў нашага пана

Да ў нашага пана,
Да нядобрая слава.
Па месяцу жыта жалі,
Па зорам копы клалі.
Цёмна ў полі, цёмна,
Бадай таму цямней было,
Хто да хаты не пушчае,
Да на полі нас трымае.
Да мы позна з поля йдзём,
Да прыганятага клянём.

*Друкуюцца па кнізе: Дмитриев М. А. Собрание песен, сказок, обрядов и обычаев крестьян Северо-Западного края. Вильна, 1869. С. 117, 118.*

## Аставайся, мая мамачка, здарова

Аставайся, мая мамачка, здарова.
Выпала мне на Украіначку дарога.
— А ці будзеш па мне, мая мамачка, тужыці,
Як я буду на Украіначцы служыці.
А ці будзеш па мне, мая мамачка, бядаваць.
Як я буду на Украіначцы гараваць.

*Запісаў С. В. Барыс у 1974 г. у в. Камароўка, каля Плешчаніцаў, Лагойскага раёна ад Надзеі Восіпаўны Бараноўскай, 1904 г.нар.*

*Гэтую песню і блізкія да яе варыянты я запісваў як вясельныя. Аднак па змесце яна магла мець і гістарычную аснову. Напрыклад, выхад замуж за казака і выезд у Запарожскую Сеч.*

# А пайду я гарой, даліною

А пайду я гарой, даліною.
Спаткаў мяне казак маладою,
Стаў у мяне дарожкі пытаці:
— Дзяўчыначка, дзяўчыначка росла,
Куды гэта дарожанька пойшла.
Ці ў бор, ці ў луг? Ці ў роўнае поле?

— У роўненькім полі пшанічынька росла,
Туды ж гэта дарожанька пошла.

У тэй пшаніцы — ліповы кусточак.
На тым кусце — шырокае лісце.
На тым лісце — салавейка свішчыць.
Мяне свекар да хатачкі клічыць.
— Хоць кліч, ня кліч, я не адклікнуся:
Без мілога дамоў не вярнуся.
А мой мілы дома не начуіць,
Ночку ў ночку на кані гарцуіць.
Ён гарцуіць гаем зеляненькім,
Прыгарцуіць ка мне маладзенькай.

*Запісаў Анатоль Вікенцьевіч Барыс у верасні 1962 года ад Соф'і Ільічны Барыс, 1907 г. нар.*

# Зорушка

— Ой ты, зорушка, чаму ты рано ны заходыла?
— Ой, я рано і скотылася.
За месяцам погонылася,
Край Дуная станавылася.

А там крынічынька, чыста водычынька.
Там дыўчыначка ўмывалася.

— Ой ты, красата мая, ты, красівая.
У каго ты ўлюбылася?
Чы ў генерала, чы ў палкоўніка?
Чы ў генерала, чы ў палкоўніка?

— Ны ў генерала, ны ў палкоўніка,
Да ў рускага пагалоўніка.

*Запісаў Георгій Шалдзіцкі ў 1976 г. у в. Жытнавічы Малоткавіцкага сельсавета Пінскага раёна ад Аляксандры Дзьяканчук, 1894 г. нар.*

# А ў лузе, пры даліне...

А ў лузе, пры даліне,
Случылась навіна.
Падманула Кацярына
Хазяйскага сына.

— Кідай бацьку, кідай матку,
А я кіну дзеці.
І мы пайдзём на ўскраіну
Навіну глядзеці.

Ідуць яны, ідуць яны,
На дом паглядаюць.
— Ці баішся, Кацярына,
Каб нас не дагналі?

— Не баюся, Арсенюшка,
Няма каму гнаці.
Выправіла свайго мужа
У поле араці.

Арэць Арцём, арэць Арцём,
На дом паглядаіць.
Усе жонкі абед нясуць,
А мая чорт знаіць.

Кінуў плугі на ўсе лугі.
Сам пайшоў да хаты.
Пытаецца ў дзетачак:
— А дзе ваша маці?

— Пайшла маці, пайшла маці,
У луг па каліну.
Адходзячы, сказала нам:
— Навек вас пакіну.

Пайшла маці, пайшла маці,
У поле па цяляты.
Адходзячы, сказала нам:
— Я не ваша маці.

Пайшоў Арцём у камору,
Паглядзеў у скрыню.
Няма злота, няма срэбра,
Няма і Кацярыны.

Заплакаў жа Арцём з бяды
Горкімі слязамі:
— Дзеткі мае маленькія,
Што рабіць мне з вамі?

Як стукнуўся Арцём з бяды
Аб печ галавою.
— Загінуў я, прапаў жа я
З такою жаною.

*Запісаў С. В. Барыс у 1962 г. ад Соф'і Барыс (1907 г. нар.), жыхаркі х. Струменне Рускасельскага сельсавета Вілейскага раёна.*

## Сядзеў браце на абедзе

Сядзеў браце на абедзе,
Ў акно глядзіць — сястра едзе.

— Збірай, жана, хлеб, соль з стала:
Едзіць госця — сястра мая.

Збірай, жана, скарэй-скарэй,
Вязець сястра цэлы воз дзяцей.

Сястра гэта, як пачула,
Назад коні адвярнула.

— Мае конікі, мае мілыя,
Мае конікі белагрывыя.

Дарма я вас памарыла,
Вось я ў брата пагасціла.

Ёсць ў мяне хлеб у возе,
Абед будзе ў дарозе.

Ёсць у мяне дробныя крошкі,
Праліваю горкія слёзкі.

— Ці я цябе, брат, аб'ела,
Каб у цябе пасядзела?

Трава з травою звіваецца,
А брат сястрой чураецца.

*Запісаў С. В. Барыс у 1969 г. ад Соф'і Барыс.*

# Панам мы песьні не сьпяваем

*Словы Францішка Аляхновіча*
*Музыка Уладзіміра Тэраўскага*

Панам мы песьні не сьпяваем,
Працоўнай служым мы бядноце.
Даём, што ў душах нашых маем,
Для тых, што жылі век у бядноце.

Хто бачыў у жыцьці гора многа
Сьпевы нашы будуць да спадобы.
Да трону ён даляціць Бога,
Зварушыць з мейсца нават гробы.

Бо ў нашай песьні многа болю,
Жальбы ёсьць шмат, сьлёз цэла мора,
Праз нашу доўгую няволю.
Праз нашу доўгую бяду-гора.

Дык годзе, годзе сьлёзы ліці!
Хапайце косы, стрэльбы ў рукі,
Пачнём інакш мы хутка жыці —
Пара закончыць нашы мукі.

Той, кім дагэтуль пагарджалі,
Адзін пры адным хай тут стане!
Мы годзе, годзе часу спалі —
Цяпер нам жыць пара настане!

Цяпер усім горда ў вочы глянем,
Галосна гукнем: «Зямлі, волі!»
Усе, як адзін, сьмела паўстанем,
Каб ратаваць сябе з няволі.

*(Тэраўскі У. Беларускі лірнік. С. 11 — 13.)*

# Ды ляцяць міскі

*Словы народныя*
*Гарм. У. Тэраўскага*

Ды ляцяць міскі і талеркі, што на мяне,
Ой, люлі, ой, люлі, люлі, люлі,
Пагаворкі, люляшкі*.

Сама села, падпёрлася.
Заплакала, уцёрлася.

Людзі кажуць — што ёй стала,
Чаму ж замуж не папала?

Дзеўка замуж не папала,
Бо чыноўніцаю стала.

Як чыноўніцаю стала,
Ахвіцэра пакахала.

Ахвіцэра пакахала,
У жыцьці бяды ня знала.

Ой, ня доўга так жылося —
Жыць на кухні давялося.

Біць талеркі, міскі стала,
Бо напрасна пакахала.

*(Тэраўскі У. Беларускі лірнік. С. 88, 89.)*

# Паціхоньку, палягоньку

Паціхоньку, палягоньку
Гнаў Сымонька самагонку.
Эй, і агоньчык раскладаіць
І сам сабе прыпяваіць:
— Давядзецца пацягнуць.
Тут агоньчык разгарэўся,
Канец трубкі задымеўся.
Палілася самагонка —
Вісялейшы стаў Сымонька:
Давядзецца пацягнуць.

*Запісаў Анатоль Барыс у 1963 г. ад Соф'і Барыс.*

---

** Пасля кожнага куплета хор спявае прыпеў: «Ой, люлі.....»*

# Не туманіцца і не дыміцца

Не туманіцца і не дыміцца,
Дробны дождж ідзець.
Ой, сабралася бедна басота, } 2 разы
П'ець гарэлку, п'ець.

Пілі гарэлку, пілі вішнёўку,
Сталі піць віно.
А хто да нас прыйдзець,
З нас насмяецца, } 2 разы
Будзем біць таго.

Ой, прыйшоў, прыйшоў
Дзядзька багаты насміхаецца:
— А за што, за што бедна басота } 2 разы
Распіваецца?

— А ты ня смейся, дзядзька багаты,
Маем грошы й час.
Ой, сядай, сядай, дзядзька багаты, } 2 разы
Выпі каля нас.

—Ой, нету, нету, хлопцы-малойцы,
Я не буду піць.
Бо маю, маю 100 рублей грошай, } 2 разы
Не хачу міняць.

Адзін за руку, другі за другую,
Трэці ў карок б'ець.
— Хай ня йдзець, ня йдзець дзядзька багаты, } 2 разы
Дзе басота п'ець.

Дзядзьку звязалі, грошы аднялі,
Сталі водку піць.
Хай ня йдзець, ня йдзець дзядзька багаты, } 2 разы
Дзе басота п'ець.

*Запісана мной у 1969 г. на х. Струменне Рускасельскага сельсавета Вілейскага раёна ад Соф'і Ільінічны Барыс, 1907 г. нар.*

*Варыянт гэтай песні «Ой, ходзяць хмары...» надрукаваны ў кнізе Уладзіміра Зянькі «Спадчына маёй маці» (№ 250. С. 180, 181).*

# Ой вы, дзевачкі-беларусачкі

Ой вы, дзевачкі-беларусачкі,
Не ўлюбляйціся ў масточных рабят,
Бо масточныя — усе жанатыя,
Да абману даводзяць дзяўчат.
Бо масточныя — усе жанатыя,
Да абману даводзяць дзяўчат.

Адна дзевачка лет 16,
Лет 16, як роза цвіла.
І гуляла з ім, і не знала з кім,
Што ў яго на мастоке жана.
І гуляла з ім, і не знала з кім,
Што ў яго на мастоке жана.

Гаварыў ён ёй: «Міла Олечка,
Міла Оля, люблю я цебя,
Сабірайся ты і паедзім мы.
Сабірай, што ёсць у цебя.
Сабірайся ты і паедзім мы,
Сабірай, што ёсць у цебя».

Вот сабралася бедна Олечка
І пусцілась у далёкую пуць.
Толькі з горачкі апусцілася,
Мама крыкнула: «Оля, вярніся!»
Толькі з горачкі апусцілася,
Мама крыкнула: «Оля, вярніся!»

Даў у рукі ёй чамадан пустой
І сказаў: «Оля, здесь ты пастой».
Сам пайшоў кругом, сеў у другой вагон
І так нежна на Олю глядзеў.
І сказаў ён ей: «Ты не ждзі меня,
Не вярнуся я,
Бо ў меня на мастоке жана».
Вярнулась дамоў бедна Олечка,
І прайшлі маладыя гады.

*Запісаў С. В. Барыс у 1970 г. у в. Гядуны Юргелянскага сельсавета Эйшышскага раёна (Літва) ад Яніны Ігнатаўны Мотус, 1940 г. нар.*

*У гэту вёску я паехаў з в. Клявіцы ў час фальклорнай экспедыцыі АН БССР па прапанове М. Грынблата і Г. Цітовіча. Праслухаўшы песні, запісаныя ў в. Гядуны, М. Грынблат сказаў: «Сцерці запісы, іх нельга вязці ў Мінск, у Акадэмію навук», а сам выйшаў з хаты. «Што рабіць, Генадзь Іванавіч?» — папытаўся я ў Цітовіча. Ён даў мне такую параду: «Схавай сабе на памяць». Так я і зрабіў.*

# Уж сонца калесіцца

Уж сонца калесіцца —
Наш паночак павесіцца.
Наш пан-баран, баран,
Не пускае дамоў зарань.

Наша пані самашэшча —
Наварыла сачавіцы
Да ўкінула чамярыцы.

Ужо сонца за бор, за бор,
Пускай, панок, дамоў, дамоў.
Наша пані авечая —
Дзержыць нас да вечара.

*Запісаў Сцяпан Прохаравіч Бойка ў 1976 г. у в. Сітніцкі Двор Лунінецкага раёна ад Евы Іосіфаўны Ляўковіч, 1919 г. нар.*

# Цякла рэчка быстрая

Цякла рэчка быстрая,
Вадзіца халодная.
Там казак каня паіў,
Ён сваю жану тапіў.
Яна ў яго прасілася:

— Не тапі мяне ўдзень,
Не смяшы сваіх людзей.
Тапі мяне апоўначы,
Як мае дзеткі паснуць,
Прасіціся ня будуць.

Прачнуліся дзетачкі,
Пытаюцца ў татачкі,
Пытаюцца ў татачкі:
— Куды пайшла мамачка?
— Пайшла ваша мамачка
У сыры бор па ягодкі, (2 разы)
Па чорныя смуродкі.

Пайшлі дзеткі скачучы,
Матку пераймаючы.
І не знайшлі мамачкі
У бары з ягодкамі.

Увідзелі мамачку
У віры пад калодаю,
У віры пад калодаю,
Пад белай бярозаю.

— Ціха, дзеткі, не плачце,
Я збудую хатачку,
Я збудую хатачку,
Новую, вясёлую,
Я прывяду мамачку,
Маладу, прэкрасную.

— Прападзі ты, татачка,
З сваёй новай хатачкай,
Прападзі ты, татачка,
І з маладой мамачкай.

А табе, наш татачка,
Ёсць табе і мамачка.
Не трэба нам маладой:
Добра нам было з старой.

*Запісаў С. В. Барыс у 1970 г. ад сваёй маці Соф'і Барыс.*

# Я каліну, маліну ламіла

Я каліну, маліну ламіла*,
Паціхоньку вячэру варыла.
— Кіпі, кіпі, вячэранька, ціха,
Буду ждаці свайго жаніха (Цімоха).
Ужо вячэра мая закіпае,
А мой мілы на парог ступае.

— Сядзьма, міла, ■ табой на парозе,
Раскажу, што чуў у дарозе.
Чуў я, міла, такую навіну,
Што ты маеш малую дзяціну.

— Начавалі цыганы на палатцы
Дый пакінулі дзяціну на лаўцы.
— Давай, міла, каней запрагаці
Ды паедзім цыганоў даганяці.

— Нашто, мілы, коней таміці,
Давай будзем праўду гаварыці:

А як выпаў сняжок бяленькі,
Начаваў у мяне казак тры ночы,
Дай пакінуў мне карыя вочы.

Начаваў вун у мэнэ усю зіму
Дай пакінуў малую дытыну.

*Песняю перапісаў С. В. Барыс у 1980 г. з рукапіснага зборніка былой настаўніцы Лідзіі Андрэеўны Кошалевай у в. Шэйкі Крупскага раёна. Апошнія два радкі для гэтай перапісаны з такой жа песні, якую запісала В. В. Трафімава ў в. Бродніца Іванаўскага раёна ад І. Н. Чаплюк, 1907 г. нар.*

---

**Кожны няцотны радок паўтараецца.*

# Свеціць сонца і зара

Удовачка малада
Па садочку хадзіла.
Па садочку хадзіла,
Двух сыночкаў радзіла.

Двух сыночкаў радзіла,
У белы полы спавіла, (3 разы)
Сама бабачкай была.

Сама бабачкай была, (2 разы)
Без папы імя дала, (2 разы)
У карзіну лажыла, (2 разы)
У ціхі Дунай пусціла. (2 разы)

— Ой ты, ціхі Дунаёк,
Калышы маіх дзяток. (2 разы)
— Ах, ты, жаўценькі пясок,
Прыкармі маіх дзяток. (2 разы)

— Ой ты, зялёненькі лісток,
Прыадзень маіх дзяток. (2 разы)
Дунай кажыць: «Калышу».
Пясок кажыць: «Прыкармлю». (2 разы)
Лісток кажыць: «Адзену». (2 разы)

На сямнаццатым гаду
Пайшла ўдоўка па ваду. (2 разы)
Стала ўдоўка ваду брацць, (2 разы)
Стаў карабель прыставаць.

А ў тым жа караблі
Два малойцы сядзелі, (3 разы)
На ўдовачку глядзелі. (2 разы)

—Чаго, ўдовачка, стаіш?
Чаго вады не бярэш? (2 разы)
—А я хачу пастаяць,
На малойцаў паглядзець. (2 разы)

— За старшага сама йду,
За младшага доч даю. (2 разы)

—А дзе тая старана,
Што маць сыну дый жана?! (2 разы)
А дзе тая граніца,
Што брат з сястрой жэніцца? (2 разы)

*Запісаў С. В. Барыс у 1962 г. у г. Ноўгарадзе ад Соф'і Барыс.*

# Чые ж гэта валы

Чые ж гэта валы
Па полю хадзілі?
Ці таго казака,
Што дзеўкі любілі?

Адна палюбіла—
Казака губіла,
Другая любіла —
Пасцеьку паслала.
Трэцяя любіла —
Казака будзіла:

— Чаго, казак, ляжыш?
А што ты думаеш?
Бяры ў рукі валы
Ідзі ў поле араці.

— Не магу ўстаці,
Валамі араці,
Бо я не здолею
Галоўку падняці.

Прыйшла яго сястра,
Стала пабуджаці:
— Уставай, мой брацетка,
Мы пойдзем гуляці.

— Не магу ўстаці,
Не магу гуляці,
Бо я не здоляю
Галоўкі падняці.

Прыйшоў яго браце
І стаў пабуджаці:
— Уставай, мілы браце,
Мы пойдзем касіці.

— Не магу ўстаці,
Не магу касіці,
Бо я не здоляю
Галоўку насіці.

Прыйшоў яго бацька
І стаў пабуджаці:
— Уставай, мілв сынку,
Мы пойдзем араці.

— Не магу ўстаці,
Валамі араці,
Валамі араці,
Ні сошкі насіці,
Бо я не здоляю
Галоўку насіці.

Прыйшла яго маці,
Стала навучаці:
— Было табе, сынок,
Дзевак не кахаці.

— Нічога не нада,
Толькі сажань зямлі
І чатыры дошкі,
Яшчэ пятай трошкі
Ў галоўку і ножкі.

*Запісаў Сымон Барыс у лістападзе 1962 г. у Ноўгарадзе ад сваёй маці Соф'і Барыс. Песня ўдакладнена ў 1968 г.*

*Гэта песня была вельмі папулярнай у вёсках Вілейскага раёна на той час.*

# У суботу Янка грошы атрымаў

*Словы народныя*
*Музыка Міколы Пятрэнкі*

У суботу Янка грошы атрымаў.
Крочыў ён да хаты і дружка спаткаў.

— Ой ты, Янка, Янка, дай сваю руку
І пастаў, будзь ласкаў, чарку земляку.

— Адчапіся, Васька, глупства не мялі.
Жонцы на сукенку я нясу рублі.

Абурыўся хлопец, так Янку сказаў:
— Быў ты чалавекам, [redacted] скнарою стаў.

Зажурыўся Янка і махнуў рукой:
— Раз такая справа, вып'ем па адной.

На беразе селі прама ля ракі—
Паплыла сукенка, паплылі рублі.

Стала ціха-ціха на ўсёй зямлі.
Як з-пад дуба Янку п'янога вялі.

*Запісаў Сымон Барыс у 1978 г. у в. Родзевічы Рускасельскага сельсавета Вілейскага раёна ад Таісы Радзевіч (каля 30 гадоў), выхавальніцы дзіцячага сада з г. Вілейка.*



*Народны інструментальны ансамбль «Мінскія музыкі». Кіраўнік калектыву Дзмітрый Ровенскі (трэці злева)*

# Турыстычная песня

*Верш Францішка Багушэвіча «Сьпеў»*
*Музыка народная маршавая*

Прэч бутэлькі, люлькі, карты!
Марна траціць час не варта.
Хай жывыя рушаць [redacted] кіем
У святы паход!

Нас не край далёкі кліча
Вывучаць чужы нам звычай,
Нас чакае ў нашым краі
Родны наш народ.

Трэба ведаць наша поле,
Блізкіх нам братоў нядолю,
Што работай, кроўю, потам
Кормяць усіх нас.

Панясём жа пад іх стрэхі
Промень і святла, і ўцехі,
І настане час світання —
Абуджэння час!

Знаць Чачота ўсе павінны,
І пра Зана дабрачыннасць,
Пра Касцюшку і Манюшку,
І пра песняроў.

Рукі ім падаўшы, знаю,
Зробім болей мы для краю,
Чымся ў бойках разам стойка
Праліваўшы кроў.

Хай жа ўсе, усе, хто можа,
Возьмуць свой кіёк дарожны,
У край айчынны час ісці нам
Вывучаць свой люд.

Сонцу нашаму свяціцца,
Піць нам са сваіх крыніцаў, —
Вымятаем дружна з краю
Мы замежны бруд!

*20. VII. 1897 г.*

*Класік беларускай літаратуры Ф. Багушэвіч быў юрыстам. Ён збіраў старажытныя рэчы і ахвяраваў іх розным музеям. А ў 1897 годзе, у сталым узросце, ён здзейсніў воднае падарожжа па Вяллі і Нёмане. Тады ж Багушэвіч прыняў удзел у конкурсе ў Вільні на лепшую турыстычную песню і перамог у ім. Гэты верш паэт назваў «Сьпеў». Тая песня не страціла надзённасці і актуальнасці і сёння. Вельмі бадзёрая і заклікальная песня.*

*(Содаль У. Першая беларуская турыстычная песня // Краязнаўчая газета. 2010, № 18.)*

## Ой, п'яна я, п'яна

Ой, п'яна я, п'яна,
Не пайду дамоў рана.
Абняла мяне цёмна ночанька
Ля вішнёвага сада.

Там салавейка шчабеча,
А зязюля кукуе.
Ой, Бог ведае, да Бог знае,
Дзе мой мілы начуе.

Ой, калі ён у дарозе,
Прынясі яго, Божа.
Як у мілачкі на пярыначцы,
Пакарай яго, Божа.

Чым жа я не такая,
Як чужая другая?
Я харошая, я прыгожая,
Толькі доля ліхая.

А калі б гэта знала,
Што замужам ліха,
Я сядзела б, бульбу ела б
У матулечкі ціха.

*Запісаў С. В. Барыс у 1969 г. ад Соф'і Барыс.*

# Я гарэлку п'ю

Я гарэлку п'ю,
Я яе люблю,
А хто ж яе любіць будзе,
Ды як я памру?

Гарэліца, гарэліца,
Як я ж цябе люблю!
А хто б цябе любіць будзе
Ды як жа я памру?

Як я памру, як я памру,
Схавайце пры месце.
Каля маёй галовачкі
Барылку павесце.

А хто ідзець, а хто ідзець,
Няхай прачытаіць,
Які ж тут п'янічынька
Ў зямлі спачываіць.

*Запісаў Анатоль Барыс у 1963 г. ад сваёй маці Соф'і Барыс.*

# А ў полі, ў полі тры дарожанькі

А ў полі, ў полі тры дарожанькі,
А ў полі, ў полі тры дарожанькі.
Адзін жа ідзець — песянькі пяець,
А другі ідзець — у скрыпачку йграець,
Трэці ідзець — сільненька плачэць.

Што к жане йдзець — песенькі пяець,
Што к мамачцы йдзець — ў скрыпачку йграець,
Што к мачысе йдзець — сільненька плачэць.
Мамачка сына ды пераймала
Салодкім віном, белым пірагом.
А жана мужа ды пераймала
З беленькім сырам, з маленькім сынам.

Мачыха сына ды пераймала:
— Няўжо на свеце вайны не было,
Ды майго пасынка не забіла?
Няўжо на свеце вады не было,
Ды майго пасынка не ўтапіла?
Няўжо на свеце агню не было,
Ды майго пасынка не спаліла?

— Я каля вайны сокалам лятаў,
А каля вады — белым лебедзем,
А каля агню — сінім селязнём.

*Запісала Галіна Супрун у 1960-х гадах ад Еўдакіі Аўдашкевіч (58 г.) з в. Воўча Докшыцкага раёна. (Лірычныя песні/ Уклад. і рэд. Н. С. Гілевіча. Мн., 1976. С. 87, 88.)*

# Песні беларускіх партызанаў

## Бабуся

*Слова Максима Соболева*
*Музыка народная*



*Максим Соболев*

— Бабуся, бабуся, и что тебя ночью
В отряд привело к нам сюда?
— Случайно, сыночки, случайно, родные,
Иду и не знаю куда.

— Бабуся, бабуся, зачем ты, седая,
До хаты своей не идёшь?
— Дотла погорела деревня родная,
И хаты своей не найдёшь.

— А где старичок твой, куда он девался?
Где дочки твои, где сыны?
— Над дочками, мужем — снаряд разорвался,
Ушли в партизаны сыны.

— Бабуся, бабуся, куда же теперь ты,
Какую ты ищешь судьбу?
— Таких молодцов вот, как вы все, ищу я
Со звездочкой красной на лбу.

— Ну, что же, бабуся, пойди обогрейся
И с нами поешь из котла.
— Спасибо, сыночки, спасибо, родные,
Я все, что искала, нашла.

*Друкуецца па зборніку «Лясныя песні» (с. 152, 153). С. Барыс запісаў яе ад партызан і потым сустрэўся ў Заслаўі з аўтарам верша. Ім аказаўся Максім Піліпавіч Собалеў (1912–1987), які працаваў перад вайной дырэктарам Рагаўской сярэдняй школы Заслаўскага раёна. У час фашысцкай акупацыі ён пайшоў у партызаны і выпускаў газету ў партызанскай брыгадзе «Штурмавая».*

# Походная штурмовая

*Слова Максима Соболева*
*Музыка Исака Дунаевского на мелодию*
*«Песни трактористов» («Ой вы, кони, вы, кони стальные»)*

Шумел дождик в ночном полумраке,
По дорогам вода потекла.
Партизаны с лесов выезжают
Совершать боевые дела.

*Припев:*

Мы при встрече с врагом
Пулемётным огнём
Дадим чосу фашистам германским.

Ты не думай, фашисцкая свора,
Боевых партизан разгромить.
Они тоже сумеют прекрасно
Вас, фашистов, свинцом угостить.

*Припев.*

Нам не страшен ни дождь, ни прохлада,
Ни страшна нам ночная езда.
Мы взорвём все мосты и дороги,
Заминируем путь поездам.

*Запісаў С. В. Барыс у Мінску ў 1975 г. ад былога партызана Іпаліта Іванавіча Цімохіна, 1918 г. нар. Затым гэты тэкст мной быў зверены ў тым жа годзе ў аўтара песні М. П. Собалева, які жыў у Заслаўлі.*



*Генадзь Цітовіч*



*Рыгор Шырма*

## Хутка сонца заззяе над намі

Хутка сонца заззяе над намі —
Сустракаць будзем волі зару.
У чужынцаў ляжаць пад нагамі
Ты не будзеш, мая Беларусь!

Там, на ўсходзе, грыміць кананада,
Ноччу неба гарыць у агні.
Гэта крышаць фашысцкага гада
Пабрацімы твае і сыны.

Дзень і ноч ўсё мацнеюць раскаты,
Дзень і ноч бой безупынку кіпіць:
Гэта час надыходзіць расплаты,
Гэта гнеў наш пажарам гарыць.

Беларусь, наша маці, краіна!
Гэта дзень вызвалення ідзе,
Узнімі ж ўсю нянавісць і сілу
І абруш па варожай брыдзе...

Няхай помста твая запалае
Ў кожнай скібе стаптанай раллі,
Хай нямецкую набрыдзь змятае
З нашай роднай пакутнай зямлі.

Хутка сонца заззяе над намі —
Сустракаць будзем волі зару.
У чужынцаў ляжаць пад нагамі
Ты не будзеш, мая Беларусь!

*(Бацькаўшчына. Мн., 1996. С. 16.)*

*Песня ўзнікла ў гады Вялікай Айчыннай вайны сярод беларускіх партызан.*

## Любимая песня рогачёвских партизан

Мы шли на дело ночкой темной
Громить коварного врага,
Кипели злобой неустанной —
Нам жизнь была не дорога. (2 разы)

Подкравшись к вражескому тылу,
Команда подана: «Вперед!»
Залился песней неустанной
Наш друг «Максимка» — пулемет! (2 разы)

В смертельном страхе враг отпрянул,
Бежал, куда глаза глядят.
Ответный залп нестройно грянул,
Влетел в деревню наш отряд. (2 разы)

Свистели пули, ветер злился,
Метели снежные крутя,
Товарищ-друг наш повалился —
Подкашен пулею врага. (2 разы)

Прощай, товарищ, храбрый воин,
Пусть пронесется злой буран!
Высоких почестей достоин
Наш славный красный партизан. (2 разы)

*Песню спявалі партызаны 8-й Рагачоўскай брыгады ў 1943 — 1944 гадах. Яна ўзятая з успамінаў рагачоўскіх партызанаў С. М. Свярдлова і П. Я. Вераб'ева. Успаміны знаходзяцца ў Рагачоўскім музеі народнай славы (ф.6). Копіі ўспамінаў Іван Ліхараў, выкладчык Магілёўскага каледжа культуры, перадаў у 2009 г. аўтару гэтай кнігі.*

## На ўзгорку пясчаным тры хвоі

На ўзгорку пясчаным тры хвоі
Ад даўняга часу стаяць.
Безумныя пусткі спакою
Навокал наклалі пячаць.

Прыходзіць хвіліна цяжкая,
Халодны і верны спакой.
А там на яловых галінах
Ляжыць нерухомы герой.

— Не ведаў ты страху ніколі,
Быў храбры і верны ў баю.
За край, за Радзіму, за волю
Аддаў маладосць ты сваю.

Клянёмся табе над магілай,
Наш верны таварыш і брат.
Мы знішчым фашысцкую сілу,
Ім не вярнуцца назад.

*Запісаў Анатоль Барыс у 1962 г. ад сваёй маці Соф'і Барыс.*

# Ніколі не згіне ад лютых пажараў

Ніколі не згіне ад лютых пажараў
Вялікі і слаўны наш край.
У бой за Радзіму збірайся, таварыш,
Ідзі партызаніць у гай.

На прускага ката!
За вёску і хату! —
Кліч помсты народнай заве.
Ідуць у атаку

Лясныя салдаты,
Грукочуць гранаты,
Крычаць аўтаматы:

Жыве Беларусь!
Жыве!

Змагайся без страху з навалай варожай
За шчасце калгасных палёў;
У пушчах Палесся, на Нёмане й Сожы
Грыміць навальніца баёў.

Адважныя хлопцы сядзяць у засадах,
Разгневана пушча гудзе:
— Ад куль не схавацца вам, лютыя гады,
Расплаты не ўнікнуць нідзе!

Ніколі не згіне ад лютых пажараў
Вялікі і слаўны наш край.
У бой за Радзіму збірайся, таварыш,
Ідзі партызаніць у гай.

*(Бацькаўшчына. Мн., 1996. С. 17.)*

*Песня беларускіх партызан у гады Вялікай Айчыннай вайны.*

# Иване, Иванушка — ты моя душа

Иване, Иванушка —
Ты моя душа.
Мы с тобой, Иванушка,
Не нажилися.
Едут партизаны —
Аж шумят леса.
— Дайте, дайте Иванушку,
Хоть на два часа.
Не дали Иванушку,
Да дали Мишу.
— Через тебя, Мишенька,
Жизнь свою лишу.

*Запісала Клаўдзя Васілеўна Будчук у 1976 г. у в. Гадзічава Гомельскага раёна ад Зінаіды Іванаўны Зайцавай, 1914 г. нар.*

# На лесной поляне старый дуб стоит

На лесной поляне старый дуб стоит,
А под этим дубом партизан лежит.
Он лежит, не дышит, будто сладко спит,
Золотые кудри ветер шевелит.
У него головки мать его стоит.
Плачет и рыдает, сыну говорит:
— Я тебя родила, но не сберегла.
А теперь могила будет мать твоя.
Ты у меня родился, отец немцев бил,
Где-то под Одессой голову сложил.
Я вдовой осталась, пятеро детей.
Ты был самый младший, славный сын Андрей.
Ты, Андрей, фашистов по-геройски бил,
Ордена и медали на груди носил.
Долго за стеною слушал командир.
— Ты не плач, старушка, — он проговорил.
Он — герой фашистов по-геройски бил,
За страну родную голову сложил.

*Запісаў Анатоль Барыс у 1963 г. на х. Струменне Рускасельскага сельсавета Вілейскага раёна ад Альжбеты Каркоткі, 1906 г. нар.*

# Прыпеўкі і песні беларускіх калгаснікаў

## Прыпеўкі

З неба зорачка ўпала
Брыгадзіру на рамень.
Брыгадзіра любіць можна:
Ён запіша працадзень.

А што гэта за сяло,
Што мне так тут весяло?
Хачу хлопца тут знайсці,
Каб сюды замуж пайсці.

Скора, скора 7 нядзель,
Дадуць мілому шынель,
Шапачку ваенную,
Пакіне мяне бедную.

Палюбіла лётчыка,
Думала — лятае.
Прыходжу на аэрадром,
А ён падмятае.

Я любіла лейтэнанта,
Падышоў ка мне маёр,
Пакуль звёздачкі лічыла,
Лейтэнант пайшоў з другой.

Ты пад акном не стой
Да самай раніцы.
Я не пайду з табой:
Ты горкі п'яніца.

Пакахала лейтэнанта,
А пасля палітрука.
А пасля і вышэй і вышэй —
Дабралась да пастуха.

Высока мілы лятае,
Крылом неба дастае.
Харашо мілы ласкае,
Толькі замуж не бярэ.

Мілы мой! Пайдзём дамой,
Ідзем, мая карціначка.
Цябе ў салдаты забіраюць —
Астанусь сіраціначкай.

Дазволь, татачка, жаніцца,
Дазволь узяць каго хачу.
Не дазволіш добрай воляй —
З любай у горад укачу.

*Запісана ў 1976 г. у г. Кобрыне.*

А ў дулі — дзве зязюлі,
А ў вішні салавей.
Як увіджу свайго мілога,
Мне на сэрцы весялей.

Дайце з горачкі скаціцца,
З ручайка вады напіцца.
Дайце з міленькім сыйсціся —
Пра любоў нагаварыць.

*Запісана ў 1970 г. у в. Клявіца Ашмянскага раёна ад Ядвісі Доваль.*

Запаліце лучыначку,
Дайце асвяціцца.
Сам не знаю, з кім гуляю,
Хаця б не забыцца.

За ракой сабачка брэшыць,
Маленькі, удаленькі.
Мяне дзевачкі ня любяць,
Што я небагаценькі.

Хораша тады купацца,
Як вада сагрэецца.
Хораша й з тым кахацца,
Як з салдатаў верніцца.

Скора, скора я паеду
Пад Варшаву ваяваць.
Пакідаю свайго мілку
Селядцамі гандляваць.

Да здалі мяне ў салдаты,
Заганяюць у самы зад.
Ты чакай, мая мілая,
Цераз тры гады назад.

Ой, мілашка мая,
Ужо мяне здалі.
Не садзіся ля мяне
Не задавай жалі.

Сыграйце мне, музыкі.
Вясёлую полячку.
Паследні раз бяру гуляць
Сваю чарнабровачку.

Здалі, здалі, запісалі,
Здалі ў кавалерыю.
Далі шапачку-японачку,
Шабельку халерную.

Здалі, здалі, запісалі,
За каго буду служыць?
Каб сказалі: «За мілую» —
Перастаў бы я тужыць.

Знаю, знаю, мой міленькі,
Чаму цябе не здалі?
Па здароўю бракавалі,
І даляры памаглі.

А чым, чым я не салдат?
Чым я забракаваны?
Рукі, ногі ў кандалах
Да сцяны прыкованы.

Давай, мілка, забастуем,
Тваю юбку прададзім.
Галіфэ маёаставім.
У пастарунку пасядзім.

А мой мілы хіцер, хіцер.
На машынку сеў ды ў Піцер.
Як я бліжэй падышла —
Машына свіснула і пайшла.

Далоў цара! Далоў цара!
Далоў цара з царыцаю!
А яшчэ далоў, далоў
Ды польскую паліцыю.

Гітлер лапці пляцець,
Герынг падплятаіць,
Гебельс лапці прадаець,
Капітал складаіць.

— А матулечка, што гэта
за гульня?
Чаму падымаецца
кашулечка мая?
— А ў матулі рускі
поп начаваў,
Дурэючы, ён палок паламаў.

Гаворaць, платкі — разлука,
Я мілому два дала.
Не платкі нас разлучаюць,
А няшчасная вайна.

*Прыпеўкі запісаў у 1963 г. А.В. Барыс ад сваёй маці Соф'і Барыс.*

# Прыпеўкі калгаснікаў 1950-х гадоў

Едзіць Гітлер на машыне,
Едзіць Сталін на быку.
— Куды едзеш чорт пузаты
(*вусаты*)?
— У Расею па муку.

Украіначка хлебаробная,
Польшчы хлеб прадала —
Сама галодная.

Сядзела баба на раллі
І лічыла працадні.
—Працадзень, працадзень,
Дай мне хлеба хоць на дзень.

У калгас ішла —
спадніца новая,
А з калхозу ішла —
жопа голая.
У калхоз ішла абуўшысь,
А з калхозу басіком.
Мех азадкаў зарабіла
За ўсё лета з мужыком.

Брыгадзіру падгадзіла,
Прэдседацелю дала.
На работу не хадзіла
І стаханаўкай была.

У калгасе добра жыць:
Адзін робіць — сем ляжыць.
А як сонца прыпячэць,
Дык і той уцячэць.

Самагоначку мы гонім,
Самагоначку мы п'ём.
Апараты забіраюць,
А мы новыя куём.

Не вядзі мяне ў агрэст,
Бо я абкалюся.
Вядзі мяне ў лебяду —
Сама загалюся.

Салавей мой, салавей,
Што на свеце саладзей?
А ці цукар, ці мядок,
А ці ў дзеўкі перадок?

Чаго ты, Ванька, ганарышся?
Як ты, Янка, не садзіся
Ты нікуды не гадзіся —
Ні ў салдаты, ні ў матросы,
Толькі змазываць калёсы.

*Запісаў С. В. Барыс у в. Касічы Вілейскага раёна. Спявалі жанчыны на вечарынках у 1950 — 1960-х гадах.*

Гарманіст, гарманіст.
Выходзі на бугарок.
Прынясі буханку хлеба
І бульбачкі кацялок.

Лейценанты, лейценанты,
Як жа вы ваюеце?
Ад вёскі і да вёскі
Ўсіх дзяўчат цалуеце.

У мяне новая спадніца,
Пад спадніцаю ларок.
Паглядзіце, лейценанты,
Самы лепшы там паёк.

*Запісана студэнтамі ў 1976 г. на Брэстчыне.*

Мяне мілы правадзіў
Да зялёненькіх рабін.
Усіх трацкістаў корні знішчым,
Не застанецца ні адзін.

*(Правда истории: Память и боль / Сост. Н. М. Жилинский, Мн., 1991. С. 49.)*

Ой, мамачка, я прапала —
Любіць мяне, хто папала,
І рускія, і палякі,
І ўсякія пабасцякі...

Ленін у туфельках хадзіў,
Людзей па сухенькім вадзіў,
А як Сталін абуў боты,
Дык павёў людзей у балоты.

Дзякуй мудраму грузіну,
Што абуў нас у рызіну.
Будзем Амерыку прасіць,
Каб рэзіну не насіць.

Устань, Ленін, падзівіся
Як калгасы разжыліся:
Пуня ракам, хата бокам
І кабыла з адным вокам.

У калгас дарога проста,
А з калгасу касяком.
У калгас ішоў абуты,
А з калгасу басіком.

Ганьба Гітлеру Адольфу,
Што абуў ён нас у вольху.
Дзякую Сталіну-грузіну,
Што абуў нас у рызіну*

Я раней быў басяком
Па кішэннай часці,
А цяпер я — камісар
Пры савецкай уласці.

Камсамольцы чыста ходзюць —
Як бы іх не замараць.
Нашы дзеўкі рукі мыюць,
З камсамольцамі гуляць.

Ой, ты, мая Домна,
Прыйдзі ка мне цёмна.
Твая ступа, мой таўкач —
Будзем крупы абтаўкаць.

Я бывала заўлякала
То Ярому, то Фаму.
А цяпер я заўлякаю
Начальніка ГПУ.

*Запісаў паэт Рыгор Барадулін.*

*(Барадулін Р. / Збор твораў. Т.4. Мн., 2002. С. 348, 349; Самота паломніцтва. Мн., 1990. С. 15 — 54.)*

---

** Пры фашысцкай акупацыі насілі дзеравяшкі (абутак з драўлянай падошвай), а пасля вайны рабілі бахілы — абутак з аўтамабільных шын («покрышек»).*

# Пайшла Дуня ў агарод

Пайшла Дуня ў агарод,
Буракоў накрала, (2 разы)
Водачкі нагнала.
Дуні водка ўдалася (2 разы)
Уся брыгада напілася.
Брыгадзір, заліўшы вочы, (2 разы)
Ён не відзіць дзе рабочы.
Заатэхнік як набраўся, (3 разы)
І з даяркамі падраўся.
Быў там разам прадсядацель (3 разы)
І з райкома засядацель.
І міліцыя была, (3 разы)
Самагоначку піла.
Іх зазвалі на бюро (3 разы)
І нікому не было.
Трэба Дуні прэмя даць, (2 разы)
Што ўмеіць водку гнаць.

*Запісаў С. В. Барыс у 1970 г. у в. Гядуны Юргелянскага сельсавета Эйшышскага раёна ад Юзэфы Плюст (1919 г. нар.) і Яніны Мотус (1940 г. нар.). У Вілейскім раёне была вядома песня «Звеннявой Дуня была» (варыянт гэтай). Адну жанчыну за выкананне такой песні адправілі ў лагер на 5 гадоў за паклёп на савецкі лад.*



*Вакальна-інструментальны ансамбль «Крупіцкія музыкі»*

# Турэмныя і разбойніцкія песні

## Спяіце, таварышы, песню маю

Спяіце, таварышы, песню мою.
Загінуў Арсенька ў польскім краю.
Судзьбу мне такую назначыла маць.
Загінуў я за дзевак, нягодных дзяўчат.
Дзве дзеўкі — зладзейкі згубілі мяне,
Няпраўду сказалі суддзі на мяне.

Наш бедны Арсенька сіроткаю быў,
Па смерці яго ды ніхто не тужыў.
На ўказанае месца Арсеньку вялі,
Сказалі: «Скідай жа з сябе кандалы».
На ўказаным месцы Арсенька стаяў,
Па беламу свету так цяжка рыдаў.

— Спявайце, таварышы, песню маю,
Што бедны Арсенька прапаў за нішто.
Дзве дзеўкі — зладзейкі здрадзілі мне,
Няпраўду сказалі суддзі на мяне.

І штык жа сагнуўся, грудзей не прабіў,
Напэўна, што суд за няпраўду садзіў.
А куля-зладзейка прабіла мне грудзь —
Загінуў Арсенька, прапаў назаўжды.
Аднойчы гулянню прыходзіць канец —
Дзве дзеўкі-зладзекі не ідуць пад вянец.

*Запісаў С. В. Барыс у 1962 г. ад Соф'і Барыс.*

## Усе бутылкі шавяляцца

Усе бутылкі шавяляцца,
Усе стаканы гавараць.
Усе людзі весяляцца, (2 разы)
А я молад у цюрме.
Нічога ў цюрме не слышна,
Нічога там не чуваць.
Толькі слышна звон ключыны, (2 разы)
Ключнік камеру адкрыў.
Ключнік камеру адкрываіць,
Пісар з кнігаю ідзець.
Сюды, сюды, сын крэсцьянскі,
Сюды, сюды суд цябе завець. (2 разы)
Як я выйшаў на крылечка,
Нехта крыкнуў: «Дзева, стой!»
Як я выйшаў за вароты,
Акружыў мяне канвой. (2 разы)
— Ох вы, суддзі, мае суддзі,
Нашто мяне судзіце?
Я душу не загубіў,
Нашто смяне мучыце? (2 разы)
Мяне на судзе асудзілі
На тры доўгія гады.
А ў цямніцы закавалі
У цяжкія кайданы. (2 разы)
— Ой вы, птушкі-канарэйкі,
Не лятайце высако.
Занясіце маёй маме,
Што ссылаюць далеко. (2 разы)
Ой вы, птушкі-канарэйкі,
Не садзіцесь на дзвярах.
Занясіце маёй маме,
Што закуты ў кайданах. (2 разы)

*Запісаў Анатоль Барыс у 1962 г. ад Соф'і Барыс.*

## Туман, туман па даліне

Туман, туман па даліне —
Шырок лісток на каліне.
Яшчэ шырэй на дубочку —
Плачыць дзеўка ў церамочку.
Запрагу я каня ў санкі,
Сам паеду да каханкі.

Еду поле і другое,
На трэцяе ўз'езджаю.
Разбойнічкі ўстракаюць,
Разбойнічкі ўстрачаюць,
Майго каня адбіраюць,
Мяне, малойца, убіваюць.
— Разбойнічкі, братцы мае,
Што хаціце вазьміце,
Толькі мяне не губіце.

Каня майго ўзялі,
А мяне малойца не чапалі.
Каня возьмуць — другі будзіць,
А мяне заб'юць — мяне не будзіць.



*Спявачкі Вера Шклярова (злева) і Ганна Плоткіна*

*Запісаў Сымон Барыс 26 ліпеня 1963 года ад непісьменнай Веры Дзямідаўны Шкляровай (1912 г. нар.), з в. Сальнікі Палёнкаўскага сельсавета Горацкага раёна.*

## Мать принесла сыну передачу

В воскресенье мать-старушка
К воротам тюрьмы пришла,
В узелке родному сыну
Передачу принесла.

— Передайте хлеб сыночку,
А то люди говорят,
Что в тюрьме всех заключенных
Сильно голодом морят!

Усмехнулся надзиратель
И, подумавши, сказал:
— Твой сыночек прошедшей ночью
На покой уже ушел.

Твоего сыночка расстреляли
У тюремной, у стены.
А как приговор читали —
Слыхали звёздочки одни.

Пошатнулась старушка,
От ворот тюрьмы пошла
И никто того не знает,
Что в груди она несла.

*Запісана ў 1976 г. у г. Лунінец ад Ганны Кацубы.*

## Пройдет зима, настанет лето

Пройдет зима, настанет лето,
В садах цветочки расцветут,
А мне бедняжку той порою
Железом ножки закуют,
В Сибирь на каторгу сошлют.

А приведут меня в деревню,
Начальник спросит: «Кто таков?»
— А я скажу, что я бродяга,
Не знаю родины своей.
Я назову себя бродягой,
Не знаю родины своей.

*Запісаў Анатоль Барыс у 1963 г. ад Соф'і Барыс.*

## Злые люди завидовать стали

Злые люди завидовать стали,
Что судьба нас так рано свела.
А мы горя с тобою не знали,
Полюбила ты крепко меня.

Полюбить ты меня, полюбила,
Приласкать не умела меня.
Жить, сойтися с судьбою хотела,
Поздно было, голубка моя.

Я по свете, как сокол, скитался —
Всё добычу себе я искал.
Воровством, грабежом занимался
И теперь за решетку попал.

За решеткой сижу и мечтаю,
Как вернуться весёлому мне.
Часто, милка, тебя вспоминаю,
Как прощался с тобой на зоре.

И так крепко, так крепко рыдаю,
Что приходится редко встречать.
Я вернусь домой — твердо знаю,
И прошу тебя меня ждать.

*Запісаў Анатоль Барыс у 1962 г. ад Соф'і Барыс.*

# Шырока наша дзярэўня

Шырока наша дзярэўня,
Толькі вуліца гразна.
Харашы нашы рабяты,
Толькі славушка худа.

Называюць нас варамі,
Усё разбойнічкамі.
Мы не воры, не зладзеі,
Не разбойнічкі былі.

Мы лавілі шчуку-рыбу
На сухому беражку.
Як закінулі мы сеці
Да за дзядзюшкі клець.
А ў дзядзюшкі Петра
Мы злавілі асетра,
Яго сівога каня,
Сівагрывую кабылу
І рабое жарабя.

Павялі іх прадаваць,
Сабе дзеньгі палучаць,
Сабе дзеньгі палучаць,
Па дзявіцы нанімаць.

*Запісана ў 1976 г. у г. Лунінец ад Ганны Кацубы.*

# Звенел звонок на счет проверки

Звенел звонок на счет проверки:
Ланцал (*вор*) задумал убежать.
Не стал зори он дожидаться,
Проворно стал он печь ломать.

Тесной (*печной*) трубою он пробрался.
На тот высокий на чердак.
По чердаке он долго шлялся,
Себе веревочку искал.

Нашел веревку, стал спускаться,
Часовой заметил — выстрел дал.
— Я к вашей милости с докладом:
Ланцал с-под замка убежал.

Бежал, бежал большой дорогой,
Потом свернул он [illegible] темный лес.
По лесу три года он шлялся,
Что хотел, то пил и ел.

С травы росою умывался,
Молился Богу на восток.
С московской барышней сознался,
Опять он в тюрьмицу попал.

*Запісаў Сцяпан Прохаравіч Бойка ў 1976 г. у в. Сітніцкі Двор Лунінецкага раёна ад Евы Іосіфаўны Ляўковіч, 1919 г. нар.*

## Ой ты, доля, злая доля

Ой ты, доля, злая доля,
Доля горкая мая!
Да чаго ж ты, злая доля,
Да Сібіру давяла?

Ці за п'янства, шпікулянства?
Ці за хрысціянска обшчаства?
Ні за п'янства, шпікулянства,
А за хрысціянска обшчаства.

Вось як выйшаў такі прыказ:
Сталі подаці збіраць
Вось паследнюю скаціну
За без цаны забіраць.

Вот як выйшаў я з цярпення —
Узяў урадніка забіў,
А за гэта праступленне
Суд мяне катаржны судзіў.

Пасадзілі на тры года.
Сядзець мушу ўсё раўно.
Цюрма цёмна, цюрма сыра,
Дай нічога не відно!

Ох вы, цэпі, мае цэпі!
Вы стальныя стаража!
Не як сарваць вас, не зламаці —
Доля горкая мая.

*Запісаў Сцяпан Прохаравіч Бойка ў 1976 г. з в. Сітніцкі Двор Лунінецкага раёна ад Евы Іосіфаўны Ляўковіч, 1919 г. нар.*

## Па віленскім саду гуляў

Па віленскім саду гуляў,
Красоткай любаваўся.
У Вілейскую цюрму папаў,
Чаго не спадзяваўся. (2 разы)

У Вілейскай цюрме сяджу
З пабрытай галавою.
Цяжкія кайдалы нашу,
Нашу перад сабою. (2 разы)

Айцец мой стары слёзы льецъ
І маць пра тое не знаіць,
Што сын яе ў Лукішкі ідзець
І родзіну брасаіць. (2 разы)

У Вілейскай я цюрме сяджу
І песні распяваю,
А справа ў акружным судзе
Чым кончыцца — не знаю. (2 разы)

Там сведак многа, прысяжных,
І судзяць пракуроры.
Чым будзе хлопец вінават,
Аб'яваць у прыгаворы. (2 разы)

Далей Лукішак не сашлюць,
Усё там разузнаю.
Ізноў дадому я прыйду,
З сябрамі загуляю. (2 разы)

І я з друзьямі піў, гуляў,
Красоткамі любаваўся.
У Вілейскую цюрму папаў,
Чаго не спадзяваўся. (2 разы)

*Запісаў Анатоль Барыс у 1963 г. ад Соф'і Барыс. У горадзе Вілейка ад 1863 г. пры ўсіх уладах дзейнічала турма. Пасля таго, як у 1960 г. з турмы ўцяклі злачынцы, якія зрабілі падкоп, яе ў 1964 г. закрылі.*

## Усе кажуць мне, што я праступнік

Усе кажуць мне, што я праступнік.
Не забіваў я і не краў,
А за свабоду быў заступнік
І праз людзей у турму папаў.

Мяне на судзе асудзілі
На тры доўгія гады.
А ў цямніцы закавалі
У цяжкія кайдалы.

Чаму завеш мяне злачынцам?
Не забіваў я і не краў.
А для людзей быў дабрачынец
І першы раз у турму папаў.

*Запісаў С. В. Барыс у 1963 г. ад бацькі Вінцэся (Вікенція) Барыса, 1906 г. нар.*

*Гэту песню спявалі ў Заходняй Беларусі ў 1930-х гадах на рускай мове.*

# Песні воінаў-інтэрнацыяналістаў («афганцаў»)

## Этот мир без тебя

*Слова и музыка И. Морозова*

Этот мир без тебя — просто голые скалы.
От палящего солнца не спрятаться в тень.
Здесь душманские БУРы стерегут перевалы,
И в тревожные рассветах рождается день.

Этот мир без тебя перечёркнут ракетой,
И погибшим друзьям не закончился счёт.
Здесь измерена жизнь пулемётною лентой,
Караванной тропою и чем-то ещё.

Этот мир без тебя. После рейда — усталость.
Недописанных писем скупые слова.
Здесь в серцах уживаются ярость и жалость,
И по-прежнему в душах надежда жива.

Этот мир без тебя неизменен и вечен,
Мир нежданных разлук и случайных встреч.
Здесь ремни автоматов врезаются в плечи,
И звучит иностранная странная речь.

Этот мир без тебя, он расколот войною.
Эхо выстрелов скачет по склонам крутым.
Этот мир без тебя всё же полон тобою.
И становишься ближе далёкая ты.

*(Беларускі гістарычны часопіс. 2011, №1. С. 73.)*

# Кукушка

*Слова Ю. Кирсанова, В. Кочеткова*
*Музыка Ю.Кирсанова*

Снится часто мне мой дом родной.
Лес о чем то о своем мечтает.
Серая кукушка за рекой,
Сколько жить осталось мне, считает.
Серая кукушка за рекой,
Сколько жить осталось мне, считает.

Ты прижался ласково к цветку,
Стебелек багульника примятый.
И звучит ленивое «ку-ку»,
Отмеряя жизни моей даты.
И звучит ленивое «ку-ку»,
Отмеряя жизни моей даты.

Снится мне опушка из цветов.
Вся в рябине тихая опушка.
Восемьдесят... Девяносто... Сто...
Что ты так расщедрилась, кукушка?
Восемьдесят... Девяносто... Сто...
Что ты так расщедрилась, кукушка?

Я тоскую по родной стране,
По ее рассветам и закатам.
На афганской выжженной земле
Спят тревожно русские солдаты.
На афганской выжженной земле
Спят тревожно русские солдаты.

Они тратят силы, не скупясь,
Им знакомы холод и усталость.
Дни свои не копят про запас.
Кто им скажет, сколько их осталось...
Дни свои не копят про запас.
Кто им скажет, сколько их осталось...

Так что ты, кукушка, погоди
Мне дарить чужую долю чью-то.
У солдата вечность впереди,
Ты ее со старостью не путай.
У солдата вечность впереди,
Ты ее со старостью не путай.

*(Беларускі гістарычны часопіс. 2011, №1. С. 71.)*

# Чёрный тюльпан

*Слова и музыка Александра Розенбаума*

В Афганистане, ■ »черном тюльпане»,
С водкой ■ стакане мы молча плывем над землей.
Скорбная птица через границу
К русским зарницам несет ребятишек домой.

В «черном тюльпане» те, кто с заданий,
Едут на родину милую ■ землю залечь.
В отпуск бессрочный, рваные в клочья,
Им никогда, никогда не обнять теплых плеч.

*Припев:*

Когда в оазисы Джеллалабада
Свалившись на крыло, «тюльпан» наш падал.
Мы проклинали все свою работу:
— Опять «бача» подвел потерей роту.
В Шинданде, Кандагаре и Баграме
Опять на душу класть тяжелый камень,
Опять нести на Родину героев,
Которым ■ 20 лет могилы роют,
Которым ■ 20 лет могилы роют.

Но надо подняться, надо собраться.
Если сломаться, то можно нарваться и тут.
Горы стреляют, «Стингер» взлетает.
Если сломаться, то парни второй раз умрут.

*Припев:*

А мы идем совсем не так, как дома,
Где нет войны и всё давно знакомо.
Где трупы видят раз в году пилоты,
Где с облаков не валят вертолеты.
И мы идем, от гнева стиснув зубы,
Сухие водкой смачивая губы.
Идут из Пакистана караваны
А, значит, есть работа для «тюльпана»
И, значит, есть работа для «тюльпана».

В Афганистане, в «черном тюльпане»,
С водкой в стакане мы молча плывем над землей.
Скорбная птица через границу
К русским зарницам несет наших братьев домой.

*Припев:*

Когда в оазисы Джеллалабада,
Свалившись на крыло, «тюльпан» наш падал,
Мы проклинали все свою работу:
— Опять пацан подвел потерей роту.
В Шинданде, Кандагаре и Баграме
Опять на душу класть тяжелый камень,
Опять нести на родину героев,
Которым в 20 лет могилы роют,
Которым в 20 лет могилы роют.

*(Беларускі гістарычны часопіс. 2011, №1. С. 72, 73.)*

# Чужая вайна

*Словы Івана.Цітаўца*
*Музыка Алега Чыркуна*

Як памяць спакой мой узрушыць,
Былое вяртаецца зноў.
На чорнай гары Гіндукуша
Мая пралівалася кроў.

У пекле афганскага віру
Пазнаў я спякоту і дым.
Ды Бог мяне мілаваў шчыра —
Вярнуўся дадому жывым.

*Прыпеў:*

Не белыя гусі маёй Беларусі
На землях афганскіх пра вырай крычаць.
Салдацкія душы ад гор Гіндукуша
У вэлюме чорным у вечнасць ляцяць.

Замоўклі гарматы і кулі
Чужой невядомай вайны.
Чакаюць сыночкаў матулі,
Да скону чакаюць яны.

А тыя — нібыта святыя —
Глядзяць з глыбіні камянёў.
Ніколі яны, маладыя,
Не дойдуць да родных двароў.

*Прыпеў.*

*(Цітавец І. Ёсць любоў у мяне...*
*Зборнік песень. Мн., 1999. С. 283.)*



*Алег Чыркун*

# Афганистан

*Слова Григория Соколовского*
*Музыка Игоря Лученка*

Когда весною зацветут тюльпаны
В родимой белорусской стороне.
Вновь кажется, что мы [redacted] Афганистане
На той кровавой, проклятой войне...
Афганистан! Афганистан!

Кричат израненные души.
Мы навсегда остались там,
В предгорьях жёлтых Гиндукуша.
Афганистан! Афганистан!

Сердца пронизанные болью,
Давно уже для нас ты стал
Печалью чёрной и любовью, —
Афганистан!

*Папулярная песня беларускіх «афганцаў». (Липский В. Игорь Лученок. Мелодия души. Мн., 2008. С. 198.)*

# Панама

*Словы Аркадзя Пецязя*
*Музыка Ігара Завацкага*

Эх, панамачка, панама!
Ты ад спёкі выручала!
Узамеж табе афганка
У страі стаяла.
Ты пад каскаю пацела
І заўжды ў час бою
Прыкрывала наша цела,
Быццам бы рукою.
У музеі табе шчэ рана,
Павісі дастойна,
Мая верная панама,
У кватэры воіна.

***Песня ўдзельніка савецка-афганскай вайны складзена ў Беларусі пасля вайны. Надрукавана ў кнізе «Афганістан мне сніцца, сніцца, сніцца» (Мн., 2009. С. 86).***

# Песні, прысвечаныя чарнобыльскай катастрофе

## Звіняць званы

*Словы І. Цітаўца*
*Музыка У. Будніка*

Шалёны джын, як змей магутны,
Падняў рэактара муры.
Смяротным попелам атрутным
Накрыў палеткі і двары.
Кіпеў метал, смала гарэла,
І дзіка стомлены пілот
Трымаў рычаг рукой знямелай,
Кідаў у пекла верталёт.

*Прыпеў:*

Сталее боль урокаў горкіх,
І паказухі, і маны.
Звіняць званы, як памяць мёртвым.
Завуць да роздуму жывых.
Звіняць званы.
Звіняць званы.
Завуць да роздуму яны.

Не моўкнуць стогны і праклёны.
За ўсё плаціць прыйшла пара:
За ўсё, што зроблена казённа,
За ўсё, што зроблена на «ўра».

І чорнай быллю застанецца
Бяды чарнобыльскай зіма.
І гора горка пасмяецца,
Дзе вечна крайняга няма.

*Прыпеў.*

*(Цітавец І. Ёсць любоў у мяне... С. 37.)*



*Іван Цітавец*

## Чарнобыльскі шлях

*Верш Аляксея Марачкіна*
*Музыка Кастуся Герашчанкі*

Сёньня — самотны настрой.
Сёньня ў душы маёй смутак.
Настрой — што гаркавы настой
Нашай бяды й пакуты.

Сёньня — Чарнобыльскі шлях.
Сёння — стаім у маўчанні.
Слёзы на нашых вачах.
Хтось не дажыў да світаньня.

Божа! За што такі лёс!
Божа! Хто ў тым вінаваты?
Хто ж на нас пошасьць прынёс?
Хто разбурыў нашы хаты?

Ведаем кожнага ў твар.
Ім паратунку не будзе.
Бачыш, на небе пажар.
Бачыш, ідуць нашы людзі.

Божая маці, даруй
І захіні нашых дзетак.
Цяжка адольваць гару
Сьцежкай, дзе церні.
Без кветак.

*2002 г.*

*Песню выконвае народны вакальны гурт «Пліса» (кіраўнік К. Герашчанка) са Смалявічаў.*

## Палеская зона

*(Трыпціх)*

*Словы Івана Цітаўца*
*Музыка Уладзіміра Будніка*

Палеская зона маўклiва,
Тут спеў чалавечы душу не кране.
І толькі здзічэлы сабака жахліва,
Як цень, па дварах мільгане.

Па вузкіх сцяжынках планеты
Пайшлі жыхары ад абжытых мясцін.
І паліць ім сэрцы зімою і летам
Аб родных кутках успамін.

О, мілая Маці-Радзіма,
Як моцны, як вабны твае карані!
Якою высокай, магутнаю сілай
Прыцягваюць сэрцы яны.

Ад дзён нараджэння да скону
Дзяды і бацькі тут спрадвеку жылі.
І крочыць бабулька ў «мёртвую зону» —
Памерці на роднай зямлі.

А ў вымерлых хатах Палесся
Калючы вятрыска гайдае палын,
Ды сумам балючым ірве паднябессе
Гусей адлятаючых клін.

*(Цітавец І. Ёсць любоў у мяне... С. 30, 31.)*

## Ад Чарнобыля холадам вее

*Словы Івана Цітаўца*
*Музыка Уладзіміра Будніка*

Ад Чарнобыля холадам вее.
Кроў дзіцячую смокча мароз.
Галава нібы лунь пасівее,
І аслепне матуля ад слёз.

Пасталеюць дзіцячыя твары
У няволі бальнічных палат.
І пагаснуць ружовыя мары
У азёрах жывых вачанят.

Адлятаюць імгненні няўпынна.
Адраджае зямля ўсё сама.
Толькі край той здзічэлы, пустынны
Не загоіць стагоддзем яна.

Невідзімкай мяцеліцы злыя
Рассяваюць пакутную смерць.
Так аблятаюць пялёсткі жывыя,
Не паспеўшы ў пару расквітнець.

*(Цітавец І. Ёсць любоў у мяне... Зборнік песень. Мн., 1999. С. 35, 36.)*

*Як жыла і жывеш, будзеш жыць, Беларушчына:*
*Зразумеў і ўспомніў цябе твой мільённы народ.*
Янка Купала. Беларушчына

# Беларускія гімны

## Беларускія сімвалы і гімны

Беларусы, як і іншыя народы, абралі сабе сімвалы. З птушак яны спадабалі сабе белага бусла з чырвонымі нагамі. Бусел — любімая птушка беларусаў. Буслы таксама палюбілі Беларусь. Яны на поўначы, далей беларускіх этнічных межаў не гняздзяцца. Беларусы зжыліся з бусламі. Яны шануюць іх, што і адлюстравалі ў сваім фальклоры. Магчыма, нашыя далёкія продкі зьявіліся тут разам з бусламі ды разлучаюцца зь імі толькі на зіму. А сустракаюць у нас бусла на Дабравешчаньне. Лічаць яго царом птушак і таму называюць «бацян» і «буська». Заўважым, што словы *бацян і бацька* маюць адзін корань. У нас шмат такіх і прозвішчаў: Бацян, Буська, Бусел, Бусловіч. Можа, таму й сваю незалежнасьць БНР аб'явілі ў сьвяточны дзень, на Дабравешчаньне — 25 сакавіка, калі з выраю вяртаюцца буслы. Але больш за ўсё буслы паважаюць наша Палесьсе, дзе яны селяцца на хлявох і воданапорных вежах. Сяляне там зацягваюць на стрэхі хлявоў і гумнаў старыя бароны, каб яны паслужылі асновай для гнязда любімай птушкі.

Са зьвяроў сімвалам Беларусі зьяўляецца зубар, які цяпер гадуецца толькі ў Белавежскай пушчы, якая ў Беларусі й Польшчы. А з дрэваў? Безумоўна, дуб-волат, бо беларусы, як тыя даўнія велічныя дубы, мала думаюць, але цьвёрда стаяць на пясчанай зямлі й выжываюць, якія б не былі віхуры. Мо' з тае нагоды сваю сялянскую партызанскую арганізацыю ў часы барацьбы за незалежнасьць у 1918–1920-я гады яны назвалі «Зялёны Дуб». У беларускіх народных песьнях апеты клён-явар, каліна ды бяроза. А ўспомніце нашу песьню «Ой, бярозы ды сосны...» Янка Купала падслухаў, як «шэпчуцца явар з калінаю». Уладзімер Дубоўка, якога не зламалі й не загубілі сібірскія лягеры, спадабаў шыпшыну, хоць яна й нагадвала яму ды беларусам пра бальшавіцкія колеры Дзяржаўнага сьцяга БССР. Ён радаваўся тым, што мы маем хоць залежную савецкую, але нацыянальную дзяржаўнасьць Беларусі.

Сярод пакаёвых кветак, якія маюць нашыя нацыянальныя колеры, выбар зусім невялікі. Магу назваць мураю («рабінка»), якая цьвіце

белым колерам і дае чырвоныя зьядобныя ягады, клерадэндрум Томсана («беларускі сьцяг» — цьвіце бела-чырвоным колерам) ды бальзамін («панскае жыцьцё»).

Беларускія нацыянальныя колеры — чырвонае на белым. Яны нам дасталіся ад бацькоў і прадзедаў. Наш беларускі арнамент (крыжыкі, ромбы, кругі) мы бачым на нашых ручніках, абрусох, навалачках, падзорах, кашулях і каўнярох, фартухох і нават на верхняй вопратцы. Нацыянальныя колеры беларусаў — на гербе «Пагоня», які быў уведзены ў карыстаньне яшчэ пры вялікім князю літоўскім Віценю каля 1293 г. Герб «Пагоня» — гэта выява коньніка зь мячом і чырвоным шчытом на белым кані. Меч узняты й гатовы для таго, каб абараніць сваю Радзіму, свой народ. У старажытныя часы пагоня аб'яўлялася тады, калі ўзьнікала неабходнасьць адбіць ад захопнікаў нашых суродзічаў, узятых у палон, і нарабаванае імі дабро.

Галоўны сьцяг ВКЛ у XVI—XVIII стст. — гэта вялікая чатырохкутная харугва чырвонай кітайкі, у сярэдзіне герб «Пагоня» — узброены рыцар на кані белым, зверху княжацкая карона. На другім баку сьцяга — тры слупы (герб «Калюмны») у полі чырвоным або выява Багародзіцы Марыі з дзіцём Хрыстом. Харугву найвышэйшага гетмана ВКЛ таксама ўпрыгожваў герб «Пагоня» ў чырвоным полі. Паводле сусьветнай хронікі М. Бельскага, звычайна герб ВКЛ зьмяшчаўся ў чырвоным полі ва ўсіх ваяводзствах, апрача Полацкага й Менскага, дзе Пагоня была ў белым полі. Дзяржаўны герб «Пагоня» быў сімвалам незалежнасьці ВКЛ. Нават пасля далучэньня да Расійскай імпэрыі ён увайшоў у склад Вялікага гербоўніка Расійскай імпэрыі. «Пагоня» — Дзяржаўны герб Беларускае Народнае Рэспублікі й Рэспублікі Беларусь у 1991–1995 гадох.

Наш нацыянальны сьцяг зьявіўся недзе ў час паўстаньня Кастуся Каліноўскага*. Аднак як вымпелы ваяроў і сьцягі харугваў ён фіксуецца ўжо з часоў Аршанскай бітвы 1514 г. Яны паказаны на карціне Яна Матэйкі «Аршанская бітва». У часы сярэднявечча, калі змагаліся мячамі й дзідамі ды прыкрываліся шчытамі, герб «Пагоня» на шчыце ды бела-чырвона-белыя вымпелы на дзідах былі галоўнымі прыкметамі адрозненьня свайго ваяра ад чужога.

У 1917–1918 гадох бела-чырвона-белымі сьцягамі карысталіся ўсе беларускія нацыянальныя арганізацыі. Эскіз нацыянальнага Дзяржаўнага сьцяга БНР у 1918 г. распрацаваў Клаўдзій Дуж-Душэўскі. У 1941–1944 гадох беларускія арганізацыі на акупіраванай немцамі тэрыторыі карысталіся нацыянальнымі сімваламі: гербам «Пагоня» й бела-чырвона-белым сьцягам. Акупанты такім

---

** У Віленскім гісторыка-этнаграфічным музеі знаходзіцца тагачасны трохкутны сьцяжок, у якім у сярэдзінне, уздоўж белага поля, праведзена чырвоная паласа.*

чынам у процівагу расейскім савецкім бальшавікам, не забаранялі нацыянальныя сімвалы, бо яны ім мала заміналі. Для іх было галоўнае, каб беларусы ставіліся да немцаў як да хаўрусьнікаў. У 1945 г., калі Беларускую ССР, прымалі ў склад ААН, спатрэбіўся й Дзяржаўны сьцяг БССР. Пры яго распрацоўцы былі ўлічаны нацыянальныя колеры — каля дрэўка зьявіліся нацыянальныя ўзоры. Да рэвалюцыйнага чырвонага сьцяга дабавілі ўнізе прадольную зялёную паласу. Дарэчы распрацаваў яго рускі мастак М. Гусеў, а нацыянальны ўзор ён узяў з ручніка, зробленага ў вёсцы Касьцілішча Сенненскага раёна сялянкай Матронай Маркевіч у 1917 г. Аднак узор быў перайначаны — паказаны белы на чырвоным.

Дзяржаўны герб БССР некалькі разоў зьмяняўся. Зьмест яго ў многім нагадваў Дзяржаўны герб СССР. На стужках Дзяржаўнага гербу БССР надпісы «Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!» былі зроблены ў 1920-х гадох на беларускай, рускай, габрэйскай і польскай мовах. Пасьля прыняцьця Канстытуцыі БССР у 1937 г. надпісы на Дзяржаўным гербе БССР засталіся на дзьвюх мовах: па-беларуску й па-руску. У 1995 г. у адпаведнасьці з праведзеным Рэспубліканскім рэферэндумам у Беларусі прыняты сучасныя Дзяржаўны герб Рэспублікі Бекларусь і Дзяржаўны сьцяг Рэспублікі Беларусь. Адзначым, што сваім зьместам яны шмат у чым паўтараюць дзяржаўныя сімвалы БССР. На сучасным Дзяржаўным сьцягу Рэспублікі Беларусь пасьля выступленьня мастацтвазнаўцы Марыі Жабінскай у газеце «Звязда» ў 1995 г. беларускі ўзор каля дрэўка стаў нацыянальны — чырвоны на белым палатне.

Зьменены й Дзяржаўны гімн БССР «Мы, беларусы з братняю Руссю» (музыка Несьцера Сакалоўскага, словы Міхася Клімковіча), які быў зацьверджаны ўказам Прэзідыуму Вярхоўнага Савету БССР 24 верасьня 1955 г. Тэкст сучаснага Дзяржаўнага гімну Рэспублікі Беларусь «Мы, беларусы — мірныя людзі» быў дапрацаваны паэтам Уладзімерам Карызнам і быў афіцыйна зацьверджаны 2 ліпеня 2002 г.

Што датычыцца да беларускіх нацыянальных гімнаў, дык, магчыма, мы наперадзе многіх народаў. Чаму? Напэўна таму, што мы ў сваім фальклоры маем ня толькі шмат жаласьлівых сіроцкіх песень, а й многа песень віншавальных, валачобных і велічальных. Віншаваць і велічаць на вясельлях і хрэсьбінах — даўняя традыцыя беларусаў. Першы беларускі вайсковы духоўны гімн «Багародзіца» адносіцца да XIV ст. Яго словы на старабеларускай мове былі надрукаваны ў 1529 г. у Статуце Вялікага Княства Літоўскага.

Беларусы стварылі гімны ня толькі для сябе, але й для сваіх суседзяў. Першы расейскі гімн «Гром победы, раздавайся!» напісаў кампазітар Восіп Казлоўскі, а музыку «Марша Дамброўскага» (сучасны польскі гімн «Яшчэ польска не зьгінэла») — наш зямляк Міхал Клеафас Агінскі (вучань В. Казлоўскага).

Мы багатыя на таленавітых людзей. Шляхціц зь Вялейшчыны Піліп Орлік стаў украінскім дзяржаўным дзеячам і ў 1710 г. распрацаваў першую Украінскую Канстытуцыю. Яго імя ўвекавечана ў Вялейцы ў 2007 г. у назве вуліцы.

Стварэньне беларускага гімну зьвязана з паэтычнай дзейнасьцю Янкі Купалы. Яго вершы «А хто там ідзе?» й «Не загаснуць зоркі ў небе» — першыя прэтэндэнты для нацыянальнага гімну. Да другога верша музыку стварыў Мікалай Янчук. Песьня «Не загаснуць зоркі ў небе» была папулярнай сярод беларускай рэвалюцыйнай моладзі ў 1920-х гадох. Да верша Янкі Купалы «Маладая Беларусь» музыку напісаў Анатоль Багатыроў і новая песьня ўдзельнічала ў 1992 г. у конкурсе на Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь, але ня стала ім.

У 1904 г. Аляксандар Міхальчык напісаў верш «Ад веку мы спалі...». Падчас першай расейскай рэвалюцыі сьпявалі «Беларускую марсельезу» — рэвалюцыйны гімн «Ад веку мы спалі...», які ў гады ўзмацненьня рэпрэсій быў забаронены ў Заходняй Беларусі й затым і ў Савецкай Беларусі.

«Ад веку мы спалі...» — гэта адна з самых папулярных песьняў у 1920-я гады. Яна была фактычна гімнам Беларускае сялянска-работніцкае грамады. «Беларускую марсельезу» штодзённа сьпявалі ў школах Беларускай ССР аж да 1928 г. уключна.

У 1916 г. паэт Максім Багдановіч склаў славуты верш «Пагоня», а музыку да яго напісаў Мікола Шчаглоў-Куліковіч. Песьню палюбілі беларускія эсэры, нацыянал-дэмакраты. Цяпер яе ведаюць і сьпяваюць усе беларускія патрыёты.

Ваяцкі марш «Мы выйдзем шчыльнымі радамі...» (верш Макара Краўцова, музыка Ўладзімера Тэраўскага) напісаны, напэўна, у 1918 г. У 1919 г. ён стаў гімнам Беларускае Народнае Рэспублікі і захапляе кожнага беларуса, кранае яго душу, уздымае настрой, кліча на самаахвярны подзвіг. Дарэчы, абодва аўтары яго загінулі ў час рэпрэсій.

Мы маем і рэлігійны гімн-малітву «Магутны Божа» (словы Натальлі Арсеньневай, музыка Міколы Равенскага), які напісаны пазьней, у 1943 г. Ён атрымаў шырокае распаўсюджаньне сярод беларускіх эмігрантаў за мяжой, а ў канцы 1980-х гадоў гэты гімн вярнуўся ў Беларусь. Яго прынялі вернікі-беларусы ўсіх хрысьціянскіх канфесій. У Магілёве штогод цяпер праводзіцца фестываль духоўнай музыкі «Магутны Божа». Ва ўсіх беларускіх цэрквах за мяжой богаслужэньне заканчваецца духоўным гімнам.

Гімны «Пагоня», «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», «Магутны Божа» ўдзельнічалі ў 1992 г. у конкурсе на права стаць Дзяржаўным гімнам Рэспублікі Беларусь. Тады ж удзельнічалі ў конкурсе ананімныя гімны «Жыве Беларусь!», «Радзіма Беларусь», «Не пакіне Бог нашу Беларусь», створаныя сучаснымі аўтарамі. Яны былі надрукаваныя

ў «Народнай газеце» (за 15 ліпеня 1992 г.) пад агульным загалоўкам «Хай стане сэрцам і душой народа».

Пракамуністычная большасьць дэпутатаў Вярхоўнага Савету БССР не магла прыняць ні адзін з гэтых клясычных нацыянальных гімнаў, а таму з 19 верасьня 1991 г. і да 2 ліпеня 2002 г. па беларускім радыё, тэлебачаньні й на ўсіх афіцыйных дзяржаўных мерапрыемствах гучала толькі музыка Несьцера Сакалоўскага да гімна «Мы — беларусы». Па ініцыятыве рэдакцыі штотыднёвіка «Наша слова» яе чытачамі ў 1994 г. быў напісаны тэкст новага гімну «Жыве Беларусь!» на музыку Несьцера Сакалоўскага. Ён друкуецца ў гэтай кнізе.

Ёсьць у нас і жаночы гімн — лірычная песьня «Люблю наш край» (словы Канстанцыі Буйло, музыка Міколы Равенскага). Мэлодыя гэтай песьні стала пазыўнымі беларускай рэдакцыі радыё «Свабода». Яе мэлодыю выбівае гадзіньнік на вежы ў Гомелі з 1 ліпеня 2002 г. У Савецкім Саюзе песьню «Люблю наш край» не забаранялі, а кампазітар Генадзь Цітовіч уключыў яе ў зборнік «Анталогія беларускай песні» без нумара, але першай. А каб са зборніка песьню ня выкінула цэнзура, укладальнік пазначыў, што музыка народная. Цітовіч ведаў, чыя музыка, але аўтар музыкі быў у эміграцыі, а такіх у Савецкім Саюзе не любілі, а таму і напісаў, што мэлодыя народная.

Своеасаблівым развітальным гімнам стала ў 1930-х гадох песьня Ісака Любана «Бывайце здаровы» (на верш Адама Русака). За савецкім часам яна была вельмі папулярнай. Ёю заканчвалі многія канцэрты, асабліва пры выступленні беларускіх артыстаў у Маскве.

Па пачатку 1980-х гадоў узьнікла песьня «Віншавальная». Верш напісаў Уладзімер Някляеў, ■ цудоўную музыку стварыў Васіль Раінчык. «Віншавальная» — гэта застольны гімн у гонар нашай дзяржавы. Такім чынам, можна ўпэўнена сьцвярджаць, што беларусы маюць адмысловыя гімны на многія выпадкі жыцьця.

Гімны «Пагоня» й «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» займаюць пачэснае мейсца сярод іх, бо яны ўздымаюць маральны дух беларускае нацыі. Так уздымаюць патрыятычны настрой украінцаў песьні «Шчэ не змерла Украіна» й «Рэве та стогне Дніпр широкі», або ў душы палякаў — гімн «Ешчэ польска не згінэла», або ў немцаў песьня «Дойчланд, Дойчланд...».

Конкурсы патрыятычных песень на Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь, што праводзіліся Міністэрствам культуры, ў 1992 і ў 2002 гадох, дабавілі нам гімнаў. Яны былі надрукаваны ў адной або дзьвюх газэтах. Напрыклад, Мар'ян Віж (Зайцаў) напісаў верш «Мой край», які сьпяваецца на мэлодыю раманса Міхала Клеафаса Агінскага «Развітаньне з Радзімай». Ён надрукаваны ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» за 19 жніўня 1994 г. Двойчы ўдзельнічала ў конкурсе на Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь песьня «Красуй, Беларусь!» (верш Леаніда Пранчака, музыка Васіля Раінчыка).

Раней была вельмі папулярная патрыятычная песьня «Радзіма мая дарагая» (верш Алеся Бачылы, музыка Юрыя Семянякі). Яе мэлодыя стала пазыўнымі Беларускага радыё. У 2001 г. гэту песьню надрукавалі нават у «Дзённіку школьніка». «Радзіма мая дарагая» і «Квітней, Беларусь!» — клясычныя беларускія гімны, якія становяцца ў адзін шэраг з такімі славутымі творамі, як гімны «Мы выйдзем шчыльнымі радамі...», «Пагоня», «Магутны Божа». У наш час асабліва велічна і ўрачыста гучыць на святочных канцэртах гімн «Жыве Беларусь!» у выкананні народнага артыста Беларусі Мікалая Скорыкава.

Дай нам, Божа, усім розуму ведаць свае гімны й часьцей іх сьпяваць, бо, як казаў Рыгор Ширма, «Песьня — душа народа». Беларускія гімны — наш маральны дух, наша душа й духоўная Сіла беларускае нацыі.

І яшчэ варта нагадаць пра нацыянальны дэвіз. Многія дзяржавы маюць свае нацыянальныя дэвізы, якія аб'ядноўваюць свой народ. Нацыянальны дэвіз у кожнай краіне гуртуе яе грамадзян. Звычайна ён выражае нацыянальную ідэю дзяржавы — мэту, да якой імкнецца яе народ. Назаву нацыянальныя дэвізы некаторых краін: у Польшчы – «Бог, гонар, Айчына», у Літве — «Квітней, адзінства», у Латвіі — «За Айчыну й свабоду», у Сербіі — «Толькі адзінства выратуе Сербію», у ЗША — «Мы верым у Бога», у Аўстрыі — «Аўстрыя загіне апошняй». Як бачыце, у многіх зь іх адна мэта — гэта заклік суайчыньнікаў для адзінства, каб выжыць у гэтым супярэчлівым сьвеце.

Беларусы таксама маюць свой неафіцыйны народны дэвіз — гэта «Жыве Беларусь!» Хто супроць яго?! Хто ня хоча, каб існавала дзяржава Беларусь? Толькі праціўнікі нашае дзяржаўнае незалежнасьці будуць выступаць супроць беларускага дэвізу. А нашаму дэвізу ўжо больш за сто гадоў. Яго аўтарам быў Янка Купала, які ў 1905–1907 гг. напісаў верш «Гэта крык, што жыве Беларусь». Зь яго лёгкай рукі нацыянальны кліч «Жыве Беларусь!» падхапілі славутыя беларускія паэты Якуб Колас, Натальля Арсеньнева, Ларыса Геніюш ды йншыя. Беларускія патрыёты пры сустрэчы вітаюць адзін аднаго так. Адзін зь іх кажа: «Жыве Беларусь!», а другі адказвае яму: «Жыве!» Наш дэвіз узяты ў якасьці эпіграфа да «Народнай газеты».

За апошнія сто гадоў беларускаму народу давялося выжываць у неверагодна цяжкіх умовах—дзьве сусветныя войны й савецка-польская вайна пракаціліся агнём па нашай шматпакутнай зямлі, дзьве нямецкія й польская акупацыі, двойчы былі бежанцамі, рэпрэсіі, генацыд, русіфікацыя й паланізацыя, нарэшце радыяцыя ад Чарнобыльскай трагедыі, але беларусы выжылі й захаваліся ў сьвеце як нацыя са сваёй мовай, культурай і дзяржаўнасьцю. Беларусь жыве, бо беларускі народ мае сваю незалежную дзяржаву — Рэспубліку Беларусь. Жыве Беларусь! Хай жыве вечна!

# Афіцыйныя гімны

## Дзяржаўны гімн Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік (1944 г.)

*Словы С. Міхалкова і Г. Эль-Рэгістана*
*Музыка А.В. Аляксандрава*

Саюз непарушны рэспублік свабодных,
З'яднала навекі Вялікая Русь,
Няхай жыве створаны воляй народаў,
Адзіны, магутны Савецкі Саюз!

Слаўся, Айчына, ты наша свабодная,
Дружбы народаў апора і моц!
Сцягі савецкія, сцягі народныя
Хай нас вядуць па шляху перамог!

Праз буры свяціла нам сонца свабоды,
І Ленін вялікі нам шлях азарыў.
Нас вырасціў Сталін — на вернасць народу,
На подзвігі нас і на працу натхніў.

Слаўся, Айчына, ты наша свабодная,
Шчасця народаў апора і моц!
Сцягі савецкія, сцягі народныя
Хай нас вядуць па шляху перамог!

Мы армію нашу расцілі ў змаганні,
Захопнікаў подлых з дарогі змяцём.
Мы лёс пакаленняў рашаем баямі,
Да славы Радзіму сваю павядзем!

Слаўся, Айчына, ты наша свабодная,
Славы народаў апора і моц!
Сцягі савецкія, сцягі народныя
Хай нас вядуць па шляху перамог!

*Пераклад П. Броўкі, К. Крапівы,*
*М. Танка, А. Куляшова, П. Панчанкі.*

# Дзяржаўны гімн Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік (1977 г.)

*Словы С. Міхалкова і Г. Эль-Рэгістана*
*Музыка А. Аляксандрава*

Саюз непарушны рэспублік свабодных
З'яднала навекі Вялікая Русь.
Няхай жыве створаны воляй народаў
Адзіны, магутны Савецкі Саюз!

Слаўся, Айчына, ты наша свабодная,
Моцная дружбай савецкіх людзей!
Партыя Леніна — сіла народная
Нас да вышынь камунізму вядзе!

Праз буры свяціла нам сонца свабоды,
І Ленін вялікі нам шлях азарыў:
За праўду змагацца ўзняў ён народы,
На подзвігі нас і на працу натхніў!

Слаўся, Айчына, ты наша свабодная,
Моцная дружбай савецкіх людзей!
Партыя Леніна — сіла народная
Нас да вышынь камунізму вядзе!

У ззянні ідэй камунізму няспынным
Мы бачым наступныя нашы гады,
І сцягу Чырвонаму слаўнай Айчыны
Мы вернымі будзем бязмежна заўжды!

Слаўся, Айчына, ты наша свабодная,
Моцная дружбай савецкіх людзей!
Партыя Леніна — сіла народная
Нас да вышынь камунізму вядзе!

*Пераклад П. Броўкі, К. Крапівы, М. Танка,*
*А. Куляшова, П. Панчанкі, Р. Барадуліна.*

# Гімн Беларускай ССР

*Словы Міхася Клімковіча*
*Музыка Несцера Сакалоўскага*



*Несцер Сакалоўскі*

Мы, беларусы, з братняю Руссю
Разам шукалі к шчасцю дарог.
Ў бітвах за волю, у бітвах за долю
З ёй здабылі мы сцяг перамог!

Нас аб'яднала Леніна імя,
Партыя к шчасцю вядзе нас ў паход.
Партыі слава! Слава Радзіме!
Слава табе, беларускі народ!

Сілы гартуе люд Беларусі
Ў братнім саюзе, у мужнай сям'і.
Вечна мы будзем, вольныя людзі,
Жыць на шчаслівай, вольнай зямлі!

Нас аб'яднала Леніна імя,
Партыя к шчасцю вядзе нас ў паход.
Партыі слава! Слава Радзіме!
Слава табе, наш свабодны народ!

Дружба народаў — сіла народаў,
К шчасцю працоўных сонечны шлях
Горда ж узвіся ў светлыя высі,
Сцяг камунізму — радасці сцяг!

Нас аб'яднала Леніна імя,
Партыя к шчасцю вядзе нас ў паход.
Партыі слава! Слава Радзіме!
Слава табе, наш савецкі народ!

*З'яўляўся Дзяржаўным гімнам БССР у 1955—1991 гадах. Потым да 2002 г. гімнам Рэспублікі Беларусь была толькі музыка без тэкста, а ў 2002 г. на музыку гэтага гімна паэт Уладзімір Карызна перапрацаваў верш Міхася Клімковіча. Так быў створаны Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь.*

# Гимн Белорусской ССР

*Слова М. Климковича*
*Музыка Н. Соколовского*

*(Перевод с белорусского)*

Мы, белорусы, с братскою Русью,
Вместе искали к счастью дорог.
В битвах за волю, в битвах за долю,
С ней мы добыли флаг побед.

Нас объединила Ленина имя,
Партия к счастью ведёт нас в поход.
Партии слава! Слава Отчизне!
Слава тебе, белорусский народ!

Силы собирает народ Белоруссии
В братском союзе, в мощной семье.
Вечно мы будем, вольные люди
Жить на счастливой, вольной земле.

Нас объединила Ленина имя,
Партия к счастью ведёт нас в поход.
Партии слава! Слава Отчизне!
Слава тебе, наш свободный народ!

Дружба народов — сила народов,
К счастью трудящихся солнечный путь.
Гордо возвысься в светлые выси,
Флаг коммунизма — радости флаг!

Нас объединила Ленина имя,
Партия к счастью ведёт нас в поход.
Партии слава! Слава Отчизне!
Слава тебе, наш советский народ!

*Являлся Государственным гимном БССР в 1955—1991 годах. Затем до 2002 года гимном Республики Беларусь была только музыка без текста, а в 2002 году на музыку этого гимна были положены переработанные стихи Владимиром Коризной.*

# Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь

*Словы Міхася Клімковіча, Уладзіміра Карызны*
*Музыка Несцера Сакалоўскага*

Мы, беларусы — мірныя людзі,
Сэрцам адданыя роднай зямлі,
Шчыра сябруем, сілы гартуем
Мы ў працавітай, вольнай сям'і.

Слаўся, зямлі нашай светлае імя,
Слаўся, народаў братэрскі саюз!
Наша любімая маці-Радзіма,
Вечна жыві і квітней, Беларусь!

Разам з братамі мужна вякамі
Мы баранілі родны парог,
У бітвах за волю, бітвах за долю
Свой здабывалі сцяг перамог!

Слаўся, зямлі нашай светлае імя,
Слаўся, народаў братэрскі саюз!
Наша любімая маці-Радзіма,
Вечна жыві і квітней, Беларусь!

Дружба народаў — сіла народаў –
Наш запаветны, сонечны шлях.
Горда ж узвіся ў ясныя высі,
Сцяг пераможны — радасці сцяг!

Слаўся, зямлі нашай светлае імя,
Слаўся, народаў братэрскі саюз!
Наша любімая маці-Радзіма,
Вечна жыві і квітней, Беларусь!

*Гэты гімн выконваецца з 3 ліпеня 2002 г. як афіцыйны.*

# Гімн горада Мінска

*Словы Ігната Панкевіча*
*Музыка Уладзіміра Алоўнікава*



*Уладзімір Алоўнікаў*

Краса беларускага краю —
І творчае думкі ўзлёт,
Табе сваю песню складаю,
Мой горад, герой — патрыёт.

*Прыпеў:*

Хай удалеч песня мчыцца
Над краінай дарагой.
Ты спявай, мая сталіца,
Родны сэрцу горад мой!

І паркі твае, і бульвары
Люблю ■ вячэрняй парой.
Паўсюль закаханыя пары,
І шэпат, і смех над ракой.

*Прыпеў.*

Тваёй ганаруся я славай,
І рады я шчырай душой,
Што ў гэтай красе велічавай
Ёсць доля і працы маёй.

*Прыпеў.*

*Гэты гімн зацверджаны рашэннем Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў ад 24 кастрычніка 2001 г.*



*Мінская ратуша*

# Гімн Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі

*Словы і музыка І. Войцік*

З'ядналіся мы ў сям'ю прафсаюзаў
І будзем змагацца за лёс беларусаў,
За светлую веру ў заўтрашні дзень,
За радасць, за шчасце і мір для людзей.

*Прыпеў:*

Прафсаюзы — дзень за днём цясней рады!
Мы за шчасце Беларусі назаўжды!
Прафсаюзы — добра ведае народ:
Толькі ў працы багацець нам з года ў год.

Няхай ты вучоны, настаўнік, рабочы
У цесным саюзе быць кожны з нас хоча,
Каб разам у працы дастатак здабыць,
У дружбе і згодзе заўсёды нам жыць.

*Прыпеў.*

Радзіме аддана служыць мы клянемся!
І з нашага курса павек не саб'емся.
З народам сваім у страі прафсаюз
Ідзе мірным шляхам, каб жыў беларус.

*Прыпеў.*



*Паэт Адам Русак на сустрэчы з фалькларыстамі сектару фальклору Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.*
*Злева направа: Арсень Ліс, Іван Цішчанка, Адам Русак, Анатоль Фядосік, Генадзь Цітовіч*

# Багародзіца

*(«Песнь аб вялебнай дзявіцы Панне Марыі)*

*Мелодыя XIII стагоддзя*
*Сучасная апрацоўка тэксту*

Багародзіца, дзевіца!
Багаслаўлёная Марыя!
У Твайго сына —
Гаспадзіна,
Маці любая Марыя,
Пажадай нам, папрасі нам,
Кірые элейсон*,
У Твайго сына Хрысціцеля,
Збавіцеля.

Пачуй галасы адвечныя,
Споўні думы чалавечыя,
Пачуй малітвы, як мы просім,
Дай нам на свеце Божым
Годны прабыт,
А па смерці райскі пабыт.
Кірые элейсон!

Нарадзіўся для нас Сын Божы,
У тое веруе чалавеча кожны,
Што Пан Бог Сваёй змогай
Абламаў д'яблу рогі.
Вечнага здароўя да старасці нам прыдаў,
Смерць пякельную закаваў,
Першага чалавека прыгадаў.

Ён жа мукі за нявер'е трываў
І да смерці б не перастаў,
Але ж сам Бог з мёртвых устаў.
Адаме, ты — Божы кмецю,
Ты заняў каля Бога месца,
Памясці туды нас — свае дзеці,
Дай нам на Бога глядзеці.

У радасці, у мілосці
Памясці нас — свае дзеці, просім,
Туды, дзе анёлы каралююць,
Дзе радасць і міласць пануюць.

---

* *Kirieelejson — грэцкая малітоўная формула.*

Каб бачыць Творцы
Анёльскай сталіцы зіхценне,
Каб нам явілася д'ябла патапленне.

Ні срэбрам, ні злотам
Нас у д'ябла не адкупіў,
А сваёю моцаю заступіў.
Для цябе, чалавеча, даў Бог сабе
Бок, рукі, ногі прабіць,
Кроў святую сваю праліць
На збаўленне табе.

Веруй у тое, чалавеча,
Што Езус Хрыстус мукі цярпеў за нас грэшных,
Кроў святую сваю з ран
Праліў за нас хрысціян.
Аб грэшнай душы Пан Бог клопат мае,
Ад д'ябла ў яе адбірае,
Дзе сам уссядае,
Там і яе прымае.

Ужо нам час грахі свае складаці,
Пану Богу пашану, хвалу аддаці,
Зусімі сіламі Езу Хрыста мілаваці.
Марыя, дзzвіца!
Грэшным суцяшэнніца!
Дай нам у небе вялікі дар,
Бачыць Твайго сына твар.

Марыя, Маці Божая,
Прасі ж сына свайго — Божыча,
Каб нас памясціў
У каралеўства нябеснае.
О, Усе Святыя, прасіце за нас грэшных,
Дапамажыце, каб мы з Вамі былі,
Езуса Хрыста хвалілі.

Ён жа нас выкупіў, Езу Хрысце мілы,
Каб мы з Табою там былі,
Дзе нам рады ўсе святыя сілы.
Аман, аман, аман, аман, аман, аман!
Дай нам, Божа, шчаслівае долі,
Каб пайшлі мы ўсе ў рай, дзе каралююць анёлы.

Аман!

*Адаптацыя да сучаснай беларускай мовы Станіслава Судніка паводле тэксту, змешчанага ў Статуце ВКЛ 1529 года.*

# А хто там ідзе?

*Словы Янкі Купалы*
*Музыка Людаміра Рагоўскага, Уладзіміра Тэраўскага*

А хто там ідзе, а хто там ідзе
У агромістай такой грамадзе?
— Беларусы.

А што яны нясуць на худых плячах,
На руках у крыві, на нагах у лапцях?
— Сваю крыўду.

А куды ж нясуць гэту крыўду ўсю,
А куды ж нясуць напаказ сваю?
— На свет цэлы.

А хто гэта іх, не адзін мільён,
Крыўду несць наўчыў, разбудзіў іх сон?
— Бяда, гора.

А чаго ж, чаго захацелась ім,
Пагарджаным век, ім, сляпым, глухім?
— Людзьмі звацца.

*1905 — 1907 гг.*

*(Купала Я. Вершы. Мн., 1988. С. 41.)*



*Алесь Камоцкі і Рыгор Барадулін*

# Беларуская марсельеза

*Словы Алеся Міхальчыка*

*Гарманізацыя Уладзіміра Тэраўскага*

1.
Ад веку мы спалі і нас разбудзілі,
Мы знаем, што трэба рабіць!
Што трэба свабоды, зямлі чалавеку,
Што трэба зладзеяў пабіць!

2.
Што гэта за марная доля няшчасная:
Бяз хлеба, бяз грошаў працуй...
Усюды ганяюць, усюды сьмяюцца,
Ну, проста, хоць крыкні: «ратуй!»

3.
Сьмяюцца над намі багатыя людзі,
Здаецца панамі іх зваць,
Мы доўга цярпелі, цярпець больш ня можам,
Дык пойдзем мы долі шукаць!

(Пойдзем лепшай долі шукаць!)

4.
Мы дружна паўстанем з касамі, з сярпамі,
Прагонім з зямлі палачоў!
Няхай нас сустрэнуць палямі, лугамі
Грамады працоўных людзёў!

*Узнікла ў 1906 г. сярод рэвалюцыйна-настраенага сялянства ў Слуцкім пав. Мінскай губ. Надрукавана ў кнізе Ф. Турука «Белорусское движение» (М., 1921).*

*Літаратар Аляксей Каўка, які жыве ў Маскве, устанавіў, што верш напісаў Аляксандр Міхальчык у 1904 г. Аляксандр Андрэевіч Міхальчык (1882—1918 ?) нарадзіўся ў м. Шацк Ігуменскага пав. (цяпер у Пухавіцкім раёне). Падчас рэвалюцыі 1905 г. быў у зняволенні ў Пішчалаўскім замку ў Мінску. У 1920-х — 1930-х гадах у Заходняй Беларусі гэта песня з'яўлялася гімнам Беларускай сялянска-работніцкай грамады.*

*(Тэраўскі У. Беларускі лірнік. Бэрлін. 1922. С. 89, 90.)*

# Не загаснуць зоркі ў небе

*(«Нашай Ніве»)*

*Словы Янкі Купалы*
*Музыка Мікалая Янчука*
*Гарманізацыя Міколы Равенскага*

Не загаснуць зоркі ў небе,
Покі неба будзе.
Не загіне край забраны,
Покі будуць людзі.

Ночка цёмная на свеце
Вечна не начуе,
Зерне, кінутае ў ніву,
Ўсходзіць ды красуе.

Наша зерне — нашы думкі —
Не загінуць свету, —
Бліснуць краскай непаблеклай
Вечных агняцветаў.

З добрых думак, што мы кінем
На сваім дзірване,
Будзе ўнукам нашым жніва —
Доля, панаванне.

Беларускаю рукою
Светлай праўды сіла
Славу лепшую напіша
Бацькаўшчыны мілай.

Зацвіце яна, як сонца
Пасля непагоды,
Ў роўнай волі, ў роўным стане
Між усіх народаў.

Не загіне край забраны,
Покі жывы людзі.
Не загаснуць зоркі ў небе,
Покі неба будзе!

***1911 г.***

***(Купала Я. Поўны збор твораў. У 9 т. Т. 3. Мн., 1997. С. 50, 51.)***

# Пагоня

*Словы Максіма Багдановіча*
*Музыка Міколы Шчаглова-Куліковіча*



*Максім Багдановіч*

Толькі ў сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах,
Ўспомню Вострую Браму сьвятую
І ваякаў на грозных канях.

Ў белай пене праносяцца коні,
Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць...
Старадаўняй Літоўскай (Крывіцкай) Пагоні
Не разьбіць, не спыніць, не стрымаць.

У бязьмерную даль вы ляціце,
А за вамі, прад вамі — гады.
Вы за кім у пагоню сьпяшыце?
Дзе шляхі вашы йдуць і куды?

Мо яны, Беларусь, панясьліся
За тваімі дзяцьмі ўздагон,
Што забылі цябе, адракліся,
Прадалі і аддалі ў палон?



*Мікола Шчаглоў-Куліковіч*

Біце ў сэрцы іх, біце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!
Хай пачуюць, як сэрца начамі
Аб радзімай старонцы баліць...

Маці родная, Маці-Краіна!
Ня ўсьцішыцца гэтакі боль...
Ты прабач, Ты прымі свайго сына,
За Цябе яму ўмерці дазволь!..

Ўсё лятуць і лятуць тыя коні,
Срэбнай збруяй далёка грымяць...
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разьбіць, не спыніць, не стрымаць.

*1916 г.*

*(Багдановіч М. Зорка Венера. Творы. Мн., 1991. С. 262, 263.)*

# Міжнародны гімн «Інтэрнацыянал»

*Словы Эжэна Пацье*
*Пераклаў Янка Купала*
*Музыка П'ера Дэгейтэра*
*Гарм. Ул.Тэраўскага*

1.
Паўстань, пракляццем катаваны,
Паўстань, хто з голаду век пух!
Бурліць наш розум ўзбунтаваны,
Нявол
і кліча рваць ланцуг!
Стары парадак мы зруйнуем
Магутным выбухам сваім
І сьвет на новы лад збудуем:
Хто быў нічым, той будзе ўсім!

Гэта бой наш астатні
За працоўны народ,
Каб у злучнасьці братняй
Узьняўся людскі род!

2.
Ніхто ня дасьць самохаць волі —
Ні бог, ні цар, ні багатыр,
Даб'ёмся самі лепшай долі...
Дабро для усіх — наш правадыр.
Каб ня згібаці плеч пакорных,
Каб волі дух лунаў у нас, —
Адважна плаўма сталь у горнах.
Пакуль у кузьні жар ня згас!

3.
Уласьць гняце, закон хітруе,
Кроў з бедных ссуць, падаткі, чынш.
Нішто багатых ня турбуе,
Правы гаротных — сьмех адзін!
Даволі жыць чужою ласкай,
Закон аб роўнасьці давёў:
„Няма правоў без абавязкаў
І абавязкаў без правоў!»

4.
Нікчэмны ў торжышчы ўсеўладным,
Капальняў, фабрыкаў паны.
Чужую працу толькі складны
Па-зьверску рабаваць яны.
У скрынкі-складні сытай банды
Дабро працоўнае пайшло,
Хай-жа бядак даб'ецца праўды.
Каб што здабыў — яго было!

5.
Цары паілі нас маною,
Дык нам спакой, а ім — вайна!
Супроць вайны пайдзём вайною:
Душа ў салдаты — ні адна.
Калі ж уладзяць з намі гулі —
Пагоняць нас на бой за іх, —
То будуць знаць, што нашы кулі
Пачнуць страляць па іх саміх.

6.
Мы ўсе работнікі, сяляне —
Сусьветны рой працаўнікоў —
Мець будзем на зямлі ўладаньне —
А дармаеды — прэч! далоў!
Жывіцца целам нашым годзе,
Усім трутнём і груганом!
Для нас, паўстаўшых, сонца ўсходзе,
Сьвяціць нам будзе век вяком!

Гэта бой наш астатні
За працоўны народ,
Каб у лучнасьці братняй
Узьняўся людскі род!

*Поўны калектыўны пераклад, зроблены з арыгіналу ў французскай мове й зацьверджаны беларусамі-камуністамі.*

*У Расеі камуністамі прынята пяяць толькі 1, 2 і 6 васьмірадковыя зваротні з прыпеўкамі пасьля кожнае зваротні «Гэта бой наш астатні»... (Тэраўскі У. Беларускі лірнік. С. 7— 9.)*

## Радзіма, мая дарагая

*Словы Алеся Бачылы*
*Музыка Уладзіміра Алоўнікава*

Радзіма мая дарагая,
Ты ў шчасці жаданым жыві!
Я сэрцам табе прысягаю
У шчырай сыноўняй любві.

На рэках шырокіх і нівах,
Заводах, будоўлях, — наўсцяж
Народ наш працуе руплівы
І край узвышаецца наш.

Навокал жыццё расцвітае —
І песня ўзлятае сама:
Мне лепей ад роднага краю
Нічога на свеце няма.

Чужое зямлі нам не трэба.
Пачуцці ў нас сёння адны:
Мы хочам, каб мірнае неба
Не знала пажараў вайны.

Мы дружбы народам жадаем
І шчырай братэрскай любві.
Радзіма мая дарагая,
Красуйся і ў шчасці жыві!

*Гімн удзельнічаў у 2002 г. у конкурсе на Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь. (Звязда, 2002, 8 чэрвеня.) Друкаваўся ў дзённіку школьніка.*

## Малітва (Магутны Божа)

*Словы Наталлі Арсенневай*
*Музыка Міколы Равенскага*


*Наталля Арсеннева*

Магутны Божа! Ўладар сусьветаў,
вялізных сонцаў і сэрц малых,
над Беларусяй ціхой і ветлай,
рассып праменне Свае хвалы.

Дай спор у працы будзённай, шэрай,
на хлеб штодзённы, на родны край.
Павагу, сілу і веліч веры
у нашу праўду, у прышласць — дай!

Дай урадлівасць жытнёвым нівам,
учынкам нашым пашлі ўмалот.
Зрабі свабоднай, зрабі шчаслівай
краіну нашу і наш народ!

*1943 г., Мінск*

*(Туга па Радзіме: Паэзія беларускай эміграцыі. Мн., 1992. С. 88.)*

*Гэта «Малітва» стала духоўным гімнам «Магутны Божа» для ўсех крысціянскіх вернікаў у Беларусі.*

# Ваяцкі марш

*Словы Макара Краўцова*
*Музыка Уладзіміра Тэраўскага*



*Макар Краўцоў*

Мы выйдзем шчыльнымі радамі
На вольны родны наш прастор.
Хай воля вечна будзе з намі,
А гвалту мы дамо адпор!

Хай аджыве закамянелы
(Няхай жыве магутны, сьмелы)
Наш беларусі вольны дух;
Штандар наш бел-чырвона-белы
Пакрыў сабой народны рух!

На бой! За шчасьце і за волю
Народу слаўнага свайго!
Браты, цярпелі мы даволі.
На бой! — усе да аднаго!



*Уладзімір Тэраўскі*

Імя і сілу беларуса
Няхай пачуе й бачыць той,
Хто сьмее нам нясьці прымусы
І першы выкліча на бой!

Браты, да шчасьця мы падходзім:
Хай гром грыміць яшчэ мацней!
У крывавых муках мы народзім
Жыцьцё Рэспублікі сваёй!

*1919 г.*

*(Сыны і пасынкі Беларусі / Уклад. С.В. Барыс Мн., 1996. С. 348.)*

*У БССР «Ваяцкі марш» выконваўся да 1930 г., але ў другой страфе трэці радок па прапанове Міхася Чарота быў заменены на такі: «Свабодны сьцяг, штандар чырвоны».*

# Люблю наш край

*Словы Канстанцыі Буйло*
*Музыка Міколы Равенскага*



*Канстанцыя Буйло*

Люблю наш край, старонку гэту,
Дзе я радзілася, расла,
Дзе першы раз пазнала шчасьце,
Сьлязу нядолі праліла.*

Люблю народ наш беларускі,
Іх хаты ў зелені садоў,
Залочаныя збожжам нівы,
Шум нашых гаяў і лясоў.

Люблю раку, што свае воды
Імчыць ў няведамую даль,
І жоўтасьць берагоў пясчаных,
І яснасьць чыстых яе хваль.

Люблю вясну, што ў кветкі, у зелень
Прыстроіць цэлую зямлю;
На гнёздах буслаў клекатаньне
І сьпеў жаўраначка люблю.

Люблю гарачу сьпёку лета
І буру летнюю з дажджом,
Як гром грыміць, а ў чорных хмарах
Маланка зігаціць агнём.

І жніва час душой люблю я,
І першы звон сярпоў і кос,
Калі на поле выйдуць жнеі,
А касары — на сенакос.

Люблю зіму з яе марозам,
Што вокны прыбярэ ў вузор,
І белы сьнег, што, усё пакрыўшы,
Ірдзіцца блескам ясных зор.



*Мікола Равенскі*

Люблю ў пагодную я ночку
Дапозна ў садзіку сядзець,
Сачыць за ясных зор мігценьнем,
На месяц залаты глядзець.

---

** У кожным куплеце апошнія два радкі спяваюць двойчы.*

Люблю, як сонейка заходзіць
І бераг хмаркі залаціць,
Вячорнага як голас звону
К нам з ветру хваляю ляціць.

І песьню родную люблю я,
Што дзеўкі ў полі запяюць,
А тоны голасна над нівай
Пераліваюцца, плывуць.

Мне тут усё для сэрца міла,
Бо я люблю край родны свой,
Дзе з першым шчасьцем я спазналась
І з першай горкаю сьлязой.

*Песня стала народнай і вядомая ў варыянтах.*

## Мой Край

*Словы Мар'яна Віжа (Зайцава)*
*Музыка Міхала Клеафаса Агінскага*
*(паланеза «Развітанне з Радзімай»)*

Край, мой любы, родны Край,
Мілей за ўсё на свеце ты.
Квітней, руней, мой слаўны дзіва-Край.
Для нас ты на зямлі святы.

Край, мой любы, родны Край,
Не спі, народ, з калень уставай,
Каб кожны бачыў, што ажыла зноў
Краіна — вечная любоў.

Край, «Пагоню» ўздымі!
А заўтра спадчыну вазьмі!
З вольнасцю заўжды ты будзеш жыць,
А нам усім — свой Край любіць!

Край, мой любы, родны Край,
Мілей за ўсё на свеце ты.
Квітней, руней, мой слаўны дзіва-Край,
Для нас ты на зямлі святы.

*1994 г.*

*(Літаратура і мастацтва, 1994, 19 жніўня.)*

# Жыве Беларусь!

*Словы Леаніда Пранчака*
*Музыка Васіля Раінчыка*


*Васіль Раінчык*

Жыве Беларусь!
Жыве Беларусь!
Веру — будзе жыць заўсёды.
Святло «Пагоні»
Будзе сэрцы нашы акрыляць.

Жыве! Жыве! —
Наш Край пакутны і свабодны,
Нескароная нікім і святая зямля.

Беларусь, Беларусь,
Хай мінуць цябе ўсе нягоды.
Век у шчасці жыві,
Ты — Радзіма мая.

Жыве Беларусь —
Нашай волі абуджэнне.
Краіна-Маці,
Ты прызнанне шчырае прымі.

Жыве! Жыве! —
Гучыць узнёсла благаславенне.
Беларускі горды дух
Уваскрос з даўніны.

Беларусь, Беларусь,
Мы тваё вітаем Адраджэнне.
Будзеш вечна вольнай ты,
Будзем вольнымі мы.

Жыве Беларусь!
Нас нядоля не здалела.
Магутны Божа,
Беражы Айчыну з году ў год.

Жыве! Жыве! —
Як непагасны сімвал веры:
Будзе вечна на зямлі
Паспаліты наш род.

Беларусь, Беларусь!
Пад штандарам бел-чырвона-белым
Век у шчасці жыві,
Беларускі народ!

*1992 г.*

# Маладая Беларусь

*Словы Янкі Купалы*
*Музыка Анатоля Багатырова*



*Анатоль Багатыроў*

Вольны вецер напеў вольных песень табе,
Бор зялёны ўзняў дружным гоманам,
Сонца полымем вызвала к слаўнай сяўбе,
Зоры веру ўлілі сілам зломаным.

Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі;
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі!

Смела ў сонцы ідзеш, як жывы агняцвет.
Сееш ласкава сны залацістыя;
Не пужае сумежны дакучны сусед,
Не пужае пуціна цярністая.

Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі;
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі!

Ад мяжы да мяжы, ад канца да канца
Абнаўлення павевы расходзяцца,
Абнімае душу без граніц, без канца
Маці-радасць, што лепшы дзень родзіцца.

Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі;
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі!

*Гэтаму тэксту аддало перавагу журы конкурсу на Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь у 1992 г. Для гэтай песні з верша Янкі Купалы, які мае 12 строф, узятыя толькі 4, а апошняя страфа стала прыпевам. (Беларуская мінуўшчына. 1994, № 1. С. 2.)*

## Радзіма Беларусь

*Словы Аляксандра Лягчылава*
*Музыка Ігара Лучанка*

Радзіма Беларусь.
Мы не згубіліся ў свеце,
Мы зберaглі свой дом —
Нам пераможна свеціць
Грунвальд сваім шчытом.
Зніч святы ўзыходзіць
У святле зары.
У сваёй гасподзе
Мы — гаспадары.

*Прыпеў:*

Радзіма Беларусь,
Ты сцяг свой узняла,
Сатканы з белых руж
І чырвані-святла.

Дух наш у слове Скарыны,
Ён і дасюль не згас.
Доля слабых скарыла —
Загартавала нас.
Застаецца з намі
І ратуе зноў
Чыстымі званамі
Спадчына вякоў.

*Прыпеў:*

Радзіма Беларусь,
Ты сцяг свой узняла,
Сатканы з белых руж
І чырвані-святла.

Волю сваю абаронім,
Нас не пакіне Бог.
Кліч баявы «Пагоні»
Славу здабыць памог.
Ласкаю і згодай
Наш багаты дом.
Мы да ўсіх народаў,
Як браты, ідзём.

*Прыпеў:*

Радзіма Беларусь,
Ты нам жыццё дала.
Дзяржава Беларусь,
Хвала табе, хвала!

*1992 г.*

*Гімн удзельнічаў у конкурсе на Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь у 1992 г. Быў надрукаваны ў «Народнай газеце» за 15 ліпеня 1992 г.*

## Жыве Беларусь

*Словы У. Жыгалкі і інш.*
*Музыка Н. Сакалоўскага*

Мы, беларусы — вольныя людзі!
Наша «Пагоня» імчыць у вяках.
Рэе высока сімвал Радзімы —
Бел-чырвона-белы велічны Сцяг.

*Прыпеў:*

Разам ніколі мы не загінем,
З Богам сустрэнем шчасця зару.
Наша адданасць — вечнай Радзіме.
Хай жа заўсёўды жыве Беларусь!

Дружная праца сілу мацуе,
Годнасць гартуе з году ў год.
Веліч Радзімы — мужнасць народа.
Мы — беларусы, слаўны наш род.

*Прыпеў.*

Край беларускі — шчодры, дзівосны.
Рэкі, азёры чыстыя тут.
Мірна гамоняць бярозы ды сосны.
Слаўце, нашчадкі, родны наш кут.

*Прыпеў.*

*1994 г.*

*Напісаны з удзелам чытачоў штотыднёвіка «Наша слова».*

## Не пакіне Бог нашу Беларусь

*Словы Уладзіміра Мархеля*
*Музыка старадаўняя з «Полацкага сшытка»*
*Гарманізацыя Вячаслава Кузняцова*

Не пакіне Бог
Нашу Беларусь —
Яна ў вяках
Адшукае свой шлях!

Годзе ўжо марна жыць
У пакорнай згодзе,
Крыўду сваю, як крыж,
Несці на плячах!

Люд свой збірай
Пад Айчыны вольны дах,
Вышэй уздымай
Бел-чырвона-белы сцяг!

Час не здолеў нас
Вынішчыць на звод.
Руш у паход,
Нескароны народ!

Родная Беларусь,
Пад крысом Пагоні
Шчасце сваё будуй,
Вольна расцвітай!

Гонар трымай,
Шчыра праўду спавядай,
Бацькоўскі край
Мірнай працай услаўляй!

Гонар трымай,
Шчыра праўду спавядай,
Бацькоўскі край
Мірнай працай услаўляй!
Не пакіне Бог нашу Беларусь!

*(Народная газета, 1992,
15 ліпеня.)*

# Гимн Минска

*Слова И. Панкевича*
*Музыка В. Оловникова*

Широким проспектом шагаю,
И сердце от счастья поет,
Я песню тебе посвящаю,
Мой город, герой-патриот.

*Припев:*

Пусть взлетает песня птицей
Над родимой стороной.
Пой, мой Минск, моя столица
Белоруссии родной!

Повсюду счастливые лица
Встречаются мне на пути.
Ну как мне, друзья, не гордиться,
Ну как же без песни идти?

*Припев.*

И парки твои и бульвары
Люблю я вечерней порой,
Близки мне влюбленные пары
И шелест листвы молодой.

*Припев.*

Тобою горжусь я по праву.
И радостно мне от того,
Что и этой красе величавой
Есть доля труда моего.

*Припев.*

*(Беларусь у песні / Склалі В.Л. Аўраменка і Л.А. Раманоўская. Мн., 1988. С. 144.)*

# Нёман

*Словы А. Астрэйкі*
*Музыка Н. Сакалоўскага*

Ой, Нёман, і слава, і песня
Народа майго і зямлі,
Магілаю ворагам цеснай } 2 разы
Не раз твае хвалі былі. }

Рака наша слаўная Нёман,
Чысцейшая чэрвеньскіх рос,
Хто мар не ўплятаў у твой гоман, } 2 разы
Табе хто пашаны не нёс.

Ой, Нёман, ой, бацька наш родны,
Як сонца, як дзень дарагі,
Садамі цудоўнай Радзімы } 2 разы
Твае расцвілі берагі.

*1941 г.*

*(Анталогія беларускай народнай песні / Уклад., прадм. і камент. Г. Цітовіч. Мн., 1975. С. 521.)*

# Беларусь перад усім

*(гімн СБМ)*

*Словы і музыка А.Стаповіча*

Беларусь, хай слова гэта
Будзіць новы дух між нас.
Нам дабро яе — во мэта
І найвышшы нам паказ.

Ні сьляза, ані стагнаньне
Ні пакора, ані страх.
Толькі праца і змаганьне —
Гэта наш да мэты шлях.

Беларусі сын ніколі
Не зрачэцца сваіх праў.
Знойдзе дужасьці даволі,
Каб нявольнікам ня стаў.

Дык ці ў шчасьця дзень пагодны,
Ці ў буры дні благім
Знайма першы кліч народны:
«Беларусь перад усім!»

*1943 г.*

*(Гарт. З успамінаў пра Саюз беларускіх патрыётаў. Мн., 1997. С. 104.)*

# Марш Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі

*Словы П. Саковіча*
*Музыка Э. Зарыцкага*

Мы долі шчаслівай народу жадаем
І крочым наперад адзінай сям'ёй.
Сцяг працы і міру высока трымаем
І множым багацці Радзімы сваёй.

*Прыпеў:*

Федэрацыя на маршы,
З ёю кожны прафсаюз.
Мужнасць нашу, мэты нашы
Паважае Беларусь.

Ідзе Федэрацыя шляхам яднання
І гонар працоўны ўзнімае вышэй.
Заўжды падтрымаем яе намаганні
Для славы Айчыны і шчасця людзей!

*Прыпеў.*

Мы дужыя нашым адзінствам і згодай.
Няма гэткай сілы, каб нас раз'яднаць.
За ўсё даражэй нам давер'е народа
І гонар вялікі — яго апраўдаць!

*Прыпеў.*

# Красуй, Беларусь!

*Словы Леаніда Пранчака*
*Музыка Васіля Раінчыка*

Красуй, Беларусь! Край мой родны, край свабодны,
Жыві і слаўся, — як прызнанне вымаўляю я.
Жыві, жыві! Красуйся ў радасці заўсёды,
Блаславенная мая дарагая зямля.
Беларусь, Беларусь, ты красуйся ў радасці заўсёды.
Слаўся, слаўся ў вяках ты — Радзіма мая!

Красуй, Беларусь! Дзе б ні быў я — ты са мною.
Сваёй пяшчотай нашы сэрцы аб'яднала ты.
Жыві, жыві! Люблю цябе я ўсёй душою,
Гордых продкаў вольны край, край пакутны, святы.

Беларусь, Беларусь, я люблю цябе ўсёй душою.
Ты — Айчына мая назаўжды, назаўжды!

Красуй, Беларусь! Наша спадчына і слава,
Краіна — маці, ты жыві ў шчасці з году ў год.
Жыві, жыві! Красуйся, родная Дзяржава.
Будзе вечна на зямлі старажытны наш род.
Беларусь, Беларусь, слаўся наша родная Дзяржава!
Слаўся, слаўся у вяках, беларускі народ!

*2002 г.*

*Удзельнічаў у конкурсе на Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь у 2002 г. (Звязда, 2002, 8 чэрвеня.)*

## Гімн клуба «Спадчына»

*Словы У. Пецюкевіча**

Паклікала Радзіма — Беларусь
Пад родны Сцяг з Пагоняю святою —
І мы, як Волі родную зару,
Вітаем слаўнае Былое.

*Прыпеў:*

У нашай «Спадчыне»,
Што ў садзе казачным,
Цвіце сыноўняя любоў
Да веры матчынай,
Да песні матчынай,
Да першародных каранёў!

Лунае тут натхнёна вольны дух
Скарыны, Багушэвіча, Купалы,
Што ўзнеслі Беларусь на крылах дум
Да зораў вечнасці і славы.

*Прыпеў.*

У велічным вянку былых падзей —
І Чарадзей, і Вітаўт, і Астрожскі...
— Прыходзьце, людзі, у спадчынны музей,
Вас там чакае памяць продкаў!..

*Прыпеў.*

---

** Пецюкевіч Уладзімір — сябра клуба «Спадчына». ( г. Менск, 7.03.2004 г.)*

# Гімн БНФ

*Словы і музыка Сяржука Сокалава-Воюша*

Айчына, сьветлы вобраз твой —
Нязьменны наш маяк!
Хай цемра ладзіць нам канвой —
Я добра бачу, як
Працяг суседняга пляча
Жыве ў маім плячы,
І людажэрам-крумкачам
Нас не перамагчы!

*Рэфрэн:*

Фронт! Фронт! Фронт!
Ён маё і тваё абуджэньне,
Ён народу майго Адраджэньне,
Фронт! Фронт! Фронт!

Там сталініст, там бюракрат —
Рабы старых ідэй.
Яны ствараюць штурматрад —
Вандэю ўсіх вандэй.
Яны вядуць сьмяротны бой —
Ярлык, дубінка, газ,
І не валодаюць сабой,
Пачуўшы наш адказ:

*Рэфрэн.*

Я цьвёрда веру ў свой народ,
Абуджаны ад сну.
Вясны адчуўшы надыход,
Вітае ён вясну.
Якія б беды ні былі,
Запомні добра ты:
Каб жыць і выжыць на зямлі,
У Фронт яднай шыхты!

*Рэфрэн.*

*1989 г.*

# Хрысціянскі гімн

Чакаем Цябе, наш Ісус,
І молім прыйдзі Ты да нас.
Мы любім сваю Беларсь
І хочам, каб Ты яе спас.

*Прыпеў:*

Прыйдзі ў яе Ты двары,
У вёскі прыйдзі, ў гарады,
Жыві ў яе сэрцы, Ісус,
Чакае Цябе Беларусь.

Засмучана моцна яна,
Нялёгкі дастаўся ёй лёс,
І колькі ўжо слёз праліла,
Пацеш яе, любы Хрыстос.

*Прыпеў. Пройгрыш.*

У грахах сваіх гіне народ,
Няпраўда, як цемень, лягла.
Знімі ж, Ісус, гэты гнёт
І вызваль ад лютага зла.

*Прыпеў. Павольна.*

Як добра з Табой, Ісус,
Як хораша там дзе ты ёсць.
Няхай Табе ўся Беларусь
Аддасць свае сэрца і лёс.

*Прыпеў. Хутчэй.*

*Песня ўзнікла ў Гародні. Аўтар невядомы. Тэкст быў дасланы ў рэдакцыю вядомым літаратарам Адамам Мальдзісам. Надрукавана ў штотыднёвіку «Наша слова» за 23 сакавіка 2011 г.*

# Папулярныя песні

Беларусы — пявучы народ. І сярод славянскіх народаў мы з рускімі можам аспрэчваць другое месца пасля ўкраінцаў. Украінцы заслужана займаюць першае. А сярод беларусаў найбольш пявучыя паляшукі, якія жывуць у вялікіх вёсках ды трывала трымаюцца і захоўваюць традыцыі сваіх бацькоў і дзядоў. Песня ў нас раней гучала штодзённа: і ў будні, і тым больш на святы. На некаторыя каляндарныя і сямейныя святы беларусы віншавалі песняй аднавяскоўцаў з нагоды нейкай урачыстасці.

У мінулым хадзілі па вёсках жабракі і вандроўнікі. Адныя з іх ішлі з малітвай, а іншыя на святы з песняй. У народзе гэтых вандроўнікаў называлі *лірнікамі*, а часцей — *песнярамі*. Вандроўнікі або вясковыя музыкі спявалі на фэстах. Песенныя традыцыі вандроўнікаў у нейкай ступені працягвалі ансамблі «Песняры» (узнік у 1969 годзе), «Крупіцкія музыкі» (існуе з 1982 года) ды іншыя. Яны выконвалі найбольш папулярныя песні.

Да папулярных песень адносяць тыя, якія карыстаюцца сімпатыяй у людзей. Праўда, мода з цягам часу на некаторыя песні праходзіць, а таму, магчыма, не ўсе адабраныя ўкладальнікам песні спадабаюцца многім чытачам. Але яны некалі былі любімымі ў беларусаў, якія іх спявалі. І яны былі вядомы ў розных варыянтах.

Папулярнымі песнямі становяцца як народныя, так і напісаныя кампазітарамі. Ствараюць песні і сучасныя кампазітары на вершы беларускіх паэтаў і на свае ўласныя. Некаторыя паэты складаюць такія вершы, якія лёгка кладуцца на музыку. Для рускай песні такую славу ў мінулым стагоддзі зрабілі вершы Міхаіла Ісакоўскага, якога можна лічыць нашым земляком, а для беларускай песні — вершы Адама Русака, Наталлі Арсенневай, Анатоля Астрэйкі. У іх творах стыль сказа і рытміка верша запазычаны з народнай паэзіі. Можна назваць прозвішчы і такіх паэтаў, як Максім Багдановіч, Макар Краўцоў, якія напісалі зусім няшмат вершаў, але іх творы сталі нават гімнамі, што ўдзельнічалі ў рэспубліканскім конкурсе на Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь.

Папулярнасць любой песні — з'ява часовая: сёння яна папулярная, а праз нейкі час мода на яе праходзіць. Назаву характэрны прыклад. У 1960-х гадах на верш Веры Вярбы «Ручнікі» напісаў песню Мікола Пятрэнка. Гэта песня пра каханне хутка стала вядомай ва ўсім Савецкім Саюзе. Яе лічылі папулярнай нават у Расіі. Ад чаго залежыў поспех гэтай песні? У змест верша паэтка паклала вясельную сімволіку, запазычаную з беларускай народнай паэзіі, а музыка выкарыстаў плаўную плыткую мелодыю, як плынь спакойнай ракі. А ўжо ў 1970-х гадах загучала на эстрадзе сатырычная песня пра п'янага Янку на тую ж мелодыю — «У суботу Янка грошы атрымаў...». Яна ж адразу

была падхоплена ў народзе. І папулярнасць песні «Ручнікі» пачала паступова знікаць.

Сучасных песень у нас шмат, але стануць папулярнымі і вытрымаюць выпрабаванне часам толькі адзінкі. І толькі некаторыя з іх захаваюцца ў памяці народа.

## Чачотачка

1.
Спарадзіла Чачотачка семера дачок.
Спарадзіла, спарадзіла Чачотачка семера дачок,
Невялічка семера малых.
Спарадзіла і ўзрасьціўшы спарадзіла.
І Тацюху, і Насьцюху, і Аўгіню замуж аддала,
Семера дачок.
І Аксіню, і Марыну, і Грыпіну,
Сёмую Хімку,
Сёмую Хімку.
Усякіх музык.
Чачотачка — сёмую Хімку.

2.
Спарадзіўшы і ўзрасьціўшы, замуж аддала.
(Бадай наша Чачотачка здарова была):
Аўгіню — за Мірона.
А Аксіню — за Сапрона,
А Тацюху — за Дзяміда.
А Насьцюху — за Сьпірыда,
Радзівону — Макрыну,
А Харытону — Грыпіну,
Хімку — за Кузьму.

3.
Як пачала Чачотачка пасаг выдаваць.
Як пачала невялічкіх усіх надараць:
Аўгіні — паясок.
А Аксіні — кажушок,
А Тацюсе — панчошачкі,
А Насьцюсе — суконачку,
А Грыпіне — чаравічкі,
А Макрыне — рукавічкі,
Хімцы — істужкі.

4.
Зазывала Чачотачка дзесяцёх мудрых,
Зазывала Чачотачка брацiткаў усіх:

Адзін быў Савацей,
Другі быў Цімпялей.
Трэці быў Атрахім,
А чацьвёрты — Гарасім,
Быў Барыс і Дзяніс.
І дудар удалец,
Ды й слуга Карпец.

5.
Былі дзеўкі на вясельлі і малодзіцы.
Былі старэнькія бабкі і удовіцы:
Яся, Кася і Скрыпуся,
Была Хвядора з Габрусяй
І суседкі ўсе.

6.
Нанімала Чачотачка скочну музыку,
Нанімала Чачотачка капэлю усю:
Верабейка — на скрыпіцы,
Салавейка — на прытыцы,
А сарокі — у прыскокі.
А вароны — у далоні,
Чорны галкі — у цымбалкі.
Дробны пташкі — на сьвісталкі.
Люба слухаць, як зайгралі
Музыку сваю.

7.
А Чачотка ня гуляла — варыла блыху;
Доўга госьці блыху елі, пакуль зьелі.
Аж на трэцюю нядзелю — ўсю.
Госьці дамоў захацелі,
Дзякавалі за вясельле —
Ехалі дамоў.

*(Другая частка 3-га штрофу ў некаторых мяйсцох сьпяваецца так:*
Аўгіні — кажушок.
А Аксіні — хвартушок,
А Тацюсе — пялёнкі,
А Насьцюсе — суконкі,
А Грыпіне — дзьве кошкі,
А Макрыне — панчошкі.
Хімцы — падвязкі.)

*Жартоўная песня, якая стала сапраўдным помнікам беларускім асабовым імёнам. (Тэраўскі У. Беларускі лірнік. С. 13 — 15.)*

# Касіў Васіль сена

Касіў Васіль сена,
Шырокі пакосы,
Да яго дзяўчына
Дзяціну прыносіць.*

— Васілю, Васілю,
Забірай дзяціну,
А як ты не возьмеш.
На пакосе кіну.

— Дам я табе, Галю,
Да грошай багата,
Не кажы нікому,
Што я яе тата.

— Не хачу, Васілю,
Я тых грошай браці,
Усім буду казаці,
Што ты яе тата.

Кінуў Васіль косу
У самага долу,
Узяў тую дзяціну
Ды й панёс дадому.

— Ой, маманька, мама,
Што й та за прычына,
У лесе на пакосе
Ляжала дзяціна.

— Забірай дзяціну —
Сораму не будзе,
Цераз гадок-другі
Табе помач будзе.

— Ой, маманька, мама,
Шчэ й друга прычына:
У сенях за дзвярыма,
Там плача дзяўчына.

— Бяры ту дзяўчыну
Ды й вядзі ж у хату,
Будзе табе жонка,
А дзіцяці маці.

— Ой, даруй мне, матка,
За маю правіну,
Што я на пакосы
Занясла дзяціну.

— Ой, дарую, доню,
Я тваю правіну.
Шануй майго сына,
Як сваю дзяціну.

*(Вянок беларускіх народных песень / Склад. Уладзімір Раговіч. Мн., 1988; Шавыркін М. Касіў Васіль сена // Звязда, 1996, 5 снежня. С. 8.)*

# А ў лузе, у лузе...

А ў лузе, у лузе,
Васіль сена косіць,
А яму Марына
Сыночка прыносіць.
— Васілю, Васілю,
Бяры свайго сына,
А калі не возьмеш,
На пакосе кіну.

---

** Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.*

— Дам табе, Марына,
Сто рублёў грашыма,
Не кажы на мяне,
Кажы на другога.
— Хай цябе, Васілю,
Ліхая гадзіна,
Як мы любіліся,
А цяпер ты пакінуў.

*Запісаў С.В. Барыс у 1969 г. ад Соф'і Барыс. У беларускім народным календары 13 сакавіка (па новым стылі) адзначаецца як дзень Васіля і Марыны. Магчыма гэтая акалічнасць знайшла адлюстраванне ў згаданай песні.*

*Амаль аналагічная песня па зместу «Касіў Васіль сена», якая запісана ў 1983 г. у вёсцы Лядзец Столінскага раёна ад Я. Майсак, Л. Кадоліч, Г. Глуско заканчваецца не праклёнам, а шчаслівым канцом.*

## У гушчарах

*Словы Наталлі Арсенневай*
*Музыка Міколы Шчаглова-Куліковіча*

У гушчарах, затканых імглою,
Шэрым змрокам, на зояку, ў зару
Ахвяруем Табе мы сабою. } 2 разы
Кожны дзень, кожны час, Беларусь.

І няма ў сэрцах жаху ні жалю,
Мы адвагай змагарнай гарым:
Не чужыя жануць нас удалеч, } 2 разы
Але Ты нас вядзеш да зары.

І мы верым, яна разгарыцца,
Ўстане зноў над краінаю дзень,
Бо не стане змагар, не скарыцца } 2 разы
Прад нягодай ніколі, нідзе.

Хмараў дым над галовамі тае,
Вецер дыхае мятой, быллём.
Беларусь, Беларусь залатая, } 2 разы
За Цябе, за Цябе мы ідзём!

*(Песні ў летніку // Роднае слова. 1992, № 5. С. 62.; Туга па Радзіме. С.167.)*

# У майго татачкі сад зяляненькі

У майго татачкі сад зяляненькі,
Люлі, люлі, сад зяляненькі.
Пусці татачка ў сад пагуляці,
Люлі, люлі, у сад пагуляці.
А я не буду вішань ламаці,
Люлі, люлі, вішань ламаці.

Толькі я вырву адну квятачку,
Люлі, люлі, адну квятачку.
Понясу я к тату на радачку,
Люлі, люлі, на радачку.

— Парадзь, татачка, што мне рабіці,
Люлі, люлі, што мне рабіці?
Ці замуж ісці, ці дзеўкай быці,
Люлі, люлі, ці дзеўкай быці?

— Замуж зайшоўшы, нагаруешся,
Люлі, люлі, нагаруешся.
Дзеўкаю быўшы, нагуляешся,
Люлі, люлі, нагуляешся.
Замуж зайшоўшы — вялікае гора.
Дзеўкай быці — людская мова.

— Лепей я буду гора капаці,
Люлі, люлі, гора капаці.
Як і з нялюбым у шлюбе стаці,
Люлі, люлі, у шлюбе стаці.

Лепей я буду чорны хлеб есці,
Люлі, люлі, чорны хлеб есці.
Як і з нялюбым за сталом сесці,
Люлі, люлі, за сталом сесці.

Лепей сівую касу насіці,
Люлі, люлі, касу насіці.
Як і з нялюбым цэлы век жыці,
Люлі, люлі, цэлы век жыці.

*Запісаў С. В. Барыс у 1962 г. ад Соф'і Барыс, жыхаркі хутара Струменне Рускасельскага сельсавета Вілейскага раёна. Друкуецца ўпершыню.*

## Капаў, капаў крынічаньку

Капаў, капаў крынічаньку
Ў вішнёвым саду.
Ці не прыйдзе мая мілка
Сюды па ваду.

*Прыпеў:*

Жаль, жаль яе будзе,
Возьмуць яе людзі —
Мая ня будзе.
Ой, жаль ні памалу
Любіў дзяўчыну змалу,
Любіў ды не ўзяў.

Ужо тая крынічанька
Травой зарасла.
Ужо тая дзяўчыначка
І замуж зайшла.

*Прыпеў.*

Капаў, капаў крынічаньку
Нядзелечкі дзве.
Любіў, кахаў дзяўчыначку
Людзям не сабе.

*Прыпеў.*

Ужо тая крынічанька
Засарылася.
Ужо тая дзяўчыначка
Зажурылася.

*Прыпеў:*

Ой, жаль яе будзе:
Возьмуць яе людзі —
Мая ня будзя.
Жаль, жаль ні памалу
Любіў дзяўчыну змалу,
Любіў ды не ўзяў.

*Запісаў С. В. Барыс у 1969 г. ад Соф'і Барыс.*

## Беларусь мая

*Словы С. Сокалава-Воюша*
*Музыка В. Навіцкага*


*Сяржук Сокалаў-Воюш*

Аксамітны летні вечар
Ахінуў зямлю,
Я вазёрную сінечу
Вёсламі лаўлю.

Моўчкі слухаю ў росах
Песню салаўя.
Над маім лунае лёсам
Беларусь мая! } 2 разы

А над лесам, над сусветам
Выпрастаў крыло
Залацісты човен-ветах,
Зорнае вясло.

Стан дзявочы Белай вежы,
Подых ручая.
Я адной табе належу,
Беларусь мая! } 2 разы

Там, дзе гойдае вятрыска
Залаты мурог,
Паўставалі камяніскі
Ля тваіх дарог.

Чырванее ранні золак
Рэха ў гаях.
У грудзях тваіх асколак, } 2 разы
Беларусь мая!

Мне краёў чужых ня трэба,
Як не варажы.
Не хачу чужога хлеба,
Радасцяў чужых,

Бо чужына сэрца жаліць,
Цісне, як зьмяя.
Бо гукае з дальніх даляў } 2 разы
Беларусь мая!

*1985 г.*

*У 1989 годзе ў Мінску гэту песню выконваў Данчык разам з Сяржуком Сокалавым-Воюшам.*

## О, Беларусь, мая шыпшына

*Словы Уладзіміра Дубоўкі*
*Музыка Міколы Шчаглова-Куліковіча*

О Беларусь, мая шыпшына,
Зялёны ліст, чырвоны цьвет,
У віхры дзікім не загінеш,
Чарнобылем не зарасьцеш.

Пялёсткамі тваімі стану,
На дзіды сэрца накалю,
Тваіх вачэй пад колер сталі
Праменьне яснае люблю.

Варожасьць шляху не зачыне,
У перашкодах дух расьце.
О Беларусь, мая шыпшына,
Зялёны ліст, чырвоны цьвет.

*(Беларускія маршы і песьні. Мн., 1998. С. 42.)*

# Мілая спадарыня

*Верш Уладзіміра Пецюкевіча*
*Музыка Дзмітрыева Даўгалёва*

Я сумую лебедзем, у віры купаюся:
— Дзе ты, чарнабровая?
То журуся жоравам, угару ўзнімаюся:
— Адгукніся, родная!

*Прыпеў:*

Дзе ты, чарнабровая, дзе ты свеларусая?
Пра цябе я думаю, думаю штодня,
Бела-беларусачка, бела-белпрусачка,
Мілая спадарыня!

То ў зары, то ў месяца пра цябе пытаюся:
— Дзе мая заранячка?
То спакойна веру я: з выраю ты вернешся
Веснавой журавачкай.

*Прыпеў.*

Мы з табою вернемся да бацькоўскіх весніцаў,
Нізенька паклонімся,
Упрыгожым песнямі хату нашу веснюю —
Зноў на свет народзімся.

*Прыпеў.*

*(Роднае слова, 2000, № 4. С. 107.)*

# Зорачка мая

*Верш Уладзіміра Карызны*
*Музыка Леаніда Захлеўнага*

Мне ўсё даражэй зорны міг начэй,
Звон азёрных гусляў,
Месячкі тваіх вясновых вачэй
І маладзічкі вуснаў.

*Прыпеў:*

Зорачка мая, светлая мая,
Узімку і вясною,
А ці снег мяце, а ці дождж ідзе.
Ты заўжды са мною.

Мілая далонь поўная цяпла,
Як святла крыніца,
Сілы удалой, звонкай, маладой
Дай жа мне напіцца.

*Прыпеў.*

Ласка шчырых слоў дорыць мне святло,
Сэрца маладзее.
Гэтак першы гром будзіць ціхі дол,
Траўка зелянее.

*Прыпеў.*

*(Роднае слова. 1997. № 1. С. 209, 210.)*

# Гаю мой, не кліч

*Верш Уладзіміра Пецюкевіча*
*Музыка Дзмітрыя Даўгалёва*

Гаю мой,не кліч пад каліны цвет
Да крынічных вод, светлых, як вясна:
Там яе няма — паляцела ў свет, } 2 разы
Наша рэчанька высахла да дна.

Паляцела ў свет, русакосая,
Стан рабінавы, вочы — сінь азёр.
Не спяе ўжо мне мілым голасам } 2 разы
Пра дзівосны край у зіхценні зор.

Гаю мой, не кліч на шчаслівы смех —
Касавіцаю весела ў лугах:
Там яе няма — паляцела ў свет, } 2 разы
Наш мядовы луг палыном прапах.

Гаю мой, не кліч пад каліны цвет
Да крынічных вод, светлых, як вясна:
Там яе няма—паляцела ў свет, } 2 разы
Наша рэчанька высахла да дна.

*(Роднае слова. 2000. № 4. С. 206.)*

# Беларусачка

*Словы Алеся Ставера*
*Музыка Юрыя Семянякі*

Я гляджу на твае косы русыя,
Не магу наглядзецца ніяк,
Беларусачка, беларусачка, } 2 разы
Дарагая сяброўка мая.

У краёх незнаёмых, нязведаных
Буду ў радасці я ці ў журбе.
Беларусачка, беларусачка, } 2 разы
Не забуду ніколі цябе.

Я вярнуся к табе, сінявокая,
Калі ў кветкі адзенецца край.
Беларусачка, беларусачка, } 2 разы
Ты хоць зрэдку мяне ўспамінай.

# Ручнікі

*Словы Веры Вярбы*
*Музыка Міколы Пятрэнкі*

У суботу Янка ехаў ля ракі,
Пад вярбой Алёна мыла ручнікі.
— Пакажы, Алёна, броды земляку,
Дзе тут пераехаць на кані раку?
— Адчапіся, хлопец, едзь абы-куды,
Не муці мне толькі чыстае вады.
У маркоце Янка галавой панік,
Упусціла дзеўка беленькі ручнік.
— Янка, мой саколік, памажы хутчэй,
Ой, плыве, знікае ручнічок з вачэй.
— Любая Алёна, я вады баюсь.
Пацалуй спачатку, бо я ўтаплюсь.
Супыніўся гнеды пад вярбой густой,
Цалаваў Алёну Янка над вадой.
Стала ціха, ціха на ўсёй зямлі, } 2 разы
Па рацэ далёка ручнікі плылі...

*(Купалінка: Зборнік папулярных беларускіх народных песень пра каханне. Мн., 1986. С. 120—121.)*

# Раз ды разок

*Словы Уладзіміра Някляева*
*Музыка Валерыя Іванова*


*Уладзімір Някляеў*


*Валерый Іваноў*

Ой ты, віно-гаркота,
Піў бы, каб не лянота.
Толькі я не зляную
Чарыцу зеляную.
Раз ды разок з разочкам
Чарка пайшла кружочкам.
Раз ды разок, чок-чок-чок-чок,
Чарыца ходзіць кружочкам.

Ой ты, любоў-ламота,
Млеў бы, каб не лянота.
Толькі я не зляную
Дзеўчыну маладую.
Раз ды разок з разочкам,
Ды над бачок на ночку.
Раз ды разок, ды пад бачок,
Ды пад бачок на ўсю ночку.

Ой ты, жыццё-маркота,
Жыў бы, каб не лянота.
Толькі я не зляную
Маці-зямлю сырую.
Раз ды разок з разочкам
Вырасту васілёчкам.
Раз ды разок сінь-васілёк
Ціха празвоніць званочкам.

Ой ды я не зляную
Маці-зямлю сырую,
Чарыцу зеляную,
Дзеўчыну маладую.
У распісным вазочку
Дням пралятаць і ночкам...
Раз ды разок, чок-чок-чок-чок,
Чарыца ходзіць кружочкам,
Раз ды разок, ды пад бачок,
Ды пад бачок на ўсю ночку.

*(Роднае слова. 1998, № 1. С. 179, 180.)*

# Каля броду каліна


Леанід Захлеўны

*Верш Уладзіміра Някляева*
*Музыка Леаніда Захлеўнага*

Каля броду каліна,
Пад калінай дзяўчына
Мые косы, мые плечы белыя.
Косы вымывае,
Скоса паглядае:
Дзе вы, хлопцы, дзе вы, хлопцы смелыя?

*Прыпеў:*

Каліна-ягада яшчэ няспелая,
Не баіцца хлопцаў дзеўка смелая.
Дзеўка смелая, спелыя гады,
Ой, пара з ёй ісці па ягады!

Хлопцы малы-драбненькі,
Ды адзін удаленькі,
Ён да дзеўкі пад прыпеўкі коціцца.
Ну яго прыпеўкі,
Пачакай ты, дзеўка,
Каля броду ваяводу ці купца.

*Прыпеў.*

Каля броду каліна,
Пад калінай дзяўчына,
Берагамі быстрая бяжыць вада.
Едуць ваявода
Ды купец да броду,
А з каліны ўжо сарвана ягада.

***Песня «Каліна-ягада» напісана ў сярэдзіне 1990-х гадоў. Спачатку яе спявала Святлана Суседчык, салістка ансамбля «Бяседа». Цяпер яе выконвае вакальны гурт «Пліса» са Смалявічаў.***

# Віншавальная

*Верш Уладзіміра Някляева*
*Музыка Васіля Раінчыка*

Уславім любоў і ў гонар любві спяём.
Вясёлым віном бакалы паўней нальём.
І вып'ем з любоўю, дай Бог не ў апошні раз, — яшчэ раз,
За тых, каго помнім, яшчэ раз за ўсіх за нас.

*Прыпеў:*

Мы першы бакал уздымаем па праву
За Беларускую нашу Дзяржаву.
За славу яе, за гордую славу, —
Нам ёй даражыць.

За спеў салаўёў
У вечных дубровах,
За сінь васількоў
На ўзмежках жытнёвых, за шчасце любіць,
За шчасце на свеце жыць.

Уславім сяброў і ў гонар сяброў спяём,
Вясёлым віном бакалы паўней нальём.
І вып'ем з сябрамі, дай Бог не ў апошні раз, — яшчэ раз,
За тых, хто не з намі.
Яшчэ раз за ўсіх за нас.

*Прыпеў.*

Уславім жыццё і ў гонар жыцця спяём.
Вясёлым віном бакалы паўней нальём.
І вып'ем да донца, дай Бог не ў апошні раз — яшчэ раз,
За яснае сонца,
Яшчэ раз за ўсіх за нас.

*Прыпеў.*

*Песня «Віншавальная» надрукавана ў газеце «Звязда» (2001, 1 студзеня).*

*Песня напісана ў пачатку 1980-х гадоў. Васіль Раінчык стварыў жыццярадасную музыку. Потым яна трапіла пад антыалкагольную кампанію. Яе спявалі эстрадныя і оперныя спевакі. Найбольшае ўражанне пакідае выкананне заслужанага артыста Беларусі Мікалая Скорыкава. Яго магутны барытон вельмі глыбока выяўляе сутнасць гэтай песні.*

# Толькі з табою



Ісак Любан

*Верш А. Русака*
*Музыка І. Любана*

Толькі з табою мне хочацца быць,
Толькі з табою .
Радасць, і гора, і шчасце дзяліць
Толькі з табою*.

Ранняй часінай к табе я лячу
Позняй парою,
Толькі к табе прыхіліцца хачу
Сэрцам, душою.

Выйсці у поле дзе нівы шумяць,
Там над ракою.
Першую зорку на небе спаткаць
Толькі з табою.

Цяжкія будуць хай нашы шляхі —
З горам, з бядою...
Гэтак ісці неразлучна ў жыцці
Толькі з табою!

# Ты мне вясною прыснілася

*Верш Міхася Шушкевіча*
*Музыка Юрыя Семянякі*

Ты мне вясною прыснілася
Летняя ночка купальная
Яснай растаяла знічкаю.
Падаюць зоры світальныя
Ў чыстыя воды крынічныя.
    Ой ты, дзяўчыначка мілая,
    Як жа ты свет упрыгожыла!
    Ластаўка ты лёгкакрылая,
    Светлы мой сон растрывожыла**.
Ты мне вясною прыснілася
Неразгаданымі чарамі.
Сэрца парыўна забілася
Вольнымі крыламі-марамі.
    Пэўна, цябе, ненаглядная,
    Стрэў я часінай удалаю.
    Ты — мая доля спагадная,
    І не шкадую німала я!



Юрый Семяняка

---

** У кожнай страфе апошнія 2 радкі паўтараюцца.*
*** Другі і чацвёрты куплеты паўтараюцца.*

# Каханую засватаю

Конь капытам б'е, ваду дастае.
— Напаі, сястра, ты майго каня,
А паеду я ды за край сяла —
Каханую засватаю.* (2 разы)

— Ой ты, мой сівы конічак,
Чаму ж ты рыссю не бяжыш?
Чарнабровая мая Мальвіначка,
Чаго засмучана сядзіш? (2 разы)

— Ой, учора я ды надвячорачкам,
Ой, там у зялёным садочку,
Ай, згубіла я свой пярсцёначак
Дык і цяпер я не знайду. (2 разы)

— Ой, не журыся ты, бо тут няма бяды.
Мальвінка мая, рыхтуй ручнікі.
Прывязу я табе пярсцёнак залаты,
Пярсцёнак залаты да правай рукі. (2 разы)

Мой конік заржаў — ён мне падсказаў.
— Ой, запрагай, татку, каня сівога.
Ой, паеду я ды за край сяла,
Каханую засватаю. (2 разы)

*Варыянт народнай песні «Шэрая лашадачка...» Літаратурная апрацоўка Сымона Струменскага.*

---

**Апошнія два радкі ў кожным куплеце паўтараюцца.*



*Мікалай Скорыкаў*



*Якаў Навуменка*

# Чаму ж мне не пецьǃ

*(Народная песня)*

Чаму ж мне не пець,
Чаму ж не гудзець,
Калі ў маёй хатачцы
Парадак ідзець*.

Чаму ж мне не пець,
Чаму ж не гудзець —
Мышка на акенцы
У цымбалкі б'ець.

Чаму ж мне не пець,
Чаму ж не гудзець —
Павучок на сценцы
Красёнцы снуець.

Чаму ж мне не пець,
Чаму ж не гудзець —
Парсючок пад лаўкай
Бульбачку грызець.

Чаму ж мне не пець,
Чаму ж не гудзець —
На століку пеўнік
Крошачкі дзяўбець.

Чаму ж мне не пець,
Чаму ж не гудзець —
Дзіцятка ў калысцы,
Як бычок равець...

Чаму ж мне не пець,
Чаму ж не гудзець,
Калі ў маёй хатачцы
Парадак ідзець!

---

**У кожнай страфе апошнія 2 радкі паўтараюцца.*

# Там за гаем зэлэненькім

Там за гаем зэлэненькім, там за гаем зэлэненькім,
брала ўдова лён дробненькі, брала ўдова лён дробненькі.
Вона брала выбірала, вона брала выбірала,
тонкі голас падавала, тонкі голас падавала.
Тонкі голас галасочак, тонкі голас галасочак,
чэраз цёмненькі лясочак, чэраз цёмненькі лясочак.
Там Васылька сена косіць, там Васылька сена косіць,
тонкі голас пераносіць, тонкі голас пераносіць.
Кінуў косу на пракосу, кінуў косу на пракосу,
а сам пайшоў да дамоньку, а сам пайшоў да дамоньку.
Як прыходзіць вон да дому, як прыходзіць вон да дому,
за шырокі стол садзіцца, за шырокі стол садзіцца.
За шырокі стол садзіцца, за шырокі стол садзіцца,
складіў сваю галавоньку, складіў сваю галавоньку.
Выйшла маты із комнаты, выйшла маты із комнаты,
стала Васыля пытаты, стала Васыля пытаты:
— Чого, сынку, зажурыўся, чого, сынку, зажурыўся?
чому ны п'еш, ны гуляеш, чому ны п'еш ны гуляеш?
— Пазволь, мацi, ўдову ўзяцi, пазволь мацi ўдову ўзяцi,
тады буду піць гуляцi, тады буду піць гуляцi.
— Нэ пазволю ўдову ўзяцi, нэ пазволю ўдову ўзяцi,
удова ўмее чароваці, удова ўмее чароваці.
Зчаровала мужа свого, зчаровала мужа свого,
ды зчаруе сына мого, ды зчаруе сына мого.
— А я чару нэ баюся, а я чару нэ баюся,
дай на ўдове ажанюся, дай на ўдове ажанюся.



*Вакальны гурт «Крывічы» (г. Іркуцк, 2011 г.)*

*Запісана ў 2011 г. у в. Тургенеўка Баяндаеўскага раёна Іркуцкай вобл. Спявала Ніна Кузьмінічна Дакучыц (у дзявоцтве Самасюк, 1935 г. нар.).*

*Такую ж песню «Па-за лугам зеляненькім» С. Барыс запісаў у 1971 г. у вёсцы Аронава Слабада Сёмкаўскага сельсавета Мінскага раёна ад маладой дзеўкі Святланы Мікалаеўны Рабушкі (1951 г. нар.). Яна выканала яе на тутэйшым дыялекце.*

## Зяляны дубочак, чаго пахіліўся?

— Зяляны дубочак, чаго пахіліўся?
Малады казача, чаго зажурыўся?
Малады казача, чаго зажурыўся?
Чы волы прысталі, чы з дарожкі збіўся?
— Волы не прысталі, з дарожкі не збіўся,
Бацька з маткай помер, а я не жаніўся.
Бацька з маткай помер, а я не жаніўся.
Пайду ў чыста поле шукаць сабе долю,
Пайду ў чыста поле шукаць сабе долю.
Не знайшоў я долю, знайшоў рыбалоўню,
Не знайшоў я долю, знайшоў рыбалоўню.
Рыбалоўцы-хлопцы, малады малодцы,
Рыбалоўцы-хлопцы, малады малодцы,
Закідайце сеці на быстрыя рэкі.
Закідайце сеці на быстрыя рэкі,
І паймайце долю хлопцу маладому.
І паймайце долю хлопцу маладому,
Не паймалі долю, а паймалі шчучку.
Не паймалі долю, а паймалі шчучку,
Шчучка-рыбка йграе, сабе пару мае.
Шчучка-рыбка йграе, сабе пару мае,
А я маладзенькі без пары адненькі.

*Запісаная ў 2010 г. у в. Тургенеўка Баяндаеўскага раёна Іркуцкай вобл. ад Ніны Кузьмінічны Дакучыц (у дзявоцтве Самасюк, 1935 г. нар.)*

***Заўвага.*** *Абедзьве папярэднія песні запісаныя з захаваннем пінскага дыялекту (вымаўлення) ад інфарматаркі, якая з'яўляецца нашчадкам перасяленцаў па Сталыпінскай рэформе ў 1909 г. з Пінскага павета Мінскай губерні. Гэтыя песні сібірскіх беларусаў прыслаў для спеўніка Алег Рудакоў з Іркуцка. Яны ўключаныя ў рэпертуар самадзейнага вакальнага гурта «Крывічы», які існуе ў Іркуцку некалькі гадоў.*

# Гуляць дык гуляць!

*Словы Уладзіміра Някляева*
*Музыка Валерыя Іванова*

Сёння ў нашай хаце свята,
Калі ласка ў нашу хату.
Гэй, рады прыняць —
Гуляць дык гуляць!

*Прыпеў:*

Сёння гудзе ад ранку
Ў нас гулянка,
А ўчора з вячора
З намі гуляй, хто хоча,
Хоць да ночы.
А хто адгуляў — спачывай.

Ліха з горам ды бядою,
Скосім разам з лебядою.
Гэй, кінь гараваць —
Гуляць дык гуляць!

*Прыпеў.*

Пакуль жывы ў свеце людзі,
Так ці гэтак — неяк будзе.
Гэй, жыць — не ўміраць,
Гуляць дык гуляць!

*Прыпеў.*

*(Гуляць дык гуляць. Мн., 1995, С. 115.)*

# Жураўлі на Палессе ляцяць

*Словы Алеся Ставера*
*Музыка Ігара Лучанка*

Каб любіць Беларусь нашу мілую,
Трэба ў розных краях пабываць.
Разумею цяпер, чаму з выраю
Жураўлі на Палессе ляцяць!


*Алесь Ставер*

Што ім тыя пагоды паўднёвыя,
Што ім пышны платанавы рай,
Калі клічуць іх далі сасновыя
І азёрны, рабінавы край.

Сакавітыя пожні мурожныя
Не заменіш нічым і нідзе,
І зямлю, дзе сцяжыначка кожная
У прыветлівы двор прывядзе.


*Ігар Лучанок*

Каб любіць Беларусь нашу мілую,
Трэба ў розных краях пабываць.
Разумею цяпер, чаму з выраю
Жураўлі на Палессе ляцяць...

# Зямля Беларусі

*Словы Івана Цітаўца*
*Музыка Анатоля Багатырова*

Абмытая потам,
Крывёю паліта,
Зямля Беларусі
Сусвету адкрыта.

Табою дзіўлюся,
Табой ганаруся,
Зямля маіх продкаў,
Зямля Беларусі.

А ты не забіта,
А ты не забыта.
І, змогшы віхуры,
Шуміць тваё жыта.

Табою дзіўлюся,
Табой ганаруся,
Зямля-партызанка,
Зямля Беларусі.

Чарнобыля гора —
Бяздоннае мора.
А я ў Беларусі
Навек застаюся.

Табою дзіўлюся,
Табой ганаруся,
Мой лёс, маё шчасце,
Зямля Беларусі.

*(Цітавец І. Ёсць любоў у мяне... С. 26, 27.)*

# Марш беларускае моладзі

*Словы Янкі Купалы*
*Музыка Міколы Шчаглова-Куліковіча*

На цябе, наша моладзь, надзея
Нашай сумнай забранай зямлі;
Твой арліны палёт цьму разьвее
І запаліць веквечны агні.

Ты разбудзіш прыспаныя сілы
І на вольны паклічаш простор
З забыцьця беспрасьветнай магілы
Да бліскучага сонца, да зор.

Схамяніся ж ты, моладзь арліна!
Ў бок другі віхры веяць прымусь,
Бяры сьветач, ідзі за судзьбінай,
Ідзі з словам сьвятым: Беларусь!

*1941 г.*

*(Беларускія маршы і песьні. С. 36.)*

# Хацела ж мяне мацi замуж аддацi

*Словы i музыка народныя*

Ой, хацела ж мяне мацi
Ды за першага аддаць.
А той першы,
Первы ды няверны —
Ой, не аддай мяне, маць! } 2 разы

Ой, хацела ж мяне мацi
Ды за другога аддаць.
А той другi
Ходзiць да падругi —
Ой, не аддай мяне маць! } 2 разы

Ой, хацела ж мяне мацi
Ды за трэцяга аддаць.
А той трэцi,
Як у полi вецер —
Ой, не аддай мяне, маць! } 2 разы

Ой, хацела ж мяне мацi
За чацвёртага аддаць.
А той чацвёрты
Нi жывы, нi мёртвы —
Ой, не аддай мяне, маць! } 2 разы

Ой, хацела ж мяне мацi
Ды за пятага аддаць.
А той пяты
П'янiца праклятага —
Ой, не аддай мяне, маць! } 2 разы

Ой, хацела ж мяне мацi
Ды за шостага аддаць.
А той шосты
Малы, недарослы —
Ой, не аддай мяне, маць! } 2 разы

Ой, хацела ж мяне мацi
Ды за сёмага аддаць.
А той сёмы
Прыгожы ды вясёлы —
Ён не схацеў мяне ўзяць! } 2 разы

*Класічная беларуская народная песня, надрукавана ў многіх зборніках. Яна змешчана і ў песенніку «Гуляць дык гуляць! Застольныя песні беларусаў» (с. 50, 51). Яе спадабалі ў Расеі, што нават пераклалі на рускую мову і змясцілі ў песенніку «Лучшие застольные песни» (с. 47, 48), але забыліся напісаць, што песня беларуская. А сёмы куплет перакласці на рускую мову не ўдалося. Мяркуйце самі, як атрымалася па-руску:*

*Как хотела меня мать*
*Да за сёмого отдать.*
*А тот сёмы,*
*Пригожий, да весёлый,*
*Он не хотел меня брать!*

*У верасні 2009 г. эстрадная спявачка Надзея Бабкіна выконвала нашу песню «Как хотела меня мать» на рускай мове ў Крамлёўскім парку ў Вялікім Ноўгарадзе, калі старажытны горад святкаваў сваё 1150-годдзе. І песня ў наўгародцаў мела поспех.*

## Адлятаюць гусі

*Словы Аляксандра Лягчылава*
*Музыка Уладзіміра Будніка*

Надвая разрэжуць
Неба клінам гусі,
На зямлю жалобна
Кінуўшы «Бывай!»
Хіба гэта, мусіць,
Плач па Беларусі,
Ці сказаць хацелі:
«Родная, чакай!»


*Уладзімір Буднік*

*Прыпеў:*

Можа, ўсё — так,
Можа быць — не,
Толькі свой край
Як жа вам не любіць.
Можа, ўсё — так,
Можа быць — не...
Адлятаюць гусі,
Толькі Беларусі не забыць.

*1996*

Мы ляцім, як гусі,
Ўслед за чарадою,
І чамусьці верым
Толькі важакам.
І сабе мы хлусім
У сваёй спакусе:
Хто ўзляцець гатовы,
Крылы знойдзе сам.

*Прыпеў.*

*(Лягчылаў А., Буднік У., «Атэль пад ліпамі». Мн., 1999. С. 48.)*

# Родная хата

*Верш Аляксандра Роўды*
*Музыка Леаніда Захлеўнага*

У гэтым жыцці з яго звонам і гулам,
Калі ты стаміўся ад доўгіх дарог,
Адзіны на свеце знойдзеш прытулак —
Заўжды прывітае бацькоўскі парог.

*Прыпеў:*

Родная хата — няхай не багата,
Родная хата — такая, як ёсць.
Родная хата і ў будні і ў свята
Сустрэне заўсёды хоць сын ты ці госць.

Тут не бывае ні позна, ні рана
Стомлены прыехаў ці вельмі прамок.
Маці спытае зажды спачувана,
З лёгкім дакорам: «Як жыў ты, сынок?»

*Прыпеў.*

Калі тут бываеш, дык многа не трэба,
Тут і дыхаць лягчэй ды й сніцца цяплей.
Заўжды адшукаецца хлеб і да хлеба
І добрае слова для добрых людзей.

*Прыпеў.*

Куды б не кідаўся ў тлумных патрэбах
І дзе б не заснуў ля чужых берагоў,
Няхай табе сніцца бацькоўскае неба
І матчыны казкі маленства твайго.

*Варыянт апошняга куплета:*
Куды б не кідаўся па сваіх ты патрэбах
І дзе б не заснуў ля чужых берагоў,
Заўсёды прысняцца бацькоўская хата
І матчыны казкі дзяцінства твайго.

*Прыпеў.*

***Верш напісаны 10 студзеня 1995 г. Песня ўпершыню выканана ў тым жа годзе вакальным ансамблем «Бяседа». Цяпер яе спявае і самадзейны гурт «Пліса».***

# Бадзяга

*Вітаўт Мартыненка*
*паводле расейскага фальклёру*

Па стэпах чужых Забайкальля,
Дзе золата поўна ў гарах,
Бадзяга на лёс наракае
Ды цягнецца з кайстрай бяз сна.

Кашулька на ім састарэла,
Што лапінаў болей на ёй,
Картуз арыштанцкі ня грэе,
Чугай жа — турэмны, ня свой.

Даў цягу з турмы цёмнай ноччу,
Пакуты за праўду трываў.
Ды йсьці болей ногі ня хочуць,
А далей чакае Байкал.

Да возера ўрэшце падходзіць
І човен рыбацкі бярэ,
Стамлёныя цяглiцы ўзводзіць
Ды вёслы натужна дзярэ.

Заводзіць самотныя сьпевы
Пра край свой забраны і дом.
Айчыны гаротнай павевы
Настрой разьвярнулі ўверх дном.

Нат вецер яму падпявае:
Навошта сьпяшаесься ты?
Стамлёнае сэрца ня знае,
Што хата і вёска пусты.

Бадзяга Байкал перадолеў,
Да матчынай хаты дайшоў,
А думкамі ўсё у няволі,
Чакае бацькоў-сваякоў.

І вось яна, родная хата,
І маці насустрач ідзе.
Бадзяга пытае: «Дзе тата?
І Янка, браточак, мой дзе?»

— Твой бацька ляжыць у магіле,
Зямлёй прыхаваны даўно,
А брат апынуўся ў Сібіры,
Дзе цягне чужое ярмо.

Са стэпаў, лясоў Забайкалья,
Празь немач, сьнягі і вятры
Бадзяга вярнуўся да краю,
Скуль зьбег ад чужынскай муштры.

## Веру я ў Беларусь

*Верш Аляксандра Лягчылава*
*Музыка Васіля Кандрасюка*

Пашкадуюць без слёз за пакутлівы лёс
Дабрадзеі, што любяць спакой,
А ў блакіце нябёс сярод белых бяроз
Я заўсёды, Радзіма, з табой!

*Прыпеў:*

Горка толькі за тых, што ганьбіў услых
Шматпакутную нашу зямлю.
Крыкну свету за ўсіх — за старых і малых:
«Веру я ў Беларусь і люблю!»

Што мы веры не той у краіне сваёй?!
Толькі сэрцу ніколі не хлусь...
Дзе б ні быў — я з табой, берагу твой спакой.
Я цябе берагу, Беларусь!

*Прыпеў.*

Як Хрыстос на крыжы, смела ў вочы скажы:
«Можа, хопіць нікчэмных спакус?..
На апошняй мяжы ад сябе не бяжы,
Ад Радзімы сваёй, беларус!»

*Прыпеў.*

*(Роднае слова. 2002. № 1. С. 112.)*

# Прысяга

*Словы Наталлі Арсеньневай*
*Музыка Міколы Шчаглова-Куліковіча*



*Міхась Забэйда-Суміцкі*

Беларусь, наша маці-краіна,
Ты з нас моцных зрабіла людзей.
Не загінулі мы, і ня згінем,
Пакуль ты нас наперад вядзеш.

Не загінулі мы, і ня згінем,
Пакуль ты нас наперад вядзеш.

Пастаім за Цябе, як асілкі,
Нашы сэрцы палаюць агнём,
Дружна, моцна за лес Твой расьцьвілы
Супраць Чорнае Моцы мы йдзём.

Дружна, моцна за лес Твой расьцьвілы
Супраць Чорнае Моцы мы йдзём.

Не шкада нам жыцьця маладога,
Не шкада нам гарачай крыві,
Абы толькі праменнай дарогай
Крочыў горда народ наш жывы.

Абы толькі праменнай дарогай
Крочыў горда народ наш жывы.



*Пётра Конюх*

Прысягаем Табе мы сягоньня,
Што пакуль хоць адзін з нас жыве
Нашай слаўнай крывіцкай Пагоні,
Мы ня зганьбім, мы ўславім яе.

Нашай слаўнай крывіцкай Пагоні,
Мы ня зганьбім, мы ўславім яе.

*(Беларускія маршы і песьні. С. 24—26.)*

# Белы ветразь

*Словы і музыка Святаслава Кавалёва*

Ускрай дарогі шырока поле,
Ускрай дарогі вольная воля,
У белой далоні вянок ружовы,
Вянок ружовы ў белай далоні.

Родны краю! Родны край!
Сваю долю выбірай.
Гайда, усім народам
Па сваю Свободу.

Над Белавежай гуляе вецер,
Над Белавежай ружовы вечар.
У чыстым полі вольныя коні,
Вольныя коні ў чыстым полі.

Родны краю! Родны край!
Нехта кліча з выраю.
На раздоллі белы конь
Калыхае грываю.

Высока ў небе нястомны вырай,
Высока ў небе белыя крылы.
У свеце белым чырвона сонца
Чырвона сонца ў свеце белым.

Родны краю! Родны край!
Белы ветразь подымай.
Скора сонца ўстае
На белым — чырвонае.

*(Перадрукавана з газеты «Народная воля» за 13 красавіка 2001 г.)*

# Птушкі

*Словы Алеся Камоцкага*
*(беларуская версія песні Міхаіла Ісакоўскага «Летят перелётные птицы»)*
*Музыка Мацвея Блантара*

Блакітам нябёсаў асенніх,
Паветрам празрыстага дня,
Лятуць пералётныя птушкі
Цяплейшага сонца дагнаць.

А я на зямлі застаюся,
Чакаць маразы і снягі.
У роднай сваёй Беларусі,
Дзе кожны куток дарагі.

Растане ільдзінка растання,
Развеецца смутак стары.
Стагоддзі лічыць не прыстане
Зязюля ў зялёным бары.

Мая маладзее надзея
І робіць салодкі палын.
Тут нават, калі захварэю —
Ніколі не буду адзін.

Калі яшчэ вернуцца гусі?
Калі яшчэ прыйдзе вясна?
Да печы пакуль прытулюся,
Зірну на падворак з вакна.

Цяплей мне віхор снегавею,
Што гоніць сняжынкі на тын.
Ці ж гэтак душу мне сагрэе
Спякотнае сонца пустынь?

*Песня выконвае аўтар тэксту Алесь Камоцкі.*

# Я застаюся тут

*Словы Кастуся Цыбульскага*
*Музыка Кастуся Герашчанкі*

Хтосьці кідае свой дом і ляціць на чужыну,
Дзе аксамітныя пальмы і водар віна.
Я застаюся навек, дзе чабор і ажына,
Дзе ў нарачанскім бярэзніку плача жаўна.

*Прыпеў:*

Тут Сож і Дняпро, дубы Белавежы,
Тут песні крыніц і споведзь званоў.
Са мной Беларусь і ня трэба замежжа,
Бо тут карані і дубоў, і сяброў.

Хтосьці мяняе жытло на прапіску ў Мантана
І забывае ў «Штатах», як ліпа цвіце.
Я застаюся навек, дзе грыбныя туманы,
Дзе на Купалле вяночкі плывуць па вадзе.

*Прыпеў:*

Тут Сож і Дняпро, дубы Белавежы,
Тут песні крыніц і споведзь званоў.
Са мной Беларусь і ня трэба замежжа,
Бо тут карані і дубоў, і сяброў.

Хтосьці кідае свой дом і ляціць на чужыну,
Толькі вяртае Радзіма з-за мора буслоў.
Ім, як і мне, да спадобы чабор і ажына,
Ім крылы дае, як і мне, да Радзімы любоў.

*Прыпеў:*

Тут Сож і Дняпро, дубы Белавежы,
Тут песні крыніц і споведзь званоў.
Са мной Беларусь і ня трэба замежжа,
Бо тут карані і дубоў, і сяброў.

***Песня складзена ў 2008 годзе ў гурце «Пліса» (г.п. Смалявічі) для ўдзелу у рэспубліканскім конкурсе патрыятычнай песні, об'яўленым Беларускім тэлебачаннем.***

# Шлях да Беларусі

*Верш Ніла Гілевіча*
*Музыка Мікалая Сацуры*

За векам век плыве-цячэ,
А мы ідзем, ідзем... І што ж?
О, як далёка нам яшчэ
Да Беларусі!

Ужо няўсцерп нам крыж пакут,
І мы крычым, крычым, але —
Не дакрычаліся пакуль
Да Беларусі!

А можа быць, яна — міраж,
І ўсе мы трызнім? Бо чаму.
Не далятае голас наш
Да Беларусі?

Відаць, пракляцця знак ляжыцъ
На нас ад роду, і таму
Так цяжка шлях нам церабіць
Да Беларусі.

Равуць вятры, грымяць грамы,
Пыл засціць вочы нам, і ўсё ж,
І ўсё ж мы дойдзем, дойдзем мы
Да Беларусі!..



*Ніл Гілевіч*



*Анатоль Ярмоленка*

*(Роднае слова. 1995. № 11. С.141, 142.)*

*Песня атрымала шырокае прызнанне ў выкананні эстраднага ансамбля «Сябры» пад кіраўніцтвам Анатоля Ярмоленкі.*

# Грай!

*Словы і музыка Сяргея Міхалка*

Напілісь быкі,
Скачуць па краіне,
Топчуць ручнікі
Капытамі ў гліне.

Скачуць па дварах,
Адчыняюць хаты.
Хто не пахаваўся —
Будзе вінаваты

Ім ня трэба сонца,
Цемры ім багата.
Ім вясны ня трэба,
Ім — зімы паболей,
Каб ты, хлопец, спаў быў
На пячы ў няволі.

Грай!
Сьпявай дружна
Песьні райскай волі.
Грай! Грай!
Гані быкоў — вярнецца доля!

*2011 г.*

*Песня выконваецца музычным гуртом «Ляпис Трубецкой».*

# Наш сцяг

*Словы Уладзіміра Някляева,*
*Музыка Зьмітра Вайцюшкевіча*

Лунае, нескароны,
На векавых вятрах
Наш, ад крыві чырвоны,
Ад болю белы, сцяг.

Наш бел-чырвона-белы,
Нябесны, вольны, смелы,
Наш бел-чырвона-белы,
Наш сцяг.

Бясконца наша мара аб свабодзе
Вядзе нас па зямлі і па вадзе,
Як сонца, што ніколі не заходзе,
Як зорка, што ніколі не ўпадзе.

# Марш свабоды

*Музыка і словы Мірона Вольнага*

Грамадою ідзем мы з сівой даўніны,
Беларусы, за лепшай доляю.
Не згубілі мы сілы і душ чысціні
І любыя нягоды адолеем!

*Прыпеў:*

Беларусь, свабоду здабывай,
Божым шляхам кроч наперад смела!
Дух гартуй народны і яднай
Нас пад сцягам бел-чырвона-белым!

Каб заможна зажыў беларус-гаспадар,
Каб спрадвечныя мары збываліся,
Мы прыносім сябе на народны алтар,
Супраць цемры лукавай змагаемся.

*Прыпеў.*

Гэй, за лёс! Гэй, за Край паўставайма гарой!
Свята праўды наблізма належнае!
Хай абудзіцца ў кожным святы і герой,
Хай жыве Беларусь незалежная!

*Прыпеў.*

*(Наша слова, 2000, 12 красавіка.)*



*Міхась Дрынеўскі*



*Уладзімір Мулявін*

# Бывайце здаровы

*Словы Адама Русака*
*Музыка Ісака Любана*

Бывайце здаровы,
Жывіце багата,
Ужо ж мы паедзем
Да сваёй хаты.

У зялёнай дуброве
Мы начаваць будзем
І вашае ласкі
Вавек не забудзем.

У вашам калгасе
Шырокае поле,
Няхай жа на шчасьце
Цьвіце ваша доля.

На рэчках на вашых
Бурлілі каб воды,
Каб плавалі з крыкам
Гусей карагоды.

Каб жыта ў полі
Трубою вілося,
Каб сала ў хаце
Кублами вялося.

Штодзень у капусьце
Каб плавала шкварка,
Да шкваркі часінай
Вялася б і чарка.

Яшчэ вам жадаем
Прыбытку ў хаце
Ні мала, ні многа —
Штогод па дзіцяці.

Ня будзем у крыўдзе
Яшчэ і на тое,
Калі пашанцуе —
На год і па двое.

Дарогу ж мы знаем
Да вас, ягамосьці
І езьдзіць мы будзем
Да вас часта ў госьці.

Эй, хто на адведы,
Эй, хто на радзіны —
Вазіць каравaі
Па дзьве паўасьміны.

Бывайце здаровы,
Жывіце багата,
Ужо ж мы паедзем
Да сваёй хаты.

У зялёнай дуброве
Мы начаваць будзем
І вашае ласкі
Вавек не забудзем.

*1937 г.*

*Адна з самых папулярных беларускіх песень савецкага часу. Яе спявалі на многіх бяседах і ўключалі ў зборнікі песень. Была перакладзена на рускую мову і на многіх канцэртах у СССР была апошняй песняй на развітанне.*

# Песні да танцаў

## Беларускае танга

*Словы і музыка Алега Лойкі*

Танга, як чаканая зара,
Узышло шыпшынай на гары.
Толькі ж не сказала, дзе гара:
Над Зяльвянкаю ці на Дняпры.

*Прыпеў:*

Беларускае танга!.. (2 разы)
Беларускае танга —
Незабыўны ўспамін.
Ты пакліч яго, Ганка,
Прытулі яго, Ганка,
Пацалуй яго, Ганка,
У цвіценні шыпшын.

Танга сніць аб вечнай пекнаце,
Танга цішыць смутак, боль і плач.
Толькі дзе ж яно цяпер цвіце:
Каля Белай Вежы ці Ушач?..

Танга нас да шчасця прывядзе,
Толькі шчырым сэрцам прывітай.
Танга не разлучыць нас нідзе,
Як не разлучае родны край.

*Прыпеў:*

Беларускае танга!.. (2 разы)
Беларускае танга —
Незабыўны ўспамін.
Ты пакліч мяне, Ганка,
Прытулі мяне, Ганка,
Пацалуй мяне, Ганка,
У цвіценні шыпшын.

*(Роднае слова. 1995. № 7. С.186, 187.)*

# Лявоніха

*Словы і музыка народныя*

А Лявоніху Лявон палюбіў:
Лявонісе чаравічкі купіў.
Лявоніха — душа ласкавая,
Чаравічкамі паплясківала.

Як я у роднага татулькі была,
Дык, як вішанька ў садочку цвіла.
Цвіла, цвіла ды пацвітывала,
З малайцамі ды пагулівала.

Дасталася злому духу-мужыку —
Высушыў мяне, як лісцінку ў духу.
А чаму ж цябе Пярун не забіў,
Як ты мяне маладую палюбіў.

Наехала повен двор казакоў,
Ўзялі, ўзялі майго мужа ў палон.
Ой, не жаль мне, што яго ўзялі,
Толькі жалка, што не моцна звязалі.

Ой, не жаль мне, што яго ўзялі,
Толькі жалка, што не моцна звязалі.
Ён, паганец, уцячэць, уцячэць,
Мне галоўку натаўчэць, натаўчэць.

— А Лявоніха не жонка была,
Не мытую мне кашулю дала, —
Не мытую, не качаную,
У суседа пазычаную.

Ай, Лявоніха, Лявоніха мая,
Несалёную капусту дала.
А Лявона дык і чорт не бярэць:
Несалёную капусту жарэць.

*(Песня да танца «Лявоніха» ўзятая са зборніка «Анталогія беларускай народнай песні» / Уклад., прадм. і камент. Г. Цітовіча. Мн., 1975. С. 418.)*

***Сучасныя прыпеўкі да «Лявоніхі»***

*(Дзве першыя страфы застаюцца)*

Ой, Лявоніха, Лявоніха мая,
Ты такою прыгажуняй не была.
Як збяромся мы ў свята пагуляць.
Нам Лявоніхі сваёй не пазнаць.

Ах, Лявоніха. Лявоніха мая,
Ты сягоння, нібы ружа расцвіла, —
Расцвіла буйнымі кветкамі
З добрым мужам, ды й з дзеткамі.

## Полька беларуская

*Словы Леаніда Дранько-Майсюка*
*Музыка Ігара Лучанка*

1. Толькі зойдзе ў хату госць —
Будзе ўзята чарка.
Ёсць гармонік, бубен ёсць —
Чым не гаспадарка!

I ад печы, ад сяней,
Колькі маем духу,
Мы заскачым, як раней,
Полечку-трасуху.
*Прыпеў:*

Полька полечка-трасуха,
Не чужая — нашая.
Абдымуха, паскакуха —
Лепшае нямашака.
Для цябе штаны малыя,
I спадніца вузкая,
Паміж Польшчай і Расіяй —
Полька беларуская!
Між Літвой і Украінай —
Полька беларуская!
Полька беларуская!

2. Там дзе сосны — там і лес,
Дзе парог — там ганак,
Дзе Алеся — там Алесь,
Дзе Васіль — там Ганна.

І не трэба нас вучыць,
Абуваць у лапці,
Піць умеем і рабіць,
Полечку скакаці.

*Прыпеў.*

3. Не выкідвалі ікон,
Не забылі Бога,
Наша хата — пяць акон,
Столя ды падлога.

Столя белая-бяла,
А падлога суха,
І ад печы да стала —
Полечка-трасуха!

*Прыпеў.*

*(Роднае слова. 1997. № 10. С. 206, 207.)*

*На эстрадзе гэты твор паспяхова выконвае вакальна-інструментальны ансамбль «Сябры» (мастацкі кіраўнік Анатоль Ярмоленка).*

# Кракавяк

Бальны танец, які ўзнік у XIV ст. у горадзе Кракаве. Стаў вельмі папулярным сярод польскай шляхты. Спачатку танцавалі толькі мужчыны, а затым ён стаў парным. У XIX ст. яго скакалі на ўсіх балях у Беларусі. Тады ж ён пранік і ў Расію. А ў XX ст. на беларускіх вечарынках у вёсцы яго скакалі таксама часта, як вальс, падыспант і факстрот. Для гэтага танца існавала кароценькая песенька, якую спявалі пад танец, нават тыя, хто танцаваў яго.

Рускі, немец і паляк
Танцавалі кракавяк.
Танцавалі не спяша.
Наступілі на мыша.

Рускі, немец і паляк
Танцавалі абы як:
Яны так, яны сяк,
Не выходзіць кракавяк.

Рускі, немец і паляк
Пагуляць пайшлі ў кабак.
Пагулялі, папілі,
Усе грошы прапілі.

# Вальс

*Словы Эдуарда Акуліна*

Час не шкадуе нас...
Будзем і мы старэць.
Трэба і нам свой вальс
Датанцаваць паспець.

*Прыпеў:*

Гукаў плыве рака,
А на маім плячы
Ваша ляжыць рука.
Кружымся і маўчым.

Жыць толькі можна раз.
Раз можна шчасце мець...
Трэба і нам свой вальс
Датанцаваць паспець.

*Прыпеў.*

Стомлены профіль Ваш
Хіліцца долу ледзь.
Трэба і нам свой вальс
Датанцаваць здалець.

*(Песні Эдуарда Акуліна // Роднае слова.1993. № 7. С. 72.)*



*Валянціна Гаявая*



*Аксана Волкава*

# Чаму ж нам не пець...

У XIX і першай палове XX стагоддзях жыхары беларускіх вёсак і мястэчак стала захоўвалі мясцовыя традыцыі, выконвалі абрады, пры гэтым спявалі абрадавыя і іншы раз неабрадавыя песні. Умела спяваць амаль кожная жанчына. Былі спевакі і сярод мужчын. Дзяўчаты вучыліся песням у сваіх бабуль і матуль, а хлопцы — у сваіх дзядоў і бацькоў.

У другой палова XX стагоддзя абрадавыя песні пачалі знікаць з побыту, бо перасталі выконвацца многія абрады. Аднак у той жа час аж да канца 60-х гадоў лірычныя песні і прыпеўкі выконваліся сялянамі на святах, падчас бяседы, на талацэ і пасучы жывёлу.

Пачынаючы з 1970-х гадоў, колькасць жыхароў на вёсцы паступова скарачаецца. Складваецца там такое крытычнае становішча, калі няма каму спяваць, няма ў каго і вучыцца. Моладзь падалася ў горад, а там пераважае руская мова і зусім іншыя песні. Аднак многія ўчарашнія вяскоўцы, трапіўшы ў горад на жыхарства, хацелі б пачуць свае родныя песні, пры якіх яны выраслі.

Грамафоны, патэфоны, магнітафоны, радыё і тэлебачанне паступова пацяснілі родную песню і на вёсцы, бо стала магчымым паслухаць цікавыя песні ў выкананні лепшых экстрадных спевакоў. Паступова і сельскія жыхары ператвараліся ў спажыўцоў музыкі і самі не хацелі быць горшымі выканаўцамі. Аднак у той жа час магнітафоны, радыё і тэлебачанне садзейнічалі папулярызацыі некаторых народных твораў па ўсёй краіне.

Аднак беларуская песня не знікла. Цяпер яна бытуе ў іншых умовах і формах. Адзначым, што і бытавыя ўмовы сельскіх жыхароў у бягучым стагоддзі набліжаюцца ў многім да гарадскіх, асабліва ў былых мястэчках і аграгарадках.

У наш час народная родная песня трапіла ў клубы, Дамы культуры, Палацы культуры, на эстраду ў паркі і ў школы. Даўней у брацкіх, прыходскіх, парафіяльных школах, школах граматы, народных вучылішчах і гімназіях быў такі вучэбны прадмет як спевы. Быў ён і ў савецкай школе, захаваўся і ў сучаснай. Менавіта ў школах, клубах і Дамах культуры дзейнічаюць гурткі і творчыя калектывы мастацкай самадзейнасці, якія паказваюць свае дасягненні на школьных вечарах, святах вёскі ці горада, розных фестывалях і конкурсах песні (напрыклад, маладых выканаўцаў «Адна зямля»). Праводзяцца абласныя і раённыя фестывалі, рэспубліканскія фестывалі фальклорнага мастацтва «Берагіня», дзе выступаюць творчыя калектывы.

У 1920-х гадах настаўнік Рыгор Рамановіч Шырма пачаў ствараць народныя хары: у Пружанах, у Беларускай гімназіі і ў 1931 г. Хор беларускага саюза студэнтаў у Вільні. У 1931 г. быў створаны хор пры Беларускім радыёцэнтры. Важнае значэнне для станаўлення прафесійных творчых калектываў мела дзейнасць такіх выдатных музыкаў, як Рыгор Шырма, Генадзь Цітовіч, Уладзімір Мулявін, Валянціна Гаявая, Васіль Раінчык, Міхаіл Фінберг, Леанід Захлеўны, Анатоль Ярмоленка, Міхаіл Дрынеўскі.

У 1940 г. Рыгор Шырма арганізаваў Дзяржаўную харавую капэлу БССР, у 1939 г. Генадзь Цітовіч — Падлескі народны хор у Ляхавіцкім раёне, а ў 1952 г. — Дзяржаўны акадэмічны народны хор, у 1969 г. Уладзімір Мулявін — эстрадны ансамбль «Песняры», у 1974 г. Валянціна Гаявая — фальклорна-харэаграфічны ансамбль «Харошкі», а Анатоль Ярмоленка — вакальна-інструментальны ансабль «Сябры» (у Гомелі, з 1990 г. — у г. Мінску), у 1993 г. Леанід Захлеўны — ансамбль народнай музыкі «Бяседа». У гэты ж час стварыліся і аматарскія хары, гурты, ансамблі. Некаторыя з іх атрымалі званне «узорны» або «народны». Самы старэйшы з іх — Лявонавіцкі народны хор Нясвіжскага раёна. Яго арганізаваў Сяргей Новік-Пяюн у 1926 г. Назаву некалькі найбольш вядомых калектываў: ансамблі — «Верасы» (мастацкі кіраўнік Васіль Раінчык), «Лявоніха»(Генадзь Яфрэмаў, цяпер Марыя Палянская) «Крупіцкія музыкі» (Уладзімір Гром у 1982–2008 гг., Наталля Лісіца з 2008 г.), «Палескія зоры» (Міхаіл Цурканаў), «Мінскія музыкі» (Дзмітрый Ровенскі); гурты — «Берагіня» (Тамара Бахарэва), «Пліса» (Кастусь Герашчанка ў г.п. Смалявічы), «Стары Ольса» (Зміцер Сасноўскі), «Ліцьвіны» (Уладзімір Бербераў) ды іншыя. Выклікаюць захапленне сваім майстэрствам выступленні дзіцячых самадзейных калектываў — гэта Смаргонскі ўзорны дзіцячы ансамбль танца «Вільяначка», Мінскі ўзорны дзіцячы ансамбль «Дударыкі», якім кіруе Д. Ровенскі ў гімназіі № 14.

Шмат увагі надаецца захаванню спадчыны ў Гоцкай сярэдняй школе Салігорскага раёна, дзе працуе этншкола пад кіраўніцтвам Людмілы Дайліда. Школьнікі з бацькамі праводзяць у школе розныя святы, у тым ліку і вячоркі.

У апошні час іншы раз нам здаецца, што беларуская песня страціла былое яе значэнне, не развіваецца і знаходзіцца ў заняпадзе, бо рэдка мы яе чуем. Аднак гэта не так, бо нам ёсць чым ганарыцца і чым парадавацца.

Па-першае, у сучаснай беларускай літаратуры ёсць шмат такіх вершаў, якія прыдатныя для таго, каб іх пакласці на музыку. Назаву паэтаў-песеннікаў: Алесь Ставер, Ніл Гілевіч, Уладзімір Някляеў, Уладзімір Карызна, Іван Цітавец, Рыгор Барадулін, Адяксандр Лягчылаў, Генадзь Бураўкін, Лявон Пранчак, Міхаіл Ясень, Алесь Бадак, Леанід Дранько-Майсюк ды іншыя.



Нацыянальны акадэмічны народны хор імя Г.І. Цітовіча

Вакальна-інструментальны ансамбль "Крупіцкія музыкі" (в. Крупіца Мінскага раёна)

Смаргонскі ўзорны дзіцячы ансамбль танца “Вільяначка”



Пінскі народны ансамбль песні і танца “Палескія зоры”



Бярэзінскі народны вакальна-этнаграфічны ансамбль “Лявоніха”

Народны вакальны ансамбль “Берагіня”(г.Стоўбцы)

Па-другое, нас, беларусаў, Бог не пакрыўдзіў музыкай, нам грэх скардзіцца, бо музыкаў і кампазітараў у нас хапае. Нехта з іх у свой час атрымаў добрую музычную адукацыю ў Маскоўскай кансерваторыі, іншыя — у Беларускай кансерваторыі, а маладзейшыя музыкі скончылі Беларускую акадэмію музыкі. Спіс беларускіх кампазітараў, у якім 50 асоб, друкуецца ў гэтай кнізе. Укладальнік у яго ўключыў далёка не ўсіх, а таму ў астатніх прашу прабачэння, што так здарылася.

Па-трэцяе, ёсць у нас і такія паэты, якія самі кладуць свае творы на музыку і нават выконваюць іх. Так робяць Эдуард Акулін, Сяржук Сокалаў-Воюш, Алесь Камоцкі, Андрэй Мельнікаў ды іншыя.

Па-чацвёртае, хапае на Беларусі творчых мастацкіх прафесійных і самадзейных калектываў (хораў, капэл, ансамбляў), якія выконваюць беларускія песні. Многія творчыя калектывы (прафесійныя і самадзейныя) запісалі свае песні і танцы на магнітафонныя касеты і пазней на кампакт-дыскі. Іх можна было набыць або ў самым калектыве пасля канцэрта ці ў некаторых кнігарнях.

Зразумела, што сучасная тэхніка — магнітафоны, тэлебачанне і камп'ютар — прычыніла пэўную шкоду доўгаму жыццю песні. Простаму чалавеку цяпер няма неабходнасці запамінаць і выконваць любімую песню, бо яе можна запісаць і праслухаць нават на плэйеры, едучы ў грамадскім транспарце на працу. Але цяпер тэхнічныя сродкі (радыё, тэлебачанне, кампакт-дыскі), кнігі, часопісы і газеты даюць магчымасць вельмі хутка пазнаёміць з новай песняй шырокую публіку. І тут поспех нашых песень ужо залежыць ад стаўлення беларускай дзяржавы да сваёй спадчыны і культуры. Добры прыклад у гэтым паказаў у 1990-х гадах часопіс «Роднае слова» (галоўны рэдактар Міхась Шавыркін), які знаёміў сваіх чытачоў, настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры з песеннай культурай беларусаў. Матэрыялы друкаваліся пад рубрыкай: «І песню родную люблю я», «Песню бярыце з сабой», «Прэм'ера песні». Потым яго ініцыятыву падхапіла газета «Звязда». Добрую паслугу аўтарытэту беларускай песні робяць яе славутыя выканаўцы Якаў Навуменка, Святлана Суседчык, Анатоль Ярмоленка, Іна Афанасьева, Віктар Скарабагатаў, Аксана Волкава ды іншыя.

Калі дзяржаўныя органы культуры будуць спрыяльна ставіцца да беларушчыны, можна не сумнявацца, што беларуская песня набудзе шырокія крылы і зойме вартае пачэснае месца ў славянскім свеце і наогул у сусветнай культуры.

Паважаныя чытачы, пагартайце гэты зборнік, паглядзіце на нашу багатую спадчыну. А колькі створана папулярных песень нашымі паэтамі і кампазітарамі за некалькі дзесяткаў апошніх гадоў! Такой песеннай культуры заслугоўвае толькі вялікі народ. Беражыце родную мову і песню. Чаму ж нам не пець?!

# Аўтары песень

## Кампазітары

*Алоўнікаў Уладзімір Уладзіміравіч* (16.01.1919, г. Бабруйск — 31.07.1996, г. Мінск), народны артыст Беларусі (1970 г.). Скончыў Беларускую кансерваторыю ў 1941 г.

*Атаманаў Алег* нарадзіўся ў 1956 г. на Гродзеншчыне. Скончыў філалагічны факультэт БДУ ў 1982 г. Паэт, бард.

*Багатыроў Анатоль Васілевіч* (13.08.1913, г. Віцебск — 19.09.2003, г. Мінск), педагог, народны артыст Беларусі (1968 г.). Скончыў Беларускую кансерваторыю ў 1937 г. З 1948 па 1962 г. быў яе рэктарам.

*Буднік Уладзімір Іванавіч* (28.04.1949, г. Жыткавічы — 07.08.2007). Закончыў Гомельскае музычнае вучылішча імя Н.Ф.Сакалоўскага і Беларускую дзяржаўную кансерваторыю.

*Войцік Віктар Антонавіч* нарадзіўся ў 1947 г. у Гродне. Скончыў Беларускую кансерваторыю і аспірантуру Маскоўскай кансерваторыі. Працуе ў Беларускай акадэміі музыкі.

*Гінько Уладзімір Анатолевіч* нарадзіўся ў 1961 г. у горадзе Докшыцы Віцебскай вобласці. Скончыў Беларускую акадэмію музыкі. Жыве ў Мінску.

*Грыневіч Антон Антонавіч* (03.05.1877, фальварак Іваноўшчына Лепельскага пав. — 08.12.1937), фальклярыст, выдавец, педагог. У 1910 г. заснаваў прыватнае выдавецтва. Выдаў першы беларускі падручнік па музыцы «Навука сьпеваў» у 1923 г. Напісаў песні на вершы Я. Коласа, Я. Купалы, Г. Леўчыка.

*Даўгалёў Дзмітрый Мікалаевіч* нарадзіўся 28 снежня 1962 г. у Гродне. Скончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю. Паклаў на музыку больш за 60 вершаў Уладзіміра Пецюкевіча. Жыве ў Мінску.

*Захлеўны Леанід Канстанцінавіч* нарадзіўся ў 1947 г. у Гродне. Скончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю. Народны артыст Рэспублікі Беларусь (1997 г.). Мастацкі кіраўнік ансамбля народнай музыкі «Бяседа».

*Зарыцкі Эдуард Барысавіч* нарадзіўся ў 1946 г. у г. Чырвоны Кут Саратаўскай вобласці. Закончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю. Жыве ў Мінску.

*Іваноў Валерый Кірылавіч* нарадзіўся 4 студзеня 1948 г. у г.п. Глуск Магілёўскай вобласці. Скончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю ў 1975 г. Працуе ў розных жанрах. Выкладчык Беларускай акадэміі музыкі.

*Казловіч Алег Георгіевіч* нарадзіўся 19 чэрвеня 1961 г. у Магнітагорску. Артыст Дзяржаўнага эстраднага ансамбля «Песняры». З 1998 г. мастацкі кіраўнік ансамбля «Беларускія песняры».

*Камоцкі Алесь Верамеевіч* нарадзіўся 9 чэрвеня 1958 г. у Барысаве. Бард, які напісаў дзесяткі песень на вершы беларускіх паэтаў. Закончыў філасофскі факультэт БДУ.

*Кандрасюк Васіль Васілевіч* нарадзіўся 10 студзеня 1954 г. у Брэсце. Скончыў Маскоўскую дзяржаўную кансерваторыю. Працуе ў Брэсцком тэатры драмы і музыкі.

*Карповіч Алесь* (1909, в. Азёркі Гродзенскага раёна — 1992). Скончыў музычны тэхнікум ва Уладзікаўказе, затым Маскоўскую кансерваторыю. З 1944 г. жыў у эміграцыі (Бельгія, ЗША).

*Каруза Павел Язэпавіч* (25.02.1906, в.Валкалатка Докшыцкага раёна — 20.02.1988, Вільня), грамадскі дзеяч, фалькларыст, педагог. Скончыў Віленскую кансерваторыю.

*Кузняцоў Вячаслаў Уладзіміравіч* нарадзіўся ў 1955 г. у Вене (Аўстрыя). Скончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю. Выкладчык Беларускай акадэміі музыкі.

*Купрыяненка Васіль Аляксеевіч* нарадзіўся 20 чэрвеня 1950 г. у г. Магілёве. Скончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю. Працаваў у харэаграфічным ансамблі «Харошкі». З 1984 г. з'яўляецца мастацкім кіраўнікоў Беларускага дзяржаўнага ансамбля народнай музыкі «Сьвята». Заслужаны артыст Беларусі (1987 г.).

*Лучанок Ігар Міхайлавіч* нарадзіўся 6 жніўня 1938 г. у горадзе Мар'іна Горка Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Беларускую кансерваторыю ў 1961 г. Народны артыст Беларусі (1982 г.), народны артыст СССР (1982 г.).

*Любан Ісак Ісакавіч* (23.03.1906, г. Чэрыкаў – 07.11.1975). Скончыў Беларускі музычны тэхнікум. Быў кіраўніком музычнага вяшчання Беларускага радыё і кіраўніком Ансамбля песні і танца Беларускай філармоніі.

*Марозава Марына Генадзеўна* нарадзілася ў 1958 г. у Дзяржынску Мінскай вобласці. Скончыла Беларускую дзяржаўную кансерваторыю ў 1983 г. Дацэнт Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка.

*Мельнікаў Андрэй Міхайлавіч*, паэт, бард. Нарадзіўся 24 лістапада 1965 г. у Гомелі. Доўгі час жыў і працаваў у г. Орша. Выдаў шэраг альбомаў сваіх песень. Цяпер вядомы як праваслаўны бард.

*Молчан Таццяна Мікалаеўна* нарадзілася ў 1963 г. у горадзе Горлаўка Данецкай вобласці. Закончыла Мінскае музычнае вучылішча імя М.І. Глінкі. Стварыла ў Мінску тэатр дзіцячай эстраднай песні.

*Мулявін Уладзімір Георгіевіч* (12.01.1941, г. Свярдлоўск, цяпер Екацярынбург — 26.01.2003), народны артыст Беларусі (1979 г.), народны артыст СССР (1990 г.), кіраўнік эстраднага ансамбля «Песняры».

*Мушынская Таццяна Міхайлаўна* — журналістка, балетны крытык. Яна нарадзілася 26 чэрвеня 1958 г. у Мінску. Скончыла факультэт журналістыкі БДУ. Складае песні на свае вершы.

*Новік-Пяюн Сяргей Міхайлавіч* (27.08.1906, в. Лявонавічы Нясвіжскага раёна — 26.08.1994), паэт, кампазітар. Быў рэпрэсаваны акупацыйнымі ўладамі (пры паляках, немцах і бальшавіках). Стварыў у сябе на радзіме славуты Лявонавіцкі народны хор у 1926 г..

*Навуменка Якаў Паўлавіч* нарадзіўся 28 сакавіка 1959 г. у Оршы. Скончыў Мінскае музычнае вучылішча і Маскоўскі музычна-педагагічны інстытут імя Гнесіных. Народны артыст Беларусі. Выдатны спявак, які напісаў шмат уласных песень. Жыве ў Мінску.

*Петрашэвіч Яўген* нарадзіўся 18 чэрвеня 1930 г. у вёсцы Падбараны Мастоўскага раёна. Музычны педагог. Кіраўнік фальклорнага ансамбля «Дударыкі» ў Гродне.

*Пятрэнка Мікола Макаравіч* (19.12.1919, в. Барбароў Мазырскага раёна — 03.01.1997), педагог. Працаваў выкладчыкам Полацкага педагагічнага вучылішча. Напісаў звыш 200 песняў.

*Равенскі Мікалай Якаўлевіч* (02.12.1886, в. Капланцы Бярэзінскага раёна — 03.03.1953). Скончыў Маскоўскую кансерваторыю ў 1920-я гады. Памёр у эміграцыі.

*Раінчык Васіль Пятровіч* нарадзіўся 7 сакавіка 1950 г. у в.Чараны Шклоўскага раёна. Скончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю. З 1974 г. мастацкі кіраўнік вакальна-інструментальнага ансамбля «Верасы».

*Рашчынскі Алесь (Аляксандр) Уладзіміравіч* нарадзіўся 2 красавіка 1949 г. у Лагойску. Скончыў Маскоўскі музычна-педагагічны інстытут імя Гнесіных, Беларускую дзяржаўную кансерваторыю. Працуе выкладчыкам БДУ.

*Ровенскі Дзмітрый Дзмітрыевіч* нарадзіўся 5 студзеня 1948 г. у горадзе Капыль Мінскай вобласці. Працуе ў Мінску. Кіраўнік народнага ансамбля народнай музыкі і песні «Мінскія музыкі» і заслужанага аматарскага калектіву РБ фальклорнага дзіцячага ансамбля «Дударыкі» ў гімназіі № 14.

*Русаў Пётр Аляксандравіч* (нарадзіўся 10 ліпеня 1947 г. у в. Прыбор Гомельскага раёна), бард, гісторык, археолаг. Скончыў у 1974 г. Мінскі педагагічны інстытут імя А.М. Горкага.

*Сакалоўскі Несцер Фёдаравіч* (09.11.1902, в. Вешкі Докшыцкага раёна — 13.11.1950), хормайстар, фальклярыст. Скончыў Мінскі музычны тэхнікум, вучыўся ў Беларускай кансерваторыі ў 1932—1935 гадах.

*Сацура Мікалай Уладзіміравіч* нарадзіўся ў 1952 г. у г. Тураў Гомельскай вобласці. Скончыў Мінскі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і Беларускую дзяржаўную кансерваторыю. З 1974 г. працуе музычным кіраўніком ансамбля «Сябры».

*Семяняка Юрый Уладзіміравіч* (26.11.1925, г. Мінск — 16.07.1990), народны артыст Беларусі (1974 г.). Скончыў Беларускую дзяржаўную кансераторыю ў 1957 г.

*Сокалаў-Воюш Сяржук* (сапр. Сокалаў Сяргей Анатолевіч) — паэт, бард. Нарадзіўся 16 кастрычніка 1957 г. у в. Астроўшчына Полацкага раёна. Жыве ў ЗША.

*Сярых Валянціна Васільеўна* нарадзілася ў Бабруйску ў 1951 г. Працуе мастацкім кіраўніком дзіцячага ансамбля «Званочкі». Скончыла Мінскае музычнае вучылішча і Маскоўскую кансерваторыю. Жыве ў Мінску.

*Тэраўскі Уладзімір Васілевіч* (23.11.1871, в. Леніна Слуцкага раёна — 10.11.1938), харавы дырыжор і фалькларыст. Быў рэпрэсаваны.

Туранкоў Аляксей Яўлампавіч (21.01.1886, г. С.-Пецярбург — 27.09.1958). Вучыўся ў Пецярбургскай кансерваторыі ў 1911—1914 гг. Заслужаны дзеяч мастацтва Беларусі (1940 г.).

*Філіповіч Іна Анатолеўна* нарадзілася ў 1961 г. у Мінску. Скончыла Мінскае вучылішча мастацтваў. Працуе педагогам у Мінску.

*Чыркун Алег Міхайлавіч* нарадзіўся ў 1942 г. у Мінску. Скончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю. Працуе ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтва.

*Ханок Эдуард Сямёнавіч* нарадзіўся 18 красавіка 1940 г. у Фёдараўскім раёне Кустанайскай вобласці (Казахстан). Скончыў Мінскае музычнае вучылішча імя М.І. Глінкі, Маскоўскую кансерваторыю.

*Цесакоў Кім Дзмітрыевіч* нарадзіўся ў 1936 г. у г. Чэрвень Мінскай вобласці. Скончыў Гомельскае музычнае вучылішча і Новасібірскую кансерваторыю. Працуе ў розных жанрах. Жыве в Мінску.

*Цітовіч Генадзь Іванавіч* (07.08.1910, в. Новы Пагост Міёрскага раёна — 20.06.1986, г. Мінск), дырыжор, этнамузыколаг, народны артыст Беларусі (1955 г.), народны артыст СССР (1968 г.). Скончыў Віленскую кансерваторыю ў 1939 г. У 1952 г. стварыў Дзяржаўны акадэмічны народны хор БССР.

*Шчаглоў-Куліковіч Мікола* (04.04.1896, Смаленшчына — 31.03.1969). Скончыў Маскоўскае сінадальнае вучылішча царкоўных спеваў. Памёр на чужбіне.

*Шыдлоўскі Аляксандр Канстанцінавіч* (18.06.1911, в. Мінкі Смаргонскага раёна — 26.09.2002), педагог.

*Шырма Рыгор Раманавіч* (20.01.1892, в. Шакуны Пружанскага раёна — 23.03.1978), дырыжор, фалькларыст, музычны дзеяч. Народны артыст СССР (1955 г.). Скончыў Седлецкі настаўніцкі інстытут у 1918 г. (Польшча). У 1940 г. арганізаваў і ўзначаліў Дзяржаўную акадэмічную капэлу БССР.

*Яцкоў Мікалай Адамавіч* нарадзіўся ў 1959 г. у Магілёве. Скончыў Мінскі інстытут культуры. Працуе ва ўстановах культуры на Магілёўшчыне. Напісаў шмат песень на вершы розных аўтараў, у тым ліку і на свае ўласныя.

# *Рускія песні і танцы*

Краіна Беларусь знаходзілася ў складзе Расійскай імперыі з канца XVIII ст. да 1917 г., а затым з 30 снежня 1922 г. да 25 жніўня 1991 г. — у складзе Савецкага Саюза. І ў Расійскай, і ў савецкай імперыях дзяржаўнай мовай была руская. І ў адной, і ў другой праводзілася палітыка русіфікацыі насельніцтва ўскраінаў цераз школу, друк, дзяржаўныя ўстановы, праваслаўную царкву і армію. Уплывала на славянскія народы — беларусаў і ўкраінцаў — руская культура, у першую чаргу — песні.

Беларусы лёгка засвойвалі ўкраінскія («хахляцкія») песні, якія часцей за ўсё перакладаліся на беларускую мову, а рускія песні, рамансы і маршы выконваліся пераважна на рускай мове, бо пераклад песні парушаў яе рытміку і мелодыю, а сэнс рускай песні ў асноўным быў зразумелы. Беларусаў прываблівалі змест і мелодыя песні. Вось з тае нагоды некаторыя рускія песні бытавалі сярод беларускага насельніцтва побач са сваімі.

У XIX ст. у вёску на вечарынку пранікл, апрача рускіх песень, гарадскія бальныя танцы: вальс, факстрот, «Каробачка», «На рэчаньку». Некаторыя рамансы, якія выконваліся вандроўнымі акторамі пад ігру катрынкі, таксама станавіліся папулярнымі. Беларускія кірмашы і фэсты, гадавыя святы стваралі спрыяльную глебу для развіцця беларускага фальклору і для замацавання рускага падчас русіфікацыі. Некаторыя рускія песні былі запісаныя ад беларусак у XX ст. на вёсцы.

Пасля вайны ў 1945 — 1965 гг. былі папулярныя сярод моладзі наступныя савецкія рускія песні: «Катюша», «Сормовская лирическая», «Уральская рябинушка», «Куда бежишь, тропинка милая», «Хороши весной в саду цветочки» і іншыя.

Выходзячы з такіх абставін, мы друкуем некаторыя рускія песні ў гэтым дадатку. Друкуем дзеля таго, каб паказаць іх месца ў беларускай культуры і каб задаволіць тых, хто імі цікавіцца.

# Когда я на почте служил ямщиком...

*Слова Л. Трефолева*

Когда я на почте служил ямщиком,
Был молод, имел я силенку,
И крепко же, братцы, в селенье одном
Любил я в ту пору девчонку.

Сначала не чуял я в девке беду,
Потом задурил не на шутку:
Куда ни поеду, куда ни пойду,
Все к милой сверну на минутку.

И любо оно, да покоя-то нет,
А сердце болит все сильнее.
Однажды дает мне начальник пакет:
«Свези, мол, на почту живее!»

Я принял пакет — и скорей на коня,
И по полю вихрем помчался,
А сердце щемит да щемит у меня,
Как будто с ней век не видался.

И что за причина, понять не могу,
И ветер так воет тоскливо...
И вдруг — словно замер мой конь на бегу
И в сторону смотрит пугливо.

Забилося сердце сильней у меня,
И глянул вперед я в тревоге,
Потом соскочил с удалого коня —
И вижу я труп на дороге.

А снег уж совсем ту находку занес,
Метель так и пляшет над трупом.
Разрыл я сугроб-то и к месту прирос,
Мороз заходил под тулупом.

Под снегом-то, братцы, лежала она...
Закрылися карие очи.
Налейте, налейте скорее вина,
Рассказывать больше нет мочи!

***Гэты верш Леаніда Трэфалева быў яго перакладам верша беларускага паэта Уладзіміра Сыракомлі «Паштальён» (гл. с. 354).***

# По диким степям Забайкалья...

*Слова Ивана Кондратьева*



*Иван Кондратьев*

По диким степям Забайкалья,
Где золото роют в горах,
Бродяга, судьбу проклиная,
Тащился с сумой на плечах*.

Идет он густою тайгою,
Где пташки одни лишь поют,
Котел его сбоку тревожит,
Сухие коты ноги бьют**.

На нем рубашонка худая,
Со множеством разных заплат,
Шапчонка на нем арестанта
И серый тюремный халат.

Бежал из тюрьмы темной ночью —
В тюрьме он за правду страдал.
Идти дальше нет уже мочи,
Пред ним расстилался Байкал.

Бродяга к Байкалу подходит,
Рыбацкую лодку берёт
И грустную песню заводит —
Про родину что-то поёт:

— «Оставил жену молодую
И малых оставил детей,
Теперь я иду наудачу —
Бог знает, увижусь ли с ней!»

А ветер ему отвечает:
— «Напрасно, бродяга, бежишь!»
А бедное сердце не чует,
Что нету родных уж и живых.

Бродяга Байкал переехал —
Навстречу родимая мать.
— «Ах, здравствуй, ах, здравствуй, родная!
Здоров ли отец, хочу знать?»

— «Отец твой давно уж в могиле,
Землёй призасыпан лежит,
А брат твой давно уж в Сибири,
Давно кандалами гремит.

---

**Две последние строки каждой строфы повторяются дважды.*
**** Строфы 2, 3, 4, 6, 7 часто при пении опускаются.*

Пойдём же, пойдём, мой сыночек,
Пойдём же в курень наш родной.
Жена там по мужу скучает
И плачут детишки гурьбой».

*У Забайкаллі з XIX ст. жыве шмат ссыльных беларусаў. За савецкім часам, асабліва пры Сталіну, іх колькасць папаўнялася. Іх нашчадкі жывуць там і цяпер. Мінскі культуролаг Аляксандр Іванавіч Смолік знайшоў у архіве і ў Інтэрнэт звесткі аб тым, што гэту песню, якую іншы раз называюць «Бродяга», напісаў у 1880-х гг. наш зямляк, масквіч Іван Кузьміч (Казіміравіч) Кандрацьеў (1849, в. Каловічы Вілейскага пав.—1904, Масква), паэт-песеннік, гісторык, краязнавец.*

## За последнюю копейку...

За последнюю копейку
Найму тройку лошадей,
Дам и кучеру на водку:
«Погоняй, брат, поскорей!»

Не ходи, ты, Ванька, красно,
Много денег не теряй.
Ты купи себе гитару,
На гитаре и сыграй.

Ванька-ключник, злой разлучник,
Разлучил князя с женой.
Ой, ведут, ведут Ванюшу,
Ветер Ване кудри вьёт.
А княжна молодая
По нём слёзочки лиёт.

Был у князя Ванька-ключник,
Ванька-ключник молодой,
Ванька-ключник, злой разлучник,
Разлучил князя с женой.

Он не дорог той княгине —
Ни золотом, серебром,
Только дорог он княгине
Своим беленьким лицом.

*Запісаў Анатоль Барыс у 1964 г. ад Соф'і Барыс. Яна са сваёй сям'ёй больш за 5 гадоў жыла у Енісейскім краі ў Сібіры. Туды яе сям'я была вывезена з Вілейскага павета, дзе была лінія фронту, у час Першай сусветнай вайны.*

# «Варяг»

*Слова Рудольфа Гренца,*
*перевод с австрийского Е. М. Струденской*

Наверх, вы, товарищи! Все по местам!
Последний парад наступает.
Врагу не сдаётся наш гордый «Варяг»,
Пощады никто не желает!

Врагу не сдаётся наш гордый «Варяг»,
Пощады никто не желает.

Все вымпелы вьются, и цепи гремят,
Наверх якоря поднимая.
Готовятся к бою орудия в ряд,
На солнце зловеще сверкая!
Готовятся к бою орудия в ряд,
На солнце зловеще сверкая!

И с пристани верной мы в битву идём
Навстречу грозящей нам смерти,
За Родину в море открытом умрём,
Где ждут желтолицые черти!
За Родину в море открытом умрём,
Где ждут желтолицые черти!

Свистит, и гремит, и грохочет кругом,
Гром пушек, шипенье снарядов,
И стал наш бесстрашный и гордый «Варяг»
Подобен кромешному аду.
И стал наш бесстрашный и гордый «Варяг»
Подобен кромешному аду.

В предсмертных мученьях трепещут тела,
Гром пушек, и шум, и стенанья,
И судно охвачено морем огня,
Настали минуты прощанья.
И судно охвачено морем огня,
Настали минуты прощанья.

— Прощайте, товарищи! С Богом, ура!
Кипящее море под нами!
Не думали, братцы, мы с вами вчера,
Что нынче умрём под волнами.
Не думали, братцы, мы с вами вчера,

# Гэй, славяне

«Гэй, славяне» (спачатку «Гэй, славакі») — гэта песня мажорнага ладу на словы Самуэля Тамашыка (1834 г.) і на музыку «Мазуркі Дамброўскага», але з павольнейшым тэмпам.

Словы песні былі складзеныя пад назвай «Гэй, славакі», і заклікалі славакаў (а пазней, усіх славянаў) да патрыятызму і пашаны да роднай мовы. С. Тамашык, тады студэнт, напісаў словы песні аднойчы ўвечары, 2 лістапада 1834 г., калі пад уражаннем перавагі нямецкай мовы над чэшскай на вуліцах Прагі — «пярліны заходнеславянскага свету» быў поўны песімізму адносна будучыні чэшскай і славацкай культуры. Узгадка пра «Мазурку Дамброўскага» натхніла Тамашыка, і ён вельмі хутка склаў верш таго ж памеру, і з тым жа сэнсам пачатковых радкоў: «Гэй, славакі! Яшчэ наша славацкая мова жыве».

Песня хутка набыла папулярнасць у колах славянскіх актывістаў другой палове XIX–пачатку XX ст., асабліва ў славянскіх землях Аўстра-Венгрыі. Між іншым, яна была гімнам арганізацыі «Сокал» і выконвалася сабранымі на адкрыцці помніка славенскаму паэту Францэ Прэшэрэну (1905 г.). У Венгрыі яна доўгі час была забаронена. Песня сталася неафіцыйным гімнам тагачаснага панславянскага руху і заставалася папулярнай і ў міжваенны перыяд. У Славакіі песня амаль заўсёды лічылася неафіцыйным гімнам, асабліва ў часы распаду Аўстра-Венгрыі, у Славацкай рэспубліцы (1939–1945 гг.) і пасля атрымання незалежнасці (1993 г.). Аднак песня ніколі не была афіцыйным гімнам Славакіі.

У Югаславіі песню выбралі на ролю музычнага нацыянальнага сімвалу кіраўнікі цітаўскага руху супраціўлення AVNOJ, а пасля 1945 г. і скасавання старога гімна, яна была неафіцыйным гімнам у перыяд да 1977 г., калі ніякага афіцыйнага гімна Югаславіі не існавала. Пасля 1977 г. песня была зацверджаная як афіцыйны гімн Югаславіі, пасля распаду Югаславіі (1991–1992 гг.) заставалася гімнам федэрацыі Сербіі і і Чарнагорыі, а пасля канчатковага распаду федэрацыі (2006 г.) песня не з'яўляецца гімнам аніводнай дзяржавы.

«Гэй, славяне!» — славянскі гімн, ■ таму ён і перакладзены на ўсе славянскія мовы, у тым ліку і на беларускую. Беларусам ёсць з каго браць прыклад — хоць бы з тых славакаў ды з суседніх палякаў, якія шануюць сваю мову.

З сярэдзіны XIX ст. існуе славянскі рух за захаванне роднай мовы і культуры славянскіх народаў, за захаванне славянскай самабытнасці. Славянскія народы не раз спадзяваліся на дапамогу рускага народа. І яны ні раз атрымоўвалі яе. Аднак праяўленне расійскага і сербскага гегеманізму, лічы імперылізму, нанесла вялікую шкоду славянскаму адзінству.

А Кастрычніцкая рэвалюцыя ў Расіі падзяліла славянскія народы і па сацыяльных класах. Як вынік таго, варта нагадаць пра

такія падзеі, як дзве савецка-польскія вайны і знішчэнне польскіх ваеннапалонных у Катыні.

На пачатку XXI ст., калі глабалізацыя і камп'ютарызацыя набылі шырокія маштабы, на першыя ролі выйшлі англійская ды руская мовы. Усё гэта пагражае знішчэнню некаторых славянскіх моваў. І тут урады славянскіх дзяржаў абавязаныя ўзяць пад сваю ахову мову тытульнай нацыі і яе культуру. Усеславянскія з'езды, якія часам праводзяцца, таксама павінны клапаціцца аб захаванні як славянскага адзінства, так і кожнай славянскай адметнасці. У Празе ў чэрвені 1848 г. адбыўся 1-ы Усеславянскі з'езд, на якім абмяркоўваліся праблемы становішча славянскай культуры. 8-ы Усеславянскі з'езд праводзіўся ў 2001 г. у Маскве.

На наш погляд, своеасаблівымі цэнтрамі славянскага адзінства павінны стаць гарады Прага (Чэхія), Кіеў (Украіна) і нарэшце Мінск (Беларусь). Усеславянскі рух будзе мець поспех толькі ў тым выпадку, калі ён будзе весціся ў галіне культуры і будзе скіраваны на захаванне славянскай спадчыны і самабытнасці, а палітычныя пытанні стануць другараднымі, пабочнымі.

Славяне! Злучайцеся ў супольнасць і заставайцеся ў сваіх нацыянальных краінах самабытнымі!

***Версии разных славянских языков***

**Сербский**(*латиница*)
Hej Sloveni, jošte živi
Duh (reč) naših dedova,
Dok za narod srce bije
Njihovih sinova.
Živi, živi duh slovenski
Živeće vekov'ma
Zalud preti ponor pakla
Zalud vatra groma.
Nek se sada i nad nama
Burom sve raznese
Stena puca, dub se lama
Zemlja nek se trese.
Mi stojimo postojano
Kano klisurine,
Proklet bio izdajica
Svoje domovine!

**Хорватский**
Hej Slaveni, jošte živi
Riječ naših djedova,
Dok za narod srce bije
Njihovih sinova.
Živi, živi duh slavenski
Živjet će vjekov'ma
Zalud prijeti ponor pakla
Zalud vatra groma.
Nek se sada i nad nama
Burom sve raznese.
Stijena puca, dub se lama
Zemlja nek se trese
Mi stojimo postojano
Kano klisurine.
Proklet bio izdajica
Svoje domovine!

**Боснийский**
Hej Slaveni, jošte živi
Riječ (duh) naših djedova,
Dok za narod srce bije
Njihovih sinova.
Živi, živi duh slavenski
Živjeće vjekov'ma,
Zalud prijeti ponor pakla
Zalud vatra groma.

Nek se sada i nad nama
Burom sve raznese.
Stijena puca, dub se lama,
Zemlja nek se trese.
Mi stojimo postojano
Kano klisurine.
Proklet bio izdajica
Svoje domovine!

**Болгарский**
Хей, славяни, все още живе
Духът на нашите предци.
Докато сърцето за народа бие
На техните следовници.
Живе, живе духът славянски
Ще живее с векове.
Не ни плашат ни бездните адски,
Нито огнените гръмове.
Нека сега и над нас
Със буря всичко да се разнесе.
Скала се пука, дъбът се цепи,
Земята нек се разтресе.
Ние стоим твърдо като крепост.
Проклет да е предателят
На своето отечество!

**Словенский**
Hej, Slovani, naša reč
Slovanska živo klije,
Dokler naše verno srce
Za naš narod bije.
Živi, živi, duh slovanski,
Bodi živ na veke,
Grom in peklo, prazne vaše
Proti nam so steke.
Naj tedaj nad nami
Strašna burja se le znese,
Skala poka, dob se lomi,
Zemlja naj se strese.
Bratje, mi stojimo trdno
Kakor zidi grada,
Črna zemlja naj pogrezne
Tega, kdor odpada.

**Словенский**
*(доюгославская версия)*
Hej, Slovani, naša reč
Slovanska živo klije,
Dokler naše verno srce
Za naš narod bije.
Živi, živi, duh slovanski,
Bodi živ na veke!
Grom in peklo, prazne vaše,
Proti nam so steke.
Bog pa gromo-vladni nam
Podal je dar jezika,
Da pa nihče na tem svetu,
Nič nam ne podtika,
Bo naj kolikor ljudi, tolikanj
Čertov na sveti,
Bog je ■ nami, kdor prot' nam,
Če Belin podreti.
Naj tedaj nad nami
Strašna burja naj se znese,
Skala poka, dob se lomi,
Zemlja naj se trese.
Bratje! Mi stojimo trdno,
Kakor zidi grada;
Črna zemlja naj pogrezne
Tega, kdor odpada!

**Русский**
*(версия, принятая при СССР)*
Гей, славяне, гей, славяне!
Будет вам свобода,
Если только ваше сердце
Бьётся для народа.
Гром и ад! Что ваша злоба,
Что все ваши ковы,
Коли жив наш дух славянский!
Коль мы в бой готовы!
Дал нам Бог язык особый —
Враг то разумеет:
Языка у нас вовеки
Вырвать не посмеет.
Пусть нечистой силы будет
Более сторицей!
Бог за нас и нас покроет
Мощною десницей.

Пусть играет ветер, буря,
С неба грозы сводит,
Треснет дуб, земля под ними
Ходенём заходит!
Устоим одни мы крепко,
Что градские стены,
Проклят будь, кто в это время
Мыслит про измены!

**Русский**
Гей, славяне, наше слово
Песней звонкой льётся,
И не смолкнет, пока сердце
За народ свой бьётся.
Дух Славянский жив на веки,
В нас он не угаснет,
Беснованье силы вражьей
Против нас напрасно.
Наше слово дал нам Бог,
На то Его воля!
Кто заставит нашу песню
Смолкнуть в чистом поле?
Против нас хоть весь мир, что нам!
Восставай задорно.
С нами Бог наш, кто не с нами —
Тот умрёт позорно.

**Сербский** *(кириллица)*
Хеј, Словени, јоште живи
Дух наших дедова,
Док за народ срце бије
Њихових синова.
Живи, живи дух словенски
Живеће веков'ма
Залуд прети понор пакла,
Залуд ватра грома.
Нек' се сада и над нама
Буром све разнесе
Стена пуца, дуб се лама,
Земља нек' се тресе.
Ми стојимо постојано
Кано клисурине,
Проклет био издајица
Своје домовине!

**Хорватский**
*(партизанская версия)*
Oj Slaveni, zemlja tutnji
s Volge do Triglava;
istim glasom huče Visla,
Jadran, Timok, Sava.
Živi, živi duh slavenski,
živjet ćeš vjekovma;
zalud ponor prijeti pakla,
zalud vatra groma!
Gromko kliče drug nam Staljin
iz ruskih nizina,
odzivlje se drug mu Tito
s bosanskih planina:
Mi stojimo postojano
kano klisurine,
proklet bio izdajica
svoje domovine!
Za slobodu na braniku
uvijek ćemo biti,
naše zemlje neće nikad
dušman pokoriti.
Makar na nas navalile
cijelog svijeta čete,
mi smo složni, tko prot nama,
s njime hajd pod pete!

**Черногорский**
Хеј, Словени, јоште живи
Дух наших дједова.
Док за народ срце бије
Њихових синова.
Живи, живи дух словенски
Живјеће вјеков'ма.
Залуд пријети понор пакла
Залуд ватра грома.
Нек се сада и над нама
Буром све разнесе.
Стијена пуца, дуб се лама,
Земља нек се тресе,
Ми стојимо постојано
Кано клисурине.
Проклет био издајица
Своје домовине!

**Словацкий**
Hej, Slováci, ešte naša
Slovenská reč žije,
Dokiaľ naše verné srdce
Za náš národ bije.
Žije, žije, duch slovenský,
Bude žiť na veky,
Hrom a peklo, márne vaše
Proti nám sú vzteky!
I nechže sa aj nad nami
Hrozná búra vznesie,
Skala puká, dub sa láme
A zem nech sa trasie;
My stojíme stále pevne,
Ako múry hradné
Čierna zem pohltí toho,
Kto odstúpi zradne!
Jazyka dar sveril nám Boh,
Boh náš hromovládny,
Nesmie nám ho teda vyrvať
Na tom svete žiadny;
I nechže je koľko ľudí,
Toľko čertov v svete;
Boh je s nami: kto proti nám,
Toho parom zmetie.

**Польский**
Hej Słowianie, jeszcze nasza
Słowian mowa żyje,
Póki nasze wierne serce
Za nasz naród bije.
Żyje, żyje duch słowiański,
I żyć będzie wiecznie,
Gromy, piekło — złości waszej
Ujdziem my bezpiecznie!
Dar języka zwierzył nam Bóg,
Bóg nasz gromowładny.
Nie śmie go nam tedy wyrwać
Na świecie człek żadny.
Ilu ludzi, tylu wrogów,
Możem mieć na świecie,
Bóg jest z nami, kto nam wrogiem,
Tego Piorun zmiecie!
I niechaj się ponad nami
Groźna burza wzniesie,
Skała pęka, dąb się łamie,
Ziemia niech się trzęsie.
My stoimy stale, pewnie,
Jako mury grodu.
Czarna ziemio, pochłoń tego,
Kto zdrajcą narodu!

**Чешский**
Hej Slované, ještě naše
Slovanská řeč žije,
Pokud naše věrné srdce
Pro náš národ bije.
Žije, žije duch slovanský,
Bude žít na věky.
Hrom a peklo, marné vaše,
Proti nám jsou vzteky.
Jazyka dar svěřil nám Bůh,
Bůh náš hromovládný.
Nesmí nám ho tedy vyrvat
Na tom světě žádný.
I nechať je tolik lidí,
Kolik čertů v světě.
Bůh je s námi, kdo proti nám,
Toho Perun smete.
I nechať se též nad námi,
Hrozná bouře vznese.
Skála puká, dub se láme.
Země ať se třese!
My stojíme stále pevně,
Jako stěny hradné.
Černá zem pohltí toho,
Kdo odstoupí zrádně ...

**Македонский**
Ej, Словени, жив е тука
Зборот свет на родот,
Штом за народ срце чука
Преку син во внукот!
Жив е вечно, жив е духот
Словенски во слога.
Не нѐ плашат адски бездни
Ниту громов оган!
Пустошејќи, нека бура
И над нас сѐ втурне.
Пука даб и карпа сура,
Тлото ќе се урне!

Стоиме на стамен-прагот
— клисури и бедем.
Проклет да е тој што предал
Родина на врагот!

**Украинский**

Гей, слов'яни, наше слово
Піснею лунає
І не стихне, поки серце
За народ страждає.
Наше слово дав Господь нам,
На те Його воля.
Хто примусить нашу пісню
Змовкнути у полі?
Дух слов'янський живе вічно,
В нас він не погасне.
Злої сили біснування
Проти нас завчасне.
Проти нас хоч світ повстане,
Але нам те марно.
З нами Бог, а хто не з нами —
Згине той безславно.

**Белорусский**

*Пераклад П. Зьніча (П. Крачэўскага)*

Гэй, Славяне! Яшчэ наша
Славян мова льецца,
Пакуль наша шчыра сэрца
За народ свой б'ецца!
Жыць і жыць наш дух славянскі
Будзе слаўна вечна.
Гром і пекла вашай злосьці
Абнімем бэсьпечна!
Мовы нашай найдарогшай,
Што здарыў Бог — кажам,
Вырваць з нас ніхто на сьвеце
Мусіць не дакажа,
Колькі ёсьць людзей на сьвеце,—
Вораг быць нам можа,
Але ж з намі Бог — не страшна,
Бог іх параможа.

*(Спадчына. 1993, №2. С. 34.)*

**Русинский***

Гий, Славляне, ищи жиє
Дух нашых дїдôв!
Кой за нарôд сирцё биє
Йих вірных сынôв!
Живи, живи, дух Славляньскый,
Живи лем вікамы!
Нам нестрашны бездны адьскы,
Прокляты бісамы!
Нич ся трафит кой над намы,
Ся буря рознесе,
Стїна пукне, дуб ся зломит
Зимля ся розтресе.
Стойиме сьме, постояны
Гикой йсї скалины!
Проклят буде, уддаватиль
Своєй утцюзнины!

---

* *Русинским языком пользуются русины. Это славянский народ, который теперь живёт в Воеводине (Сербия), Хорватии, на востоке Словакии, в Венгрии и в Закарпатской области Украины. По официальной версии теперь насчитывается 55 тысяч русинов, а по неофициальной в мире проживает их почти 1,5 миллиона. По вероисповедованию русины – греко-католики и православные. Они являются прямыми предками Древней Руси. Их самоиндефикация (самоназвание) происходит от слова «Русь». Видным русинским учёным и литератором был Гавриил Костельник, который в XIX в. написал грамматику русинского языка. Среди других писателей следует назвать закарпатского поэта Александра Васильевича Духновича (1803–1865), а также Михала Ковача и Миколу Михала Кочиша (1928–1973). Русинам, как и курдам, не удалось создать своё национальное государство или государственное образование, но они, находясь длительное время в Австрийской империи, сумели сохранить свой национальный язык и самобытную культуру. Украинцы считают их своей этнической группой.*

# Ноты

## Багародзіца

*Музыка старабеларуская*
*Словы народныя*

Ба - га - ро - дзі - ца, Дзя - ві - ца,

Бо-гам сляў- ле - на Ма - ры - я!

У твай - го Сы - на, Гас- па - дзі - на,

Ма- ці ве - ліч - на, Ма - ры - я,

Нам лас-кі пра-сі спа - слаць. Кы-ры-е э - лей - сон

Ты дзе - ля Хрыс-ці - це -ля Бо - жы - ча,

па -чуй га - ла - сы, Ча - ла - ве - чы дум - кі споўнь

І ма-літ - ву па - шу к Та-бе, А даць рач нам,

Мо - лім Ця - бе: Ва ўсім све-це збож-ны па - быт,

# Бітва пад Воршай

*Музыка старабеларуская*
*Словы народныя*

**Маршам**

D G A e

Ой, ў ня - дзель - ку па - ра -

A D h

нень - ку ўзый - шло со - ней -

D f♯ h G D

ка хмар - нень - ка, ўзый - шло

G A e A

со - ней - ка над бо - рам

D A D

па - над Ся - лец - кім та - бо - рам.

# Паўстанцкая песьня (1863 г.)

*Музыка і словы народныя*

**Павольна**

1. Лё - та - е а - рол лёг - ка - кры - лы пад хма - ра - мі і ту - ма - на - мі.
2. Лё - та - е а - рол шы - за - кры - лы пад цём - ны - мі хма - ра - мі.
3. Шы - куй - це - ся ж, ва - ро - жы - я ка - ты, ша - лё - ны - я ваў - ка - ла - кі.

Йдзе наш зма -
Йдзе наш Кас -
Йдзе бе - ла -

# Ваяцкі марш

## *Мы выйдзем шчыльнымі радамі*

*Музыка У. Тэраўскага*
*Словы М. Краўцова*















# Пагоня

*Музыка М. Шчаглова-Куліковіча*
*Словы М. Багдановіча*




1. Толь - кі ў сэр - цы тры - вож - ным па -
3. У бязь - мер - ну - ю даль вы ля -
5. Бі - це ў сэр - цы іх, бі - це мя -
6. Ма - ці род - на - я, ма - ці кра -




чу - ю за кра - і - ну ра -
ці - це, а за ва - мі, прад
ча - мі, не да - вай - це чу -
і - на, не ўсь - ці - шыц - ца




дзі - му - ю жах. успом - ню
ва - мі га - ды. Вы за
жын - ца - мі быць. Хай па -
гэ - та - кі боль. Ты пра -




Вост - ру - ю бра - му сьвя - ту - ю
кім у Па - го - ню спя - шы - це,
чу - юць, як сэр - ца на - ча - мі
бач, ты прый - мі свай - го сы - на,




і ва - я - каў на гроз - ных ка -
дзе пля - хі ва - шы йдуць і ку -
аб ра - дзі - май ста -
за ця - бе я - му ўмер - ці да -




нях.
ды?
рон - цы ба - ліць.
зволь.




2. У бе - лай пе - не пра - но - сяц - ца
4. Мо - я - ны, Бе - ла - русь, па - ня -
7. Усё ля - туць і ля - туць ты - я

c c C7

ко - ні, рвуц - ца, мкнуц - ца і
сьлі - ся за тва - і - мі дзя -
ко - ні, срэб - най збру - яй да -

f c Des

цяж - ка хры - пяць, ста - ра - даў -
цьмі ўз - да - гон, што за - бы -
лё - ка гры - мяць. Ста - ра - даў -

Es As As C7

няй Лі - тоў - скай Па - го -
лі ця - бе, ад - рак - лі -
няй Лі - тоў - скай Па - го -

f f c Des

ні не разь - біць, не разь - біць, не спы -
ся, пра - да - лі, пра - да - лі і ад -
ні не разь - біць, не разь - біць, не спы -

B c/f C f c Des

ніць, не стры - маць. Ста - ра - даў -
да - лі ў па - лон. Што за - бы -
ніць, не стры - маць. Ста - ра - даў -

C As As C7

няй Лі - тоў - скай Па - го -
лі ця - бе, ад - рак - лі -
няй Лі - тоў - скай Па - го -

f f c Des

ні не разь - біць, не разь - біць, не спы -
ся, пра - да - лі, пра - да - лі і ад -
ні не разь - біць, не разь - біць, не спы -

B c/f C f

ніць, не стры - маць.
да - лі ў па - лон.
ніць, не стры - маць.

# Прысяга

*Музыка М. Шчаглова-Куліковіча*
*Словы Н. Арсенневай*

**Мерным крокам**

Бе - ла - русь, на - ша ма - ці - кра -

і - на, ты з нас моц - ных зра -

бі - ла лю - дзей. Не за - гі - ну - лі

# Беларуская марсельеза

*Музыка У. Тэраўскага*
*Словы А. Міхальчыка*

mf

Ад ве_ку мы спа_лі і нас раз_бу_дзі_лі, мы зна_ем, што трэ_ба ра_біць!

Што трэ_ба сва_бо_ды, зя_млі ча_ла_ве_ку, што трэ_ба зла_дзе_яў па_біць!

# Марш беларускай моладзі

*Музыка М. Шчаглова-Куліковіча*
*Словы Я. Купалы*

**Tempo di marcia**

*mf*

1. На шя -

бе, на- ша мо- ладзь, на - дзе - я на - шай

# Сьцяг

*Музыка – традыцыйная маршоўка*
*Словы С. Панізьніка*

**Маршам**

d d A d
Сьвет - лым по - лем я ня - су

g d
аг - ня - ву - ю па - ла - су:

g C F
як ма - лан - ка на - да мной

g A d
зі - ха - ціць над га - ла - вой


g
d
сьцяг мой воль - ны, сьцяг мой сьме - лы,


a\d
A
d
сьцяг мой бел - чыр - во - на - бе - лы,


g
d
сьцяг мой воль - ны, сьцяг мой сьме - лы,


a\d
A
A7
d
сьцяг мой бел - чыр - во - на - бе - лы.

# Магутны Божа

*Музыка М. Равенскага*
*Словы Н. Арсенневай*

**Мерным крокам. Стрымана**

Ма - гут - ны Бо -

жа! Ула - дар су - сьве - таў, вя -

лі - кіх сон - цаў і сэрц ма -

Дадатак 4

# Вершы

Паэтаў заслужана называюць песнярамі, бо вершы, якія яны складаюць, часта становяцца песнямі. Мелодыю той або іншай песні стварае кампазітар, або музыка, або народ. У народзе мелодыя песні крышталізуецца, шліфуецца, набывае пэўную аранжыроўку. Ёсць народныя песні літаратурнага паходжання (напрыклад, «Люблю наш край»). У гэтым дадатку змяшчаем некалькі вершаў, якія па сваім змесце адпавядаюць тэме нашага зборніка. Некаторыя патрыятычныя вершы магчыма будуць песнямі, калі да іх будзе напісана адпаведная мелодыя. Дзеля таго яны і друкуюцца.

***Станіслаў Булак-Балаховіч***

## Покліч бацькі

Праз цёмныя хмары на чужой старонца
Зірнула на нас цёпла роднае сонца,
І гоман пачуў я з раднοй стараны:
«Свабода калоціцца ў наша ваконца,
За бацькаўшчыну ўсталі яе ўсе сыны!»

Сынкі! А мы што жа!
Нам будзе нягожа,
Каб мы не пайшлі на падмогу!
Сьмялей, не аглядайцесь,
Хутчэй сабірайцесь
І будзем гатовы ў дарогу!

*25. XI. 1919 г., Рэвель*

*Такімі словамі генерал С. С. Булак-Балаховіч заклікаў сваё войска з Эстоніі рушыць на Беларусь, каб служыць ураду БНР. (Спадчына. 1991, №6. С. 17.)*

## *Уладзімір Жылка*

# Беларусь

Беларусь, Беларусь — гэты зык
Паліць душу маю, як агнём.
Я не ведаю, чым ён вялік,
Але думак не змог я аб ём.
Як пачую яго, задрыжыць
Маё сэрца, заные ў грудзях,
І балюча так робіцца жыць,
І шукаеш чагосьці ў людзях.

Беларусь, Беларусь... гэтых слоў
Пойме музыку, хто ўсёй душой
Іх магутны, тужлівы іх зоў
Зловіць думкай сваёю жывой, —
Затрапеча, бы ранены, ён,
Задрыжыць пад навалаю дум:
Гэткі страшна-пакутны іх стогн
І аб волі бязмерны іх сум.

Беларусь, Беларусь — гэта дзей
І разумных, і слаўных прыклад;
Край вялікіх і дум, і людзей,
І бяздольна схліўшыхся хат,
Дзе нядоля і гора спрадвек
І беднота сярмяжных жывуць,
Крыўда дзе, паняверка і здзек
Краскай макавай ярка цвітуць.

Беларусь — край замчышч, кургапоў,
Дзе таяцца страхоцці і звод,
Дзе русалкі выходзяць з віроў
І начніцы вядуць карагод,
Дзе пад шум каласоў ведзьмары
На палетках заломы кладуць
І ў купальскую ноч у бары
Забабоны ў пацёмках снуюць.

*(Жылка У. Выбраныя творы / Уклад. М. Скоблы. Мн., «Беларускі кнігазбор». 1998. С. 24, 25.)*

*Уладзімір Жылка*

# Покліч

Пад штандар бел-чырвона-белы
Гартуйся, раць, адважна, смела
Адважных, храбрых ваякоў!
І ўспомняцца старых вякоў
Паходы мужныя ў славе,
Часы Альгерда, Ізяслава,
Грунвальдскі з немцам бой!
І боек даўні цяг з Масквой!

Пад знак Літоўскае Пагоні —
Абараняць краіны гоні,
Народ забраны вызваляць,
Ісці к святлу, святлом палаць —
Спяшайся той, хто к волі рвецца,
Ў кім беларуса сэрца б'ецца!
Збірайцесь — ўсе, як бы адзін, —
Арлы радзімых пушч, нізін!

Не плач, не плач па сыну, маці, —
Сягоння сорам быць у хаце,
Бо ўзнят за волю грозны меч,
Бо хутка будзе злая сеч,
Няхай і ён, юнак адважны,
Ідзе туды, дзе б'ецца кажны
За волю новую без слёз,
За лепшы Бацькаўшчыны лёс.

Пад штандар кожны знатны, гожы,
Досць нас наезнікам варожым
Трымаць у прыгоне, беднаце.
Смяяцца нашай цемнаце,
Багацце краю нішчыць, пляжыць —
Чужынцу годзе намі княжыць
І карыстацца з нашых плеч!
Мы к волі йдзем — з дарогі прэч!..

*1920 г.*

*Гэта першы надрукаваны верш Уладзіміра Жылкі, які быў змешчаны ў газеце «Беларусь» 25 студзеня 1920 г. (Жылка У. Выбраныя творы. Мн., 1998. С. 25, 26.)*

***Міхась Кавыль***

## Песьня-кліч

Арляняты маладыя,
маладыя, сьмелыя,
падымайце ў сонца сьцягі
бел-чырвона-белыя!

Падымайце і нясеце,
дзе маланкі бліскаюць,
каб у сонечнае заўтра
крочыць сьцежкай блізкаю!

Каб у сонечнае заўтра,
у сям'ю вялікую
зь песьняй гучнаю зьявіцца,
зь сілай мнагалікаю.

Каб зьвінела наша песьня
над старонкай роднаю,
каб гарэла наша сэрца
радасьцю народнаю.

Дык наперад, арляняты,
маладыя, сьмелыя,
падымайце ў сонца сьцягі
бел-чырвона-белыя!

*1943 г.*

*(Спадчына. 1998, №1. С. 17, 18.)*

***Кастусь Акула***

## Прысяга маладога беларуса

Перад будучыняй нашай, перад родным краем
Прысягаю аж да смерці служыць роднай справе.
Працай сілай маладою буду памагаці,
Каб на попеле нязгоды лёс наш будаваці.
Калі ж здарыцца патрэба бараніць краіну,
Я да волі для народу пракладу сцяжыну.
Бяда, гора мне не страшны, бо нядолю знаю,
Дык змагацца за свабоду жыццём прысягаю!

*(Усякая ўсячына. Таронта. 1984. С. 105.)*

*Рыгор Барадулін*

# Да беларусаў свету

Беларусы ўсіх краін, яднайцеся!
Нас няшмат, а будзе менш яшчэ,
Як адступім, зломімся пад націскам,
Як ад нас рашучасць уцячэ.

Праз усе вякі нас толькі ціснулі
І хадзіць хацелі як па тлі,
Нас душылі волгамі і віслямі,
Кожны тужыў зашмарку пятлі.

Нас турылі з Бацькаўшчыны, з Дзедзіны,
Нам, панам крывіцкае зямлі,
Котласы, Чарнобылі адведзены,
Маем права мы на мазалі.

Нас палілі, катавалі, пратвалі,
Малацілі нас, нібы кулі,
Карапі, забойцы, імператары
І бацькі працоўных мас,
Калі
Беларусь, як палатніну, кроілі
На мундзіры ды на каптаны,
Каб магілы з нашымі героямі
Уціскалі валуны маны.

Над святынямі пазруйнаванымі
Пакланёмся дбаць пра карані.
Будзем Янкамі, а не Іванамі,
Што не ведаюць свае радні.

Працавалі мы на ўсе імперыі,
Папрацуем на сябе, браты,
Дык адродзімся душой і верай,
З намі Бацька Бог
І Дух Святы!

*(Барадулін Р. Збор твораў. Т. 2. С. 220.)*

***Верш быў напісаны адмыслова для I з'езду беларусаў свету і зачытаны на з'ездзе самім аўтарам 8 ліпеня 1993 г.***

*Міхась Чарот*

# Звон

Зазвані моцна, звон, загудзі,
Каб пачулі цябе на ўвесь край,
Беларуса хутчэй разбудзі,
Хоць цяпер яму спаць ты не дай!

Прыйшоў час, калі сорамна спаць;
Ўсе так шчыра за працу ўзяліся,
Усе жыццё пачалі будаваць,
А ты спіш... Хоць ад звону прасніся!

Паглядзі, як сусед пачаў жыць,
Што нядаўна нявольнікам быў.
Ён не спаў,— і цяпер ён не спіць,
Усім кажа, што ён яшчэ жыў.

А чаго, беларус, ты маўчыш?!
І табе годзе, братка, драмаць:
Калі можна гукаць — ты маўчыш,
Каб пасля не прыйшлось шкадаваць...

Кінь саромецца мовы сваёй,
Зваць сябе беларусам пачні,
Папрацуй над сядзібай сваёй,
А пасля з ціхатой адпачні!..

Дык звані моцна, звон, і гудзі,
Сваім гукам трывож увесь край!
Хто шчэ спіць — ты таго разбудзі,
Хто не спіць — тых да працы збірай!

*1919 г.*

*(Расстраляная літаратура:Творы беларускіх пісьменнікаў, загубленых карнымі органамі бальшавіцкай улады / Уклад. Л. Савік, М. Скоблы, К. Цвіркі. Мн., 2008. С. 365.)*

*Уладзіслаў СЫРАКОМЛЯ*

# Паштальён

— Тут пяюць і гуляюць, адзін ты не п'ян,
А сумны, як вязень прыкуты.
Вазьмі сабе чарку, сядай на тапчан,
Скажы, што ў цябе за пакута?

Ні бомы, ні дудка, ні смех вечарын
Развеяць твой смутак не могуць,
Два леты жывеш тут, а светлай пары
Ці меў ты часінку, нябога?

— Ой, горка і смутна мне ўсюды, браток,
Няміла на свеце, няміла!
Дай чарку! Скажу, калі вып'ю глыток,
Як доля мяне падкасіла...

На пошту я трапіў зусім малады,
Фурман з мяне ўдаўся зухвалы,
А волі не меў, дый ганялі тады:
Хоць свята, хоць ноч — усё мала!

Ад рання да змроку, ад змроку да дня
Вазіў я паноў і пакеты;
Заробіш рубля — і пад карчму каня:
Гуляй, весяліся да свету!

Ашукваў дзяўчат, зневажаў дружбакоў,
Быў з пісарам запанібрата!
На коні як свісну — аж іскры з падкоў, —
І лейцамі сівых не кратаў.

На мосце зайграю ў вясёлы свой рог,
Кагось абганю ці спаткаю.
Вязу паніча ці паненку, дальбог,
Два злотых, як бач, атрымаю.

Ды сэрца аддаў я дзяўчыне-красе
З убогай вясковай хаціны.
Дарогі туды кіраваліся ўсе, —
Пабыць з ёй хацеў хоць хвіліну.

Была нейк у пісара справа ўначы,
Паклікаў мяне да сябе ён.
Іду, сваю долю цішком кленучы,
А ў полі скуголіць завея.

«Вязі эстафету!» — «Ой, ліха звяло, —
Шапчу сабе, — у полі ні тропу...»
А сам за пакет, за каня, за сядло!
Ганю каркаломным галопам.

Мяцеліца круціць, упыну няма,
Страшэннае скрозь бездарожжа,
Слупы верставыя мільгаюць старчма,
Пад'ехаў пад трэці — а божа!

Пачуўся мне плач, хоць віхура гула,
Хтось клікаў, прасіў дапамогі,
Падумаў я: «Згіне, сляпая імгла,
У снезе не знойдзе дарогі...»

Каня павярнуў, аж здалося, нібы
Хтось шэпча: «Куды ты, дзівача?
Ды лепей у вёсцы той час перабыць, —
Дзяўчыну сваю хоць пабачыш!»

Страх сэрца мне сціснуў, забіла духі,
Чало зледзянела ад поту;
Я ў рог затрубіў, каб не чуць, стаць глухім,
Пагнаў сівака праз сумёты.

Я еду дадому, за трое ганей
Вяртаецца страх непазбыты,
А сэрца усё шэпча крадком, як раней,
Бразджыць, як званочак разбіты.

Конь чмыхнуў пры слупе, спыніўся наўзбоч:
У снезе, пад плахтаю белай,
Жанчыну я згледзеў, яна ўжо за ноч,
Як дрэва, уся скасцянела.

Я снежную намець абтрос з яе шат
І труп падцягнуў да дарогі...
Абцёр ёй аблічча... Была гэта, брат...
Дай чарку... Не маю больш змогі!

*1844 г.*

*Пераклаў з польскай мовы Максім Лужанін.*

*Гэты верш з польскай мовы на рускую пераклаў Леанід Трэфалёў. І хутка верш «Когда я на почте служил ямщиком» стал папулярнай песняй. Імя кампазітара невядома. Дарэчы, «Паштальён» — першы надрукаваны верш Людвіка Кандратовіча (такое яго сапраўднае імя).*

*(Сыракомля У. Выбраныя творы / Уклад., прадм. і камент. К. Цвіркі. Мн., 2006. С. 101 — 103.)*

*Сяргей Дзяргай*

## Бульба

Гарні бульбу, гарні з поля,
Гарні бульбу як найболей.
Бульба трэба для багацця
Кожнай хаце, кожнай хаце.

Урадзіла бульба ўдала,
Як ніколі не бывала,
Як ніколі не бывала,
А яе ўсё мала й мала.

Бульбу горнуць, бульбу вараць,
Ну і бульба! Бульбу хваляць,
Бульбу возяць, бульбу носяць,
А яе ўсё болей просяць.

Мала бульбы! Бульбы мала!
З бульбы ж мяса, з бульбы сала!
Бульбу фабрыцы, заводу!
Болей бульбы для народу!

Патрабуе бульбы повар,
Патрабуе бульбы бровар,
Патрабуе бульбы пральня,
Патрабуе і крухмальня.

Гарні бульбу хутка-шпарка,
Будзе скварка, будзе чарка,
І прысмакі, і ласункі
Для дзяўчат на пачастункі.

У руплівай гаспадыні
Поўны кублы, поўны скрыні,
А да слова і дарэчы
І цукеркі для малечы.

Не, цяпер ніхто не скажа:
— Прападзі ты, доля наша!
Глянь у хату, выйдзі ў поле:
Сонцам ззяе наша доля.

*1954 г.*

*(Роднае слова. 1993, №7. С.. 48.)*

*Ларыса Геніюш*

# Моладзі

Гэй збірайцесь, крывіцкія дзеці,
Пад народны, пад горды наш сцяг!
Воля Краю нам зоркаю свеціць,
Яго шчасце — у нашых руках!

Мы за волю крывіцкіх прастораў,
Мы за спадчыну нашых дзядоў
Аддамо, каб насыціўся вораг,
Жыццё наша і нашую кроў.

Але Краю, што Нёман галубіць,
Гэтых сэрцаў, што воляй гараць,
Ўжо не будзе арол крывадзюбы
Да крыві пазурамі здзіраць!

Нам не страшны сібірскі больш холад,
Нам не страшны маскаль або лях,
Чужы серп непатрэбны, ні молат
Мы разгорнем крывіцкі наш сцяг!

Нашы сэрцы гімн родны зайграюць!..
Адгукнецеся, сёлы, ў адказ!
Мы нясём жыццё наша для Краю,
Мы нясём жыццё наша для вас!

Станем дружна ўсе брат каля брата,
Абаронім Краіну грудзьмі,
Воля будзе вялікай заплатай
За нягоды цяжкой барацьбы!

*1941 г.*

*(Наша слова, 2001 г., 22 жніўня.)*

*Рыгор Барадулін*

## Голас вякоў

Мне чуецца голас
душой не забытых вякоў,
Званы даўніны захлынаюцца
ў ранішнім звоне.

Мне чуюцца стогны
і цокат вясёлых падкоў
Гарачай віхуры нястомнай
крывіцкай Пагоні.

Беларусь — зямля святая.
Заваёўнікам на страх
У цябе з пляча ўзлятае
Бел-чырвона-белы сцяг.

Дарэмна чакаюць
спажыву сваю крумкачы.
Народ богаверны
мячамі сустрэне навалу.

З легендаў і з неба сышлі
на зямлю крывічы,
Каб свету пазычыць
Скарыну і Янку Купалу.

Мне чуецца поступ
трывалых паганскіх багоў.
І зоры гараць у далонях
багоў светлякамі.

Выходзіць народ,
як рака з маладых берагоў,
І покліч «Жыве Беларусь!»
устае над вякамі.

*Рыгор Барадулін*

## БЗВ*

БЗВ — Бог Заклікаў Вас,
Беларускага Войска воі.
БЗВ — так чытае час:
Беларусь Заваюе Волю!

БЗВ — Быць Заўжды Вякам
Даўжнікамі ў крывіцкай славы.
Нашай не аддамо чужакам
Ні сцяжыны, а ні канавы.

Хросным бацькам
Пан Грунвальд быў,
Пані Ворша — маткаю хроснай.
Беларускага Войска парыў
Ткаўся на высакосных кроснах.

У Айчыны світае чало.
Досыць нас вадзілі па хлудзе.
Беларускае Войска было.
Беларускае Войска будзе!

На жалезны характар Руды
Мае наша зямля святая.
Ведаем,
Дзе віры, дзе брады.
БЗВ — Бой Змаганцаў Вітае!

*(Рыгор Барадулін, Евангелле ад мамы. Мн., 2000. С.78.)*

---

**БЗВ — абрэвіятуры грамадскага аб'яднання «Беларускае згуртаванне вайскоўцаў». Утворана на Устаноўчым з'ездзе БЗВ у Мінску 12-13 кастрычніка 1991 г. 8 верасня 1992 г. сябры БЗВ на пл.Незалежнасці прынялі прысягу на вернасць Беларусі. БЗВ спыніла існаванне ў 1996 г.*

***Рыгор Барадулін***

## Дваццаць пятага сакавіка

Дваццаць пятага сакавіка —
Годны дзень Беларускай дзяржавы.
Веснаплынных вятроў талака
Пыл з кароны атрэсла іржавы.
Шматавалі нас досыць арлы
І з адной, і з дзвюма галавамі.
Мы не з нейкай бязроднай імглы,
Нас вякі, як сваіх,
Гадавалі.
Мы — ратаі святла,
Крывічы,
Верхачы неўміруючай Пагоні.
Маладзік сакалом на плячы,
Гартны меч у цвярдое далоні.
Лучыць нашыя мары рака
Бел-чырвона-белага сцяга.
Дваццаць пятага сакавіка —
Наша свята,
Пароль
І прысяга!

*(Барадулін Р. Збор твораў. Т. 2. Мн., 1998. С. 179.)*

***Уладзімір Жылка***

## Гімн беларускіх паўстанцаў

Час, Беларусы, ужо час —
Маці-Краіна нас кліча.
Устанема дружна, ураз —
Сіл нашых вораг не зліча.

Рушыма ў бой
Усёй грамадой —
За люд працоўны,
За волю і роўнасць!

Грозны надходзіць мамэнт,
Бой пачынаем рашучы:
Скрышым старое ушчэнт,
К волі змагарна ідучы.

Рушыма ў бой
Усёй грамадой —
За люд працоўны,
За волю і роўнасць!

У песнях бязудзерж таім;
Вецер штандарамі вее.
Прысягу складаема ім
Родных не здрадзіць надзеі.

Рушыма ў бой
Усёй грамадой —
За люд працоўны,
За волю і роўнасць!

Бурны нас радуе дзень,
Кліч агалошвае полі,
Сонца вітайце прамень
Праўды мужыцкай і волі.

Рушыма ў бой
Усёй грамадой —
За люд працоўны,
За волю і роўнасць!

Дружная моц — грамада
І перамозе зарука,
Больш нас не чэпіць бяда,
Годзе напасцяў, прынукаў!

Рушыма ў бой
Усёй грамадой —
За люд працоўны,
За волю і роўнасць!

Край абаронім грудзьмі
Ад панавання палацаў.
Вольнай, працоўнай сям'і
Ўспор красаваціме праца!

Рушыма ў бой
Усёй грамадой —
За люд працоўны,
За волю і роўнасць!

*(Жылка У. Выбраныя творы / Уклад. М.Скоблы. Мн., 1998. С. 116, 117.)*

### *Янка Золак*

# Маці мая — Беларусь

*Гарманізацыя Сымона Струменскага*

Белая, светлая, чыстая,
Мой галасісты жаўрук!
Ты — мая доля вячыстая,
Маці мая — Беларусь.
    Летняй вадою купаная, —
    Першага снегу бялей.
    Толькі адна ты каханая,
    Цэлага свету мілей.
Свежай расою абмытая,
Многа ты ведала й скрух.
Сынам сваім не забытая
Маці мая — Беларусь.
    Доля твая незгалелая,
    Ты яшчэ ўбачыш зару,
    Светлая, чыстая, белая
    Маці мая — Беларусь!

*1985 г.*

*(Туга па Радзіме. С. 260.)*

### *Максім Багдановіч*

***

Народ, Беларускі Народ!
Ты — цёмны, сляпы, быццам крот.
Табою ўсягды пагарджалі,
Цябе не пушчалі зь ярма
І душу тваю абакралі, —
У ёй нават мовы няма.
Збудьзіўшысь ад грознай бяды,
Увесь поўны сьмяротнай жуды,
Ты крыкнуць ня вольны: «Ратуйце!»
І мусіш ты «Дзякуй» крычаць.
Пачуйце жа гэта, пачуйце,
Хто ўмее з вас сэрцам чуваць!

*(Багдановіч М. Зорка Венера. Творы. Мн., 1991. С. 213.)*

*Пімен Панчанка*

# Родная мова

Кажуць, мова мая аджывае
Век свой ціхі: ёй знікнуць пара.
Для мяне яна вечна жывая,
Як раса, як сляза, як зара.
    Гэта ластавак шчабятанне,
    Звон світальных палескіх крыніц,
    Сінь чабору, і барвы зарніц,
    І буслінае клекатанне.
Калі ж хто загадае: «Не трэба!» —
Адрачэцца ад мовы народ, —
Папрашу я і сонца, і неба:
Мне не трэба ні славы, ні хлеба,
Асудзіце на безліч нягод.
    Толькі месяцаў назвы пакіньце,
    Назвы родныя роднай зямлі,
    Пра якія з маленства ў блакіце
    Бор шуміць і пяюць жураўлі:
Студзень — з казкамі снежных аблокаў,
Люты — шчодры на сіні мароз,
Сакавік — з сакатаннем і сокам
    Непаўторных вясновых бяроз,
    Красавік — час маланак і ліўняў,
    Травень — з першым каханнем, сяўбой,
    Чэрвень — з ягаднаю зарой,
Ліпень — з мёдам,
З пшаніцаю — жнівень,
Спелы яблычны верасень,
Светлы кастрычнік
У празрыстасці чыстай, крынічнай.
    Лістапад — залаты лістапад,
    Снежань — першы густы снегапад...
Ці плачу я, ці пяю,
Ці размаўляю з матуляю —
Песню сваю, мову сваю
Я да грудзей прытульваю.

*(Панчанка П. Прылучэнне: Вершы і паэмы. Мн., 1987. С. 295.)*

*М. Арол*

## Сынам Беларусі

Часам мне жыць не пад сілу прыходзіцца,
Часам смяртэльная думка зародзіцца,
Сэрца нудою шчыміць.
Як пагляджу, што вакол мяне дзеецца,
Сіл няма, веры на жыцце надзеяцца,
Ажно не хочацца жыць.

Усё, што ўзрасціла старонка любімая,
Усё, што магла даць, як матка радзімая,—
Усё на сынкоў аддала.
Чым жа ж сынкі ёй за ўсё адгадзіліся?
Тым, што зусім ад яе адхіліліся,
Быццам не маць ім была!

Сэрца ад гневу маё разрываецца,
З вуснаў пракляцце ўсім вам зрываецца,
Вам, Беларусі сыны!
Вы адракліся, забылі, пакінулі,
Вы, быццам юды, урагам яе кінулі,
Здраднікі вы, не сыны!
Усё, што магла, аддала вам, радзімая,
Быццам як матка для дзетак любімая.
Ждала карысці, уцех!
Доўгу свайго вы прад ёю не споўнілі,
Грабіць — аграбілі, а не папоўнілі,
Чы ж вам не ўстыдна, не грэх?!

*(Арол М. Лірнік. Творы. Мн., 1991. С. 38.)*

*Алесь Салавей*

## Трыялет

Мой бел-чырвона-белы сцяг —
Зямлі мае краса і слава!
Імкненне ейнае і справа,
Мой бел-чырвона-белы сцяг.

Барвовы шлях зары крывавай,
Нябёсаў гладзь, палёў прасцяг —
Мой бел-чырвона-белы сцяг,
Зямлі мае краса і слава!

*1943 г.*

*(Спадчына. 1998, №1. С. 11.)*

### *Янка Золак*

## Брату Беларусу

Прачынайся, мой брат, мой нябога,
Прачынайся з адвечнага сну
Ды выходзь да шырокай дарогі
Сустракаць маладую вясну!

Станавіся пад сьцяг вызваленьня,
Станавіся сьмялей і ня трусь;
Хай квітнее ў сваім адраджэнні
Дарагая табе Беларусь!

Прачынайся! Свой голас магутны
Загучэць па-свабоднаму змусь;
Па ўсім сьвеце няхай будзе чутна,
Што жыве родны край — Беларусь!

*(Грунвальд. Незалежны беларускі часопіс. 1991, №1. С. 8.)*

### *Гальяш Леўчык*

***

Хто адрокся сваіх,
Хто стыдацца нас стаў
І прыліп да чужых,—
Каб ён свету не знаў!

Мову родную хто
Пазабыў, асмяяў,
Загубіў за нішто,—
Каб ён свету не знаў!

Сваю родну зямлю
Хто чужынцу прадаў,
Скрыўдзіў вёску сваю,—
Каб ён свету не знаў!

Хто з народам не жыў
І карысці не даў,
Хто сваіх не любіў,—
Каб ён свету не знаў!

*(Леўчык Г. Доля і хлеб. Мн., 1980. С. 29.)*

***Уладзімір Караткевіч***

# Беларуская песня

Дзе мой край? Там, дзе вечную песню пяе Белавежа,
Там, дзе Нёман на захадзе помніць варожую кроў,
Дзе на ўзвышшах Наваградскіх дрэмлюць суровыя вежы
І вішнёвыя хаты глядзяцца ў шырокі Дняпро.
Ты ляжыш там, дзе сіняя Прыпяць ласкава віецца,
Дзе Сафія плыве над Дзвіною, нібы карабель...
Там, дзе сэрца маё з першым крокам, як молат, заб'ецца,
Калі б нават сляпым і глухім я прыйшоў да цябе.
Што сляпым? Нават мёртвым успомню высокія зоры,
Над ракою чырвонай і цьмянай палёт кажаноў,
Белы ветразь на сініх, на гордых, як мора, азёрах,
І бары-акіяны, і неба — разлівы ільноў.
Дзе мой край? Там, дзе людзі ніколі не будуць рабамі,
Што за поліўку носяць ярмо ў безнадзейнай турме,
Дзе асілкі-хлапцы маладымі ўзрастаюць дубамі,
А мужчыны, як скалы, — ударыш, і зломіцца меч.
Дзе мой край? Там, дзе мудрыя продкі у хвоях паснулі,
Дзе жанчыны, як радасны сон у стагах на зары,
А дзяўчаты, як дождж залаты. А сівыя матулі,
Як жніўё з павуціннем і добрае сонца ўгары.
Там звіняць неўміручыя песні на поўныягрудзі,
Там спрадвеку гучыць мая мова, булатны клінок.
Тая гордая мова, якую і тады не забудзем,
Калі сонца з зямлёю ў апошні заглыбяцца змрок.
Ты — наш край. Ты — чырвоная груша над дзедаўскім домам,
Лістападаўскіх знічак густых фасфарычная раць,
Ты — наш сцяг, што нікому, нікому на свеце, нікому
Не дамо абсмяяць, апаганіць, забыць ці мячом зваяваць.
Мы клянёмся табе баразной сваёй першай на полі
І апошняй раллёй, на якую ўпадзём у журбе.
Мы клянёмся табе, што ніколі,
Ніколі,
Ніколі,
Так,
Ніколі не кінем,
Не кінем,
Не кінем цябе.

*(Караткевіч У. Збор твораў. У 8 т. Т. 1 Вершы. Паэмы. Мн., 1987. С. 136, 137.)*

*Гэты верш на музыку паклаў ужо кампазітар, музыка і спявак Зміцер Вайцюшкевіч. Ён спявае песню на канцэртах. Яна ўвайшла ў кружэлку «Дзе мой край?», прысвечаную юбілею класіка нашае літаратуры Уладзіміра Караткевіча. Але лічым, што гэты зборнік скончыць менавіта гэтым тэкстам было б лагічна і сімвалічна. Спадзяемся, што яшчэ многія беларускія вершы ўвасобяцца ў добрыя песні, якія годна прадставяць душу нашага народа. У тым ліку і за межамі Беларусі.*

# Літаратура


Aramowicz I. Marzenia. Pamiętnik o ruchu partisanckim w województwie Grodzieńskim w 1863–1864. Bendlikon, 1865.

Афганістан мне сніцца, сніцца, сніцца. Мн., 2009.

Афганские звезды. Песни Михаила Мишунова на стихи Станислава Волкова. М., 1991.

Балады. Кн. 2. Мн., 1978.

Барадулін Р. Збор твораў. Т. 2. Мн., 1998. Т. 4. Мн., 2002.

Барадулін Р. Евангелле ад мамы. Мн., 2000.

Барыс С. У свет на матчыну песню // Літаратура і мастацтва, 1980, 29 лютага.

Барыс С. Перад будучыняй // Наша слова, 2001, 27 чэрвеня.

Барыс С., Чаропка В. Беларускія гістарычныя песні//Беларускі гістарычны часопіс. 2004. №2. С. 38 — 48. №3. С. 53 — 60.

Бацькаўшчына. Зборнік гістарычнай літаратуры. Мн., 1996.

Беларускі фальклор. Хрэстаматыя. Мн., 1977. Мн., 1996.

Беларускі фальклор Вялікай Айчыннай вайны. Мн., 1961.

Беларускі эпас / Пад рэд. П. Глебкі і І. Гутарава. Мн., 1959.

Беларускія маршы і песьні. Лірыка змаганьня. Мн., 1995.

Беларусь мая... Беласток, 1989.

Беларусь у песні / Склалі В. Я. Аўраменка і Л. В. Раманоўская. Мн., 1988.

Віцьбіч Ю. Плыве з-пад Сьвятое Гары Нёман. Мн., 1995.

Вянок беларускіх народных песень / Склад. У. Раговіч. Мн., 1988.

Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Мн., 1992.

Гимны славянских государств / Сост. Г. Белонучкин. М., 2009.

Гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржавы. Мн., 2001.

Гуляць дык гуляць! Застольныя песні беларусаў. Мн., 1995.

Дмитриев М. А. Собрание песен, сказок, обрядов и обычаев крестьян Северо-Западного края. Вильна, 1869.

Добровольский В. Н. Смоленский этнографический сборник. Ч. IV. СПб., 1903.

Заняпад і адраджэнне. Мн., 2001.

Зянько У. Спадчына маёй маці. Мн., 1993.

Карскі Я. Беларусы. Мн., 2001.
Клімович Р. Конец Горлага. Мн., 1999.
Ластоўскі В. Выбраныя творы. Мн., 1997.
Лірычныя песні / Уклад. і рэд. Н. С. Гілевіча. Мн., 1976.
Липский В. Игорь Лученок: Мелодия Души. Мн., 2008.
Лобановский Л. В. На афганской войне. Мозырь, 1999.
Лучшие застольные песни / Сост. П. И. Понкратов. М., 2007.
Лягчылаў А. К., Буднік У.І. Атэль пад ліпамі: песні розных гадоў. Мн., 1998.
Лясныя песні. Паэзія беларускіх партызан / Уклад. Я. Зазека. Мн., 1970.
Ляўковіч А. Дзяржаўны гімн: на фінішнай прамой // Звязда. 2002, 8 чэрвеня.
Музыкальный энциклопедический словарь. М., 1990.
Мурашов Г.А. Титулы, чины, награды. СПб., 2000.
Песні сямі вёсак. Традыцыйная народная лірыка Міншчыны/ Уклад. і рэд. Н. Гілевіча. Мн., 1973.
Песні Яўгена Петрашэвіча на вершы лідскіх паэтаў // Лідскі Летапісец. 2010, № 2. С. 52, 54.
Песні беларускага народа. Выбранае / Уклад. і кам. Г. І. Цітовіча. Мн., 1959.
Песні Лагойшчыны / Уклад. В. Несцяровіч. Мн., 2004.
Песнь о велебной девици панне Марии // Лідскі Летапісец. 2005, № 1–2. С. 13.
Поет советская страна / Сост. Я. Шведов. М., 1962.
Расстраляная літаратура. Мн., 2008.
Романов Е. Белорусский сборник. Вып. I-II. Киев, 1886.
Рубін І. Хай стане сэрцам і душой народа//Народная газета. 1992, 15 ліпеня.
Сацыяльна-бытавыя песні. Мн., 1987.
Сокалаў-Воюш С. Кроў на сумётах. Вершы і паэмы. Мн., 1989.
Советская военная музыка. М., 1977.
Туга па Радзіме: Паэзія беларускай эміграцыі / Уклад., прадм. і біягр. даведкі Б. Сачанкі. Мн., 1992.
Тутунов В.И. История военной музыки России. М., 2005.
Тэраўскі У. Беларускі лірнік. Бэрлін, 1922.
Цітавец І. Ёсць любоў у мяне... : Зборнік песень. Мн., 1999.
Цішчанка І. Як ехалі госці дадому//Звязда. 1987, 1 студзеня.
Цыхун А. Легенды і балады Гродзеншчыны. Гродна, 1995.
Чайка А. Среди Афганских гор. Мн., 1989.
Шейн П. В. Белорусские народные песни. М., 1874.
Шейн П.В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. Т. 1. СПб., 1887.

# Змест

*Літаратурна-мастацкае выданне*

# Беларускія песні і гімны

*Зборнік песень*

Укладальнік, аўтар артыкулаў Сымон Барыс

| | |
|---|---|
| Адказны за выпуск | *А. М. Вараксін* |
| Рэдактар | *Уладзімір Пучынскі* |
| Мастак | *Уладзімір Малахаў* |
| Набор тэкстаў | *Кацярына Андура* |
| Карэктары | *Аліна Пахваленая,* |
| | *Алена Бандарык* |
| Камп'ютарная вёрстка | *Л. Аліфанава* |

**Падпісана да друку 20.08.2012.**
**Фармат 60x84/16. Папера афсетная. Рызаграфія.**
**Ум. друк. арк. 22,08. Ул.-выд. арк. 23,75.**
**Наклад 300 экз. Заказ № 46.**

**Выдавец і паліграфічнае выкананне:**
**індывідуальны прадпрымальнік А.М. Вараксін.**
**ЛИ № 02330/0003899 ад 14.03.2011.**

**E-mail: editpol@tut.by**

